*Муж мудры, які не мае кніг, падобны да агароджы, якая стаіць без апораў: калі будзе вецер, то паваліцца. Гэтак і мудрыя: падзме на іх вецер грахоўны і ўпадзе той, хто не мае апоры славес кніжных. А калі ведае мудрасць кніжную, то дасканалы. Іаан Багаслоў кажа: птушкам на тое крылы дадзены, каб цянётаў чалавечых пазбегнуць, а людзям кнігі, бо ўсю непрыязную лесць адганяюць. Менандр кажа: мець кнігі лепей, чым золата, бо ў мностве золата няма спамогі для душы.*

*ЯФРЭМ СІРЫН*

## *ЗМЕСТ*

## ПРАДМОВА

Каля дзвюх тысяч гадоў таму выдатны рымскі прамоўца Цыцэрон выказаў цудоўную сентэнцыю: «Дом без кнігі падобны да цела, пазбаўленага душы!» Цяпер у кожнай вясковай хаце, гарадской кватэры — большы ці меншы кнігазбор. Цікавасць да кнігі нарадзіла бібліяфільства (любоў да старых і рэдкіх выданняў і іх збіранне), а таксама прагу да спазнання гісторыі кніжнай культуры.

Старыя беларускія кнігі. Дзе яны? Ці засталіся? А ці былі? Былі. Засталіся. Толькі пад час нягодаў і ліхалецця разышліся па архівах, музеях і бібліятэках усяго свету, і цяпер патрэбны спецыяльны каталог-паказальнік: дзе якія ёсць нашы кнігі. Пачатак такому каталогу ўжо зроблены — Дзяржаўная бібліятэка Беларусі імя У. І. Леніна выдала паказальнік «Кнігі Беларусі», які ўлічвае кірылічныя кнігадрукі ад Францыска Скарыны і да пачатку XX стагоддзя. Друкаваныя некірылічнымі алфавітамі, а таксама рукапісныя кнігі такога ўліковага каталогу яшчэ не маюць.

Усю цалкам кніжную культуру на беларускіх землях можна агледзець толькі пасля рэгістрацыі і вывучэння ўсіх захаваных асобнікаў. Аднак пакуль такая праца зробіцца, варта не забывацца на гэтую частку гістарычнай спадчыны. На пергаміне і на паперы, багата аздобленыя і сціплыя, рукапісныя і з-пад друкарскага варштату — старыя кнігі захоўваюць лад нашага мыслення, нашу эстэтычную культуру, нашу мову.

Археалагічныя раскопкі, якія інтэнсіўна праводзяцца па ўсёй Беларусі і ахопліваюць помнікі ўсіх гістарычных перыядаў, не далі ніводнага надпісу, старэйшага за X стагоддзе. Раней гэтай мяжы жыла толькі беспісьмовая традыцыя перадачы і захавання культуры. Назапашаныя веды пераказваліся; тое, што мы сёння называем народнай вусна-паэтычнай творчасцю, было наіўна-дасканалым спосабам інтэлектуальнага жыцця. «Дуб — тутэйшае дрэва ведаў: на ім сядзіць вешчая птушка, бусел, пад ім сівы дзед — вясковы Буда» — гэтыя словы паэта Алеся Разанава вобразна і трапна стасуюцца да перыяду, ніжняя мяжа якога схавана ў глыбіні часу, верхняя, аднак, сягае канца XX стагоддзя. Бо спрадвечнае і патаемнае перадаецца беспісьмова і ў часы пашырэння кніжнасці, і наяўнасці вялікіх бібліятэк, назапашаныя веды пераказваюцца і ў стагоддзе газет, часопісаў, камп'ютэраў...

Кніга з'явілася на Беларусі ў X стагоддзі, разам з хрысціянствам. Яна прыйшла ўрачыста, на самае пачэснае месца новага культу. Якія б высокія, мураваныя ці драўляныя, ні былі дамы ў горадзе і вёсцы,— над кожным паселішчам велічна дамінавала будыніна храма. А ў цэнтры храма, на спецыяльным прастоле, было месца кнігі — напрастольнага Евангелля — яго ўрачыста выносілі, яго цалавалі, як ікону, яму кадзілі, на Евангеллі прысягалі сведкі на судах. Дзякуючы гэтым акалічнасцям, фарміравалася стаўленне людзей да кнігі як да носьбіта найпраўдзівейшай ісціны. Праўда, «index librorum prohibitorum» каталіцкай і спіс «книг отреченных» праваслаўнай цэркваў заўжды нагадвалі, што гэта не зусім так. Часам палеміка паміж рознымі канфесіямі дасягала такога напалу, што кнігі ідэалагічных супраціўнікаў палілі — пры гэтым яшчэ больш сакралізуючы кнігі сваіх аднаверцаў.

Жыццё ж патрабавала талерантнасці, і каб прымаць, напрыклад, прысягу паслоў мусульманскіх дзяржаў, у канцэлярыі Вялікага княства Літоўскага захоўваўся спіс Карана.

Народная свядомасць адразу ж пачала злучаць старыя, язычніцкія ўяўленні з новай, кніжна-хрысціянскай светабудовай: нячысцік, які жыве на дне балот, пачынае пракрадвацца ў царкву, дзе, схаваўшыся ў куточку, запісвае на пергаміне імёны тых, хто смяецца пад час службы.

Прагрэс навукі і тэхнікі, сацыяльнага развіцця на Беларусі за апошнія колькі дзесяцігоддзяў відавочны. Але прагрэс заўсёды суправаджаецца адцясненнем традыцый. Каб у гэтай сітуацыі захаваць сваю чалавечнасць, мы мусім ахоўваць і абараняць усё, што нясе трывалыя каштоўнасці, у тым ліку кніжную культуру. Ды захоўваць яе не толькі ў музеях, адлучыўшы ад сябе вітрыннай шыбай. Варта цалкам адмовіцца ад памылковай ідэі «радыкальнага разлучэння» з мінулым, якую лёгка зразумець як «радыкальнае вырачэнне» спадчыны, а ў нашай гісторыі такое, на жаль, здаралася. Сёння, як і заўсёды, кантакт з мысліцелямі далёкіх эпох — найкаштоўнейшы шанц пазбегнуць небяспекі «храналагічнага правінцыялізму», гэта значыць звычкі прымаць часоваактуальнае за вечнае, моду за прагрэс і прымхі за аксіёмы,— кажа Сяргей Аверынцаў,— продкі былі не тое каб разумнейшыя за нас — іх веды, магчымасці і межы былі іншыя, параўноўваючы, мы больш пэўна ўбачым уласныя магчымасці, уласныя межы; калі пашчасціць, мы самі на сябе глянем іначай. Тое, што ўбачым, можа, падасца не заўсёды прыемным, аднак будзе, ва ўсякім выпадку, нечаканым і на карысць.

Традыцыя кніжнасці злучае нас не толькі з мінулым. Дзякуючы ёй, сённяшні дзень абумоўлены актыўнай жыццёвай пазіцыяй, а будучыня вымагае выконваць абавязкі па захаванні звычаяў для нашчадкаў, бо ведама — у чалавека без традыцый абавязкова ўзнікае стан безвыходнай страчанасці і звязанае з гэтым пачуццё няпэўнасці.

Праз кніжку, якую Вы, шаноўны чытач, зараз трымаеце, аўтар мае на мэце пазнаёміць цікаўных са зместам, аздобай, вытворчасцю рукапісных кніг, а таксама з функцыямі і ўмовамі іх бытавання на Беларусі. Часам больш падрабязна мы спыняемся на адным рукапісе, апісваем дэталі, часам толькі хуценька гартаем старонкі, часам, не раскрываючы, перакладваем стосы кніг. Чаму так — можна патлумачыць словамі катэдральнага мінскага каноніка, доктара тэалогіі кс. Антонія Машынскага. На заканчэнне «Каталогу рукапісаў рэлігійна-маральнага зместу ў Пецярбургскай Імператарскай Публічнай бібліятэцы» ён запісаў 13 лістапада 1863 года: «Перачытаць усіх рукапісаў ад пачатку да канца,

альбо, як кажуць, ад дошкі да дошкі, не маглі мы, бо і часу на тое і зроку, каторы слабы зусім, бракавала. Чытанне такое, з аднаго боку, магло б даць падрабязнасці для апісання рысаў мінулага, як звычаяў і парадкаў, так і мовы, але, з другога боку, аказалася б бясплённым, бо шмат ёсць рукапісаў, якія ў сабе нічога, вартага ўвагі, не маюць і для літаратуры жаднае карысці не прадстаўляюць. Стараліся мы, аднак, пазнаць кожны рукапіс так, каб аб вартасці яго якое-колечы сведчанне даць маглі...» (ДПБ, Пол. F. XVIII.23. Арк. 1.). Цытуючы ці як-небудзь успамінаючы рукапісную кнігу, мы абавязкова падаём шыфр і назву сховішча, дзе яна знаходзіцца (гл. Спіс скарачэнняў),— бо кожны рукапіс непаўторны, і нават у кнігах аднолькавага зместу (у тым ліку такога традыцыйна-кананічнага, як, напрыклад, Евангелле) асаблівасці аднаго асобніка і лёс вылучаюць яго сярод соцень і тысяч іншых.

Падарожжа ў таемны свет старажытных манускрыптаў немагчыма зрабіць без добразычлівай дапамогі захавальнікаў традыцыі і знаўцаў. Найвялікшую падзяку аўтар выказвае калегам-рукапіснікам з розных сховішчаў Ленінграда, Мінска, Масквы, Кіева, Кракава, Львова і Вільні, асаблівую ўдзячнасць — сваім настаўнікам: доктару філалогіі Мікалаю Мікалаевічу Розаву з Ленінграда і сялянам вёскі Нянькава, што на Наваградчыне, Зміцеру Платонавічу Міхею (якога людзі называлі Зміцер Ласкавы) і яго жонцы Марыі Мітрафанаўне.

## ДАЛІТОЎСКІ ПЕРЫЯД

Рэпертуар рукапіснай кнігі аформіўся ў першыя тры стагоддзі яе бытавання, менавіта ў XI—XIII стст., тады ж сфарміраваліся асноўныя прынцыпы афармлення кодэксаў, грунтуючыся на засваенні візантыйскай традыцыі і дасканалым знаёмстве з кніжнасцю Захаду. Разглядаючы раннія пергаміны, што захаваліся да нашых дзён, можна канстатаваць, што ўжо ў XI ст. выявіліся два асноўныя кніжныя тыпы — розныя паводле прызначэння, хоць напачатку цесна звязаныя адзін з адным: богаслужэбныя і чытальныя («четьи»). Для выканання богаслужэння, рытуал якога з часам ускладняўся, патрабаваліся так званыя алтарныя і кліросныя кнігі. Склад гэтых кніг, таксама як і іншыя правілы і асаблівасці царкоўнага богаслужэння, вызначаўся Статутам (Тыпіконам). У XI — першай палове XIII стст. на нашых землях, як і ў паўднёвых славян, дзейнічаў статут канстанцінопальскіх храмаў — Тыпікон Вялікай Царквы. Ён прадугледжваў выкарыстанне комплексу кніг, што бяруць пачатак ад кірыла-мяфодзіеўскай традыцыі:

1. Евангелле — кароткі апракас;
2. Апостал — кароткі апракас;
3. Парамійнік;
4. Псалтыр, падзелены на антыфоны;
5. Эўхалагіён (Служэбнік і Трэбнік);
6. Спеўныя зборнікі (тыпу візантыйскага Азматыкона);
7. Зборнікі казаняў і навук Гаміліярыі, Таржэственнікі і Сінаксары, якія чыталіся ў храмах у нядзелю і святочныя дні.

Паралельна з сярэдзіны XI ст. дзейнічаў і манастырскі Студыйскі статут, які вызначаў большую колькасць кніг для выкарыстання ў манастырах:

1. Статут (Тыпікон), які мае богаслужэбную і дысцыплінарную часткі; 2. Евангелле — поўны апракас; 3. Апостал — поўны апракас; 4. Парамійнік; 5. Псалтыр, падзелены на 20 кафізмаў, з біблійнымі песнямі; 6. Мінеі служэбныя; 7. Трыёдзі посная і святочная; 8. Актоіх выбраны і Параклітык; 9. Ірмалой; 10. Часаслоў; 11. Служэбнік і Трэбнік; 12. Спеўныя зборнікі, якія забяспечвалі развітую сістэму статутных чытанняў мінейнага, трыёднага і сядмічнага кругоў — Пролагі, Таржэственнікі трыёдны і мінейны, Златавуст тыднёвы, посны і святочны, Павучэнні, Тлумачэнні і іншыя чытальныя зборнікі.

У другой палове XIII ст. з паўднёваславянскіх земляў распаўсюдзіўся Новы тыпікон, які адлюстраваў рэформы Савы Сербскага, аднак асноўны кірунак развіццю кніжнасці ў гэты час надавалі першыя два Статуты[1].

Чытальнымі кнігамі (паводле функцыянальнага прызначэння) у большасці былі тлумачэнні Святога пісання, а таксама перакладныя патрыстыка і агіяграфія.

Аднак у XI—XIII стст. хатняе чытанне (гэтаксама як і келейнае чытанне манахаў), паводле свайго зместу, было «нефармальным» працягам богаслужэння.

Крыху больш як 500 усходнеславянскіх рукапісных кніг захавалася ад дамангольскага часу. У сувязі з такой малой захаванасцю даследчыкі (у прыватнасці, М. М. Розаў) дапускаюць, што не толькі паасобныя літаратурныя помнікі, але і цэлыя жанры літаратуры таго часу да нашых дзён не дайшлі, аднак ацалелыя кодэксы ўсё ж адлюстроўваюць галоўны напрамак развіцця рукапіснай кніжнасці. Гэта пацвярджаецца наступным меркаваннем: кожны тып і від рукапіснай кнігі, гэтаксама як і ўсякі літаратурны твор, былі ў такой меры застрахаваныя ад бясследнай гібелі, у якой яны былі распаўсюджаны ў рукапіснай кніжнасці. І сёння ж «рэдкасць» кнігі залежыць не столькі ад яе тыражу, колькі ад яе папулярнасці,— уласцівасць гэтая склалася яшчэ ў першыя стагоддзі існавання кніжнасці. Працэнтныя суадносіны для кніг XI — XIII стст. паводле М. Розава наступныя: Мінеі — 29,5, Евангеллі — 24,6, Сціхірары — 11,9, Псалтыры і Кормчыя — 4,9, Трыёдзі — 4,2, Апосталы, Служэбнікі, Кандакары, Ірмалоі і розныя богаслужэбныя зборнікі — 3,5, Параміейнікі — 1,4, Часасловы — 0,7[2].

Б. В. Сапуноў прапанаваў крыху іншы падыход да ацэнкі рэпертуару дамангольскіх рукапісных кніг. Ён вызначае тры групы кніг: 1) богаслужэбныя, 2) рэлігійныя чытальныя, 3) напалову свецкая і свецкая літаратура. Да першай групы адносяцца Апосталы, Евангеллі, Псалтыры, Мінеі, Трыёдзі, Стыхірары, Ірмалоі, Кандакары і некаторыя іншыя; другая група большая паводле складу, аднак меншая за першую па колькасці ацалелых асобнікаў. Граніцы яе вымалёўваюцца менш выразна: Мінеі-чэцці, Саборнікі, Пролагі, Залатаструі, Пацерыкі, алегарычныя творы, тварэнні Айцоў царквы і тлумачэнні да іх. Царкоўна-вучыцельная чытальная літаратура захоўвалася ў княскіх бібліятэках, у зборах уладыкаў праваслаўнай царквы, у вялікіх гарадскіх саборах. Асноўнымі асяродкамі яе канцэнтрацыі былі манастырскія кнігасховішчы. Трэцяя група — кнігі свецкага зместу. У яе ўваходзілі Ізборнікі, Палеі, Хранографы, Летапісы, Ізмарагды, юрыдычныя творы, помнікі свецкай літаратуры, такія, як «Слова пра паход Ігаравы» і «Маленне Данііла Заточніка», княскія разводы і інш.

Суадносіны гэтых трох груп Б. В. Сапуноў па наяўных асобніках вызначае як 24:11:1, аднак лічыць, што гэта не адэкватнае адлюстраванне мінулага, і ў сапраўднасці колькасць свецкіх кніг была больш значная[3].

Першы выпуск «Зводнага каталогу рукапісных кніг, якія захоўваюцца ў СССР», налічвае 493 рукапісныя кнігі X—XIII стст. (уключаючы фрагменты). Тры з іх паходзяць з беларускіх земляў і маюць імя ўласнае — паводле гарадоў, у якіх яны знойдзены; старажытнасць «рукапісных патрыярхаў» дае нам права крыху больш падрабязна спыніцца на іх апісанні.

[1] Пентковский А. М. Проблемы изучения памятников славянской письменности и культуры и межславянских культурных связей // Сов. славяноведение. 1988. № 6. С. 39—41.

[2] Розов Н. Н. Книга Древней Руси XI — XIV вв. М:, 1977. С. 86—91.

[3] Сапунов Б. В. Книга в России в XI — XIV вв. Л., 1978.

Тураўскае евангелле. Захавалася толькі 10 аркушаў гэтага Евангелля — кароткага апракаса XI ст. У 1865 г. Мікалай Сакалоў прывёз яго ў Віленскую Публічную бібліятэку з Турава (на той час Мазырскі павет Мінскай губерні), пергамінны сшытак гэтай самай старажытнай кнігі, што захавалася на беларускіх землях, быў знойдзены ў скрыні з-пад вугалю. На адвароце 2 і 6 аркушаў Тураўскага евангелля ёсць прыпіскі, якія сведчаць, што кніга ў пачатку XVI ст. знаходзілася ў Тураўскай Прэабражэнскай царкве; першая прыпіска (арк. 2 адв.) — укладны запіс князя Канстанціна Іванавіча Астрожскага, яго жонкі Таццяны і сына Іллі ад 10 лютага 1513 г. на «тры полі» з угоддзямі ў сяле Верасніцкім. Ахвяраванне зроблена для царквы Прэабражэння ў Тураве і для святароў Мітрафана і Мацвея. Другая прыпіска (арк. 6 адв.) — уклад тых самых князёў Астрожскіх у тую самую царкву пры тых самых святарах на сад з пасекай, поле з сенажацямі і іншымі ўгоддзямі «на сюі стороне на предсельи села Вересницкого, на сюі стороне Воронине от замку». Пры дапамозе фотааналізу ўдалося прачытаць яшчэ дзве прыпіскі — пацвярджэнне зямельных укладаў князёў Астрожскіх, падпісанае пісарам і судовымураднікам Пінскага павета Казімірам Свяжынскім і Міхалам Шырмам у 1731 г.; у 1790 г. Евангелле было прад'яўлена святарамі Тураўскай Прэабражэнскай царквы Янам Румкевічам і Міхалам Ордам камісару Яну Кяневічу, які прызнаў папярэднія запісы на палях сапраўднымі і пацвердзіў укладныя запісы князёў Астрожскіх сваёй прыпіскай.

Тураўскае евангелле перапісана на пергаміне, які мае невялікія дэфекты — дзірачкі, што ўтварыліся пры вырабе скуры. Почырк рукапісу — устаў, упрыгожаннем служаць ініцыялы (вялікія літары) старавізантыйскага тыпу, якіх на 10 аркушах змяшчаецца 11 — гэта літары «О», «Р», «В»; пры размалёўцы ініцыялаў пісец прымяніў тры колеры: сіні, зялёны, чырвоны.

Праз тры гады пасля паступлення рукапісу ў Віленскую Публічную бібліятэку (цяпер БАН Літвы, рукапіс захоўваецца тут да нашага часу) было зроблена хромалітаграфічнае выданне ўсіх наяўных 10-ці аркушаў[1], а на наступны год выйшла даследаванне супрацоўніка бібліятэкі П. А. Гільтэбрандта,— з таго часу ва ўсіх даследаваннях, прысвечаных пачатковаму перыяду славянскага пісьменства і кніжнасці, згадваюцца «Тураўскія лісткі». Апошняе спецыяльнае даследаванне належыць венгерскім славістам[2].

Кніжную культуру Турава, дый усіх беларускіх земляў, немагчыма ўявіць без дзейнасці тураўскага архіепіскапа Кірыла. Біяграфічныя звесткі пра яго вельмі мізэрныя — галоўнай іх крыніцай з'яўляецца праложнае сказанне, складзенае больш як праз сто гадоў пасля яго смерці: нарадзіўся ў Тураве, пастрыгся ў манахі, нейкі час быў «пустэльнікам». Пад 1169 г. Лаўрэнцьеўскі летапіс называе Кірыла епіскапам Тураўскім. У 1182 г. у Тураве ўжо другі епіскап,— такім чынам, Кірыл альбо пакінуў кафедру, альбо ўжо не жыў. Сярод твораў, што стварыў Кірыл, «Прыпавесць пра душу і цела», «Аповесць пра беларызца і манаства», «Казанне аб чарнарызным стане», восем «Слоў» на царкоўныя святы, трыццаць малітваў і два каноны. Вельмі распаўсюджаным творам стала «Прыпавесць пра душу і цела» — памфлет супраць растоўскага епіскапа Фёдара і яго свецкага заступніка князя Андрэя Багалюбскага; у прыпавесці выкарыстаны сюжэт пра сляпога і кульгавага: сляпы сторож (алегорыя душы) насіў на плячах куль-

[1] Туровское Евангелие. СПб., 1868.

[2] Тот И. Х., Хоргоши Э., Хорват Г. Туровские листики // Материалы и сообщения. Сегед, 1972. Т. 13. С. 181—232. (Тут жа фотатыпічная копія ўсіх аркушаў рукапісу — табл. 1а — 10б.)

гавага (алегорыя цела), і разам яны здолелі абакрасці сад чалавека, якому абодва служылі. Нягледзячы на ўзаемныя абвінавачванні ў падбухторванні, абодвух прызналі вінаватымі і засудзілі на смерць.

Апавядальная частка «Слоў» разбіта на трыяды, і ў рамках кожнай трыяды Кірыл растлумачвае патаемны, метафарычна-сімвалічны сэнс прыведзеных біблійных цытат. У сваіх «Словах» ён пераказвае з памяці шмат біблійных тэкстаў, а часам пашырае і дапаўняе цытаты. Напрыклад, у «Слове на вербную нядзелю» апісваецца ўезд Хрыста ў Ерусалім. Пры гэтым народ у Кірыла не проста выходзіць насустрач Ісусу, але «старци быстро шествоваху», «отроци скоро течаху, младенци яко крилати окрест Исуса паряще». Цікава адзначыць, што ілюстратар Лаўрышаўскага евангелля XIV ст., які, магчыма, ведаў тэкст Кірыла, каб паказаць гэтых «парящих» дзяцей, намаляваў, як яны ўзлезлі на дрэвы.

Трыяды Кірыл пачынае словамі «днесь» і «ныне», паказваючы сваім слухачам, што яны з'яўляюцца непасрэднымі ўдзельнікамі апісаных падзей. У гэтым адлюстроўваецца характэрнае для прапаведніцкай літаратуры сярэднявечча ўспрыманне часу, сутнасць якога, паводле слоў Д. Ліхачова, у тым, што «біблійныя падзеі, хоць і адбываліся ў мінулым, адначасова з'яўляюцца і фактамі сённяшнімі, гэта вечныя з'явы, якія быццам жывуць вечна, паўтараюцца ў штогадовым коле не толькі свят, але і ўсіх дзён тыдня, якія звязаны з тым ці іншым успамінам пра свяшчэнныя падзеі»[1].

Аб тым, што Кірыл Тураўскі сваёй рукой перапісваў кнігі, непасрэднага сведчання не захавалася; найбольш старажытны спіс яго «Слоў» датуецца другой паловай XIII ст. (кніга паходзіць са збору Ф. Талстога і захоўваецца цяпер у Аддзеле рукапісаў ДПБ, зусім магчыма, што гэты зборнік беларускага паходжання. F.п.1.39). З другога боку, бясспрэчна, што ён быў чытачом кніг розных аўтараў, у сваіх творах ён паказвае знаёмства з Іаанам Златавустам, Грыгорыем Назіянзінам, Епіфаніем Кіпрскім, Феафілактам Балгарскім, Сімяонам Лагафетам, Цітам Бастрыйскім. «Аповесць пра беларызца і манаства» ўзыходзіць, як мяркуюць даследчыкі, да «Аповесці пра Варлаама і Іаасафа». Глыбокі знаўца старажытнарускай кніжнасці акадэмік В. П. Вінаградаў пісаў пра Кірыла Тураўскага: «...творчасць славутага красамоўцы цалкам кампілятыўнага характару. Але і кампіляцыя бывае розная і рознай каштоўнасці. Бывае кампіляцыя груба механічная, і можа быць кампіляцыя таленавіта-мастацкая. Творчасць Кірыла — гэта мастацкая мазаіка. Тут асобныя элементы, як каштоўныя камяні, узяты гатовымі з розных крыніц; адтуль жа бярэцца і сам план, канва, паводле якой размяшчаюцца гэтыя цудоўныя ідэйныя і слоўныя перлы... але выбар іх, узаемаспалучэнне, урэшце, зліццё іх з канвою новага плана — усё гэта выканана самастойна і высокамастацкім чынам...»[2].

Сярод кніг, якія чытаў Кірыл Тураўскі, былі не толькі артадаксальныя і кананічныя творы. Аналіз яго выказванняў паказаў, што славуты прапаведнік-філосаф карыстаўся апакрыфічнай кнігай Эноха — творам, які фігуруе практычна ва ўсіх царкоўных «Спісах забароненых кніг». У прыватнасці, думка Кірыла пра тое, што ў райскім садзе д'ябал спакусіў не Адама, а Еву, узыходзіць да кнігі Эноха: «Адама же не възможе діавол, како прельстити, яко крепок бяше, но обрете Еву слабу сущу и прельсти ю»[3].

[1] Лихачев Д. С. Поэтика древнерусской литературы. М., 1979. С. 272.

[2] Виноградов В. П. О характере проповеднического творчества Кирилла, епископа Туровского // В память столетия Имп. Московской Духовной Академии: Сборник статей, принадлежащих бывшим и настоящим членам академической корпорации. Сергиев Посад, 1915. Ч. 2. С. 313—395.

[3] Соколов М. И. Славянская книга Еноха Праведного // ЧОИДР. М.; 1910. Кн. 4. Ч. 2. С. 120—121.

*Старонка Полацкага евангелля. XII ст.*



Полацкае евангелле. Рукапіс гэты створаны ў канцы XII ст. і належаў Троіцкаму манастыру ў Полацку. У XIX ст. ён трапіў у Маскву — асноўная частка да гісторыка М. Пагодзіна, а два аркушы праз І. Бяляева да збіральніка В. М. Ундольскага. У 1852 г. разам з пагодзінскім зборам старадрукаваных кніг і рукапісаў Полацкае евангелле было куплена Імператарскай Публічнай бібліятэкай і перавезена ў Пецярбург (цяпер захоўваецца ў Дзяржаўнай Публічнай бібліятэцы ў Ленінградзе)[1]. Два аркушы, якія належалі Ундольскаму, трапілі разам са зборам Ундольскага ў бібліятэку Румянцаўскага музея (цяпер у Аддзеле рукапісаў Дзяржаўнай бібліятэкі імя У. І. Леніна ў Маскве). На

[1] ДПБ. Аддз. рукапісаў. Пог. 12.

старонках кнігі захаваліся ўкладныя запісы XIV—XVII стст.: князь Андрэй Данілавіч дае Троіцкаму манастыру вотчыну сваю Прасмужыцы; Іван Ніканавіч Дзяменцьеў — тры «места ролейные» на Вялікім Полі, іржышча, сенажаць на рацэ Палаце, агарод і палову гумна на Старым горадзе; вялікі князь Андрэй Полацкі — рэчку Званіцу,ад возера Звана да ракі Дрысы, з бабровымі гонамі.

Полацкае евангелле перапісана двума почыркамі, уставам. Пергамін гэтага рукапісу захаваў разметку лінеек вострым пісалам; дзірачкі, што непазбежна з'яўляюцца пры вырабе скуры, акуратна зацыраваны. Упрыгожанні вельмі сціплыя. Захаваліся дзве застаўкі: адна мае арнамент старавізантыйскага тыпу, аднак, паколькі для малявання было ўжыта срэбра, якое ў далейшым акіслілася, арнамент дрэнна захаваўся і амаль не чытаецца. Напэўна, срэбра было ўжыта і для другой застаўкі — яна таксама амаль не захавалася з-за моцнага акіслення. Тэхналогія жывапісу з выкарыстаннем срэбра зусім не характэрна для славяна-візантыйскай кнігі, аднак менавіта такая тэхніка была распаўсюджана ў XII ст. у гарадах Германіі. Таму нельга выключыць удзел нямецкіх майстроў у ілюстрацыі гэтага рукапісу альбо знаёмства майстра-палачаніна з еўрапейскімі тэхналогіямі ўжывання фарбаў. Перапісаны ў два слупкі тэкст у Полацкім евангеллі ажыўляюць кінаварныя ініцыялы і кінаварныя загалоўкі чытанняў.

З полацкіх кніжнікаў далітоўскага часу найбольшую папулярнасць мае ўнучка Усяслава Брачыслававіча Ефрасіння (Прадслава) Полацкая (1101—1173). Заснаваныя Ефрасінняй два манастыры ў Полацку сталі асяродкамі перапіскі кніг, жыціе паведамляе, што і сама Ефрасіння займалася кнігапісаннем: «...нача книгы писати своими руками». Некаторыя з перапісаных кніг, як лічыць сучасны даследчык У. Арлоў, ішлі на продаж, і атрыманыя за гэта грошы Ефрасіння раздавала бедным як міласціну[1].

Аршанскае евангелле. Гэтае Евангелле — поўны апракас канца XII — пачатку XIII стст.— было знойдзена сярод рэчаў, выкінутых салдатамі Напалеона з аршанскіх манастыроў у 1812 г. У 1874 г. памешчык І. Мелянеўскі перадаў яго ў музей Кіеўскай духоўнай акадэміі. Аздабленнем гэтага надзвычай прыгожага рукапісу служаць больш як 300 выкананых у «звярыным» стылі ініцыялаў, дзве застаўкі і дзве ацалелыя мініяцюры. Мініяцюры паказваюць евангелістаў Матфея і Луку. Абодва паказаныя за нізкімі пюпітрамі з аркушамі папіруса ў руках. Перад імі на пюпітрах пісаныя золатам кнігі. Сваёй жанравасцю і маляўнічасцю прыёмаў мініяцюры Аршанскага евангелля сугучныя візантыйскаму раннепалеалогаўскаму жывапісу, які прыйшоў на змену познекомнінаўскаму стылю. Віктар Шматаў мяркуе, што ілюмінатар Аршанскага евангелля быў фрэскістам, пра што сведчыць шырокая, разлічаная на некніжныя маштабы манера жывапісу — стрыманая ў мадэліроўцы твараў, рук, энергічная ў трактоўцы антуражу. «Фрэскавы» характар мініяцюрам гэтага рукапісу надае і чысты, некрануты пэндзлем фон — пергамін, на якім фігуры евангелістаў чытаюцца выразнымі сілуэтамі[2]. Бясспрэчна таксама, што мастак-ілюмінатар Аршанскага евангелля быў цудоўны каліграф, меў тонкае адчуванне формы, прапорцый і каларыту.

Сярод чытальных кніг з XII ст. устойлівай папулярнасцю карысталіся творы Яфрэма Сірына — дагматычна-палемічныя, маральныя, аскетычныя і іншыя творы, шмат якія з іх напісаны ў форме песень і

[1] Арлоў У. Асветніца з роду Усяслава. Мн. 1989. С. 26.
[2] Шматаў В. Ф. Мастацтва рукапіснай кнігі XI—XIII стст.// Народная асвета. 1986. № 6. С. 63—64.

*Яфрэм Сірын і Васіль Вялікі.*
*Мініяцюра XII ст.*

вершаў. Змест яго павучэнняў — аналіз розных станаў праведнасці і грахоўнасці і спосабаў хрысціянскага выпраўлення і самаўдасканальвання. Выразна прагучала ў творах Яфрэма тэма кнігі: «Муж мудры, які не мае кніг, падобны да агароджы, якая стаіць без апораў: калі будзе вецер, то паваліцца. Гэтак і мудрыя: падзме на іх вецер грахоўны і ўпадзе той, хто не мае апоры славес кніжных. А калі ведае мудрасць кніжную, то дасканалы. Іаан Багаслоў кажа: птушкам на тое крылы дадзены, каб цянётаў чалавечых пазбегнуць, а людзям кнігі, бо ўсю непрыязную лесць адганяюць. Менандр кажа: мець кнігі лепей, чым золата, бо ў мностве золата няма спамогі для душы».

Самы старажытны ўсходнеславянскі кодэкс са спісам «Парэнэсіса» Яфрэма Сірына захаваў шматколерную мініяцюру з яго выяваю. Славуты пісьменнік і спавядальнік паказаны ў поўны рост, у чорным манаскім адзенні, побач з Васілём Вялікім[1]. Васіль Вялікі трымае ў руках кнігу, тым часам як у Яфрэма сувой — кніга больш старажытнай формы (і зместам, г. зн. больш блізкая да часоў прарокаў). Сувой і манаскі чын Яфрэма нібы ўзмацняюць запісаныя ніжэй на пергаміне яго словы: «Мінае дзень, следам за ім ідзе другі, і калі не гадаеш — смерць ужо стаіць над галавой тваёй... Дзе мудрацы, якія напісалі кнігі і пісаннямі сваімі напоўнілі свет? Дзе тыя, хто дзівіў свет сваім словам і творамі, зачароўваў сваімі думамі?.. Дзе тыя, хто пышыўся дарагімі шатамі, спачывалі на пурпуровых ложах? Дзе тыя, хто здзіўляў сваёй прыгажосцю? Дзе рукі, якія аздабляліся перламі? Дзе тыя, перад загадамі якіх трухнелі і якія панявольвалі зямлю страхам сваёй улады? Скажы зямлі, і яна пакажа табе, дзе яны; спытайся ў магіл, і яны пакажуць, куды яны пакладзены. Во, усе яны разам ляжаць у зямлі, усе абярнуліся ў пыл, і не адрозніш, дзе астанкі багатага і дзе парахно ўбогага... Незлічоныя тысячы ляжаць там і багатых і бедных, незлічоныя соймы бачыў я ляжачых там... Ціха ляжаць яны ў дамоўках...» В. Ластоўскі адзначыў беларускія асаблівасці мовы ў гэтым спісе «Парэнэсіса»: яны выяўляюцца ў аканні («праславить», «Іосифава», «обращеть»), а таксама ў іканні («пишить», «радуиться») і ў блытанні «у» і «в». Услед за І. Бычковым В. Ластоўскі датаваў Пагодзінскі спіс 1492 г., а акадэмік І. Сразнеўскі адносіў гэты кодэкс да канца XIII ст.[2]. У часе падрыхтоўкі «Сводного каталога рукописных книг» і новага каталога збору рукапісных кніг М. Пагодзіна пры дапамозе інфрачырвоных промняў прачыталася прыпіска кнігапісца, якая дазваляе ўдакладніць датаванне і абставіны з'яўлення гэтага кодэкса: «Слава тобе, Господи, в сий час. В лето семое тысяще написашася книгы сія при царстве благовернаго царя Володимера, сына Василкова, унука Романова, боголюбивому тивуну его Петрови. Да аще приключиться кому сія книга прочитати, то первое помяни строителя их. Написа же сія книгы на спасенье своей души и чадом своим Лаврентьеви, Варваре. Да и аз, грешный худый Иев, отверз скверная своя уста, похвалю избранника

[1] ДПБ, Аддз. рукапісаў. Пог. $71^{a}$, арк. 1 адв.
[2] Библиографическая летопись. 1917. Т. 3. С. 101—105.

*Святыя Казьма і Даміян — лекары. Мініяцюра XII ст.*



Божия, списавшаго книгы си за отпущенье... Семое тысяще у конечном роде бысть мужь в та лета, ему же издено бысть у святом крещеньи Петр. Сый бяше у та времена тивун у князя Володимера, и бысть у него сын именем Лаврентий, его же уда учити святым книгам, наказываше апостольскыми заповедьми на вся часы. Сам же сый строяшеть сія книгы с многом тщаньем на вся дни, милуя мастера... Да аще кто не похвалить строителя сим книгам именемь Петра, буди ему онафома, яко же Моисей рече, но похвалив его, первое то же чти сія книгы. Написа же ему сія книгы худый недостойный и многогрешный и через силу безаконьный худол Иев. Пакы написа Павел к Тимофею: «Будите творцы слову и учители». ПИ-го лета князя Володимеру и княгини Волзе и строителю книгам сим»[1]. «Благоверный царь Володимер, сын Василков», што прыгадваецца ў прыпісцы,— хутчэй за ўсё валынскі князь Уладзімір Васількавіч (1269—1289), а дата напісання кнігі «ПИ лета» — напэўна, 6788 г. ад стварэння свету, што адпавядае 1280 г. Уладзімір Васількавіч распаўсюджваў у той час сваю ўладу на паўднёвыя беларускія гарады Брэст і Пінск. Аднак вызначыць, дзе жыў заказчык — «строитель книги сія» — княскі цівун Пётр і яго дзеці Лаўрэнцій і Варвара, да гэтага часу не ўдалося.

Не менш папулярным творам, чым «Парэнэсіс» Яфрэма Сірына, была «Лествица» Іаана Лествічніка; самы старажытны з вядомых спісаў «Лествицы» датуецца XIII ст., ён належаў Селіцкаму манастыру. З беларускіх зямель вядуць паходжанне і некаторыя рукапісныя кнігі, якія не маюць дакладнай лакалізацыі; у такім выпадку месца стварэння рукапісу можна вызначыць параўнальным аналізам мовы, мастацкага афармлення, чытацкіх памет на палях. Напрыклад, Евангелле са збору графа М. Румянцава № 105 мае нелакалізаваную прыпіску 1270 г. пісца Латыша (выказвалася меркаванне, што гэта імя або мянушка, якая паказвала на латышскае паходжанне). Акрамя прыпіскі XIII ст., захавалася частка прыпіскі XVI ст. (1555 г.) беларускім скорапісам, у якой ёсць інфармацыя аб тым, што гэтая кніга належыць Васілю Слепаўронскаму; дата напісана паводле грыгарыянскага календара. Усё гэта сведчыць аб знаходжанні (а магчыма, і аб стварэнні) кнігі на беларускіх землях. Да такіх жа помнікаў можна аднесці Псалтыр 1296 г. з Сінадальнай бібліятэкі (цяпер ДГМ, Син. 235), Евангелле — поўны апракас XIII ст. з бібліятэкі Маскоўскага універсітэта і Служэбнік Варлаама Хутынскага XIII ст. (ДГМ, Син. 604). Адносна паходжання гэтых кніг ёсць і іншыя меркаванні, палеміка паміж даследчыкамі, якая працягваецца ўжо шмат дзесяцігоддзяў, дазваляе спадзявацца, што ўдасца ўдакладніць месца стварэння і лёс гэтых кодэксаў.

Ужо ў далітоўскі час прайшлі праз беларускія землі кнігі-падарожніцы. Прыкладам можа быць кодэкс Гертруды. Кніга гэтая перапісана па-лацінску ў канцы X ст. архіепіскапам Трэві (Ірландыя) Эгбертам. З Ірландыі кодэкс трапіў у Польшчу разам з княжной Рыгезай, якая стала жонкай князя Мешкі II. Потым, разам з іх дачкой Гертрудай, у 1050 г. кніга пераехала ў Тураў (Гертруда выйшла замуж за князя Ізяслава Яраславіча). У Тураве, як мяркуе В. Шматаў, да кодэкса былі дададзены пяць мініяцюр: чатыры выявы евангелістаў і групавы партрэт князя і яго сям'і. Гертруда тут жа запісала малітву за членаў сваёй сям'і. У малітве Ізяслаў не названы князем кіеўскім, што і дае падставы лічыць, што мініяцюры і малітвы тураўскага паходжання (да пераез-

[1] Рукописные книги собрания М. Н. Погодина: Каталог. Л., 1988. Вып. 1. С. 60—61.

ду ў Кіеў)[1]. Пазней унучка Гертруды выйшла замуж за польскага караля Баляслава III і прывезла кнігу зноў у Польшчу. Другая жонка Баляслава III, Саламея Бергская, ахвяравала кодэкс у Цвайфальтэнскі манастыр у Вюртэнбергу. Адтуль кодэкс Гертруды нейкім чынам перайшоў да графаў Ардэк, нарэшце, у 1229 г. прынцэса Лізавета Святая ахвяравала яго ў ламбардскі патрыярхат з цэнтрам у г. Чывідале[2]. Цяпер гэтая рукапісная кніга знаходзіцца ў нацыянальным археалагічным музеі ў Чывідале дэль Фрыулі (Італія).

На беларускіх землях доўгі час знаходзіўся адзін з самых старажытных кірылічных кодэксаў з тэкстамі Міней-чэцціх X ст.— так званы Супрасльскі рукапіс (ад Супрасльскага манастыра паблізу Беластока). Паходжанне гэтага кодэкса верагодна балгарскае; у цяперашні час часткі кнігі знаходзяцца ў трох розных месцах (Любляна, Ленінград, Варшава)[3].

Хоць пераважная большасць кніг X—XIII ст. богаслужэбныя, функцыі іх не вычэрпваюцца толькі культавымі патрэбамі. Царкоўнаславянская пісьмовая мова (на аснове кірыліцы) стала сродкам сувязі паўднёвых і ўсходніх славян. Нават літургічныя кнігі выконвалі важныя грамадска-палітычныя задачы: змешчаныя ў іх тэксты садзейнічалі стварэнню новых грамадскіх і палітычных парадкаў, сакралізавалі ўладу гаспадара (князя), узносілі ўладара над грамадствам і ставілі яго нароўні з Богам.

[1] Пуцко В. Г. лічыць, што мініяцюры выкананы ў Кіеве, у 1073 г., а Кандакоў М. П. мяркуе, што месца стварэння мініяцюр — манастыр св. Якава ў Рэгенсбургу, і датуе іх 1075—1076 гг. Гл.: Пуцко В. Г. Славянская письменность и развитие книжного искусства домонгольской Руси // Проблемы изучения культурного наследия. М., 1985. С. 65—73.

[2] Янин В. Л. Русская княгиня Олислава-Гертруда и ее сын Ярополк // Нумизматика и эпиграфика. Т. 4. М., 1963. С. 142—164.

[3] Супрасълски или Ретков сборник. София, 1982—1983. Т. 1—2.

Старажытныя кірылічныя кнігі, якія былі створаны і бытавалі на беларускіх землях Вялікага княства Літоўскага, сталі прадметам зацікаўленага вывучэння, прынамсі, ужо з 15 чэрвеня 1605 г. Якраз у гэты дзень мітрапаліт Іпацій Пацей асабіста з'явіўся ў віленскую ратушу, дзе засядалі бурмістры і радцы (паводле магдэбургскага права палова з іх праваслаўнага, палова — каталіцкага веравызнання), і паказаў ім даволі старую кнігу, знойдзеную ў крэўскай царкве, пісаную ўстаўным славянскім пісьмом, якая змяшчала ў сабе апісанне Фларэнційскага сабора і грамату мітрапаліта кіеўскага Місаіла да папы Сікста IV. Грамата датавана 14 сакавіка 1476 г., у ёй прадстаўнікі духавенства і знаці Вялікага княства Літоўскага, паведамляючы пра сваё прызнанне Фларэнційскай уніі, прасілі ў папы заступніцтва перад католікамі[1]. Паказваючы кнігу, Пацей сказаў, што лічыць патрэбным надрукаваць такую важную грамату для ўсеагульнага ведама, а каб праціўнікі не рызыкнулі сцвярджаць, быццам грамата надрукавана не са старой кнігі, «але зъ новых якихъ экзэмпляровъ», прасіў членаў рады засведчыць паказаную ім кнігу з граматай сваімі подпісамі і пра ўсю гэту заяву зрабіць запіс у актавых кнігах ратушы і выдаць яму выпіску з іх. Бурмістры і радцы разгледзелі паказаную кнігу вельмі ўважліва, пасля чаго «въ той книзе два панове бурмистры, а два панове радцы и два писары места Виленского радецкіе руки свои подписали» і дазволілі запісаць гэты зварот у гарадскія (месцкія) радзецкія кнігі, а таксама выдалі выпіску, завераную малой пячаткай горада. Праз некалькі гадоў ананімны аўтар-антыуніят у творы «Перестрога»[2] ставіў пад сумненне сумленнасць уніятаў, дапускаючы выраб «фальшованых» пад старыну кніг: «Книги змышляють пишучы подъ датою старою, письмомъ старымъ, яко колись тая згода трвати мела; але присмотрися пильно въ самую

[1] Са зместу граматы вынікае, што Гарадзельская унія 1413 г., якая забараняла дапускаць праваслаўных на вышэйшыя дзяржаўныя і грамадскія пасады ў Вялікім княстве Літоўскім, пры Казіміру Ягелоне (1427—1492) ужо не выконвалася. Гл.: Макарий (Булгаков). История русской церкви. СПб., 1900. Т. 9. С. 58.

[2] Найбольш ранні спіс «Перестроги» знаходзіцца ў зборніку Іаана Хашкоўскага. Зборнік гэты, які называецца «Розница», пісаны ў манастыры св. Троіцы ў Чарэі ў 1617 г. Мястэчка Чарэя ўваходзіла ў Аршанскі павет і належала канцлеру Льву Сапегу, які ў 1599 г. пацвердзіў права манастыра заставацца «ведлуг закону греческого». Рукапіс закончаны ў 1618 г. у Ануфрыеўскім манастыры недалёка ад Мсціслаўля, што належаў у канцы XVI ст. князю Багдану Азярэцкаму-Друцкаму. Цяпер у Бібліятэцы АН Украіны (Відд. рукописів. 476(1736П). Гл.: Дзюба О. М. Білоруський список «Перестроги» //Прогресивна супільно-политична думка в боротбі проти феодальної реакції та котолицько-уніатської экспансії на Україні. Львів, 1988. С. 131—133.

речь и знайдешь же хоть такіе письма старые змышляютъ, але речь вся Потеева, якъ бы усты самъ мовилъ. Прытом знайдешь тамъ слова, века теперешнего людми ужываемые, которыхъ старые предки наши не уживали»[1]. Аднак указаць канкрэтна на надрукаваную Пацеем грамату ці іншую кнігу ананім не адважыўся.

У ліпені 1686 г. базыльянскі ордэн у спрэчцы з мітрапалітам аб сапраўднасці пастаноў першых базыльянскіх кангрэгацый звярнуўся да біёграфа Іасафата Кунцэвіча Якава Сушы як да «знающего почерк старых отцов и прелатов»[2].

Адрозненні паміж беларускімі і рускімі рукапіснымі кнігамі ўпершыню зафіксаваны ў пачатку XVIII ст. Для барацьбы з царкоўным «расколам» прадстаўнікі афіцыйнай рускай царквы спрабавалі тады выкарыстаць прыхільнасць стараабраднікаў да старадаўніх тэкстаў. Для гэтай мэты былі сфабрыкаваны дзве нібыта старадаўнія рукапісныя кнігі, падробку якіх выкрылі стараабрадніцкія кніжнікі, прымяняючы методыку кадыкалогіі і палеаграфіі, блізкую да сучаснай: выявіўшы, у прыватнасці, дастатковае веданне асаблівасцей беларускай рукапіснай кнігі, яны заўважылі розніцу паміж графікай і арфаграфіяй сфабрыкаваных ведамствам Свяшчэннага Сінода падробак: «Чудимся... еже буквами белорускими писано, а речьми московскими». Далей адзначана было адрозненне датавання гэтых кніг ад традыцыйнага для Маскоўскай Русі летазлічэння «ад стварэння свету», зноў жа пры заўвазе, што гэта ўласціва «новадрукаваным кнігам і беларускім летапісцам»[3]. У працах заснавальнікаў рускай археаграфіі — апісаннях рукапісаў К. Ф. Калайдовіча, П. М. Строева і А. Х. Вастокава — у першай палове мінулага стагоддзя па палеаграфіі і мове выдзяляліся беларускія рукапісныя кнігі XVI — XVII стст., больш раннія апісваліся як агульнарускія[4].

Археаграфічная дзейнасць актывізавалася на беларускіх землях пасля вайны 1812 г. «У гэты час у навуковых гуртках Пецярбурга гаварылі, што ў пошуках славянскіх і рускіх старажытнасцяў польскія вучоныя апярэдзілі рускіх; у сапраўднасці гэтыя вучоныя былі рускія святары, паслядоўнікі грэка-уніяцкай царквы: так мала яшчэ знаёмыя былі з этнаграфіяй Заходняй Расіі не толькі бюракраты накшталт містыка і піетычнага абскуранта Папова (дырэктара дэпартамента духоўных спраў пры Галіцыне), але і вучоныя, якія ўваходзілі у гурток графа Румянцава» — пісаў пазней гісторык і географ П. Баброўскі[5]. Такое вызначэнне, строга кажучы, не зусім слушнае, бо ў 20—40-я гг. XIX ст. актыўна вывучалі славянскія старажытнасці не толькі уніяцкія святары, сярод якіх выдзяляліся Антоній Сасноўскі і яго сын Платон Сасноўскі, а таксама брэсцкі уніяцкі канонік Міхаіл Баброўскі, але і католік Ігнат Даніловіч, праваслаўны протаіерэй Іван Грыгаровіч і іншыя.

Антоній Юр'евіч Сасноўскі (18.I.1775—30.III.1852), настаяцель уніяцкай царквы св. Мікалая Мірлікійскага ў Кляшчэлях (Гродзенская

[1] АЗР. Т. 4. СПб., 1851. С. 229.

[2] Жукович П. Н. О неизданных сочинениях Иосафата Кунцевича // Известия ОРЯС. 1909. [СПб., 1910]. Т. 14. Кн. 3. С. 19.

[3] Дружинин В. Г. Поморские палеографы начала XVIII столетия // Летопись занятий Археографической комиссии за 1918 год. Пг., 1923. Вып. 31. С. 19. Аўтар гэтай працы быў першым рускім вучоным, які вывучыў гэтыя падробныя кнігі. Да Кастрычніцкай рэвалюцыі яны захоўваліся запячатанымі ў архіве Сінода. Неаднаразовыя спробы археографаў XIX ст. вывучыць іх сустракалі заўсёдную адмову вышэйшай царкоўнай адміністрацыі, якая, відаць, прызнавала важкасць выкрыцця стараабраднікамі гэтай падробкі.

[4] Калайдович К., Строев П. Обстоятельное описание славяно-русских рукописей... графа Ф. А. Толстова. М., 1825; Востоков А. Х. Описание русских и словенских рукописей Румянцевского музеума. СПб., 1842.

[5] Бобровский П. О. Антоний Юрьевич Сосновский: Историко-биографический очерк. Вильна, 1890. С. 74.


HYPATIVS POCIEY

губерня), па сваіх інтарэсах аматар даўніны, удзельнічаў у разборы базыльянскіх архіваў, напісаў нататку пра Статут Вялікага княства Літоўскага, апублікаваную ў «Dzienniku Wileńskim», і бібліяграфічную нанатку пра кнігу «Апокрисис», якая засталася неапублікаваная[1]. Непасрэдным даследчыкам рукапіснай кнігі Антоній Сасноўскі не быў, аднак садзейнічаў навуковай працы сучасных яму славістаў і калекцыянераў. Як віцэ-вікарый Брэсцкай кансісторыі (1822—1825) і старшыня Віленскай мітрапаліцкай кансісторыі (да яе скасавання ў 1828 г.), ён меў доступ да кнігасховішча Супрасльскага манастыра і дазваляў даследчыкам карыстацца лепшымі рукапісамі гэтага збору, выдаваў іх на рукі, у тым ліку і ў іншыя гарады. Яшчэ не заняўшы месца брэсцкага віцэ-афіцыяла, але спадзеючыся яго атрымаць, Сасноўскі пісаў 6 сакавіка 1822 г.: «Спадзяюся, што на гэтай пасадзе я... мог бы аказаць паслугі графу Румянцаву, бо кансісторыя пераведзена будзе [з Жыровіц] у Супрасль, дзе я займуся старажытнасцямі славянскімі»[2]. У верасні 1822 г. А. Сасноўскі пісаў прафесару М. Баброўскаму: «...пасылаю

[1] Бобровский П. О. Антоний Юрьевич Сосновский. С. 191.
[2] Тамсама. С. 192.

*Мітрапаліт Іпацій Пацей. Гравюра XVIII ст.*

шмат разоў абяцаны каталог славенскіх найбольш важных кніг, якія захоўваюцца ў бібліятэцы Супрасльскага манастыра. Бачу, што асобнік Літоўскага статута карысна было б перадаць вучоным знаўцам. Пасылаю дзве кніжкі: «Пчела» Антонія Мніха, а з ёй працу Максіма Філосафа і «Гісторыю аб разбурэнні Ерусаліма»...[1] Некаторыя з кніг, узятыя А. Сасноўскім, трапілі ў вопіс Супрасльскага манастыра 1829 г., дзе склалі асобны спіс з 27 назваў. Сярод узятых кніг ірмалагіёны (частка пісаных), «Книга Аристотелеса о тайнах», «Летописцов I», кніга Іова і Эклезіяст [магчыма, друкаваных Ф. Скарынам? — *М. Н.*], «Лексикон» (пісаны), «Ярмалой древний не целый», «Летописец Подоля», «Номоканон» і інш.[2]

Захапленне славянскай даўнінай перадалося і сыну Антонія Сасноўскага — Платону. Ён з дапамогай свайго бацькі працягваў збор матэрыялаў для напісання «Гісторыі грэка-уніяцкай царквы», апублікаваў «Замечания над темой о иерархии Русской церкви с костелом римским соединенной». Аднак працы маладога вучонага, у 26 гадоў ужо прафесара Віленскага універсітэта, перарваліся з прычыны заўчаснай смерці. Платон Антоніевіч Сасноўскі памёр ад сухотаў у 1827 г. ва ўзросце 27 гадоў[3].

Самым аўтарытэтным знаўцам кніжна-пісьмовых старажытнасцяў быў у той час прафесар Віленскага універсітэта Міхаіл Баброўскі. Чалавек незвычайна працавіты і здольны да навук, ён, аднак, не пакінуў пасля сябе манаграфічных твораў, зробленае заставалася ў рукапісах і пасля смерці альбо загінула, альбо яшчэ не адшукана ў архівах; пры жыцці выдадзены былі толькі дзве кнігі: некралог свайму земляку і таварышу прафесару Платону Сасноўскаму і пераклад з нямецкай на лацінскую мову «Біблійнай археалогіі» Іагана Яна. Пераклад кнігі Яна быў надрукаваны віленскім выдаўцом Юзафам Завадскім у 1829 г. Унікальны асобнік «Біблійнай археалогіі» захоўваецца цяпер у Дзяржаўнай Публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе (ф. «Культы», ш. 16.154 7.13). На тытульным лісце кніга мае ўласніцкі запіс глыбоцкага манастыра кармелітаў босых, а на шмуцтытуле беглым скорапісам XIX ст. запісана біяграфія перакладчыка, якая лаканічна і храналагічна паслядоўна адлюстроўвае галоўныя моманты жыцця вучонага: «Прафесар Міхаіл Кірылавіч Баброўскі. Нарадзіўся ў Вульцы Бельскага павета Гродзенскай губерні ў 1785 годзе. Памёр у мястэчку Шарашове Пружанскага павета Гродзенскай губ. у 1848 г., 21 верасня. Доктар багаслоўя, магістр філасофіі і свабодных мастацтваў. Прафесар Святога Пісання і Біблійнай археалогіі і выкладчык славянскіх моў у Віленскім універсітэце і Галоўнай Духоўн. Семінарыі. Старшы саборны протаіерэй і Пружанскі благачынны. Выхоўваўся ў Кляшчэльскай царкоўнай школе, потым шэсць гадоў у піярскім драгічынскім вучылішчы, з 1797 па 1803, у Беластоцкай гімназіі 1803—1806, у Галоўн. Духоўн. Віленск. семінарыі і ў

[1] Бобровский П. О. Антоний Юрьевич Сосновский. С. 72.

[2] Археографический сборник документов, относящихся к истории северо-западной Руси. Вильна, 1870. Т. 9. С. 461—462.

[3] Бобровский П. О. Антоний Юрьевич Сосновский.

Віленскім універсітэце з 1808 да 1812 года. Пасвечаны ў святары віленскім біскупам Галаўнём у 1814 г., выбраны выкладчыкам Св. Пісання ва універсітэце ў 1815 г., у Галоўн. Дух. Семін. у 1816 г. Уведзены ў сан брэсцкага каноніка ў 1817 г. Падарожнічаў па Еўропе з вучонымі мэтамі з 1817 па 1822. Апісаў славянскія рукапісы Ватыканскай бібліятэкі ў 1820 г. Выбраны ў экстраардынарныя прафесары Універсітэта Св. Піс. і бібл. археалогіі ў 1822, у ардынарныя прафесары 1823.— Жыў у Жыровіцах з верасня 1824 па красавік 1826.— Зноў на кафедры 1826 па 1833 год. Узнагароджаны пенсіяй у 1834 г. Настаяцель царквы св. Мікалая ў Вільні, настаяцель шарашоўскай Прачысценскай царквы з 1833 па 1848. Протаіерэй з 1829 г.».

Запіс гэты, як нам здаецца, зроблены не ў Глыбокім, а ўжо пасля канфіскацыі і вывазу бібліятэкі; найбольш верагодна, што аўтар яго — пляменнік Міхаіла Бабpоўскага Павел Восіпавіч Бабpоўскі — генерал, ваенны гісторык, начальнік ваенна-юрыдычнай акадэміі ў Пецярбурзе.

Станаўленне Міхаіла Бабpоўскага як славіста адбылося ў час падарожжа па Еўропе. Пра гэтае падарожжа ён пазней падрабязна расказаў на старонках «Dziennika Wileńskiego», засяроджваючы ўвагу не толькі на побытавых асаблівасцях і мовах зарубежных славян, але і прыводзячы апісанні старых славянскіх кніг і рукапісаў, з якімі меў магчымасць пазнаёміцца. Першапачаткова праграмай заняткаў Бабpоўскага па вывучэнні славянскіх старажытнасцяў у Еўропе кіраваў, як ён сам гаварыў, «геніяльны» Ёзаф Добраўскі. У Празе Бабpоўскі пазнаёміўся таксама з Вацлавам Ганкам і Ёзафам Юнгманам, у Венецыі з «радостию и люботой сербской» — Паўлам Салярычам, у Дуброўніку з харвацкімі філолагамі Марыем Францыско Апендзіні і Паўлам Міёсічам. Пра некаторыя свае адкрыцці Бабpоўскі паведамляў пазней дырэктару венскай бібліятэкі Копітару, з якім пазнаёміўся ў 1819 г. у Вене. Яму ж ён адаслаў для выдання найбольш старажытны кірылічны рукапіс са збору Супрасльскага манастыра (Супрасльскі зборнік).

У канцы свайго зарубежнага падарожжа Міхаіл Бабpоўскі наведаў Рым і працаваў у бібліятэцы Ватыкана. Апісанні кірылічных і глагалічных рукапісаў папскай бібліятэкі, якія ён сам зрабіў, увайшлі ў друкаваны каталог бібліятэкі — выданне, падрыхтаванае папскім бібліятэкарам (пазней кардыналам) Анджэла Майо[1]. Вярнуўшыся ў Вільню, Бабpоўскі пачаў чытаць ва універсітэце курсы біблійнай археалогіі, арабскай і гэбрайскай моў, герменеўтыкі. Ён арганізаваў і ўзначаліў ва універсітэце кафедру славістыкі. У час канікул 1823 г. Міхаіл Бабpоўскі разам з прафесарам-гісторыкам Ігнатам Даніловічам працаваў у у Супрасльскім манастыры. У выніку была падрыхтавана і выдадзена «Хроника еже есть летописец». У прадмове Ігнат Даніловіч выказаў яму падзяку. Калі ў 1828 г. урад вывучаў прапанову аб адкрыцці Полацкай духоўнай акадэміі і Жыровіцкай семінарыі, міністр Шышкоў у дакладзе імператару Мікалаю Паўлавічу прапаноўваў даручыць скласці план гэтых навучальных устаноў М. Бабpоўскаму. «Ад акадэміі давялося адмовіцца толькі тады, калі асігнаваная на яе арганізаванне сума была накіравана на ўзмацненне спосабаў для набыцця царкоўных кніг маскоўскага друку і розных царкоўных рэчаў, а таксама на ўстройванне іканастасаў у Літоўскай і Беларускай епархіях»[2].

На працягу ўсяго свайго жыцця М. Бабpоўскі працаваў з рукапіснымі кнігамі са збору Супрасльскага манастыра. У 1830 г. ён пісаў Анто-

[1] Scriptorum Veterum Nota collectio ex Vaticanis codicibus edita ab Angelo Majo Bibliothecae Vaticane Praefecto. Romae. F. V. p. 101—111.

[2] Цыт. па: Бобровский П. О. Еще заметка о Супрасльской рукописи // ЖМНП, 1888. Ч. 256. С. 343.

нію Сасноўскаму: «Шкадую, што пасняшаўся адаслаць у Супрасль частку рукапісаў. Рукапіс летапісца, выдадзенага п. Даніловічам, знаходзіцца цяпер у руках Ліндэ, якому нябожчык айцец Платон [Сасноўскі.— *М. Н.*] паслаў на нейкі час. Я пісаў самому Ліндэ і прасіў яго праз Лялевеля вярнуць гэтую кнігу ў Супрасльскую бібліятэку, нагадваючы яму пра клятву манастыру. Але гэтая перасцярога не зрабіла ніякага ўражання... Лепш за ўсё было б, калі б Вы дамагліся праз прэлата Шыманскага, каб апошні да таго часу не адставаў ад яго, пакуль не вырве гэтага дарагога рукапісу са сквапных рук гэтага халоднага літаратара»[1]. Прыведзены ўрывак з пісьма сведчыць пра імкненне Міхаіла Баброўскага вывучаць найбольш каштоўныя рукапісы, маючы іх у сябе. Аднак ні маёмаснае, ні сацыяльнае становішча яго аб'ектыўна не садзейнічалі захаванню ўзятых рукапісаў, а,наадварот, аблягчалі іх пераход у разнастайныя зборы і калекцыі. Гісторыю з «Летописцем» праясняе «Рапарт быценскаму архімандрыту, епіскапу Пінскаму Міхаілу Галубовічу протаіерэя Баброўскага» ад 10 снежня 1839 г: «Больш як дзесяць гадоў таму назад (1823), наведаўшы разам з прафесарам Даніловічам бібліятэку Супрасльскага манастыра, я знайшоў там рукапіс у кучы ўсялякіх друкаваных папер, дзе таксама я заўважыў некалькі друкаваных аркушаў пропаведзі св. Яфрэма, якую надрукавалі стараабраднікі ў Супрасльскай друкарні яшчэ пры прускім урадзе, урыўкі старажытнага славянскага рукапісу, які там жа знаходзіцца. Разгортваючы кучу папер, я заўважыў рускае пісьмо XV ст. і сам надпіс «Летописец Подоля». З некаторых месцаў я здагадаўся, што ён змяшчае ў сабе рускую хроніку, падобную да тых, з якіх Стрыйкоўскі чэрпаў матэрыялы для сваёй гісторыі. З прычыны гэтага, прафесар Даніловіч узяў «Летописца» сабе пад распіску, а я пад час вакацый дапамагаў чытаць яму, як нявопытнаму яшчэ ў разборы рускага пісьма, больш цяжкія фразы, асабліва царкоўныя, пра што, між іншым, прафесар згадаў у прадмове да свайго выдання «Летописца» ў Вільні ў 1827 г.

Неўзабаве пасля выдання протаіерэй Сасноўскі ўзяў гэты рукапіс з Супрасльскай бібліятэкі, куды ён быў вернуты, і адаслаў у Варшаву да Ліндэ, у адпаведнасці з пажаданнем гэтага даследчыка славянскіх помнікаў; праз некалькі гадоў, баючыся, каб як-небудзь не згубіўся гэты важны помнік літоўскай і рускай гісторыі, я прасіў аб высылцы рукапісу да мяне і ў прыняцці яго мною дадзена распіска п. Будзіловічу, якую ён падахвоціўся перадаць п. Ліндэ. Потым мною было сказана протаіерэю Сасноўскаму аб вяртанні названага супрасльскага рукапісу з Варшавы і аб паступленні яго да мяне, паколькі я хацеў пераканацца, ці правільна выдавец прачытаў яго; зрабіўшы гэтае параўнанне, я знайшоў крыху памылак; тады ж мне прыйшло ў галаву самому заняцца выкананнем пажадання нябожчыка графа Румянцава і выдаць гэтую хроніку рускім шрыфтам, для чаго нядаўна я выпісаў даволі дарагі «Софийский временник», надрукаваны коштам гэтага мецэната. Вось чаму я трымаў у сябе хроніку, а стары Сасноўскі, па няпамятлівасці, лічыў, што яна ўсё яшчэ знаходзіцца ў Ліндэ.

Трэба яшчэ зазначыць, што супрасльскаму архімандрыту Марцыноўскаму ў прысутнасці архіпастыра [архіепіскапа Іосіфа Сямашкі.— *М. Н.*] я сказаў аб захоўванні ў мяне некаторых рукапісаў Супрасльскага манастыра, узятых мною пад распіску, якія, пры патрабаванні, неадкладна вярну, і тады ж прасіў пакінуць іх у мяне на нейкі час,

[1] Бобровский П. О. Еще заметка о Супрасльской рукописи. С. 343.

*Святар і вучоны Міхаіл Баброўскі*

*Іван Грыгаровіч*





таму што яны мне яшчэ неабходныя. Шарашова, дня 10-га снежня 1839 года»[1].

За некалькі дзён да гэтага пісьма (5 снежня) М. Баброўскі адаслаў у Літоўскую кансісторыю рукапіс, дадаўшы да яго наступны рапарт: «З мэтай выканання ўказа Літоўскай духоўнай кансісторыі за № 11532, дадзенага мне ў палове мінулага лістапада месяца, пасылаю славянскі рукапіс, які належыць Супрасльскаму манастыру, пад загалоўкам Летапісец Падола, або Летапісец Літвы і Хроніка Руская... Да атрымання ўказа я жыў убаку і нічога не ведаў пра росшукі гэтага рукапісу... Я... з радасцю пасылаю гэты рэдкі гістарычны помнік праз урадавую ўстанову з той надзеяй, што ён дойдзе да археалагічнай камісіі і выканана будзе воля слаўнай памяці дзяржаўнага канцлера Румянцава, што і «Летописец» аддрукаваны будзе для публікі такім жа пісьмом, якім выдадзены Нестар...»[2]. Другі выдатны помнік кніжнасці, лёс якога цесна звязаны з лёсам Міхаіла Баброўскага,— пергамінны Кіеўскі псалтыр XIV ст. Кніга належала віленскай царкве св. Мікалая; канонікам гэтай царквы быў нейкі час М. Баброўскі. Ён перанёс рукапіс ва універсітэцкую бібліятэку, а з закрыццём у 1832 г. універсітэта пакінуў

[1] Бобровский П. К биографии М. К. Бобровского (славянского филолога-ориенталиста). СПб., 1890. С. 48—50.

[2] Тамсама. С. 46—47. Пажаданне М. Баброўскага збылося: у 1907 г. С. Л. Пташыцкі і А. А. Шахматаў перавыдалі «Летописец» у 17 т. Поў-
1907 г. С. Л. Пташыцкі і А. А. Шахматаў перавыдалі «Летописец» у 17 т. Поўнага збору рускіх летапісаў; арыгінал рукапісу захоўваецца цяпер у Ленінградскім аддзяленні Інстытута гісторыі АН СССР (архіў).

у сябе на руках. Трэба аддаць належнае прафесару Баброўскаму — ён не хаваў гэтую кнігу ад даследчыкаў, як праз паўстагоддзе хаваў у сваёй асабістай бібліятэцы «Дзесятаглаў» Мацвея Іванавіча акадэмік Ізмаіл Сразнеўскі. Наадварот, Кіеўскі псалтыр Іван Лабойка са згоды М. Баброўскага вазіў і ў Кіеў, да знаўцы славянскіх рукапісных старажытнасцяў мітрапаліта Яўгенія (Балхавіцінава), і ў Пецярбург, акадэміку Кеппену.

У 1839 г. Міхаіл Баброўскі перайшоў з уніяцтва ў праваслаўе, канонік Баброўскі стаў протаіерэем Баброўскім; яго высокі навуковы аўтарытэт служыў вялікай псіхалагічнай падтрымкай у справе скасавання уніі архіепіскапу Сямашку[1]. Памёр Міхаіл Баброўскі ад халеры ў 1847 г., у Шарашове, пакінуўшы мясцовай царкве напрастольны крыж, заказаны ім у Велеградзе Мараўскім у 1819 г. на памяць славянскіх першанастаўнікаў Кірыла і Мяфодзія. Бібліятэка яго за некалькі гадоў да смерці была куплена памешчыкам Трамбіцкім (з правам пажыццёвага карыстання М. Баброўскім), у 1847 г. яе перавезлі ў маёнтак Трамбіцкага Лінава (Слонімскага павета). Да бібліятэкі Трамбіцкага вялікую цікавасць праяўлялі стваральнікі Віленскай Публічнай бібліятэкі. Эмісар Івана Пятровіча Карнілава, калежскі асэсар Аляксандр Рачынскі, які падарожнічаў па заходніх раёнах Беларусі з мэтай збору рознай даўніны, тэлеграфам паведаміў папячыцелю Віленскай вучэбнай акругі інфармацыю пра бібліятэку Трамбіцкага і пералічыў найбольш цікавыя кнігі з яе[2]. Пасля смерці Трамбіцкага яго збор быў куплены для бібліятэкі Ардынацыі Замойскіх у Варшаву і амаль цалкам загінуў у часе пажараў 1939 і 1944 гг.

Сучаснікам Антонія Сасноўскага і Міхаіла Баброўскага быў выдатны славіст і глыбокі знаўца беларускіх рукапісных старажытнасцяў Іван Іванавіч Грыгаровіч (1792—1852). Нарадзіўся ён у Прапойску (цяпер Слаўгарад Магілёўскай вобласці), у сям'і прыходскага праваслаўнага святара. Паводле звычаю свайго часу, пайшоў дарогай бацькі — атрымаў духоўную адукацыю, закончыўшы Санкт-Пецярбургскую духоўную акадэмію. Ужо ў час вучобы выконваў прыватныя даручэнні дзяржаўнага канцлера графа Румянцава, з якім быў цесна звязаны ўсё сваё жыццё. Пасля сканчэння акадэміі Іван Грыгаровіч паехаў у Гомель і да 1829 г. служыў протаіерэем кафедральнага сабора, будучы адначасова рэктарам гарадскога і прыходскага вучылішчаў. Для правядзення архіўных, філалагічных і кнігазнаўчых даследаванняў ён выязджаў у архівы Мсціслаўля і Магілёва, дзе была велізарная колькасць аўтэнтычных гістарычных дакументаў, што адносяцца да беларускай гісторыі. Абапіраючыся на гэтыя зборы, Грыгаровіч сабраў і апублікаваў зборнік актавых матэрыялаў XV—XVII стст. «Белорусский архив древних грамот» (М., 1824), пачаў складаць адзін з першых у гісторыі беларускіх слоўнікаў («Словарь западно-русского наречия»). Даследаванні Грыгаровіча сустрэлі добразычлівы прыём Румянцава, перапіска паміж імі вялася пастаянна, і граф часта даручаў Івану Грыгаровічу апісаць нейкія старажытныя рукапісы. Вынікам такіх даручэнняў з'явіліся дакладныя філалагічныя апісанні-даследаванні пергамінный «Лествицы» (Рум. 106), «Кормчай», якая захавала тэкст «Русской правды» (Рум. 238), пергаміннага Псалтыра XIV ст. з тэраталагічнай аздобай (Рум. 327) і іншыя. 6 красавіка 1824 г. у віншаванні на Вялікдзень дзяржаўны канцлер пісаў Грыгаровічу: «Прыміце замест чырвонага яйка першы друкаваны ліст Архіва Беларускіх грамат...»[3]

[1] Характэрна, што свае пісьмы да сельскага «бацюшкі» Міхаіла Баброўскага з чыноўнага сталічнага Пецярбурга Сямашка пакорна падпісваў: «Ваш нижайший слуга Іосиф Семашко, епископ».

[2] ДПБ, Аддз. рукапісаў, ф. Корнилов И. П., № 1034, л. 23.

[3] Переписка протоиерея Иоанна Григоровича с графом Румянцевым // ЧОИДР, 1864. М., 1864. Кн. 2.

Пасля смерці свайго вяльможнага заступніка Іван Грыгаровіч кароткі час жыве ў Віцебску (1829—1831), а затым пераязджае ў Пецярбург, на пасаду протаіерэя лейб-гвардыі фінляндскага палка. Як член археаграфічнай камісіі з моманту яе заснавання, ён рэдагаваў I — IV тамы выдадзеных ёю «Актов исторических», падрыхтаваў і выдаў «Переписку пап с российскими государями в XVI в.», у 1837 г. даставіў у Свяшчэнны Сінод «Историю Белорусской епархии». Апошні рукапіс з Сінода не вярнуўся, і пра яго лёс доўгі час нічога не было вядома. Ужо ў наш час ён знайшоўся ў фондзе асобных паступленняў Аддзела рукапісаў Дзяржаўнай Публічнай бібліятэкі ў Ленінградзе. Апошняй шырока задуманай працай Івана Грыгаровіча была падрыхтоўка «Словаря западно-русского наречия». Захаваліся спіскі гімназій, семінарый, школ, настаўнікам якіх рассылаліся апытальныя лісты першага беларускага слоўніка,— І. Грыгаровіч ахопліваў тэрыторыю былога Вялікага княства Літоўскага да Люблінскай уніі, г. зн. уключаючы Валынскую зямлю. Смерць перашкодзіла закончыць гэтую працу: 1 лістапада 1852 г. Іван Грыгаровіч памёр.

З віленскім універсітэцкім гуртком гісторыкаў і славістаў Грыгаровіч быў звязаны праз Івана Лабойку. Выпускнік Харкаўскага універсітэта, Іван Мікалаевіч Лабойка выкладаў рускую славеснасць у віленскім універсітэце, з 1824 г.— прафесар. 28 красавіка 1824 г. ён паслаў Грыгаровічу «список факсимиле 14 записей на пергаменном Евангелии, которое принадлежит князю Адаму Чарторысскому. Они сняты с наибольшей точностию и размещены так, как в подлинном Евангелии»,— гэта першае ўпамінанне пра навуковае вывучэнне Лаўрышаўскага евангелля XIV ст.[1]. Паведамляў Лабойка Грыгаровічу і пра людзей, што цікавяцца славістыкай у Вільні, вось цытата з яго пісьма 1824 г.: «...сын одного униатского протопопа, ксёндз Сосновский, преподаёт в нашем Университете Богословие, очень любит, по примеру отца, заниматься поисками Славянских рукописей. Он думает, что архив митрополита Рагозы, который оставался в Новогрудке, перевезён частично в Брест Литовский, где теперь находится его отец, частично в Вильну...» У тым жа годзе ён пісаў у Гомель: «Если бы Ваше Высокопреподобие благоволили принять в покровительство своё Белорусскую словесность, и, исчерпав ея немногочисленные источники, показали бы учёному свету, какую она в Литературе и в Истории имеет важность, то сим разрешили труднейшую и любопытнейшую задачу»[2].

Вывучэннем рукапісных кніг, што паходзяць з беларускіх земляў, займаўся і Аляксандр Іванавіч Ермалаеў — супрацоўнік Аддзела рукапісаў Публічнай бібліятэкі ў Пецярбурзе; ён распрацаваў і ажыццявіў праграму дзяржаўнага збірання рукапіснай кнігі[3]. «В Вильне нашел я две харатейныя рукописи, из коих одна псалтирь, писанная 1397 в Киеве на пергаменте, весьма хорошо сохранена, большим уставом, заглавия киноварью, на полях многие изображения красками, имеющия какое либо отношение к тексту. Она хранится в университетской библиотеке, а принадлежит одной церкви [гутарка ідзе пра Кі-

[1] 31 мая 1824 г. Румянцаў пісаў Грыгаровічу: «Получив письмо, которое мне передали 19 мая, свидетельствую Вам, что Вы точно мне угодили, прислав научные Ваши замечания на харатейное Евангелие, которое сохраняется в Пулаве. Я такими замечаниями тут перед Гг. Востоковым и Ермолаевым хвалиться буду...» 5 чэрвеня 1824 г. у другім пісьме да І. Грыгаровіча, гаворачы пра Кеппена, Румянцаў адзначыў: «Я точно знаю и могу Вас уверить, что он поклонник Ваш. Днями я был свидетель, как он восхищался, читая у меня замечания Ваши на счет древнего харатейного Евангелия, которое сохраняется в Пулаве». Гл: Переписка протоиерея Иоанна Григоровича с графом Румянцевым. С. 5; 55—56.

[2] ЧОИДР. 1864. Кн. 2. С. 44.

[3] Мыльников А. С. А. И. Ермолаев — исследователь рукописной книги // Книга. Исследования и материалы. М., 1981. Сб. 42. С. 74—93.

еўскі псалтыр.— *М. Н.*]. Другая рукопись из библиотеки князя Чарторысского содержит воскресныя и празничные Евангелия, также на пергаменте, с коего несколько наскоро скопированных строк при сём присылаю...» — пісаў Іван Лабойка Аляксандру Іванавічу з Вільні ў 1820-я гг.[1]. Вядома, што Ермалаеў падрыхтаваў да выдання Радзівілаўскі летапіс у той час, калі рукапіс гэты знаходзіўся ў Публічнай бібліятэцы, аднак выданне не было ажыццёўлена[2].

Археаграфічная дзейнасць на беларускіх землях у 20—40-я гг. XIX ст. паклала пачатак вывучэнню мясцовых кніжных старажытнасцяў, у прыватнасці помнікаў найбольш значных: Лаўрышаўскага евангелля, Кіеўскага псалтыра, Радзівілаўскага летапісу і інш. У той час яна мела канфесійную афарбоўку, якая адпавядала думцы графа М. П. Румянцава: «Вядома, дух папізму трэба выкрываць, аднак без усялякай злосці і той нянавісці, якую часта паказвалі нашы духоўныя асобы да каталіцкай рэлігіі. ...Можна ў бесстаронні́м выкладзе падзей давесці, што многія Рымскія Папы былі вядомыя сваёй любоўю да ўлады і спакушаліся людской нікчэмнасцю, а не святым ціхім Евангельскім Вучэннем»[3].

Другая палова XIX ст. азнаменавалася з'яўленнем друкаваных апісанняў збораў, у якіх рукапісная кніга, што была створана і бытавала на беларускіх землях, або пераважала (Віленская Публічная бібліятэка), або была прадстаўлена значнай колькасцю асобнікаў (зборы Кіева). Асабліва значная ў гэтым плане праца Ф. М. Дабранскага. Флавіян Мікалаевіч Дабранскі (1850 — пасля 1914) паходзіў з сям'і святара з Валыні, у 1872 г. скончыў Маскоўскую духоўную семінарыю, пасля чаго стаў выкладчыкам грэчаскай мовы ў Літоўскай духоўнай семінарыі, якая спачатку размяшчалася ў Жыровіцкім манастыры, а потым была пераведзена ў Вільню. З 1883 г. выкладаў гісторыю і геаграфію ў Віленскім настаўніцкім інстытуце. У 1876 г., не пакідаючы выкладчыцкай працы, стаў членам Камісіі па арганізацыі Віленскай Публічнай бібліятэкі, а з 1902 г. старшынёй бібліятэчнай Камісіі. Ф. М. Дабранскі пакінуў шэраг літаратурных прац (у тым ліку некалькі даведнікаў па г. Вільні), напісаў прадмовы да пяці тамоў Актаў віленскай Археалагічнай камісіі[4]. Аднак імя яго вядомае перш за ўсё па працах, звязаных з апісаннямі кніг Публічнай бібліятэкі.

У 1889 г. было апублікавана «Описание рукописного отдела Виленской Публичной библиотеки»; перад апісаннямі пададзены кароткі гістарычны нарыс рукапіснага аддзялення Віленскай бібліятэкі і прадмова. Аўтар паведаміў гісторыю фарміравання калекцый славянскіх рукапісаў, адзначыў заслугі папячыцеляў Віленскай навучальнай акругі І. П. Карнілава і П. М. Бацюшкава, якія стымулявалі збіранне славянскіх рукапісаў, пісаў пра «вельмі дбайных» збіральнікаў А. В. Рачынскага і М. І. Сакалова, коратка згадваў пра спробу апісання рукапісаў П. А. Гільтэбрандтам. Растлумачыўшы прычыны, якія прымусілі яго скласці каталог паводле сістэматычнага прынцыпу, у «Общем обозрении рукописей» ён коратка характарызуе выдзеленыя раздзелы: 1. Рукапісы на пергаміне; 2. Тэксты св. Пісання; 3. Тварэнні св. айцоў; 4. Багаслужэнне; 5. Гісторыя; 6. Сумесь; 7. Рукапісы на рускай мове. Усяго атрымалі падрабязнае апісанне 329 рукапісных кніг XII—XIX стст., з іх 272 адносяцца да XIV — XVIII стст.[5]

[1] ДПБ, Аддз. рукапісаў, ф. 440. Лобойко № 1, л. 1 об.

[2] ЧОИДР. 1864. Кн. 2. С. 38. Пісьмо ад 4.III.1823 г.

[3] Тамсама.

[4] Улащик Н. Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. С. 113—114.

[5] Добрянский Ф. Н. Описание рукописей Виленской Публичной библиотеки, церковно-славянских и русских. Вильна, 1882. У далейшым: Добрянский Ф. Описание рукописей...

*Старонка Статута Младзенчанскага Дзісенскага брацтва*

У часе Першай сусветнай вайны калекцыя рукапісных кніг Віленскай Публічнай бібліятэкі была эвакуіравана ў Маскву, а пасля вяртання ўвайшла ў збор бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай рэспублікі, дзе і захоўваецца да гэтага часу. За час, што мінуў пасля выхаду «Апісання», некалькі рукапісаў аказаліся згубленымі, «Аристотелевы врата...» перайшлі ў збор Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна, астатнія захоўваюцца ў тым жа парадку, што быў прапанаваны Ф. М. Дабранскім. Варта адзначыць, што многія рукапісы, датаваныя ім па почырку, упрыгожаннях і пераплётах, па філігранях паперы можна датаваць інакш, іншы раз папраўка складае 50—80 гадоў. Апісваючы рукапісныя кнігі, Ф. Дабранскі зрабіў назіранні над іх рэпертуарам, афармленнем, складам заказчыкаў, кнігапісцаў і чытачоў, коратка ахарактарызаваў кнігавытворчасць Супрасльскага манастыра, згадаў як пра вялікія асяродкі кніжнасці Слуцк, Віцебск і Жыровіцы. Зробленыя ім вывады, аднак, няпоўна адлюстроўваюць беларускую кніжнасць, нават кірылічную, якая ёсць у Віленскай Публічнай бібліятэцы.

Стварэнне ў канцы XIX ст. царкоўна-археалагічных збораў у беларускіх гарадах — цэнтрах праваслаўных епархій — садзейнічала збіранню і вывучэнню рукапісных кніг. У 1899 г. з'явіўся першы выпуск «Описания предметов древности, поступивших в Витебское епархиальное церковно-археологическое древлехранилище по ноябрь 1897 г.», складзенага М. Я. Нікіфароўскім і Д. І. Даўгяла. У ім былі апісаны 13 рукапісных кніг XV—XIX стст.[1]. У лютым 1908 г. быў адкрыты Музей пры Мінскім царкоўна-археалагічным камітэце, які стаў асяродкам збірання старажытнасцяў, у тым ліку рукапісных кніг, у межах Мінскай епархіі (тэрыторыя сучасных Мінскай, часткі Брэсцкай, Гродзенскай і Гомельскай абласцей). Былі надрукаваны падрабязныя апісанні 28 рукапісаў музея, зробленыя А. К. Снітко, у якіх характарызуюцца папера і почыркі, адзначаны ўпрыгожанні, цытуюцца прыпіскі[2]. Што датычыць ацэнкі моўнага і зместавага складу апісаных рукапісных кніг, то захавальнік мінскага музея і рэдактар зборнікаў «Минская старина» Д. Скрыпчанка пры ўсякім зручным выпадку праводзіў думку аб тым, што «у белорусов нет своего особого языка, что в этом смысле они действительно «безъязыки»[3]. Някірылічныя рукапісныя кнігі свядома не вывучаліся. Такая пазіцыя царкоўнікаў у адносінах да мовы беларускага народа вымусіла Янку Купалу да закліку:

Эх, кінеце крыўдамі карміцца,
Кожны народ сабе сам пан;
І беларус можа змясціцца
Ў сям'і нялічанай славян!

Пазіцыя «Минской старины» не перакрэсліла цікавасць да культуры свайго народа, у тым ліку да старажытных рукапісных кніг, у

[1] Довгялло Д. И., Никифоровский Н. Я. Описание предметов древности, поступивших в Витебское епархиальное церковно-археологическое древлехранилище по ноябрь 1897 г. Витебск, 1899. Вып. 1. С. 47—56.

[2] Снитко А. К. Описание рукописей и старопечатных книг Минского Церк. Истор.-Археологич. Музея // Минская старина. Мн., 1911. Вып. 2. С. 175—213.

[3] Скрипченко Д. Белорусы, их разговорный и книжный язык // Минская старина. Мн., 1909. Вып. 1. С. 78.

С: Братства Младенческаго

[illegible]

Церкви Православной Братской Дисенской
Воскресения Христова:



Оче и хвалу престой и живо
творящой Тройцы.
Мы обыватели стану младе
нческаго, мѣста его Коро
левское мѣсти Десны, хотя
чи души спасителный союз
любве Братства младенческа
го при пределѣ Церкви Дисенское Братское
Воскресенией Хрста пречтой и преблгословен
ной Марии. За позволением и Благословением
Православнаго Пастыря нашего Епскпа Ви
тебскаго Мстиславскаго Оршанскаго и Мо
гилевскаго. Которому и Братству старое
ниже Правам и Привилео от Короля стое па
мяти ест врученно: Таковыя порядки на
Артыкулы раздѣлевши прикладом и ин
ших Братств сами насебе обвязуем и захо
вати обецуем абысмо тым снаднѣй ис
пожитком душ наших впреся взятию на
шом поступовати могли :~

## Артикул: А.

### О поступку вписания до Братства

ліберальнай інтэлігенцыі, але, наадварот, выклікала ў яе асяроддзі процідзеянне. Адно са сведчанняў гэтага — вершаваны трыпціх студэнта Дзямідаўскага юрыдычнага ліцэя ў Яраслаўлі Максіма Багдановіча «Старая Беларусь», куды ўвайшлі вершы «Летапісец», «Перапісчык» і «Кніга».

Як паказалі даследаванні этнакультурных працэсаў у Цэнтральнай і Паўднёва-Усходняй Еўропе, большасць славянскіх і іншых народаў, што жылі тут, адносіліся да катэгорыі народаў з «няпоўнымі» этнасацыяльнымі структурамі. Побач з адсутнасцю бесперапыннай дзяржаўнаправай традыцыі, а ў некаторых выпадках і палітычнага адзінства карэннай этнічнай тэрыторыі ў такіх народаў не было і «свайго» класа феадалаў. Ва ўмовах чужаземнага прыгнёту феадальныя класы прыгнечанага этнасу падпадалі асіміляцыі[1]. У 1874 г. Адам Кіркор пісаў у заключэнні да свайго нарыса беларускай літаратуры: «Можна было б цешыцца думкай, што народ хоць часта на сорам не ведае гісторыі — глыбока хавае яе ў сваім лоне. Але і гэтую думку немагчыма прымяніць да беларусаў, бо кітайская сцяна падзяляе цяпер масы люду ад краёвай інтэлігенцыі. Можна, аднак, цешыцца іншай цудоўнай думкай, выказанай адным з нашых дзеяпісцаў: «Не заклясці лёс пячаткай, не спавіць дух у пергамін»[2].

Акадэмічнае вывучэнне рукапіснай кніжнасці, мовы і палеаграфіі беларускіх рукапісаў пачалося з навуковай дзейнасці акадэміка Яўфімія Фёдаравіча Карскага. У 1893 г. савет Кіеўскага універсітэта прысудзіў Я. Карскаму за працы «К истории звуков и форм белорусской речи» і «Обзор звуков и форм белорусской речи» вучоную ступень магістра рускай мовы і славеснасці. Летам 1895 г., атрымаўшы камандзіроўку ад Варшаўскага універсітэта, Я. Ф. Карскі працаваў у самых вялікіх бібліятэках і кнігасховішчах Масквы з мэтай вывучэння палеаграфічных і моўных асаблівасцяў пісьмовых помнікаў, што дазволіла яму падрыхтаваць і апублікаваць даследаванне «Западнорусские переводы Псалтири в XV—XVII веках», за якое 14 снежня 1896 г. савет Маскоўскага універсітэта прысудзіў Карскаму вучоную ступень доктара філалогіі. Новая паездка па кнігасховішчах для вывучэння пісьмовых крыніц па гісторыі славянскіх моў і палеаграфіі была зроблена летам 1898 г. У час заняткаў у Маскоўскай Сінадальнай, Тыпаграфскай, Хлудаўскай бібліятэках, бібліятэцы Троіца-Сергіевай лаўры і сховішчах Слуцка Карскі пазнаёміўся з многімі арыгіналамі, якія да гэтага былі вядомы яму толькі з публікацый. Вынікам палеаграфічнага вывучэння рукапісаў сталі фундаментальныя працы Я. Ф. Карскага і публікацыі матэрыялаў: «Очерк славянской кирилловской палеографии», «Образцы славянского кирилловского письма с X по XVIII век» і «Славянская кирилловская палеография». Для гісторыі кірылічнай кнігі, што бытавала на беларускіх землях, апошняя праца мае асаблівае значэнне, паколькі ў ёй зафіксаваны назіранні над многімі і многімі арыгіналамі рукапісаў, адзначаюцца асаблівасці палеаграфіі беларускай у параўнанні з іншымі славянскімі землямі. Важнае значэнне для сучаснага кнігазнаўства маюць таксама яго фундаментальныя працы, прысвечаныя вывучэнню мовы і палеаграфіі асобных рукапісаў, і агульныя працы[3].

Вакол некаторых помнікаў рукапіснай кнігі, асабліва значных сваім зместам і афармленнем, яшчэ ў XIX ст. узніклі дыскусіі, некаторыя

[1] Мыльников А. С. Об этническом изучении процессов формирования наций // Сов. этнография. 1985. № 3. С. 36—42.

[2] Kirkor A. H. O literaturze pobratymczych narodów Słowiańskich. Kraków, 1874. S. 48.

[3] Навуковая біяграфія Я. Ф. Карскага і бібліяграфія яго прац гл. у кн.: Булахов М. Г. Евфимий Федорович Карский: Жизнь, научная и общественная деятельность. Мн., 1981.

з іх працягваюцца і па сённяшні дзень. Наколькі супярэчлівымі могуць быць думкі, паказала дыскусія вакол зборніка, вядомага як «Четья» паповіча Бярозкі, ураджэнца Наваградка. Упершыню пра гэтую кнігу паведаміў у «Русском филологическом вестнике» за 1881 г. М. І. Пятроў, які датаваў яе 1397 г.[1]. Кніга гэтая ў 1880 г. паступіла ў царкоўна-археалагічны музей пры Кіеўскай духоўнай акадэміі з Сядлецкай губерні. Праз восем гадоў паявіўся артыкул М. Карпінскага, дзе аўтар паказвае, што М. І. Пятроў памыляўся ў датаванні аж на 100 гадоў[2]. М. Карпінскі адзначыў, што рукапіс мае пераплёт з цісненымі Укрыжаваннем і Прадстаячымі, прыкладна канца XVII ст. паводле прыпіскі на апошнім аркушы кнігі: «Року 1682 оправлена бысть книга сия отцем Иоанном Саковичем». Карпінскі перадрукаваў з «Четьи» тэкст Жыція Барыса і Глеба, дадаўшы беларуска-рускі слоўнік, і надрукаваў укладны запіс на адвароце 286 арк.: «Списана быс книга сия, нарицаемая Четья в граде у Камянци при великом короли Андреи. В лето 1497 индикта в 7. А тогды держал от короля Камянец пан Третина кухмистр а писал Сию книгу нехто ес Березка с Новогородка с Литовского попович попа литовоцкого сын Семионов Долбнича иж в митрополии. А писал есми от початка книги сам от дощки до половины от святого Семиона до Сорок святых». Як і М. Пятроў, М. Карпінскі меркаваў, што перапісана кніга была ў Камянцы падольскім, але А. Лебедзеў, які апісаў рукапісы Кіеўскай духоўнай акадэміі, вызначыў месцам яе стварэння Камянец гродзенскі (цяпер Камянец Брэсцкай вобласці)[3]. Савецкі мастацтвазнаўца і гісторык кнігі Герольд Вздорнаў прапанаваў вярнуцца да даціроўкі М. Пятрова, гэта значыць лічыць годам складання прыпіскі 1397-мы[4]. Аднак Г. І. Вздорнаў не аргументуе дату 1397 г., а толькі адзначае, што 1497 г.— дата няправільная. Намі было праведзена вывучэнне вадзяных знакаў «Четьи». Выявілася, што папера, на якой напісаны рукапіс, адносіцца да апошняй чвэрці XV ст.; яе філіграні: «Бычыная галава з каронай», «Бычыная галава з кветкай і са стралою» (у Ліхачова № 1215—1488 гг., № 2705—1480-я гг.)[5]. Правільнай датай перапіскі гэтай кнігі і складання прыпіскі варта прызнаць даціроўку М. Карпінскага і А. Лебедзева, менавіта 1497 г. Што ж датычыць удакладнення месца перапіскі — пытанне да гэтага часу застаецца адкрытым.

У працах філолагаў-славістаў канца XIX — пачатку XX стст. А. І. Сабалеўскага, Я. Ф. Карскага, У. М.Ператца і інш. часта фігуравалі ў якасці крыніц бытаваўшыя на беларускіх землях рукапісныя кнігі як створаныя ў гэтым рэгіёне, так і прывезеныя. Кожны з даследчыкаў меў свой погляд на асобныя помнікі, агульнай жа канцэпцыяй было вывучэнне кніжнасці ў рэгіёне, які заключаў сучасныя Беларусь, частку Украіны, Падляшша, Холмскую Русь. Пасля стварэння беларускай, літоўскай і ўкраінскай, а таксама польскай дзяржаўнасці многія даследчыкі пайшлі па шляху механічнага падзелу кірылічных помнікаў на беларускія, украінскія і рускія, у адпаведнасці з адміністрацыйнымі межамі найноўшага часу, сімпатыямі аўтараў і іх нацыянальнай прыналежнасцю, без уліку гістарычных умоў бытавання гэтых рукапісаў. Такія тэндэнцыі, хоць і ў змякчаным выглядзе, працягваюць існаваць і цяпер, праявіўшыся, напрыклад, у супярэчлівай прадмове да «Гіста-

[1] Петров Н. И. Рукописная «Четья» 1397 года западно-русского происхождения // Русский филологический вестник. 1881. № 3. С. 54—57.

[2] Карпинский М. Западно-русская четья 1489 г. // Русский филологический вестник, 1889. № 1. С. 59—86.

[3] Лебедев А. Рукописи Церковно-археологического музея императорской Киевской духовной академии. Саратов, 1916. Т. 1. С. 161—167, № 415.

[4] Вздорнов Г. И. Исследование о Киевской псалтыри. М., 1978. С. 30.

[5] Лихачев Н. П. Палеографическое значение бумажных водяных знаков. СПб., 1899.

рычнага слоўніка беларускай мовы»[1]. Больш слушным нам уяўляецца падыход, сфармуляваны А. А. Аляксеевым у прадмове да кнігі А. І. Сабалеўскага: «Літаратурна-пісьменныя мовы зусім заканамерна не з'яўляліся мовамі нацыянальнымі; у тую эпоху мова звычайна не абапіралася на дыялект, не вырастала з яго. Падобна да таго, як адзінства царкоўна-славянскай мовы рускай рэдакцыі не парушалася ад унясення ў яе мясцовых рысаў (маскоўскага акання ці наўгародскага цокання), наяўнасць украінскіх ці беларускіх рыс у арфаграфіі не выводзіць помнік за межы той літаратурнай мовы, якая абслугоўвала з канца XVI да сярэдзіны XVII стст. Патрэбы ўкраінцаў і беларусаў і з'яўляліся вынікам супольнай дзейнасці прадстаўнікоў той і другой галіны ўсходняга славянства»[2].

Абагульненне матэрыялу, які адносіцца да гісторыі беларускай кнігі, было зроблена ў 1926 г. Вацлавам Ластоўскім у працы «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі[3]. Аўтар выкарыстоўвае больш за 900 помнікаў X—XIX стст., сярод якіх рукапісныя і друкаваныя кнігі, актавы матэрыял. Кніга выйшла дрэнна адрэдагаванай, адны і тыя ж помнікі часта фігуруюць як розныя, замест распрацоўкі метадалагічных пытанняў гісторыі беларускай кнігі аўтар ва ўступе дае сваю трактоўку гісторыі Беларусі, часам вельмі спрэчную. Недахопы працы В. Ластоўскага відавочныя, аднак фактам з'яўляецца тое, што пры стварэнні падмуркаў беларускага кнігазнаўства ніводная памылка не зроблена з мэтай «прыхарашыць» наша мінулае, выглядаць больш багатымі, чым у сапраўднасці, ці, наадварот,— прыбядняцца. Манаграфія В. Ластоўскага стала настольнай кнігай беларускай інтэлігенцыі, дапамагала будаваць нацыянальную культуру. «...пакапаўся крыху ў Ластоўскага «Бібліі» (кнігі кніг беларускіх). Пекная кніга» — запісаў у дзённіку 7 студзеня 1933 г. заходнебеларускі мастак Язэп Драздовіч[4].

У 1930 г. вучоны сакратар Беларускай Акадэміі навук Вацлаў Ластаўскі быў рэпрэсіраваны, «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі» забаронена і закрыта ў фондах спецзахоўвання. Стварэнне беларускай нацыянальнай культуры змянілася на знішчэнне. У навуку прыносіліся іншыя аргументы, сутнасць якіх дакладна характарызаваў Ё.-В. Гётэ: «Пад час нішчэння ўзмацняюцца ўсялякія фальшывыя аргументы, пад час стварэння — ніколі. Тое, што непраўдзівае, не стварае».

На кнігу В. Ластоўскага адгукнуўся рэцэнзіяй у пражскай «Славіі» Г. Амельчанка, які адзначыў: «При всіх помилках, які припустив п. Ластовський, великого обсягу праця його заслуговуэ пошани. Навіть його помилки, на мою думку, принесуть свою користь: вони будуть стимулювати поодинокі особи попрацювати над тим обо иншим зі спірних памятників і таким чином будуть спричинятись до поглиблення науки про старі памятники східного славянства»[5].

У 20—30-я гг. XX ст. працягваліся манаграфічныя даследаванні паасобных помнікаў рукапіснай кнігі. С. М. Некрашэвіч вывучаў зборнік XVII ст. з Куцеінскага манастыра, у якім змешчана «Кніга Касіяна Рымляніна», І. В. Воўк-Левановіч — «Дзесятаглаў» Мацвея Іванавіча[6]. Працягвалі выдавацца працы з апісаннямі помнікаў рукапіснай

[1] Жураўскі А. І. Прынцыпы падрыхтоўкі гістарычнага слоўніка беларускай мовы // Гістарычны слоўнік беларускай мовы. Мн., 1982. Вып. 1. С. 3—45.

[2] Алексеев А. А. Предисловие // Соболевский А. И. История русского литературного языка. Л., 1980. С. 10.

[3] Ластоўкі В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі: Спроба паясьніцельнай кнігопісі ад канца X да пачатку XIX стагоддзя. Коўна, 1926.

[4] Драздовіч Я. Старонкі дзённіка, 1933 г. // Мастацтва Беларусі. 1988, № 12. С. 27.

[5] Омельченко Г. В. «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі». Обробив проф. В. Ластовський // Slavia, 1926. С. 550—554.

[6] Запіскі Аддзелу гуманітарных навук Беларускае Акадэміі навук. Менск, 1927. Кн. 2.

кнігі. Найбольшай па колькасці матэрыялаў з іх была праца У. М. Пе-ратца «Рукописи библиотеки Московского университета, самарских библиотеки и музея и минских собраний»[1]. Вясной 1929 г. У. М. Перату некалькі дзён працаваў у Дзяржаўнай бібліятэцы Беларусі ў Мінску (у той час яна ж — універсітэцкая), а таксама ў Дзяржаўным музеі і бібліятэцы Акадэміі навук рэспублікі. Задачай аўтара было апісаць рукапісы ў сховішчах толькі што створаных і старых, якія змянілі свой склад. Былі апісаны: 1 рукапісная кніга XV ст., 35 — XVI, 35 — XVII, 50 — XVIII стст. Уступны артыкул аўтар назваў «Да пытання аб сучасным стане рукапісных фондаў для гісторыі старажытнай рускай і ўкраінскай літаратуры». Так сфармуляваная задача, верагодна, тлумачыць той факт, што пры самым беглым знаёмстве многія беларускія рукапісныя кнігі ён вызначаў як украінскія (або «пісаныя ўкраінскім паўуставам»), напрыклад, Трыёдзь цвятную, пісаную ў Рубяжэвічах іерэем Іванам Клінковічам. Значна меншая колькасць рукапісных кніг апісана ў каталозе Менскай краёвай выстаўкі старажытнасцяў, выпушчаным у 1918 г. у час нямецкай акупацыі доктарам Іппэлем, і апісанні прыватнага беларускага музея імя Івана Луцкевіча ў Вільні[2]. Аднак яны важныя тым, што сляды шмат якіх апісаных там рукапісаў у цяперашні час згублены, і гэтыя апісанні — адзіная крыніца звестак пра іх. Працу па адшуканні страчаных кніг распачаў Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны.

У пасляваенны час у БССР вывучаліся толькі некаторыя, раней ужо вядомыя помнікі, такія, як «Александрыя», «Дзённік» Фёдара Еўлашоўскага, спісы Статутаў Вялікага княства Літоўскага, летапісы і хронікі. У 1968 г. выйшла ў свет манаграфія выкладчыка Вільнюскага універсітэта А. К. Антановіча, у якой аўтар знаёміць з характэрнай асаблівасцю развіцця беларускай кніжнай культуры — значнай колькасцю беларускіх рукапісаў, пісаных арабскім алфавітам[3]. Такую самую з'яву кнігазнаўцы адзначаюць на другім канцы славянскага свету — у Босніі і Герцагавіне. Акрамя беларускіх тэкстаў, у апісаных ім 12-ці рукапісных кнігах сустракаюцца арабскія, цюркскія і такія, якія можна назваць польска-беларускімі. Вывучаючы палеаграфічныя асаблівасці рукапісаў, А. К. Антановіч адзначае, што з 32-х выяўленых літарна-гукавых знакаў тры не маюць самастойнага гучання, шэсць з'яўляюцца лішнімі, а два былі створаны для перадачы асаблівасцяў мовы. «У вельмі многіх выпадках у беларускіх тэкстах, пісаных арабскім пісьмом, гукавыя асаблівасці жывой беларускай мовы перадаюцца больш дакладна, чым у старой беларускай кірылічнай пісьменнасці таго ж XVII стагоддзя,— піша А. К. Антановіч.— Нам здаецца, што мы не будзем далёкія ад ісціны, калі скажам, што ў беларускіх тэкстах, якія мы вывучаем, у значна большай ступені відаць імкненне да прыстасавання арабскай азбукі да перадачы асаблівасцяў беларускай мовы, чым у сербскіх тэкстах да перадачы асаблівасцяў сербскай мовы»[4].

Дваццаць два спісы беларуска-літоўскіх летапісаў падрабязна вывучаны і апісаны беларускім даследчыкам-крыніцазнаўцам М. М. Улашчыкам спачатку ў прадмове да публікацый гэтых дакументаў, а потым у манаграфіі «Уводзіны ў вывучэнне беларуска-літоўскага ле-

[1] Перетц В. Н. Рукописи библиотеки Московского университета, самарских библиотеки и музея и минских собраний. Л., 1934.

[2] Іппэль А. Правадыр па Менскай краёвай выстаўцы: Старасьвеччына, мастацтва. Менск, [б.г.]; Луцкевіч А. Беларускі музей імені Івана Луцкевіча. Вільня, 1933.

[3] Антонович А. К. Белорусские тексты, писанные арабским письмом, и их графико-орфографическая система. Вильнюс, 1968.

[4] Антонович А. К. Белорусские тексты, писанные арабским письмом, и их графико-орфографическая система. С. 350—363.

тапісання», апублікаванай у 1985 г.[1]. У яго даследаваннях рэканструяваны лёс асобных кніг і зборнікаў, у якіх змешчаны тэксты летапісаў, характарыстыкі іх былых уладальнікаў, стан і месца захоўвання ў цяперашні час. Акрамя таго, паведамляецца гістарычная інфармацыя пра некаторыя асяродкі перапіскі кніг і пра кніжныя зборы, што ствaрыліся ў іх, гэта перш за ўсё Супрасльскі і Жыровіцкі манастыры.

Гэтак жа ўважліва, як апісаны літапісы і хронікі ў выданнях М. М. Улашчыка, апісаны і выдадзены ўсе, што захаваліся, спісы першага Статута Вялікага княства Літоўскага ў публікацыі Інстытута гісторыі Літвы[2]. З 9 ацалелых спісаў 4 на старабеларускай мове; месцам іх стварэння і бытавання былі тэрыторыя Валынскай зямлі, Наваградскага і Віленскага ваяводстваў. Варта адзначыць уважлівыя палеаграфічныя назіранні і падрабязныя табліцы почыркаў перапісчыкаў Першага Статута, што зрабілі літоўскія даследчыкі — матэрыял вельмі патрэбны для вывучэння тэхналогіі кнігапісання; праз даследаванне почыркаў можна характарызаваць і асобы перапісчыкаў, іх індывідуальныя характары. Шмат увагі апісанням спісаў Другога і Трэцяга Статутаў аддалі Г. Галенчанка і А. Васіляўскене[3].

У агульных працах, прысвечаных старажытнарускай рукапіснай кніжнасці, часта разглядаюцца таксама кнігі, якія былі створаны і бытавалі на беларускіх землях. Зборнікі энцыклапедычнага зместу разглядала Р. П. Дзмітрыева, гістарычныя рукапісы — А. В. Тварагоў, «Аповесць пра Варлаама і Іаасафа» — І. М. Лебедзева, рукапісы скарынаўскіх часоў — Я. Л. Неміроўскі[4]. Вызначыць месца беларускіх рукапісных кніг у агульнай кніжнасці XV ст. не было спецыяльнай задачай манаграфіі М. М. Розава «Кніга ў Расіі ў XV ст.»[5]. Аднак зробленыя ім бібліяграфічныя назіранні, карты-схемы міграцый рукапісных кніг адлюстравалі агульныя тэндэнцыі вытворчасці рукапісных кніг і кнігаабмену на ўсходнеславянскай тэрыторыі і служаць для нас асноватворнымі пры вывучэнні больш прыватнага пытання — беларускай рукапіснай кніжнасці.

Адзінай публікацыяй, у якой азначаны тэндэнцыі развіцця беларускай музыкі на аснове вывучэння рукапіснай кнігі, з'яўляецца артыкул Ю. Ясіноўскага «Беларускія Ірмалоі — помнікі музычнага мастацтва XVI — XVIII стст.»[6]. Пятнаццаць рукапісных спеўных кніг, якія выявіў аўтар, дазволілі зрабіць важныя назіранні над музычнымі асаблівасцямі, афармленнем, перапісчыкамі натаваных рукапісаў XVI — XVIII стст. Каб мець права на больш грунтоўныя гістарычныя высновы і надзею знайсці музычныя помнікі, цікавыя для сённяшніх слухачоў і выканаўцаў, трэба перш за ўсё павялічваць колькасць крыніц, адшукаць новыя рукапісы. Задача актуальная і перспектыўная. Толькі ў невялікім зборы Прыдворнай капэлы, які захоўваецца ў Аддзеле рукапісаў Дзяржаўнай Публічнай бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына, ёсць чатыры музычныя рукапісы XVII — XVIII стст.,

[1] Полное собрание русских летописей. М., 1975. Т. 32. С. 3—11; М., 1980. Т. 35. С. 3—18; Улащик Н. Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985.

[2] Лазутка С., Гудавичус Э. Первый Литовский Статут: Палеографический и текстологический анализ списков. Вильнюс, 1983. Ч. 1—2.

[3] Галенчанка Г. Спісы Статутаў Вялікага княства Літоўскага 1529, 1566 і 1588 //Статут Вялікага княства Літоўскага 1588. Мн., 1989. С. 527—528; Василяускене А.-В. Ф. Списки Второго Литовского статута на старобелорусском языке (палеография, хронология, дипломатика). АКД. Вильнюс, 1990.

[4] Дмитриева Р. Четьи сборники XV в. как жанр // ТОДРЛ. Л., 1972. № 27; Творогов О. Древнерусские хронографы. Л., 1975; Немировский Е. Франциск Скорина. Мн., 1990; Лебедева И. Повесть о Варлааме и Иоасафе. Л., 1985.

[5] Розов Н. Н. Книга в России в XV веке. Л., 1981.

[6] Ясіноўскі Ю. П. Беларускія Ірмалоі — помнікі музычнага мастацтва XVI — XVIII стст. // Мастацтва Беларусі. 1984. № 11. С. 50—55.

якія паходзяць з беларускіх зямель (на іх нам указалі І. Ф. Бязуглава і Н. У. Рамазанава). Для параўнання заўважым, што Ю. Ясіноўскаму вядомы толькі адзін беларускі рукапіс з гэтага збору.

Лёс рукапісных кніг, вывезеных за межы нашай краіны, працягвае цікавіць даследчыкаў. Пра даваенны стан сховішчаў рукапісаў Дзяржаўнага музея БССР, Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна, БАН БССР і зборы Віцебскага краязнаўчага музея паведамляе А. Рогаў[1]. Сярод славянскіх рукапісаў, апісаных Я. Шчапавым, некалькі беларускага паходжання, у тым ліку славутае Лаўрышаўскае евангелле XIV ст.[2]. Створаныя на тэрыторыі Беларусі польска- і лацінскамоўныя рукапісы, што захоўваюцца ў БАН СССР, апісаны ў працы І. М. Лебедзевай[3].

Гісторык беларускай літаратуры А. Мальдзіс, які вывучае літаратуру пераходнага перыяду (другая палова XVII — XVIII стст.), адзначае, што, як і зямныя кантыненты, кантыненты літаратурныя адкрываюцца паступова, не ў адзін міг. Адносна беларускай літаратуры другой паловы XVII — XVIII стст. стала амаль што аксіёмай думка, што кантынент яе бедны і непладародны: прымусовая паланізацыя і каталіцызацыя давялі Беларусь да таго, што янаператварылася ў інтэлектуальную пустыню. Па старой звычцы лічыцца, што вывучаць такія кантыненты няма сэнсу, бо пошукі не могуць даць нічога істотнага. Аднак А. Мальдзіс становіцца на шлях пошуку новых і вывучэння вядомых ужо кніжных помнікаў гэтага перыяду[4]. Праца ў самых вялікіх архівах і рукапісных аддзелах Польшчы, СССР і Вялікабрытаніі дапамагла яму знайсці не ўведзеныя ў навуковы ўжытак рукапісы беларускага паходжання, большасць з іх перапісаны лацінкай і змяшчаюць як беларускія, так і польскія тэксты. Гэта зборнік бібліятэкі Чартарыйскіх у Кракаве (№ 2337) — месцам перапіскі кнігі была Орша, і яшчэ адзін Аршанскі кодэкс з бібліятэкі Асалінських у Вроцлаве (№ 12778), у якім ёсць тэксты сямі інтэрмедый XVIII ст., рукапіс «Казане руске» з Радзівілаўскага архіва ў Варшаве і іншыя. А. Мальдзіс адзначае, што, акрамя рускай, беларускай і польскай моў, на тэрыторыі Беларусі паяўляліся творы на нямецкай, французскай, украінскай, яўрэйскай, латышскай і літоўскай мовах. Калі ў 1780 г. Кацярына II праязджала праз Беларусь, полацкія дамінікане і вучні Талачынскай базыльянскай калегіі дэкламавалі ў яе гонар оды на французскай, нямецкай, італьянскай і грэчаскай мовах[5].

Да гісторыі культуры Беларусі, у прыватнасці яе кніжнай культуры, звяртаюцца і замежныя даследчыкі. Беларусы-уніяты падрыхтавалі факсімільнае выданне «Службы св. Іаана Златавуснага» паводле рукапісу XVII ст., перапісанага паралельна славянскай і лацінскай мовамі (захоўваецца ў бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лондане)[6]. У Вроцлаўскім выдавецтве «Ossolineum» у 1984 г. выйшла манаграфія Марыі Барбары Тапольскай «Чытач і кніга ў Вялікім княстве Літоўскім у эпоху Рэнесанса і Барока»[7]. Аўтар паставіла мэтай стварыць мана-

[1] Рогов А. И. Сведения о небольших собраниях славяно-русских рукописей в СССР. М., 1962.

[2] Щапов Я. Н. Восточнославянские и южнославянские рукописные книги в собраниях Польской Народной Республики. М., 1976. Ч. 1—2.

[3] Лебедева И. Н. Рукописи латинского алфавита XVI — XVII вв. // Описание рукописного отдела библиотеки Академии наук СССР. Л., 1979. Т. 6. С. 24—25, 86—87, 189—192, 229—230.

[4] Мальдзіс А. І. На скрыжаванні славянскіх традыцый: Літаратура Беларусі пераходнага перыяду (другая палова XVII—XVIII стст.). Мн., 1980.

[5] Мальдзіс А. І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. С. 127.

[6] The pontifical liturgu of saint Yohn Chrysostom: A ms. of the 17-th cent. in the Slawonic text and Latin translation. London, 1984.

[7] Topolska M.-B. Czytelnik i książka w Welkim Księstwie Litewskim w dobie Renesansu i Baroku. Wrocław, 1984.

графію, прысвечаную гісторыі кніжнай культуры ў XVI — XVII стст. на тэрыторыі Беларусі і Літвы, якія складалі ў названы перыяд адну феадальную дзяржаву — Вялікае княства Літоўскае. Ва ўводзінах яна падкрэслівае, што праца з'яўляецца спробай міждысцыплінарнага (гісторыя, гісторыя культуры, гісторыя літаратуры, сацыялогія, псіхалогія і г. д.) погляду на гісторыю кнігі і чытача ў Вялікім княстве. «Прапанаваная кніга — гэта таксама спроба паказаць спецыфіку грамадскага развіцця народаў Літвы і Беларусі, якія з канца XIV стагоддзя ў ў выніку сувязяў з Польшчай прайшлі доўгую дарогу культурнай асіміляцыі» — гэтая спасылка М.-Б. Тапольскай не можа не выклікаць здзіўлення ў кожнага, хто знаёмы з гісторыяй Літвы і Беларусі. Паланізацыя вярхушкі кіруючага класа Вялікага княства, дый то толькі частковая, яшчэ не дае права гаварыць пра культурную асіміляцыю двух народаў,— існаванне і жыватворчае развіццё беларускай і літоўскай культур сёння — самае нагляднае пацверджанне гэтага. Мяркуючы па вялікім спісе «асноўных крыніц і літаратуры», які прыведзены ў канцы кнігі, аўтар знаёмая з многімі (на жаль, далёка не ўсімі) працамі кнігазнаўцаў і гісторыкаў культуры па прадмеце даследавання. Гэта вымусіла М.-Б. Тапольску зусім правільна і адназначна паведаміць чытачу: «Паланізацыя была ацэнена ў літоўскай, беларускай, рускай і савецкай гістарыяграфіі як з'ява негатыўная». Усё сваё далейшае даследаванне аўтар робіць, каб даказаць адваротнае. Якія ж крыніцы выкарыстала для гэтага М.-Б. Тапольска? Са здзіўленнем адзначым, што для вывадаў пра кніжную культуру двух народаў за перыяд XVI—XVII стст. (г. зн. поўных двух стагоддзяў) быў прыцягнуты статыстычны матэрыял толькі аб друкаваных кнігах, выпушчаных у 1553—1660 гг., г. зн. за 107 гадоў. Вывады грунтуюцца на гэтай статыстыцы. Нічым не апраўдана ігнараванне дзейнасці Францыска Скарыны, рукапісная кніга згадваецца толькі мімаходзь, хоць аўтар і гаворыць, што руска- і беларускамоўная свецкая кніга бытавала толькі ў рукапісах. М.-Б. Тапольска двойчы спасылаецца на тое, што «праца была нялёгкая з прычыны недахопу адпаведных матэрыялаў-крыніц». Сапраўды, рукапісная кніга, што бытавала на тэрыторыі Беларусі і Літвы, яшчэ не стала прадметам асобнай манаграфіі, аднак інфармацыя пра яе ёсць у многіх публікацыях: П. Уладзімірава, Я. Карскага, В. Ластоўскага, М. Розава, В. Пятрова, А. Мальдзіса і многіх іншых даследчыкаў. Працы гэтых аўтараў, на жаль, выкарыстаны не былі.

Пачаткам кнігадрукавання ў Вялікім княстве Літоўскім М.-Б. Тапольска лічыць адкрыццё польскамоўнай друкарні ў Брэсце. У раздзеле, прысвечаным культурным пераменам, сцвярджаецца, што ў вывучаны перыяд саперніцтва з польскай мовай не выйгралі ні латынь, ні стараславянская мова. Для параўнальна невялікай колькасці шляхты гэта сапраўды было так. Лацінскамоўныя аўтары хоць і карысталіся шырокай вядомасцю, а іншы раз і еўрапейскім прызнаннем (М. Літвін, М. Гусоўскі, М. Сарбеўскі), але друкаваліся часцей за ўсё за мяжой, а вось польская мова стала мовай не толькі католікаў, але і пратэстантаў — многіх выгнаных з Польшчы кальвіністаў прымаў і падтрымліваў Мікалай Радзівіл Чорны, заснавальнік брэсцкай друкарні. М.-Б. Тапольска справядліва заўважае, што «ў гэтай сітуацыі найбольшыя праціўнікі уніі з Польшчай пратэставалі супраць яе на польскай мове і на той самай мове слухалі казані ў саборах і чыталі кальвінісцкія кнігі». Што ж датычыцца мовы большасці насельніцтва, то такой

заставалася беларуская: «...беларуская мова, паколькі была звязана з праваслаўем, выкарыстоўвалася як мова народная». Але калі ўлічыць, што ўсё ўнутрыдзяржаўнае справаводства вялося на старабеларускай мове, а «суды правіла» шляхта, то гаварыць аб перамозе польскай мовы нават унутры кіруючага класа нельга катэгарычна, пытанне гэтае патрабуе яшчэ падрабязнага вывучэння. Для прыкладу можна сказаць, што нават усярэдзіне XVIII ст. жонка магната Паўла Сапегі, якая паходзіла з другога вельмі багатага роду, Кацярына Радзівіл перапісвала ў свой альбом песні на беларускай мове[1].

Для даследчыка кніжнай культуры Беларусі бясспрэчную цікавасць маюць працы польскіх гісторыкаў, якія ў апошняе дзесяцігоддзе ўсё часцей звяртаюцца да праблем рукапіснай кнігі. Праграму ўсебаковага вывучэння рукапіснай кнігі як феномена культуры (у адносінах да Каралеўства Польскага) распрацаваў Эдвард Паткоўскі. Яго падыход характарызуецца шырынёй, выкарыстаннем вялікай колькасці крыніц і можа знайсці прымяненне пры распрацоўцы гісторыі рукапіснай кніжнасці Вялікага княства Літоўскага. Пастаўленыя праблемы размяшчаюцца пры гэтым у чатырох плоскасцях:

1. Пачатак эвалюцыі пісьма, першыя кнігі і кніжныя зборы.
2. Роля і функцыі пісьма ў познім сярэднявеччы: праблемы пісьменнасці грамадства, пісьмо ў дзяржаўнай практыцы, у жыцці гарадоў як сродак ажыццяўлення знешняй палітыкі; праблемы тэксту як формы палемікі і палітычнай прапаганды.
3. Вытворчасць кнігі ў познім сярэднявеччы: горад як галоўны асяродак вытворчасці кніг, капіраванне кніг студэнтамі і прафесарамі, капіраванне на заказ, капіраванне ў правінцыі. Натарыусы і гарадскія пісары як капіісты, каралеўская канцылярыя як асяродак вытворчасці рукапісаў, спецыялісты-каліграфы, духоўныя каліграфы. Удзел рамеснікаў розных спецыяльнасцяў у вытворчасці рукапіснай кнігі. Манастырскія скрыпторыі. Цэны рукапісаў.
4. Кнігі, бібліятэкі і іх спажыўцы. Геаграфія асяродкаў культуры кнігі. Віленскі асяродак: універсітэцкая бібліятэка, бібліятэка студэнтаў. Кнігі ў Гародні, Полацку, Нясвіжы, Навагрудку, Слуцку, Пінску, Магілёве. Росквіт прыватных бібліятэк. Кніжныя зборы епіскапаў, бібліятэкі гараджан, кнігі ў магнатаў і шляхты, кнігі каралеўскай сям'і, кнігі ў групе сярэдніх гарадоў і мястэчак, у вёсках. Кнігі ў рэзідэнцыях магнатаў, бібліятэкі манастыроў.

Не ўсе пункты гэтай вялікай праграмы распрацаваны аднолькава. Прычына тут перш за ўсё ў слабой распрацоўцы крыніцавай базы. Аднак шырыня падыходу да тэмы дазваляе дастаткова поўна і рознабакова паказаць рукапісную кнігу ў сістэме сярэднявечнай культуры.

Важнае значэнне рукапіснай кнігі, перш за ўсё кірылічнай, у школах і бібліятэках базыльянскага ордэна падкрэслівае Марыя Підлыпчак-Маяровіч[2]. Але асноўная крыніца для яе даследавання — кніга друкаваная, перш за ўсё з прычыны недаступнасці для аўтара рукапісных кніг (раскіданасць па розных сховішчах, адсутнасць абагульняючых прац па гісторыі бытавання рукапіснай кнігі), а таксама невыкарыстання самых важных базыльянскіх архіваў Літоўскай правінцыі.

Найбольшае значэнне з прац польскіх даследчыкаў для гісторыка беларускай кніжнай культуры мае манаграфія прафесара Торуньскага універсітэта Тэрэзы Фрыдэлюўны, прысвечаная выдатнаму помніку

[1] БАН, Аддз. рукапісаў. Збор О. N. 0.221.

[2] Pidłypchak-Majerowicz M. Bazyliane w Koronie i na Litwie. Szkoły i książki w działalności zakonu. Warszawa — Wrocław, 1986.

XIV ст. Лаўрышаўскаму евангеллю[1]. У кнізе даецца палеаграфічная характарыстыка рукапісу, на аснове вывучэння зместу зроблены тыпалагічны аналіз помніка. Аўтар асобна спыняецца на царкоўнаславянскіх і ўсходнеславянскіх асаблівасцях фанетыкі Лаўрышаўскага евангелля і характарызуе флексійныя формы мовы. Працу Тэрэзы Фрыдэлюўны нельга назваць вычарпальнай: у ёй няма аналізу афармлення (ілюмінацыі), толькі пазначаны гістарычныя ўмовы, у якіх узнік і бытаваў гэты рукапіс. Але дзякуючы манаграфіі Лаўрышаўскае евангелле ў цяперашні час з'яўляецца найбольш вывучаным беларускім помнікам.

Важнай крыніцай вывучэння рукапіснай кнігі з'яўляюцца рукапісныя і друкаваныя каталогі і вопісы розных бібліятэк і архіваў. Беларускія рукапісы можна сустрэць у самых нечаканых, на першы погляд, месцах: бібліятэцы Томскага універсітэта, Краснаярскім абласным архіве, Харкаве, Капенгагене, Растове-на-Доне, Амстэрдаме... У далёкіх (а часам і не вельмі далёкіх) сховішчах мы сустракаемся з праблемай пераадолення неадназначнасці апісанняў. У залежнасці ад мэты і кірунку працы розныя аўтары апісвалі рукапісную кнігу па-рознаму. Некаторыя больш увагі надавалі мове рукапісу (Я. Карскі, В. Перацц), другія — канфесійнай прыналежнасці перапісчыкаў і аўтараў тэкстаў (М. Пятроў, Ф. Дабранскі), пры гэтым большасць або абыходзіла, або мала ўвагі надавала мастацкаму афармленню кнігі, почыркам, пераплётам. «Описание рукописей, хранящихся в архиве святейшего правительственного синода» (СПб., 1904—1910. Т. 1—2), напрыклад, змяшчае самыя падрабязныя апісанні праваслаўных палемічных зборнікаў, але толькі адным-двума сказамі апісвае кнігі уніяцкія[2]. У тых выпадках, калі ёсць магчымасць, неабходна карыстацца арыгіналам. Аднак, калі рукапіс не захаваўся, або невядома яго новае месцазнаходжанне і ён недаступны для прагляду *de visu*, даследчыку даводзіцца выкарыстоўваць тыя дадзеныя, якія паведамлены пра яго ў найбольш поўным навуковым апісанні.

Больш паловы ацалелых рукапісных кніг беларускага паходжання захоўваецца ў Вільнюсе — у бібліятэцы АН Літоўскай Рэспублікі і бібліятэцы Вільнюскага універсітэта, якія ўключаюць калекцыі былой Віленскай Публічнай бібліятэкі, бібліятэкі Врублеўскіх, Віленскай археалагічнай камісіі, Супрасльскага манастыра і інш. Вялікая калекцыя актаў і рукапісных кніг была вывезена ў 1870-х гг. з буйнейшага манастыра Літоўскай правінцыі ордэна базыльян — Жыровіцкага — выкладчыкам мясцовай семінарыі Паўлам Дабрахотавым (пасля епіскапам Петразаводскім). Цяпер гэты збор падзелены, частка яго захоўваецца ў БАН, другая частка — у архіве ЛАІГ[3].

У рукапісным аддзеле Дзяржаўнай Публічнай бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына беларускія кнігі ёсць у Агульным зборы рукапіснай кнігі, зборах Яворскага, Санкт-Пецярбургскай духоўнай акадэміі, Прыдворнай капэлы, бібліятэкі Наўгародскага Сафійскага сабора, разнамоўных аўтографаў, польскамоўных рукапісных кніг. Многія беларускія рукапісныя кнігі Пецярбургскіх (Ленінградскіх) сховішчаў былі адкрыты і вывучаны Я. Карскім, іншымі даследчыкамі. Праведзеныя намі пошукі дазволілі павялічыць іх колькасць: сярод

[1] Friedelówna T. Ewangeliarz Lawryszewski: Monografia zabytku. Wrocław — Warszawa — Kraków, 1974.

[2] Цяпер збор Свяцейшага Сінода, які ўключае шмат рукапісаў беларускага паходжання, у прыватнасці, канфіскаваныя пры скасаванні уніі ў 1840-х гг. уніяцкія кнігі, захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Ленінграда.

[3] Колекція та архів єпископа Павла Доброхотова. Київ, 1992.

толькі што выяўленых Евангеллі Нафанаіла, Лемяшэвіцкае і Галянішчы, Давыдкаўскі ірмалой (ДПБ), рукапісная кніга XIV ст. з тэкстам «Аповесці пра Варлаама і Іаасафа», зборнік энцыклапедычнага зместу і Лешчанскае евангелле (БАН), кнігі-архівы Жыровіцкага, Лаўрышаўскага і Барунскага манастыроў, кнігі візітацый базыльян Льва Кішкі, алфавітны Памяннік і іншыя, аднак лічыць, што беларускія рукапісы выяўлены ў ленінградскіх сховішчах з вычарпальнай паўнатой, не прыходзіцца, а новыя пошукі, безумоўна, прынясуць новыя знаходкі. Гэта датычыць, зрэшты, і іншых сховішчаў.

У гістарычнай — Румянцаўскай — калекцыі рукапісных кніг Дзяржаўнай бібліятэкі імя У. І. Леніна захоўваюцца беларускія рукапісныя кнігі, сабраныя для бібліятэкі гомельскага палаца графа Румянцава; сярод іншых важных сховішчаў беларускай рукапіснай кнігі ў Маскве — Дзяржаўны гістарычны музей і Цэнтральны дзяржаўны архіў старажытных актаў. Значная колькасць беларускіх рукапісных кніг, што захаваліся да нашых дзён, знаходзіцца ў розных зборах Польскай рэспублікі: зборы Чартарыйскіх у Кракаве, бібліятэках Варшавы, Курніка, Вроцлава, Познані.

Для характарыстыкі асабістых, царкоўных і манастыркіх бібліятэк і, у прыватнасці, рукапіснай кнігі ў іх шмат дае выкарыстанне архіўных матэрыялаў. Апісанне бібліятэкі Нясвіжскага замка знайшоў у архівах Радзівілаў Г. Я. Галенчанка[1], перспектыўныя ў гэтым плане архівы заходнерускіх мітрапалітаў (ЦДГА), Аддзела рукапісаў Вільнюскага універсітэта, фонды І. П. Карнілава (ДПБ) і П. Н. Дабрахотава (БАН). Акрамя гэтага, існуе значная колькасць апублікаваных дакументаў і матэрыялаў, перш за ўсё ў Зборніках Санкт-Пецярбургскай і Віленскай археаграфічных камісій. Крыніцай для разумення працэсу развіцця кніжнай культуры паслужаць працы па грамадзянскай гісторыі, кнігазнаўстве, гісторыі навукі і мастацтва Беларусі, Польшчы, Расіі, Літвы і Украіны. У працы з крыніцамі найбольшыя цяжкасці маюць наступныя моманты: 1. Выяўленне новых крыніц. Беларускія рукапісныя кнігі, раскіданыя па розных сховішчах СССР і за мяжою, абследаванне найбольшых збораў дало асноўны масіў кніг, аднак заўсёды застаецца магчымасць зрабіць новыя і вельмі значныя знаходкі. Нявысветленым застаецца лёс многіх раней апісаных рукапісных кніг, якія зніклі ў час Першай і Другой сусветных войн (сярод іх такія выдатныя помнікі, як «Приточная» пісара Васкі 1495 г., Нясвіжскае евангелле і інш.). 2. Высвятленне часу, месца, імя аўтара (перапісчыка) і ўмоў узнікнення крыніцы. Калі з датаваннем перапісаных на паперы кніг вялікіх праблем не ўзнікае, дзякуючы альбомам філіграняў Ліхачова, Брыке, Лаўцявічуса і інш., то месца стварэння і бытавання кнігі вызначыць не заўсёды проста. Намі, у прыватнасці, зроблена наступнае назіранне: многія беларускія рукапісныя кнігі XIV — XVI стст. маюць прыпіскі велікарускім скарапісам XVII ст., якія сведчаць аб бытаванні кнігі ў Маскоўскай дзяржаве. Гэтыя кнігі — часцей за ўсё ваенныя трафеі або перададзеныя па ўказу патрыярха Нікана з беларускіх у толькі што заснаваныя Ніканам манастыры (Іверскі, Новы Ерусалім, Анежскі Хрэсны і інш.).

Пачынаючы гэтую працу, мы зыходзілі з таго, што найбольшую навуковую значнасць маюць добра датаваныя і лакалізаваныя кнігі, і ўяўленне пра беларускую рукапісную кнігу складаецца пры вывучэнні такіх помнікаў.

[1] Голенченко Г. Я. Крупные светские частновладельческие библиотеки Белоруссии и Литвы второй половины XVI — середины XVII вв. // Федоровские чтения. 1982. М., 1987.

## РЭПЕРТУАР РУКАПІСНАЙ КНІГІ

Рэпертуар рукапіснай кнігі, што была створана і бытавала на тэрыторыі Беларусі, яшчэ не быў прадметам спецыяльнага даследавання. Частковае ўяўленне пра яго даюць працы Я. Ф. Карскага і «История белорусской дооктябрьской литературы», выпушчаная Інстытутам літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР у 1977 г. Аднак у апошнім абагульняючым даследаванні разглядаецца толькі рукапісная кніга, што заключае ў сабе літаратурныя помнікі. Кнігі богаслужэбныя, навуковыя, юрыдычныя, а таксама некірылічнага алфавіта не аналізуюцца. А менавіта апошнія і складаюць большую частку рэпертуару беларускай рукапіснай кніжнасці XVI — XVIII стст.

У савецкім кнігазнаўстве тэрмін «рэпертуар» да самага апошняга часу адносіўся толькі да друкаванай кнігі. Гэткая была традыцыя, што пачалася ў 1920—1930-я гг., калі кнігазнаўцы мала ўвагі надавалі рукапіснай кнізе і яе месцу ў гісторыі. Толькі апошнімі дзесяцігоддзямі вызначылася пераадоленне гэтае традыцыі: пачалі выходзіць артыкулы і манаграфіі, а таксама папулярныя кнігі, прысвечаныя рукапіснай кніжнасці. На ўсесаюзных кнігазнаўчых канферэнцыях узнікла і стала пастаяннай секцыя рукапіснай кнігі, што цалкам заканамерна: апошняя адыгрывала ў гісторыі нашай культуры доўгую і значную ролю папярэдніцы і спадарожніцы кнігадрукавання. Беларускае кнігадрукаванне прыняло ў спадчыну значную частку рэпертуару рукапіснай кніжнасці папярэдніх стагоддзяў.

Кірылічная кніга XI — XV стст. пісалася, як правіла, старaславянскаю моваю і была зразумелая кожнаму адукаванаму славяніну — ад берагоў Адрыятычнага да берагоў Белага мораў. Найноўшыя мовазнаўчыя даследаванні паказалі, што ў XVI — XVIII стст. на беларускіх і ўкраінскіх землях адбываўся (амаль незалежна ад Масквы) складаны працэс унармавання старaславянскай (царкоўнаславянскай) мовы, які ішоў паралельна з фарміраваннем стараўкраінскай і старабеларускай моў. Двухмоўе ўспрымаецца як законная з'ява. Пры гэтым акрэсліваюцца два розныя падыходы да двухмоўя: у адным выпадку паралельныя тэксты (напрыклад, Васіль Цяпінскі выдаў тэкст Евангелля параллельна па-беларуску і па-старaславянску), у другім выпадку гэта захаванне царкоўнаславянскай базы тэксту, але паднаўленне яе жывым, народным у сваёй аснове, беларускім моўным матэрыялам[1].

[1] Толстой Н. И. История и структура славянских литературных языков. М., 1988. С. 57—59.

Шматмоўе не мела, аднак, характару абсалютна стыхійнай і неўпарадкаванай з'явы, што відаць з табліцы лінгвіста М. І. Талстога:

| Літаратурны жанр | старасл. мова | «руская» мова | польск. мова |
|---|---|---|---|
| Канфесійная літаратура | | | |
| Літургічная (служэбнікі, трэбнікі, часасловы) | + | — | — |
| Кананічная (Святое пісанне) | | | |
| а) Псалтыр, Апостал | + | + | + |
| б) Евангелле, Біблія | + | + | — |
| Гамілетычная (уключаючы вучыцельныя Евангеллі) | + | + | — |
| Агіяграфічная | + | + | + |
| Дыдактычная (катэхізісы) | — | + | + |
| Свецкая літаратура | | | |
| Гістарычныя творы | + | + | + |
| Драматычная | — | + | + |
| Сатырычная | — | + | + |

М. Талстой звяртае таксама ўвагу на вядомае выказванне уніяцкага епіскапа Іасафата Кунцэвіча пра тое, што «кгды тежъ читают Е́вангеліе, албо какую молитву в голос... не мают выкладать словенских слов поруску...». Тут дарэчы будзе прыгадаць і заўвагі акадэміка П. Жуковіча: «Тым часам, калі полацкі праваслаўны архіепіскап славуты Мялецій Сматрыцкі вёў сваю літаратурную барацьбу з уніяй на польскай мове, полацкі уніяцкі епіскап, які загінуў такой страшнай смерцю за сваю адданасць Рыму, пісаў у абарону уніі на рускай мове. Нягледзячы на поўнае засваенне рымска-каталіцкае навукі веры, ён усведамляў сябе не палякам»[1]. Паланізацыя, аднак, перамагла, і «...беларуская мова... была нерухомая ад другой паловы XVII стагоддзя, калі толькі час ад часу базыльяне не выдавалі кніжкі для набажэнства або з самотных грудзей беларуса не вырывалася і не замірала новая песня ў той аколіцы, дзе жыў яе творца... Уся інтэлігенцыя беларуская прыняла польскую цывілізацыю, мова беларуская засталася толькі ў масе простых людзей»[2].

Поліэтнічнасць і поліканфесійнасць насельніцтва беларускіх земляў у XIV — XVIII стст. абумовілі выкарыстанне для кнігапісання не толькі розных моў, але і розных алфавітаў, прычым для беларускай літаратурнай мовы, што была тады ў стадыі станаўлення, выкарыстоўваліся тры алфавіты — кірылічны, лацінскі і арабскі. Суадносіны моў і алфавітаў можна паказаць графічна такой табліцай:

| Алфавіты | Мовы | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | белар. | царкоўнаслав. | польск. | лацін. | гэбр. | араб. |
| Кірылічны | + | + | | | | |
| Лацінка | + | | + | + | | |
| Арабскі | + | | | | | + |
| Гэбрайскі | | | | | + | |

[1] Жукович П. О неизданных сочинениях Иосафата Кунцевича. С. 227.
[2] Kirkor A. H. O literaturze pobratymczych narodów SLowiańskich. S. 50.

*Старонка «Літургіі» Іаана Залатавуста з упамінаннем імя полацкага епіскапа Іасафата. XVII ст.*

ςέργε μὴ φλέξῃς με τῇ μετουσίᾳ πῦρ γὰρ ὑπάρ-
χεις τοὺς ἀναξίους φλέγον, ἀλλ' οὖν καθάρον ἐκ
πάσης με κηλῖδος.

Τὸ τίμιον, καὶ ἅγιον σῶμα τοῦ Κυρίου καὶ θεοῦ, καὶ
σωτῆρος ἡμῶν Ἰησοῦ Χριστοῦ, τὸ μεταδιδόμενον ἐμοὶ
τῷ ἀναξίῳ καὶ ἁμαρτωλῷ Ἰλαρίωνι Ν. εἰς ἄφεσιν
ἁμαρτιῶν, καὶ εἰς ζωὴν αἰώνιον

Αὐτὸ τὸ τίμιον, καὶ ἅγιον αἷμα τοῦ Κυρίου καὶ θεοῦ,
καὶ σωτῆρος ἡμῶν Ἰησοῦ Χριστοῦ δίδοταί μοι τῷ
ἀναξίῳ καὶ ἁμαρτωλῷ Ἰλαρίωνι. Ν. εἰς ἄφεσιν
ἁμαρτιῶν, καὶ εἰς ζωὴν αἰώνιον.

Εἰς ὄνομα τοῦ Πρς * Καὶ τοῦ υἱοῦ *
Καὶ τοῦ ἁγίου πνεύματος. νῦν

Іер. по причащеніи Гл:

Τοῦτο ἥψατο τῶν χειλέων μου, καὶ ἀφελεῖ τὰς ἀνομί-
ας μου, καὶ τὰς ἁμαρτίας μου περικαθαριεῖ πάντοτε.

Аще кого причащаеши.

Μεταλαμβάνει ὁ δοῦλος τοῦ θεοῦ Ν. τὸ τίμιον
καὶ ἅγιον σῶμα καὶ αἷμα τοῦ Κυρίου

Млтва по причащенїю.

Εὐχαριστοῦμέν σοι δέσποτα φιλάνθρωπε, εὐεργέτα
τῶν ψυχῶν ἡμῶν, ὅτι καὶ τῇ παρούσῃ ἡμέρᾳ κατη-
ξίωσας ἡμᾶς τῶν ἐπουρανίων σου, καὶ ἀθανάτων
μυστηρίων· ὀρθοτόμησον ἡμῶν τὴν ὁδόν, στήριξον

*Старонка беларускага Аль-Кітаба. XVII ст.*

*Вытворчасць Тораў на беларускіх землях працягвалася да XIX ст. Матэрыял і почырк заставаліся нязменнымі з сярэднявечча, таму дакладна датаваць сувоі немагчыма*



На сёння даследчыкі зафіксавалі тры рукапісныя кнігі XVII і дзевяць XVIII стст., пісаныя па-беларуску арабскай графікай. Сваім паходжаннем гэтыя кнігі звязаны з татарамі, што пасяліліся ў Літве і на Беларусі ў XIV — XV стст., дзе іх нашчадкі жывуць і сёння. Крыніцы паведамляюць, што гэтыя татары, жывучы ў Вялікім княстве Літоўскім, хутка забыліся сваёй роднай мовы і пачалі карыстацца беларускай і польскай мовамі. Пра гэта, у прыватнасці, сведчыць дакладна́я запіска (Рысал) беларускага татарына, паломніка ў Меку, які наведаў у 1557—1558 гг. Турцыю і напісаў прыгаданую запіску зяцю турэцкага султана Рустэму-пашу, а таксама працы турэцкага гісторыка XVII ст. Ібрагіма-пашы. Беларуская мова стала не толькі гутарковаю мовай шматлікіх калоній літоўскіх татар, але і мовай некаторых відаў мусульманскай рэлігійнай літаратуры. Рэпертуар кніг арабскай графікі складаецца з апісанняў мусульманскіх абрадаў і рытуалаў, катэхізісаў, легенд (кадысаў), а таксама з твораў усходняй свецкай кніжнасці (рыцарскія аповесці, прыгодніцкія апавяданні, аракулы, тлумачэнні сноў, вызначэнні шчаслівых дзён месяца і тыдня і г. д.). Богаслужэбныя творы, штодзённыя малітвы перапісваліся і прамаўляліся на арабскай, пазней на турэцкай мове[1].

З XIV ст. на беларускіх землях пачынаецца вытворчасць гэбрайскіх кніг. Галоўную богаслужэбную кнігу — Тору — перапісвалі, як правіла, у выглядзе сувоя, на добра выробленым пергаміне. Вытворчасць Тор-сувояў захоўвалася да XIX ст., і сёння даволі часта знаходзяць іх фрагменты. Перапісаныя «квадратным» каліграфічным почыркам Торы, як правіла, не маюць аздобы — арнаментаў або малюнкаў (мініяцюр). Захоўваліся яны накручанымі на драўляны (часам аздоблены разьбою) валік. Малая даследаванасць гэтай кнігавытворчасці не дазваляе назваць усе яе асноўныя асяродкі, аднак можна меркаваць, што сярод іх былі Брэст (рэзідэнцыя галоўнага рабіна Вялікага княства Літоўскага), Мір і Валожын,— тут знаходзіліся духоўныя вучэльні — ешыботы.

Пра арганізацыю навучання і карыстанне кнігамі ў Мірскім ешыбоце засталіся цікавыя ўспаміны аднаго з былых студэнтаў (бахураў) гэтай установы: «Ад рабі Хайм-Лейба мы накіраваліся ў ешыбот. Прайшлі праз доўгі, гразкі, хоць і брукаваны двор у ешыбот, які размяшчаўся ў вялізным аднапавярховым будынку і складаўся з адной вялікай залы. Там было расстаўлена каля сцен чатырнаццаць вялікіх даўгіх сталоў. Пры кожным стале стаялі даўгія нефарбаваныя лавы. Кожны стол меў сваю назву і свой ранг.

У ешыбоце вучылася звычайна да трохсот бахураў, ад 14-гадовых хлопчыкаў і да 28-гадовых барадатых дзецюкоў. Афіцыйны час заняткаў быў ад 9-й раніцы да 9-й вечара, з двума перапынкамі: гадзіна на абед і гадзіна на вячэрнія малітвы, але і пасля 9-й вечара чалавек 40—50 заставалася ў ешыбоце і займалася да 11—12 гадзін ночы.

Усе 300 бахураў, сабраныя ў вялікай залі ешыбота, на працягу ўсяго дня гучна, нараспеў выкрыквалі талмудычны тэкст. Дзіўна, што шуму ад такой колькасці галасоў не было, а стаяла нейкая бясконцая гамана змешаных галасоў: тут былі хлапечыя срабрыстыя дысканты, тэнаровыя галасы і грымотныя басы сталых бахураў. Роўна ў васемнаццаць хвілін на 12-ю гадзіну рабі Хайм-Лейб падыходзіў да амбона і лёгенька ляпаў рукою па кнізе, што на ім ляжала. Гуку чуваць не было, але ўся гамана ўмомант сціхала на паўслове, на паўноце. Сотні

[1] Антонович А. К. Белорусские тексты, написанные арабским письмом, и их графико-орфографическая система. С. 350—363.

рук падхоплівалі чатыры вялізныя сталы, ссоўвалі іх квадратам. Усе бахуры ставалі вакол гэтых сталоў, трымаючы разгорнутыя гэморы ў руках (гэмора — частка талмуда, кніга для вывучэння кананічнага права). Стаялі ў некалькі радоў: пярэднія клалі свае фаліянты на стол, а заднія — на спіны пярэдніх. Калі ўсе былі ў зборы, гатовыя падбіраць «перлы, што сыпаліся з вуснаў настаўніка», тады рабі Хайм-Лейб падыходзіў да аднаго рога квадрата, сядаў на лаву, дагодліва падстаўленую яму нейкім бахурам, і пачынаў чытаць «шыур» (урывак з тэксту). Асаблівасць яго чытання была такая, што пасля яго тлумачэнняў ніякіх пытанняў і няяснасцяў не заставалася»[1].

Кнігі на гэбрайскай мове і кнігі арабскага алфавіта ствараліся для невялікіх, канфесійна адасобленых груп насельніцтва. Узаемаўплыў іх на кнігі кірылічнага і лацінскага алфавіта, культурна-гістарычнае асяроддзе іх бытавання патрабуюць спецыяльнага даследавання; без іх уліку нельга гаварыць пра паўнату і праўдзівасць нашых ведаў, пра культуру сярэднявечча.

Да сённяшняга дня захавалася толькі малая частка рэпертуару рукапіснай кніжнасці — шмат якія кнігі загінулі, шмат якія не знойдзеныя, не атрыбутаваныя, не лакалізаваныя. Асабліва вялікія былі страты пад час шматлікіх ваенных канфліктаў, арэнаю якіх былі беларускія землі. Так, у 1579 г. войскі караля Стэфана Баторыя, завалодаўшы Полацкам, разрабавалі багатую бібліятэку кафедральнага Сафійскага сабора. «У вачах адукаваных людзей,— паведамляе сакратар Стэфана Баторыя Рэйнгольд Гейдэнштэйн,— амаль не меншую каштоўнасць, чым уся астатняя здабыча, мела знойдзеная там бібліятэка. Апроч летапісаў, у ёй было шмат твораў грэчаскіх айцоў царквы, і сярод іх творы Дыянісія Арэапагіта пра нябесную і царкоўную іерархію, усе на славянскай мове. Большая частка іх, паводле сведчання летапісаў, была перакладзена на гэтую мову з грэчаскай Мяфодзіем і Канстанцінам»[2]. Кнігі сафійскае бібліятэкі, як паказаў савецкі гісторык Я. Н. Шчапаў, былі вывезены часткова ў Кракаў, у каралеўскую бібліятэку (сляды іх губляюцца ў XVII ст. разам са слядамі гэтай бібліятэкі), і ў Замосце: Ян Замойскі, які ўдзельнічаў ва ўзяцці Полацка, перадаў іх заснаванай у 1594 г. у сваёй ардынацыі Замосце Акадэміі[3]. Рабункі полацкіх кнігасховаў адбываліся і далей — пад час вайны 1654—1667 гг. з Маскоўскай дзяржавай. З царквы Параскевы Пятніцы было вывезена ў Растоў і ўкладзена ў Барысаглебскі манастыр Варламам Хватавым Евангелле, заказанае полацкім архіепіскапам Нафанаілам (ДПБ, F.1.39); тады ж Евангелле, заказанае Юрыем Андрэевічам Галянішчам для Спаскай царквы ў Друйску, было забрана ў маскоўскія землі і ўкладзена казаком «райтарскага строю» Міхаілам Дзмітрыевым у Сеніфонтаў манастыр (ДПБ, F.1.8). «Масква ўзяла» — пазначана насупраць некаторых кніг у вопісе бібліятэкі Супрасльскага манастыра[4]. Працягваліся страты кніг у XVIII і XIX стст. Шчаслівы выпадак не даў загінуць Аршанскаму евангеллю, яно было знойдзена ў зруйнаванай напалеонаўскімі войскамі Оршы. Адсутнасць на беларускіх землях буйных дзяржаўных бібліятэк і універсітэцкіх асяродкаў спрыяла распыленню рукапісаў і «адыходу» іх у Польшчу і Расію. Частка асядала ў прыватных бібліятэках, аднак

[1] Ш-о. С. Год в Мирском ешиботе // Пережитое. СПб., 1913. Т. 4 С. 220—241.

[2] Гейденштейн Р. Записки о Московской войне (1578—1582). СПб., 1889. С. 71—72.

[3] Щапов Я. Н. Библиотека полотского Софийского собора и библиотека Академии Замойской // Культурные связи народов Восточной Европы в XVI в. М., 1976. С. 262—282.

[4] Археографический сборник документов, относящихся к истории северо-западной Руси. Т. 9.

рэквізіцыі маёмасці пасля паўстанняў 1831 і 1863 гг., выназ бібліятэкі Нясвіжскага замка ў 1772 г. прывялі да значных страт фонду рукапісных кніг[1].

Цяжкія страты зборам рукапісных кніг прынесла Другая сусветная вайна. Былі вывезены і страчаны шмат якія зборы рукапісаў абласных і рэспубліканскіх бібліятэк, у Варшаве загінулі перададзеныя туды паводле ўмоў Рыжскага мірнага дагавора (1921 г.) з Дзяржаўнай Публічнай бібліятэкі ў Петраградзе рукапісныя кнігі, у тым ліку полацкія, якія змяшчалі выдатныя помнікі тэатральнай культуры — зборнікі інтэрмедый, частка рукапісаў з бібліятэкі Радзівілаў. З прычыны гэтых страт немагчыма аднавіць увесь рэпертуар рукапіснай кнігі, што бытавала на беларускіх землях. Аднак ацалелыя кнігі, архіўныя дакументы, старыя апісанні дазваляюць рэканструяваць хай сабе не вычарпальную, аднак дастаткова поўную і паслядоўную карціну развіцця рукапіснай кніжнасці ў даследаваным намі рэгіёне, у прыватнасці яе рэпертуару.

Перш чым гаварыць пра змены развіцця рэпертуару ў часе (а за пяць стагоддзяў яны былі вельмі істотныя), неабходна адзначыць два галоўныя перыяды развіцця рукапіснай кніжнасці: да пачатку кнігадрукавання і пасля яго распаўсюджання. Каталогі прыватных і царкоўных бібліятэк пачатку XVI ст. паказваюць, што друкаваная кніга еўрапейскіх, а пасля і мясцовых выдаўцоў была прадстаўлена ў іх дастаткова шырока, і шмат якія творы распаўсюджваліся выключна ў друкаваным выглядзе. Аднак кнігадрукаванне не выключыла кнігапісання, якое да XVIII ст. на беларускіх землях няспынна працягвалася, хоць і з крыху змененымі функцыямі. Калі да вынаходства друкарскага варштата і разборнага шрыфту рукапісная кніга прадстаўляла ўсю кніжную культуру сучаснага ёй грамадства, дык пасля Францыска Скарыны перапісчыкі і нешматлікія скрыпторыі (часцей за ўсё манастырскія) працягвалі заставацца вытворцамі заказных, асабліва шыкоўных або адсутных на рынку («дэфіцытных») кніг. Друкары і выдаўцы займаліся вытворчасцю шматтыражнай кнігі масавага попыту. Узаемасувязі і ўзаемаўплывы рукапіснай і друкаванай кнігі былі важнай умовай існавання кніжнай культуры XVI — XVIII стст. Гэтыя сувязі і ўзаемаўплывы рукапіснай кнігі і друкаванай патрабуюць спецыяльнага даследавання, праграма якога прадугледжвала б вывучэнне позняй рукапіснай кнігі[2]. Вывучаць рэпертуар рукапіснай кнігі можна толькі комплексна, каб атрымаць станоўчыя вынікі, а прынцып комплекснасці цалкам выключае магчымасць выбіральнасці ў вывучэнні і апісанні рукапісаў. Да значных памылак прыводзіць імкненне пазбегчы апісання царкоўных матэрыялаў, адзначае акадэмік Д. С. Ліхачоў, бо адрозніць царкоўныя матэрыялы ад гэтак званых свецкіх вельмі цяжка. У сярэднявечнай кніжнасці нельга адарваць царкоўныя матэрыялы ад свецкіх. Так ці іначай царкоўныя творы звязаны са свецкай гісторыяй, а свецкія помнікі ў той ці іншай ступені царкоўныя, адлюстроўваюць рэлігійныя асновы сярэднявечнага светапогляду. Рукапіс павінен вывучацца цалкам, ва ўсім яго аб'ёме, ва ўсім складзе, гэтак жа, як і ў складзе ўсяго збору, а не выхаплены з гэтага збору[3].

Увесь рэпертуар рукапіснай кнігі можна падзяліць на тры катэгорыі: кнігу богаслужэбную (яе рэпертуар рэгламентаваўся Статутам), чытальную («чэцццю»), г. зн. прызначаную для небогаслужэбнага, у

[1] Калубовіч А. Мова ў гісторыі беларускага пісьменства. Кліўленд. 1978. Ч. 2.

[2] Мыльников А. С. Вопросы изучения поздней рукописной книги // Рукописная и печатная книга. М., 1975. С. 19—36.

[3] Лихачев Д. С. Текстология на материале русской литературы X — XVII веков. Л., 1983. С. 114.

*Старонка Служэбніка, перапісанага Антоніем Кяскевічам. XIX ст.*

*Служэбнік XVIII ст. Узор ужывання царкоўнаславянскай і польскай моў*




Ѡлож и Страхъ ввесь, изъбавитель Пртіи рече: мнѣ же повинися: ꙗко благомꙋ мнѣ приступи. сіе бо естествомъ вышхъ. моемꙋ повеленію покорися: и крти мя сошедшаго. Егоже благвать людіе, и превозноси во вся веки.

Глы егда оуслыша Кртитель Влчня, съ трепетомъ длань простираетъ: обаче же рꙋкою коснꙋвся верхꙋ Создателя своего. Крещаемꙋся вопіяше: Освти мя, ты бо еси Бгъ мой. Егоже благвать людіе, и превозносите во вся веки.

Трци ꙗвленіе на Іордани бысть: само бо то пребжтвеное естство, Отцъ возгласи. сей крещаемый Снъ возлюбленный мой: Дхъ же пріиде ко подобномꙋ. Его же благвать людіе, и превозносите во вся веки.

иинъ Ірмосъ.




Отроци тріе Бговидный, въ огнѣ прохлаждаеми, зарего. тремѝ Светлостьми осіяеми: ꙗвѣ показавше превышше естество. Смешеніемъ члвческимъ, ѡпалѧюще

*Выява архангела Міхаіла і ўкладныя запісы на першай старонцы Лаўрышаўскага евангелля. XIV ст.*

тым ліку хатняга чытання, і кнігу ўжытковага значэння: юрыдычную, вопісы маёмасці, розныя інвентары. Па колькасці ацалелых асобнікаў не першым месцы стаяць богаслужэбныя, а не чытальныя кнігі: іх выраблялася значна болей і захоўваліся яны ў лепшых умовах — за царкоўнымі і манастырскімі мурамі. Іх можна найперш падзяліць на біблійныя і гімнаграфічныя кнігі. Да першых адносяцца: Евангелле, Апостал, Парамійнік, Псалтыр, Часоўнік, Служэбнік; да другіх — Мінеі, Трыёдзі, Актоіхі, Стыхірары, Ірмалогіі. Апошнія з'яўляюцца помнікамі гісторыі не толькі культавай, але і свецкай музыкі Беларусі, таму яны прыцягваюць асаблівую ўвагу сучасных музыказнаўцаў. Львоўскі даследчык Юрый Ясіноўскі ў выніку археаграфічных росшукаў знайшоў больш за 50 беларускіх Ірмалояў XVI — XVIII стст. у сховішчах Масквы, Ленінграда, Кіева, Львова і Вільнюса. У пэўнай меры характэрным Ірмалоем XVIII ст. можна лічыць Давыдкаўскі ірмалой. Ён перапісаны на 202 аркушах памерам 34×21 см. з адкрэсленымі палямі. Папера датуецца паводле філіграняў 1765—1777 гг. Пераплёт — два слаі палатна, абцягнутыя цісненаю скурай, захаваліся скураныя завязкі. Натацыя пяцілінейная, квадратная. Тэкст і ноты напісаны аднолькавым карычневым чарнілам, тып пісьма — паўустаў. Нумары аркушаў пазначаны ў правым верхнім кутку кірылічнымі лічбамі, на адвароце нумар аркуша паўтараецца ў левым верхнім кутку арабскімі лічбамі.

Запісы перапісчыка і ўладальніка кнігі дазваляюць даволі падрабязна прасачыць яго лёс. Шматслоўны загаловак на тытульным аркушы паведамляе: «Пеніе красное, сіе есть Іермолой. Списана книга сія при благополучной державе короля Августа Третяго, за благословлением вилебного отца ницет Андріевича пресвитера церкви Давыдковской, старанием и коштом его за которую заплатили з швагром своим таляров три. Року 1769 месяца октомбря дня 11». З надпісу відаць, што месца стварэння кнігі — вёска Давыдкава (цяпер у Бачэйкаўскім сельсавеце Бешанковіцкага раёна Віцебскай вобласці). Праз нейкі час Ірмалой трапіў у Бачэйкава; гаспадар яго пакінуў уладальніцкія запісы: на пярэднім шмуцтытуле па-руску: «Сия книга принадлежит Петра Караскевича Бочейков», а на заднім шмуцтытуле па-польску: «Szanowny, Wielmozny, Panie Karaskiewicz w Boczieykowie». Наступная прыпіска датуецца 1843 г.— кніга была яшчэ на старым месцы— на ўнутраным баку вокладкі пазначана: «Бочейков Полоцкой епархии». Не раней чым у сярэдзіне XIX ст., а дакладней пасля паўстання 1863 г., кніга трапіла ў зборы Прыдворнай капэлы ў Пецярбурзе і цяпер знаходзіцца разам з гэтымі зборамі ў Аддзеле рукапісаў Дзяржаўнай Публічнай бібліятэкі ў Ленінградзе.

Ірмалоі XVIII ст. па сутнасці — хрэстаматыі найбольш распаўсюджанага ў побыце спеўнага матэрыялу і называюцца Ірмалоямі толькі таму, што жанр ірмасаў у іх пераважае. Гэтая выснова

Ю. Ясіноўскага цалкам пацвярджаецца і складам Давыдкаўскага ірмалоя. Ён пачынаецца спевамі з Абіходу, далей ідзе Ірмалой беларуска-ўкраінскай рэдакцыі з дадаткова ўключанымі Дагматыкамі, Сядальнамі, Сцяпенамі, Свяцільнамі, Падобнамі на восем галасоў, у канцы кнігі — Стыхіры да свят на восем галасоў. Сярод вялікага спеўнага матэрыялу — Стыхіры «Іасафу, царэвічу Індыйскаму», Казьме і Даміяну і іншыя папулярныя ў той час музычныя творы. Для спробы пяра, а таксама для практыкаванняў у пачатку Ірмалоя (на адвароце тытульнага аркуша) і ў канцы (на адвароце апошняга аркуша) перапісчык намаляваў нотную лінейку з сальмізацыйным гукарадам. Пад нотамі напісаны іх назвы: ут-рэ-мі-фа-соль-ля-соль-фа-мі-рэ-ут. Музыказнаўчы аналіз беларускіх Ірмалояў дае каштоўны матэрыял для асвятлення музычных сувязей розных народаў — у іх зафіксаваны напевы кіеўскі і балгарскі, сербскі і грэчаскі, апрача таго, існавалі і мясцовыя напевы — беларускі, віленскі, куцеінскі, магілёўскі, мірскі, слуцкі, супрасльскі. Усё гэта сведчыць пра міграцыю не толькі спеўных кніг, але і зафіксаваных у іх мелодый, пра дыфузію культуры.

Змены ў становішчы царквы ў Вялікім княстве Літоўскім адбіліся на складзе Служэбнікаў, якія змяшчалі тэксты галоўных абрадаў хрысціянскай царквы — літургіі і папярэдніх ёй службаў. Пасля прыняцця ў 1596 г. Брэсцкай царкоўнай уніі пачалі пашырацца Служэбнікі, якія розніліся сваім складам ад ранейшых і сучасных ім маскоўскіх. Яны, апроч парадку штодзённых службаў, змяшчаюць падобна каталіцкім Імшалам чародныя апостальскія і евангельскія чытанні на ўсе тыдні і дні гадавога круга, пачынаючы ад Вялікадня і канчаючы Апосталамі і Евангеллямі, агульнымі розным святым. Як і лацінскія Імшалы, Служэбнікі змяшчаюць таксама на пачатку кароткі каляндар, які паказвае, калі і якую службу служыць тым або іншым святым, на тыя або іншыя святы. Такі склад Служэбнікаў, лічыць даследчык гэтага пытання М. Адзінцоў, не толькі дапаўняў недахоп усіх іншых кніг, неабходных пры богаслужэнні, але і — з другога боку — набліжаў да каталікаў[1].

Адзначаныя змены ўзніклі не адразу, а складаліся ад увядзення уніі да Замойскага сабору (1720), прычым не заўсёды ўбок збліжэння з каталіцтвам, але часам і ўбок вяртання да старажытнай абраднасці. Змены не закранулі царкоўнага Статута, але толькі парадак літургіі і таемстваў. М. Адзінцоў адзначае, што пры ўвядзенні уніі, якая была справаю вышэйшых іерархаў, а не народа, натуральна з'явіліся дзве групы святароў, з якіх адны, жадаючы дагадзіць асобам вышэйшай іерархіі і прадстаўнікам улады, заўзята ішлі шляхам засваення новых парадкаў, іншыя ж імкнуліся заставацца ў рэчышчы шматвяковай традыцыі і старой праваслаўнай абраднасці. Рукапісныя зборнікі адлюстроўваюць пераходную ступень ад богаслужэння праваслаўнага да уніяцкага. Характэрная іх асаблівасць — абавязковае ўключэнне службы святому Іасафату (Кунцэвічу) 2 лістапада, а таксама святому Антонію з Падуі (апошняя адзначаецца не ва ўсіх Служэбніках, але сустракаецца часта). Перапісваліся службы за караля, найдастойнейшаму Францыску, св. Марціну Турскаму, св. Казіміру, св. Аўгусціну. Літургія Іаана Златавуста перапісвалася, як правіла, асобнаю кнігай; вядомы уніяцкія спісы — на грэчаскай мове з паралельным славяналацінскім тэкстам[2].

[1] Одинцов Н. Ф. Униатское богослужение в XVII и XVIII веках по рукописям Виленской Публичной библиотеки // Литовские епархиальные ведомости. 1886. № 38. С. 350—357.

[2] Yohannes Chrysostomus. The pontifical liturgy of Saint Yohn Chrysostom: A ms. of the 17-th cent in the Slavonic text and latin translation. London, 1978.

Сярод біблійных рукапісных кніг найбольшае пашырэнне мелі Евангеллі і Апосталы — вядома некалькі дзесяткаў рукапісаў з гэтымі тэкстамі, датаваных XIV — XVIII стст. Часта перапісваўся Псалтыр, які выкарыстоўвалі для навучання грамаце і як варажбітную кнігу (з гэтай прычыны з кананічных біблійных кніг Псалтыр часцей за ўсё «спісваўся» на старабеларускай мове)[1]. Старазапаветныя тэксты ўключаліся таксама ў Парамійнікі і Часоўнікі.

З другой паловы XIV ст. пачынае пашырацца новы, Ерусалімскі статут, які ў XV ст. стаецца асноўным рэгулятарам богаслужэння і царкоўнага жыцця, у тым ліку і кніжнай вытворчасці. Адпаведна з новым Статутам у цэрквах ужываюцца Евангеллі тэтр службовыя і Апостал службовы — уваходзіць ва ўжытак новы тып кнігі, у які тэксты перапісаны па аўтарах (тэтр — г. зн. ёсць тэксты чатырох евангелістаў). Дадатак «службовы» паказвае на наяўнасць у канцы кнігі каляндарных табліц або іншых паказальнікаў паслядоўнасці чытанняў пры адпраўленні службы. Аднак надалей бытавалі (і да канца XIV ст. перапісваліся) і звычайныя апракасы. Да вядомых помнікаў гэтага тыпу можна залічыць Менскі апракас[2] і Лаўрышаўскае евангелле.

Лаўрышаўскае евангелле — першы вядомы нам беларускі поўны апракас. Час яго стварэння — узмежжа XIII і XIV стст. На першым аркушы гэтай цудоўна ілюмінаванай пергамінной кнігі намаляваны архангел Міхаіл — апякун княскай улады. Са шматлікіх прыпісак найбольш ранніх размяшчаюцца вакол выявы архангела і належаць прадстаўнікам княскага стану: Карыяту (Міхаілу Гедымінавічу, 1329 г.), Аляксандру Уладзіміравічу (старэйшаму сыну Уладзіміра Альгердавіча, памёр у 1454 г.), Дзмітрыю-Карыбуту Альгердавічу і іншым. Змест прыпісак — уклады ў Лаўрышаўскі (на Нёмане) манастыр.

Лаўрышаўскае евангелле складаецца з дзвюх частак — евангельскіх чытанняў, размешчаных у парадку літургічнага года (аркушы 1—320) і евангельскіх чытанняў, складзеных у парадку каляндарнага (вераснёвага) года, ад 1 верасня да канца жніўня (аркушы 320—366). Сваёй паўнатою гэтая кніга больш за іншыя сучасныя ёй рукапісы набліжаецца да поўнага Евангелля (тэтра),— падлікі паказалі, што з Евангелля паводле Матфея выкарыстана 98 % тэкстаў, паводле Марка — 97 %, паводле Лукі — 97 % і з Евангелля паводле Іаана— 93 % усіх тэкстаў. Цікавая асаблівасць Лаўрышаўскага евангелля— перапісаны ў ім на с. 28—30 канон — від літургічных спеваў з некалькімі паўторамі. Гэта выразны ўзор праваслаўнай гімнадыі, якая абапіралася на багатыя традыцыі гімнадыі візантыйскай. Пры ўсёй традыцыйнасці канон, аднак, аўтарызаваны (бадай першы ў нашай культуры аўтарызаваны музычны твор!): ва ўступе аўтар запісаў: «...се же многогрешныи азъ Иев написахъ канунъ сь». Канон называецца «Канун и плач святоі Богородици», складаецца з 106 вершаў і падзелены на дзевяць меншых частак — песняў. Змест яго — плач Божай Маці над укрыжаваным Хрыстом. В. Г. Пуцко выказаў меркаванне, што аўтар канона Іеў быў і ілюмінатарам (а магчыма, і перапісчыкам) усяго Лаўрышаўскага евангелля[3].

У другой палове XV — XVI стст. на палях Лаўрышаўскага евангелля з'яўляюцца запісы асоб някняскага паходжання — галоўным чынам гэта ахвяраванні на манастыр мясцовага насельніцтва:

[1] Карский Е. Ф. Западнорусские переводы Псалтири в XV — XVII веках. Варшава, 1896.

[2] Драй-Хмара М. Фрагменти менського пергаменного апракоса XIV в. // Збірник комісії для досліджэння історії українскої мови. Київ, 1931. Т. 1. С. 141—246. Месца знаходжання зараз невядомае.

[3] Навуковая канферэнцыя «Помнікі мастацтва Рэнесансу ў Вялікім княстве Літоўскім (Беларусь, Літва, Украіна)», 27—28 мая 1990 г. Мн., ДММ БССР.

***Старонка з «Дзесятаглава» Мацвея Дзесятага. XVI ст. Узор каліграфіі***



«Пашко Абухович, тиуна негневичского сын, з братами Грынем и Семёном, Грынько Микулич, пан Дзержко Волчков, сын Гарусовича, Ходар Циняшэвич» і інш.— дзесяткі імёнаў даравальнікаў.

Апроч службовых, існавалі «тлумачальныя», або «вучыцельныя», Евангеллі і Апосталы, дзе змяшчаліся тлумачэнні кананічных тэкстаў Феадосія Кірскага, Грыгорыя Дваяслова і іншых аўтараў. Найбольшая колькасць беларускіх рукапісаў з тлумачэннямі датуецца XVI — XVII стст. Як прыклады можна назваць Тлумачальны апостал 1595 г. (БАНЛіт, F19—21) і Тлумачальнае евангелле XVII ст. (БАНЛіт, F19—42).

Старазапаветныя творы да пачатку XVI ст. у асобныя кнігі не збіраліся, а ўключаліся, як правіла, у Параміінікі і Часоўнікі. Захаваліся спісы паасобных кніг Старога запавету і іх камплекты ў чытальных варыянтах, не ў Параміініках: прыкладам можа быць кніга з Купяціцкага (недалёка ад Пінска) манастыра, датаваная XV ст.— побач з біблійнымі тэкстамі тут перапісана і некананічная «Менандра мудрага аб розуме» (ДПБ, Пог. 78). Тлумачальным мог быць і Псалтыр (напрыклад, БАНЛіт, F19—49, ДПБ, F.1.738).

Як вядома, першая на ўсходнеславянскіх землях спроба сабраць у адной кнізе ўсе часткі Біблії была прадпрынята наўгародскім архіепіскапам Генадзіем у канцы XV ст. На пачатку XVI ст. поўны збор біблійных тэкстаў з'явіўся і ў Вялікім княстве Літоўскім — ён звязаны з дзейнасцю кнігапісцаў Мацвея Дзесятага і дыякана Фёдара.

Мацвей Дзесяты — перапісчык і складальнік зборніка біблійных кніг (за выключэннем Пяцікніжжа і гістарычных) і дадатку — слоўніка незразумелых слоў. Сярод біблійных ён перапісаў і некананічную кнігу Менандра. Зборнік быў укладам у Супрасльскі манастыр і вядомы з вопісаў манастырскай бібліятэкі як «Дзесятаглаў». У сярэдзіне XIX ст. «Дзесятаглаў» вывез у Рыгу прафесар Жыровіцкай семінарыі П. Дабрахотаў і заказаў для яго новы пераплёт (які быў стары— невядома, магчыма, яго зусім не было). Ад Дабрахотава кніга трапіла ў бібліятэку акадэміка-славіста І. І. Сразнеўскага, у 1911 г. «Дзесятаглаў» быў перададзены ў Аддзел рукапісаў Бібліятэкі Акадэміі навук СССР, дзе захоўваецца і цяпер (БАН, 24.4.28). Створаны Мацвеем Дзесятым зборнік вывучаўся, пачынаючы з 1859 г.,— першая публікацыя належыць архіепіскапу Філарэту (Гумілеўскаму)[1]; аднак П. Уладзіміраў у 1888 г. з жалем канстатаваў, што гэты цікавы рукапіс знік з навуковых даляглядаў (цяпер вядома, што гаспадаром яго стаў І. Сразнеўскі, які з нейкіх меркаванняў хаваў гэта) і абмежаваўся толькі спасылкай на публікацыю Філарэта[2].

Усе навукоўцы, якія вывучалі зборнік, падкрэслівалі яго высокую мастацкую і гісторыка-культурную каштоўнасць, маючы пры гэтым самыя розныя погляды на яго склад і паходжанне. Сучасныя даследчыкі «Дзесятаглава» — А. А. Аляксееў і В. П. Ліхачова — абвяргаюць выказаныя раней меркаванні пра прыналежнасць кнігі «жыдоўствуючым» або пра нейкую залежнасць яе тэксту ад Генадзіеўскай біблії. У той самы час аўтары падкрэсліваюць, што гэтая спроба стварэння збору біблійных кніг была прадпрынята пад уплывам вопыту Генадзія, але ажыццяўлялася іншым шляхам[3].

Мацвей Дзесяты пакінуў у кнізе прыпіску — найбольшую аб'ёмам з усіх вядомых нам прыпісак да беларускіх рукапісных кніг — дзве старонкі *folio* сціслым паўуставам. Яна мае загаловак: «О написавшем

[1] Архиеп. Филарет. Библейские книги 1507 г. // Известия ОРЯС. Т. 8. (1859—1860). Ч. 2. Ст. 144—150.

[2] Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина... СПб., 1888, С. 21—24.

[3] Алексеев А. А., Лихачева О. П. Супрасльский сборник 1507 г. // Материалы и сообщения по фондам отдела рукописной и редкой книги БАН СССР. Л., 1978. С. 54—88.

кнігі сія». Мацвей паведамляе, што нарадзіўся ў горадзе Тарапцы, быў дзесятым сынам у сям'і, таму меў мянушку — Мацвей Дзяцяты. Усе дзевяць братоў былі манахамі, манахінямі сталі і тры іх сястры. З гордасцю ён піша, што сярод яго братоў і сёстраў — іераманах Наўгародскага Хутынскага манастыра Нікіфар, ігумення Прадцечанскага манастыра ў Тарапцы Ефрасіння, ігумен Прадцечанскага манастыра ў Полацку Яўфімій. Сам Мацвей, відаць, наведваў сваіх братоў: гаворачы пра няблізкі Ноўгарад, ён удакладняе адлегласць да Хутынскага манастыра — «пяти поприщах от города». Сярод нешматлікіх рукапісных кніг сярэднявечнага Полацка захаваліся два пергамінныя Евангеллі XIV ст. з манастыра Іаана Прадцечы на Востраве. У абедзвюх кнігах ёсць укладныя запісы і шматлікія прыпіскі пачатку XVI ст.— часоў, калі ў Полацку жыў і вучыўся Францыск Скарына. Адзін з укладных запісаў, датаваны 1507 г., паўтараецца ў дзвюх гэтых кнігах: апісанне ўкладу паўторана літаральна, аднак у спісах прысутных пры ўкладзе ёсць розначытанні, у прыватнасці, пры ўпамінанні імя прадцечанскага ігумена Яўфімія. У адным выпадку сказана: «А пры томь месте были добрые люди ігумень светого Ивана Евфимии з братьею...», у другой прыпісцы: «А при том месте были добрые люди игоумнъ святого Ивана Еоуфимеи Торопка з братіею...» Мянушка прадцечанскага ігумена «Таропка», што бясспрэчна значыць «з Тарапца», з'яўляецца ўскосным пацверджаннем прыпіскі Мацвея Дзесятага. Як адна з найбольш уплывовых асоб царкоўнай іерархіі Вялікага княства Літоўскага таго часу, ігумен Яўфімій, бясспрэчна, быў знаёмы з ігуменам Лаўрышаўскага манастыра, кніжнікам дыяканам Ігнатам, які, як і ён, удзельнічаў у Віленскім саборы 1509 г. Можна меркаваць, што праз брата Яўфімія Мацвей Дзесяты быў знаёмы і з Францыскам Скарынам; непасрэднага пацверджання гэтаму няма, аднак не выклікае сумнення тое, што абодва перакладчыкі біблійных кніг былі людзьмі аднаго кола.

Мацвей працаваў над «Дзесятаглавам» на працягу пяці гадоў — ад 1502 да 1507 г., пры гэтым, як ён паведамляе ў прыпісцы, праца была распачата «в граде нарицаемом Вильни, при великом князе Александре, бывшим королем Польским, Великим князем Литовским, Руским, Жомоитским, а митрополите киевском и Всеа Руси Ионе, а воеводе Виленском Миколае Радивиловичи...», а закончана «в монастыри Пречистыя Благовещения, нарицаемом Супрясль в державе благовернаго христолюбивого вельможи Александра Ходкевича». Кароль Аляксандр Ягелон памёр у 1506 г., за год да сканчэння працы над «Дзесятаглавам». Тым больш цікава, што Мацвей падкрэслівае яго вялікакняскі тытул, ставячы яго на першае перад каралеўскім месца: «...при великом князи Александре, бывшим королем...». Згаданы далей Мікалай Радзівіл, які займаў другі паводле значнасці пост у дзяржаве (пасля вялікага князя),— асоба, якой не чужая была кніжнасць: вядомы перапісаны ў 1483 г. ягоным пісарам Васкам зборнік энцыклапедычнага зместу.

Як уяўляецца, ідэя скласці збор біблійных кніг на славянскай мове (а дакладней кажучы, мець свой, віленскі, як і ў Ноўгарадзе) калі не нарадзілася, дык, прынамсі, ажыццяўлялася з ведама вялікакняскага двара. Вялікі князь маскоўскі валодаў адзіным на той час поўным славянскім спісам Бібліі — Генадзіеўскім. Мець у дзяржаве поўны пераклад Бібліі было для праваслаўнай Літвы таксама моман-

там прэстыжным, асабліва з увагі на яе заўсёдныя прэтэнзіі на аб'яднанне рускіх земляў. Для вялікага князя літоўскага Аляксандра такая кніга была б важкім аргументам у палітычнай барацьбе са сваім цесцем, вялікім князем маскоўскім Іванам III.

Складальнік «Дзесятаглава» Мацвей Іванавіч паведамляе, што меў магчымасць пачаць працу: «...бе бо христолюбец, вельможа, писарь великого княжества литовского Федор». Згадка ў прыпісцы ў адным шэрагу пра вялікага князя, мітрапаліта, віленскага ваяводу і пісара, які быў адначасова вялікакняскім сакратаром, у якога Мацвей для працы над кнігай «испросих обрести от службы покоя», уяўляецца невыпадковай. Вялікакняская канцылярыя на пачатку XVI ст. дзялілася на рускую і лацінскую, пісары падпарадкоўваліся непасрэдна канцлеру, а пасаду канцлера — начальніка канцылярыі, захавальніка вялікай дзяржаўнай пячаткі — па традыцыі займаў віленскі ваявода. Хто ж быў пісар Вялікага княства Літоўскага Фёдар? Архіепіскап Філарэт, які вывучаў гэтае пытанне, лічыў, што Мацвея Дзесятага апекаваў пісар Фёдар Грыгор'евіч, «дзяржаўца» стокліішскі, які бываў з літоўскім пасольствам у Маскве, пад час перамоў аб шлюбе Алены, дачкі Івана III, з Аляксандрам Ягелонам у 1494 і 1495 гг. Праўда, далей Філарэт памылкова лічыў, што пісар Фёдар Грыгор'евіч і пісар літоўскага пасольства ў Маскву ў 1508 г. Федка Святоша — тая самая асоба. У сапраўднасці Федка Святоша быў пісарам караля Жыгімонта I у 1508—1511 гг.[1]. Што ж да пісара, «дзяржаўцы» стоклішскага Фёдара Грыгор'евіча, дык ён памёр у 1502 г., калі перапіска «Дзесятаглава» або не пачыналася, або толькі што пачалася. Ці быў ён апекуном Мацвея? Цалкам выключаць гэтага нельга. Аднак больш верагоднай уяўляецца кандыдатура другога пісара. Гэта Фёдар Янушавіч, сын пісара Янушка, «дзяржаўца» жыжморскі, скерстамонскі і ўладзімірскі, які быў пісарам і каралеўскім сакратаром у 1486—1507 гг. У прыпісцы, складзенай у 1507 г., вяльможа Фёдар названы «писар былыи»,— ужыванне формы «былыи» можна растлумачыць як паказанне на тое, што чалавек яшчэ жывы, у адрозненне ад «король бывший» — пра памёрлага Аляксандра Ягелона. Вядома, што на пачатку 1507 г. Фёдар Янушавіч робіць буйныя ўклады ў віленскі храм Раства Багародзіцы, дзе ён пабудаваў уласную капліцу, і ў саборную Уладзімірскую царкву[2]. Уяўляецца малаверагодным, каб пісар сам, без ведама мітрапаліта і вялікага князя, у якога ён быў сакратаром, а значыць, чалавекам даволі блізкім, даручыў некаму такую адказную працу, як складанне збору біблійных кніг. Але ў 1506 г. нечакана, ва ўзросце 46 гадоў, памірае кароль і вялікі князь Аляксандр Ягелон. На пасад абедзвюх дзяржаў уступае Жыгімонт I — яго родны брат, выхаваны ў Кракаве, які праводзіў крыху іншую, чым Аляксандр, усходнюю палітыку.

Пасля смерці караля Мацвей Дзесяты выязджае са сталіцы ў Супрасльскі манастыр, каб скончыць кнігу, карыстаючыся апякунствам Аляксандра Хадкевіча. У яго прыпісцы праглядаецца ўсведамленне важнасці зробленай справы: традыцыйнае пракляцце таму, хто «аддаліў» уклад ад царквы, і абяцанне рассудзіцца на страшным судзе маюць адну вельмі цікавую заўвагу — Мацвей дазваляе «аддаліць» кнігу, калі гэта спатрэбіцца «для великой церковной потребы».

Чаму ж для стварэння біблійнага збору быў выбраны Мацвей, чалавек свецкі? Вядома ж, таму, што Мацвей Дзесяты — выдатны

[1] Wolff I. Senatorowie i dygnitarze Wielkiego Księstwa Litewskiego. 1386—1795. Kraków, 1885. S. 261.
[2] Iasas R. Pergamentu katalogas. Vilnius, 1980. Psl. 74. № 171.

каліграф, чалавек шырокіх ведаў. Аднак можна меркаваць, што выбар пісарам Фёдарам выканаўцы велізарнай працы быў абумоўлены і тым, што Мацвей будзе абапірацца не толькі на свае веды, але і на аўтарытэт і веды сваіх дзевяці братоў і сёстраў, сярод якіх былі такія ўплывовыя асобы, як ігумен полацкага Прадцечанскага на Востраве манастыра Яўфімій, а што яшчэ важней — іераманах Хутынскага манастыра Нікіфар і ігуменя жаночага Прадцечанскага манастыра ў Тарапцы Ефрасіння. Для вялікага князя літоўскага такім чынам захоўваліся сувязі з землямі Ноўгарада Вялікага, якія нядаўна адышлі да Масквы. Пасля смерці Аляксандра Ягелона і высылкі Алены Іванаўны ў Глыбокае ўплыў праваслаўных магнатаў у Вялікім княстве зменшыўся. У 1514 г. дыякан мітрапаліта Іосіфа Солтана Фёдар закончыў перапіску (і пераклад) Пяцікніжжа Майсеевага і гістарычных кніг Бібліі (цяпер гэтая кніга захоўваецца ў БАНЛіт, F19—95), і так у Вялікім княстве Літоўскім з'явіўся поўны збор стара- і новазапаветных кніг. Аднак «великая церковная потреба» не ўзнікла, і шыкоўны кодэкс, перапісаны Мацвеем Дзесятым, заставаўся ў далёкім манастыры, згубленым у лясах Блудаўскай пушчы.

Праз тры гады пачалося друкаванне перакладу Бібліі, падрыхтаванае і ажыццёўленае Францыскам Скарынам. Характэрна, што пасля пашырэння кніг Скарыны іх часта перапісвалі, нярэдка капіруючы прадмовы і пасляслоўі,— ствараўся, такім чынам, новы від рукапіснай кнігі — спісы з кніг друкаваных. Перакладчыцкая і выдавецкая дзейнасць Скарыны ажыццяўлялася для багатых мяшчан і на іх сродкі: у прадмовах і пасляслоўях ён толькі аднойчы згадвае свецкую і ні разу царкоўную ўладу. Ужо адзін гэты факт паказвае, наколькі розніліся пазіцыі беларускага першадрукара і яго сучасніка — кнігапісца. Што да біблійных кніг, сабраных і перапісаных Мацвеем Дзесятым, дык можна пагадзіцца з тым, што яны ствараліся пад уплывам Генадзіеўскай бібліі, аднак не як спіс з яе, як лічыў І. Я. Яўсееў[1] і што катэгарычна абверглі А. А. Аляксееў і В. П. Ліхачова. Выкладзеныя вышэй назіранні паказваюць, што ўплыў быў «ад процілеглага»,— ствараўся яшчэ адзін збор, пад патранатам духоўнай і свецкай улады Вялікага княства Літоўскага. А канец арганічнаму існаванню і развіццю біблійных тэкстаў у іх рукапісным выглядзе паклала выдадзеная ў 1580—1581 гг. Астрожская біблія[2].

## ПАМЕННІКІ, АБО СІНОДЫКІ

Сярод іншых царкоўных кніг выдзяляюцца Паменнікі, або Сінодыкі. Шырокае іх распаўсюджванне ў старабеларускай кніжнасці вызначалася царкоўным правілам памінаць памерлых «за спачын душы» ў пэўныя дні сядмічнага і гадавога круга, часцей за ўсё па суботах, адсюль і другая назва Паменніка — Суботнік. Імёны для памінання запісвалі ў пэўнай паслядоўнасці, якая (пры нязначных разыходжаннях) заключалася ў наступным: спачатку служыцелі царквы паводле ранжыру (ад мітрапалітаў да дыяканаў), пасля свецкія ўладары, пасля астатнія ў храналогіі. Напрыклад, Супрасльскі памяннік меў такі склад: пасля агульнага памінання «цароў і царыц, князёў і княгінь, патрыярхаў, архіепіскапаў, епіскапаў, святароў, манахаў, дыяканаў і ўсіх хрысціян» названы пайменна 70 кіеўскіх мітрапалітаў, прычым Стэ-

[1] Евсеев И. Е. Очерки по истории славянского перевода Библии, Пг., 1916.

[2] Алексеев А. А. К истории русской переводческой школы XII в. // ТОДРЛ. Л., 1988. № 41. С. 158.

фан Каханевіч, перапісваючы Супрасльскі памяннік у 1631 г. з пергаміннага арыгінала ў новую, папяровую кнігу, надпісаў імёны і даты жыцця мітрапалітаў; 32 смаленскія і 2 валынскія архіепіскапы, пасля архімандрыты і ўсе браты Супрасльскага манастыра, пасля пералічаны члены сям'і Хадкевічаў — фундатараў манастыра, апошняю названа Людвіка Хадкевіч, якая памерла ў Чарнобылі ў 1816 г. Далей запісаны манашкі віленскага св. Троіцы і пінскага св. Варвары манастыроў, пасля іх «роды християнские ото всех краев, что записалися в книги сия общия» — усяго 279 родавых імёнаў. Сярод іх і такія, з якіх выйшлі вядомыя гістарычныя дзеячы, навукоўцы, рэвалюцыянеры, падарожнікі, літаратары: Абуховічы, Адынцы, Багушэвічы, Гарнастаі, Грынявіцкія, Дзялыгі, Еўлашоўскія, Кміты, Калантаі, Каляды, Лышчынскія, Мялешкі, Петрашэвічы, Петрашэўскія, Стэцэвічы, Тышкі, Трызны, Ходзькі, Чапліцы, Яблонскія і інш.

Паралельна з Паменнікамі-кнігамі бытавалі і някніжнага выгляду Паменнікі. Напісаныя на адным баку вузкага пергаміннага аркуша, з багатай арнаментацыяй, яны захоўваліся як сувой, які раскручваўся і чытаўся пры памінанні. Да такіх Паменнікоў, у прыватнасці, адносіцца Сангушкаўскі. Гэты тып Паменніка не прыжыўся і адносна рэдкі — галоўны недахоп заключаўся ў тым, што плошча аркуша была абмежаваная, і не было месца для ўпісання памерлых пазней членаў сям'і.

Самыя старажытныя з ацалелых беларускія Паменнікі датуюцца 1500 г. (Супрасльскі) і 1517 г. (Слуцкі). Больш раннім быў, магчыма, Полацкі памяннік, пра які згадваў В. Ластоўскі: «Рукапіс гэтага надзвычайна цікавага памянніка бачыў я ў 1912 годзе ў Барысаглебскім манастыры. Памяннік пачынаўся памінаньнем роду в. кн. Полацкіх, а ніжэй паміналіся роды кн. Менскіх-Глебавічаў, Лагойскіх, Вітабскіх, Друцкіх і інш. Кніга абыймала злішнім сто пэргаміновых лістоў, без канца; мела маляваныя па золаце застаўкі, здаецца, па пісьму, адносілася да XV — XVI ст. Пераховывалася ў цёплай царкве, у скрынцы з рожнымі старымі паперамі. Добра разгледзіць гэты памяннік не дала мне ігуменьня, быўшая прыдворная дама, нават пратэкцыя не памагла, казала, што яна мае перадаць памяннік нейкаму в. князю»[1].

У царкоўных і манастырскіх Паменніках рабіліся не толькі кароткія памінальныя запісы, адзначаліся таксама некаторыя гістарычныя падзеі. Напрыклад, на пачатку Супрасльскага паменніка паведамляецца пра заснаванне манастыра і пабудову цэркваў: «В лето от начала мира 1500 индикта 3, дозволением вельможного пана, его мосьци пана Александра Ивановича Ходкевича, началось создание этого монастыря в его ойчинной пуще Блудовской на краю речки Супряслы. Верою и любовью, желанием и трудами многогрешного священноинока игумена Пафнутия, родом с Бельска. И первее сложили небольшую церковь во имя святого Иоанна Богослова, а освящена названным метрополитом Иосифом, и трапезная на приход братии. Потом, в лето 1502 индикта 7 сделана была великая церковь Пречистой Богородицы честного ее благовещения с пределами великомучеников благоверных князей русских Бориса и Глеба, названных в святом крещении Романа и Давыда и преподобных святых отцев, строителей Печерских и начальников общему житию Антония и Феодосия богом спасаемого города Киева в Русской земле. Эта же церковь освящена была епископом нареченным митрополитом Киевским и всея Руси кир

[1] Ластоўскі В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. С. 487.

Ионой месяца октоврия в 15 день на память преподобного отца нашего Евфимия Нового и святого мученика Лукиана пресвитера великого антиохийского, индикта 7»[1].

Слуцкі памяннік захаваўся ў некалькіх спісах, у прыватнасці, нам вядома аб трох: найстарэйшы, 1517 г., захоўваўся ў Беларускім музеі імя Івана Луцкевіча ў Вільні, адзін быў у царкоўна-археалагічным музеі ў Менску і адзін у Варварынскай царкве ў Слуцку. Апошні перапісаны ў 1684 г. і мае такі загаловак: «Сынодик албо зобраніе імен преставленыхъ душъ, споражены в року 1684 іюліа 14 презъ отцевъ соборныхъ на тотъ часъ будучыхъ Саву Подтопу, Симіона, Ліонтія, Іоанна Мінкевичовъ, Матфея Богушевича и діакона Іакова Козюли». Пачынаецца Памяннік ад вялікага князя Альгерда, далей, пасля пералічэння мужчынскіх і жаночых імёнаў з роду Алелькавічаў, ідуць імёны князя пінскага Фёдара Яраслaвіча, менскіх князёў Глебавічаў, троцкага кашталяна Аляксандра Агінскага, шляхетных родаў Ваньковічаў, Барсуковічаў, Зверавых, Яцковічаў, Неміровічаў, Пажарыцкіх, Караткевічаў, Ляўковічаў, Лапіцкіх, працягваюць гэты спіс імёны слуцкіх мяшчан з прыпіскамі (калі памерлі, побач з некаторымі напісаны і прозвішчы) — усяго некалькі тысяч імёнаў. У менскім асобніку гэтага Паменніка ўпісаны імёны (82) манахаў Кіеўскага Пустынскага манастыра. Тут жа спіс граматы, якая сведчыць, што ў 1517 г. архімандрыт слуцкага Свята-Троіцкага манастыра і архімандрыт Свята-Мікольскага манастыра ў Кіеве дамовіліся аб бясплатным (!) упісанні братоў слуцкіх у Кіеўскі памяннік і кіеўскіх, адпаведна, у Слуцкі (пры ўмове атрымання пісьмовага пацверджання смерці), што само па сабе сведчыць пра сталыя кантакты (магчыма, пра наяўнасць паштовае сувязі) паміж Кіевам і Слуцкам.

Больш лакальнымі, чым згаданыя вышэй Супрасльскі, Полацкі або Слуцкі, былі Паменнікі Грозаўскага манастыра Іаана Прадцечы і Дзятлавіцкага Прэабражэнскага манастыра. Грозаўскі памяннік пачалі перапісваць не пазней 1759 г., і працягваецца ён да 1850 г., з 1760 г.— іншай рукою. Апроч клерыкаў, згадваецца род Васіля, гаспадара малдаўскіх земляў, гомельскага старасты пана Мікалая Красінскага (пасля яго імя дапісана: памёр у Менску ў 1730 г.), род пана Горвата, роды паноў Тукальскіх, Загароўскіх, Ступінскіх, Сілічаў, Міхала Лапіцкага, войта слуцкага, Якуба Ваўковіча, род львоўскага мяшчаніна Януша, капыльскага жыхара Зарубенкі і іншыя.

Дзятлавіцкі сінодык пачаў складаць іераманах Дыянісій Вараноўскі ў 1753 г., 17 снежня. Пасля пералічэння вышэйшых царкоўных дзеячаў — кіеўскіх мітрапалітаў — ён перапісвае ігуменаў і братоў Дзятлавіцкага манастыра, згадваецца іканапісец манах Мітрафан. Сярод свецкіх згаданы роды Дашкевічаў, Дабрыцкіх, Парэцкіх, Драздовічаў, Масловічаў, Кашынічаў з Турава, Стаднікаў з Давыд-Гарадка і інш.; запісы рабіліся да сярэдзіны XIX ст.

Яшчэ больш сціплы, чым папярэднія, Памяннік з Вялікай Рыты (цяпер вёска ў Маларыцкім раёне Брэсцкай вобласці). Апроч двух святароў, усе імёны ў ім належаць мясцовым сялянам з навакольных вёсак. На першай старонцы памінаюцца «убогие их же некому помянути, скитающіеся по улицахъ, въ ровъ упадаючые, и тые, которые не мели где головы притулити»[2].

«Нашы памяннікі — гэта «абразы без асоб», назовы, сэнс якіх страчаны: імёны, імёны — і больш нічога! Устаноўленьне рэальных

[1] Галоўны сабор Супрасльскага манастыра быў знішчаны ў 1944 г., Цяпер аднаўляецца.

[2] Скрынченко Д. В. Из истории Минского края // ЧОИДР. 1910. Кн. 3. Ч. 4. С. 1—7.

*Тытульны ліст Супрасльскага паменніка, перапісанага Стэфанам Каханевічам*

асоб, скрытых пад гэтымі імёнамі, сыстэматызацыя іх і пасьля дасьледаваньне, г. зн. спастаноўка цэлага раду прыватных і дробных фактаў, якія бы далі гэтым асобам гістарычныя комэнтары, пачэрпнутыя з рожных крыніц, і, урэшце, вывады з гэтай стугі фактаў, маючыя агульнае значэньне, вывады, выясьняючыя падробнасьці і асобнасьці цэлай групы гістарычных падзей, вось якая праца над памяннікамі чакае ў будучыне крыўскіх вучоных» — пісаў В. Ластоўскі[1]. Гэтая эмацыянальная рэпліка заклікае да гістарычных і генеалагічных даследаванняў і цалкам слушна падкрэслівае магчымы плён. Аднак нельга пагадзіцца з характарыстыкай Паменнікоў як «абразоў без асоб». Пачынаючы з сярэдзіны XVII ст. побач з імёнамі часта ўпісваюць і прозвішчы (родавыя) тых, каго памінаюць, і нават болей — Паменнікі ўвесь час пераглядаюцца, і пры магчымасці прозвішчы аднаўляюцца рэтраспектыўна. У прыватнасці, Стэфан Каханевіч, перапісваючы ў 1631 г. Супрасльскі памяннік, упісаў вядомыя яму прозвішчы. У тым самым 1631 г., пры архімандрыце Аляксеі Дубовічы, быў зроблены дадатак да Супрасльскага паменніка. Паміж 38-м і 39-м аркушамі быў уклеены аркушык паперы, на якім каліграфічна напісана: «Род из Торопца места из Москвы [у той час Тарапец ужо перайшоў з Вялікага княства Літоўскага ў Маскоўскае царства.— *М. Н.*] шляхетного Матвея Иоанновича, который написал и надал в монастырь Супрасльский книгу великую, рекомую Десятоглав. В лето от сотворения мира 7015, року господня 1507-го». На адвароце: «Смотри: этот род, может сто и больше лет не находился в памяннике Супрасльском среди записанных душ. И было ли какое-нибудь прежних строителей этой святой обители либо не было старание о поминании этого рода, Бог знает. Однако за повелением нынешнего его милости отца Алексея Дубовича, архимандрита Виленского и Супрасльского, ради не забвения и поминания здесь вписан». Чаму памяць пра Мацвея Іванавіча, або Мацвея Дзесятага, не была ўключана ў Супрасльскі памяннік адразу пасля яго смерці — дагэтуль застаецца загадкай. Магчыма, што ён, адышоўшы ў манастыр для кнігапісання, так і не прыняў пострыг (Мацвей Іванавіч — імя выключна свецкае, а іншага ён не паведамляе), і «непамінанне» было помстаю сучасных яму кіраўнікоў манастыра? Як бы там ні было, мы бачым, што праз сто з лішнім гадоў кнігапісныя працы Мацвея Дзесятага прынеслі яму і яго роду пашану і памінанне ў адным з найбуйнейшых і найбольш уплывовых базыльянскіх манастыроў Літоўскай правінцыі.

У першай палове XVIII ст. базыльяне стварылі новы тып Сінодыка: умоўна яго можна назваць Памяннік — зборнік жыццяпісаў. Адзін са спісаў гэтага Паменніка цяпер знаходзіцца ў Аддзеле рукапісаў Дзяржаўнай Публічнай бібліятэкі ў Ленінградзе (Польск. F.1.47). Пра кожнага ўпісанага ў Памяннік нябожчыка складзены асобны артыкул. Ёсць артыкулы невялікія — два-тры абзацы: характарыстыка па-

[1] Ластоўскі В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. С. 488.

*Старонка Супрасльскага памянні-ка з лістком-уклейкай, на якім пазначана імя Мацвея Дзесятага*



мерлага, колькі слоў памінання і дата смерці. Ёсць цэлыя біяграфіі, на 10—18 старонках *folio*,— яны часцей за ўсё прысвечаны епіскапам, мітрапалітам, архімандрытам манастыроў. Спіс, што захоўваецца ў ДПБ, мае на тытульным аркушы не толькі загаловак, але і кароткую прадмову ўкладальніка: «Pominnik abo wizerunk smiertelnosci Ludzkiey; Przez Opisanie Wielebnych Oycew y Braci zmarłych celnieyszych tylko y Pralatow w Zakonie S° Bazylego W° Począwszy od Roku przeszłego Tysiąc szesc set osmiedziąl Szostego, az do Roku teraznieyszego Tysiąc Siedmset dwydziestego Pierwszego. Od iednego Zakonnika tey ze Ruguły S° Oyca naszego Bazylego ktory zostawiony ku pamiątce OO y Braci pozostałey, aby za czytaniem tego pominnika, pamiętali, ze y sami smiertelni są ludzie, y w podobny Katalog zapisani będę, a iz będąc na swiecie zyc przestali, y pamiatke swoie tylko na papierze zostawili».

На адвароце тытульнага аркуша — тры распіскі, каторымі базыльяне Іосіф Сапаровіч, Кастусь Шацынскі і Сымон Міцкевіч сведчаць, што яны добра ведаюць — гэта кніга пісана ўласнай рукой нябожчыка Яна Альшэўскага, протакансультара ордэна і старэйшага тараканскага. Распіскі датаваны 1724 г. А побач зроблены запіс без даты і без подпісу: «...не так гэта: не яго рукой пісана, але рукой брата Філарэта Шукевіча, каторы ў Тараканах памёр 24 кастрычніка 1772 года». «Спрэчку прыпісак» вырашыў вядомы дзеяч ордэна базыльянаў, протакансультар Антон Завадскі. Ён працягваў складаць Памяннік, пры гэтым уключыў біяграфіі абодвух перапісчыкаў гэтай кнігі:

«Брат Філарэт Шукевіч... служыў старэйшым Закону [ордэна — *М. Н.*] у пытаннях права, бо быў знаўца і ўмеў гэта, застаючыся шмат гадоў пры Трыбунале Вялікага княства Літоўскага; найбольш працаваў пісаннем (бо меў харошы і беглы почырк), так і гэта самая кніга почыркам ягоным пісана ад старонкі першай і да старонкі 117-й; і для сябе шмат пісаў, рабіў нататкі, перапісваў, бо меў ахвоту і ніколі не ленаваўся. Кароткі тэрмін жыцця даравана яму: у 1722 годзе хварэў на сухоты альбо на які іншы падобны дэфект, дня 24 кастрычніка... адышоў.

Айцец Ян Альшэўскі, протакансультар ордэна. Той, хто гэту кнігу задумаў і сам уласнай рукой закончыў на апошняй старонцы... Меў правую руку высахлую, бо яшчэ ў маладыя гады, калі пан, якому ён служыў, напаў на госця, ён госця прыкрываў і атрымаў рассечаныя шабляй жылы на руцэ, якраз каля далоні... [далей расказваецца, як скалечаны малады чалавек некаторы час рыхтаваўся да навук, потым вучыўся на дзякана, потым, каля 1700 г., спецыяльная камісія засведчыла, што пры сваім калецтве ён усё ж можа выконваць абавязкі святара і веды мае для гэтага дастатковыя... У 1706 г. пасля смерці Гедэона Шумлянскага прызначаны суперыёрам мінскім, потым служыў у розных гарадах і манастырах.— *М. Н.*]... пісаў гэту кнігу, пісаў і пра грамадзянскую вайну ў Вялікім княстве Літоўскім у адменнай кнізе, названай «Абрыс дамовай нешчаслівасці», перапісаў сваёй левай рукой «Матрылогіум», альбо «Меналогі» на кожны дзень цэлага года жыція святых. Пісаў асобную кнігу «Пахвала мітрапалітам, ад часу святога злучэння Літвы і Русі з рымскім касцёлам»... Памёр у Быцені 9 кастрычніка 1723 г.

Невялікія, але вельмі характэрныя біяграфіі кнігапісцаў памежжа XVII і XVIII стст. Варта заўважыць, што Антон Завадскі, які скончыў пачатую Філарэтам Шукевічам і Янам Альшэўскім кнігу, перапісваў

*Спіс памерлых свяшчэннікаў у Жыровіцкім паменніку. Першая палова XVIII ст.*

*Базыльянскі памяннік, складзены Шукевічам, Аляшэўскім і Завадскім. У 1731 г. перададзены з Тараканаў у бібліятэку Жыровіцкага манастыра, «яко беспячнейшую»*



Сщ҃енны інокъ Макаріи.
Сщ҃енны інокъ Даніилъ.
Лѣта г҃дна Аѱли..
Сщ҃енны інокъ Станисла
Сщ҃енны інокъ Серафіонъ.
Сщ҃енны інокъ Іасонъ.
Сщ҃енны інокъ Іаковъ.
Сщ҃енны інокъ Аѳіанасіи
W: O: Antoni Zawadski Prot:
W: O: Josaphat Opoczki
W: O: Josef Ankudowicz
W: O: Sewerian Stepacki
W: O: Mattheusz Kowaczenko

*Тытульны ліст Зборніка Аляксандра Таміловіча. Брэст, 1696 г.*



не толькі гэты асобнік. В. Ластоўскі паведамляе пра Менскі памяннік (Суботнік), які пачаў складаць у 1610 г. архімандрыт Паісій Сахоўскі: «Гэты «Суботнік» дакончыў толькі сто гадоў спусця Антон Завадскі». З бібліятэчных запісаў на тытульным аркушы Паменніка, які захоўваецца ў ДПБ, можна рэканструяваць шлях гэтае кнігі: у 1729 г. перададзена з бібліятэкі Тараканскага манастыра ў бібліятэку манастыра Быценскага. Калі Антон Завадскі стаў вікарыем базыльянскага ордэна, ён загадаў перанесці кнігу ў бібліятэку Жыровіцкага манастыра «яко безпячнейшую», што і было зроблена 26 лютага 1731 г. Як рукапіс трапіў у Пецярбург, у Імператарскую Публічную бібліятэку, дакладна не вядома. Можна меркаваць, што з паперамі царкоўнага гісторыка М. Каяловіча, пасля яго смерці.

У зборах Ленінградскага аддзялення Інстытута гісторыі АН СССР захоўваецца цяпер варыянт кароткага базыльянскага Паменніка — кніга з арыгінальным манастырскім пераплётам (цісненне выканана па кардоне), падараваная 21 красавіка 1721 г. Мітрафану Зеніхоўскаму, жыровіцкаму закрыстыяну братамі Тараканскага манастыра. Памяннік гэты ахоплівае перыяд ад 1686 да 1721 гг., але называе толькі 117 імёнаў, падаючы кароткія жыццяпісы. Было пакінута месца для працягу, аднак працягу ніхто не пісаў, і кніга перададзена ў бібліятэку Жыровіцкага манастыра (ёсць бібліятэчная азнака і шыфры), маючы тыя самыя храналагічныя межы, ад пачатку да канца перапісаная адной рукою (мяркуючы па почырку, гэта рука Філарэта Шукевіча, пра якога згадвалася вышэй)[1]. Апроч кароткага Паменніка, існавалі «Каталогі памерлых базыльян Літоўскай правінцыі» — прыкладам можа быць «Catalogus Defunctorum Patrum Provinciae Litvaniae» — больш за 750 імёнаў, запісаных у храналогіі ад 1771 да 1815 гг., альбо «Каталог памерлых Метрапалітаў, Архіепіскапаў, Епіскапаў, Архімандрытаў, Ігуменаў і іншых айцоў і братоў закону св. Васіля Вялікага, кангрэгацыі на Святой Троіцы ад капітулы Генеральнай у Наваградку ўрачыста праведзенай у 1630 годзе», які ахоплівае храналогію ад 1703 да 1781 гг. і ўлічвае больш за 700 імёнаў і прозвішчаў[2]. Побач з імем і прозвішчам пад адпаведным годам пазначаецца месца смерці — Брэст, Жыровіцы, Чарэя, Быцень, Лаўрышава, Наваградак, Ружаны, Полацк, Ушачы, Вільня, Мсціслаўль, Ракаў, Беразвеч, Бяла. Іншых звестак у «Каталогах» няма. У XVIII — XIX стст. базыльяне складалі таксама каталог памерлых з кароткімі біяграфіямі, пададзены ў алфавітным парадку прозвішчаў: ад «A» да «Z». Адзін з такіх каталогаў (няскончаны), які ўяўляе сабой вялікі том у скураным пераплёце (334 аркушы *folio*), захоўваецца ў зборах епіскапа Дабрахотава[3].

Апроч славянскіх богаслужэбных кніг, на беларускіх землях бывалі і лацінскія, звязаныя з пашырэннем каталіцызму. Яшчэ ў 1250 г. вялікі князь Міндоўг прыняў каталіцтва ў Наваградку, хоць праз 11 гадоў вярнуўся ў язычніцтва, і біскуп Хрысціян быў выгнаны з Наваградка. Да гэтага часу, відаць, і трэба аднесці з'яўленне каталіцкіх богаслужэбных кніг на беларускіх землях. У 1323 г. у лістах Гедыміна згадваюцца тры касцёлы, у Наваградку і Вільні, пры якіх існавалі манаскія суполкі дамініканаў і францысканаў[4]. Пасля прыняцця каталіцтва Літвою ў 1386 г. князь Ягайла пабудаваў касцёлы ў Мерачы, Крэве, Брэсце, Гайне, Менску, Абольцах; Вітаўт — у Ашмянах, Гародні, Слуцку, Полацку. У далейшым каталіцызацыя пашыралася, узніклі

[1] ЛАІГ, архіў, ф. 52. Добр., воп. 1, № 363.
[2] Тамсама. № 266, 285.
[3] Тамсама. № 305.
[4] Gedimino laiškai. Vilnius. 1962.

дзесяткі манастыроў (кляштараў) і сотні касцёлаў, якія належалі васемнаццаці мужчынскім і сямі жаночым ордэнам: езуітам, бернардынам, дамініканам, францысканам, кармелітам, бенедыктынам, цыстэрыянам, місіянерам, піярам, рахітам, марыянам, картэзіянам, аўгустыніянам, камедулам, рэфарматам, трынітарыям і баніфратрам. У першай палове XVIII ст. у 16 беларускіх дэканатах было ўжо 270 касцёлаў[1].

Паўстала задача забеспячэння створаных і тых, што яшчэ меліся быць створанымі, касцёлаў кнігамі. Каталіцкая богаслужэнне правілася на лацінскай мове, а традыцыі вытворчасці (перапіскі) лацінскай кнігі на беларускіх землях не было. Таму попыты на Антыфанарыі, Брэвіярыі, Цырыманіялы, Градуалы, Лекцыянарыі, Матрылогіі, Пасіянарыі, Патраналы брэвіярныя і служэбныя, Працэсіяналы, Рытуалы і іншыя богаслужэбныя кнігі задавольваўся за кошт набытых або заказаных з цэнтральных кляштараў розных ордэнаў, размешчаных па ўсёй Цэнтральнай і Заходняй Еўропе. Ад канца XIV ст. пры каралеўскім двары ў Кракаве існавала група капіістаў-каліграфаў. Польскі кнігазнавец Э. Паткоўскі, спасылаючыся на сведчанне Яна Длугаша, лічыць, што аб'яднанне капіістаў, вядомых з крыніц пад імем «катэдралісі», было акцыяй касцельна-місіянерскай, якая мела за мэту пашырэнне кніг у новазбудаваных касцёлах Русі і Літвы. Як прыклад ён падае працу алтарыста Марыяцкага касцёла ў Кракаве майстра Барталамея, які выканаў у 1483 г. Антыфанарый на заказ наваградскага старасты Марціна Гаштольда[2]. Пазней у беларускіх кляштарах ствараліся рукапісныя кнігі на лацінскай і польскай мовах. Пасля пашырэння кнігадрукавання асноўная частка богаслужэбных кніг увозілася з Польшчы. Друкаванне каталіцкіх Служэбнікаў у Вільні пачалося толькі ў XVII ст. і было невялікае ў параўнанні з кароннымі асяродкамі як у рэпертуары (4 назвы), гэтак і ў колькасці выданняў (11 віленскіх супраць 79 каронных).

## АГІЯГРАФІЧНЫЯ І ПРЫРОДАЗНАЎЧЫЯ ЗБОРНІКІ

Важнае месца ў рэпертуары беларускіх рукапісных чытальных кніг займалі патрыстыка і агіяграфія. Агіяграфічныя зборнікі — Пролагі, Мінеі-чэцці, Таржэственнікі, «Залатаструі» і іншыя — паводле манастырскага статута належала чытаць уголас на брацкай трапезе і іншых «саборах» манахаў. Мноства займальных сюжэтаў і апісанняў жыццёвых сітуацый, аж да побытавых, спрыялі іх папулярнасці і па-за мурамі манастыроў. Адукаваныя і багатыя набожныя свецкія людзі чыталі гэтыя зборнікі ў сваіх дамах; гэта было зручна, бо тэкст размяшчаўся паводле каляндарнага прынцыпу і на кожны дзень прапанавалася ладная порцыя разнастайнага паводле жанраў чытання.

Найранейшая з ацалелых чытальных кніг агіяграфічнага зместу— пергамінны кодэкс XIV ст., які змяшчае «Беседы святаго Григорія» — Грыгорыя, папы рымскага — аднаго з айцоў царквы. Гэтая кніга паходзіць з Супрасльскага манастыра, яна была спісана з больш старажытнага арыгінала паўднёва-славянскага паходжання. Сярод чытальных кніг на беларускіх землях былі вядомыя таксама творы Грыгорыя Дваяслова, «Настаўленні» і словы аб пасніцтве Авы Дарафея і спісы жыцця Савы Сербскага — малодшага сына Стэфана Немані, брата пер-

[1] Мараш Я. Н. Экспансия католической церкви в Белоруссии в XVI — XVIII вв. Мн., 1975. С. 13.

[2] Potkowski E. Książka rękopiśmienna w kulturze Polski. Warszawa, 1984. S. 108.

*Старонка Кіева-Пячэрскага патэрыка. Жыровіцкі спіс. XVI ст.*



шага сербскага караля. Зборнікі жыцій складалі Патэрыкі, паводле зместу змешчанага матэрыялу яны дзеляцца на тэрытарыяльныя: Егіпецкі, Ерусалімскі, Рымскі, Сінайскі, Кіева-Пячэрскі, а таксама на зборныя: Алфавітны і Скіцкі. Часам кнігапісец рабіў выпіскі з розных Патэрыкоў, складаючы патрыстычны зборнік; прыкладам такой кнігі можа служыць перапісаны ў Слуцку ў 1487 г. патрыстычны зборнік (цяпер захоўваецца ў АР ДПБ, Q.1.1410). Адна кніга магла змяшчаць два Патэрыкі, як, напрыклад, зборнік з Супрасльскага манастыра (БАНЛіт, F 19—85). Творы для складання рукапісных зборнікаў кніжнікі бралі першапачаткова толькі з адзінага гамілетычнага фонду перакладных твораў. У далейшым гамілетычны фонд пашыраўся за кошт твораў арыгінальных.

У Новасібірску, у зборы М. Ціхамірава, захоўваецца пад № 309 вялікі зборнік «Житія святых», які налічвае 434 старонкі. Сярод іншых жыцій і цудаў для нас асаблівую цікавасць уяўляюць апісанні дванаццаці «цудаў Міколы Цудадзея ў Лукамлі». «Цуды» прывязаны да канкрэтнага гістарычнага часу і канкрэтных геаграфічных пунктаў. Напрыклад: «Чудо одиннадцатое святого отца Николы. А это чудо новое, створилося святым Николой в Литовской земле при князе Витовте Кейстутовиче в лето 6000 и девятьсотое [1392 г.— *М. Н.*]. Святой Никола явился Парфену в Лукомле и вестует ему так: маловер, спиш ли ты? Он же говорит: не сплю. И говорит ему святый Николае: Знаеш ли меня? Он же говорит: не знаю. И говорит: Аз святой Николай Жидиченский, и пришол в Лукомль. И ты передай игуменам и попам и всем христианам лукомлянам, чтобы поставили церковь в мое имя на том месте возле ледника на горке и хочу тут быти. И это им скажи. А еще иду в Полоцк, ибо размножились беззакония: целуют крест и изменяют — хочу покарать тех». Безумоўна, наяўнасць у тэксце падрабязнасцяў, якія лёгка было б праверыць, накшталт «ледника на горке», сведчыць пра тое, што складальніку тэксту Лукомль быў добра знаёмы. Змест дванаццатага «цуду» святога Мікалая заключаецца ў тым, што да яго прыходзяць хворыя, якіх ён вылечвае; у хворых не бачаць вочы, яны «не владеют ни рукой ни ногой», «мучимы от беса». Называючы гарады і вёскі, з якіх прыйшлі на вылячэнне ў Лукомль хворыя, складальнік тэксту акрэслівае даволі шырокі рэгіён. Названы Масква, Дарагабуж, Смаленск, Славенск, Менск, Друцк, Орша, Барысаў і шмат маленькіх вёсак і паселішчаў[1]. Характэрна, што названыя населеныя пункты размешчаны па розныя бакі мяжы Вялікага княства Літоўскага і Маскоўскай Русі, аднак аўтар (і перапісчык зборніка) ніводнага разу пра гэта не згадвае.

У нетрах базыльянскага ордэна, які ў абраднасці ішоў за традыцыямі візантыйскай царквы, да XVIII ст. узнікла ідэя стварэння свайго Патэрыка. Пачатак гэтай працы ілюструе рукапіс, які захоўваецца цяпер у ЦДГА СССР у Ленінградзе. Называецца ён «Кніга жыцій святых базыльянаў на ўвесь год размеркаваных». Апроч жыцій базыльянскіх законнікаў (сам ордэн быў створаны параўнаўча позна, у XVI ст., у сувязі з прыняццем Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 г.), зборнік уключае і жыцці выдатных раннехрысціянскіх падзвіжнікаў: Іаана Дамаскіна, папы рымскага Георгія III і іншых. Пры гэтым у кнізе шмат падкрэсліванняў, зроблены папраўкі, некаторыя мясціны выкраслены невядомым рэдактарам — шматлікія сляды творчай працы носіць гэты асобнік (ЦДГА, ф. 823, воп. 3, № 1250).

[1] Тихомиров М. Н. Описание Тихомировского собрания рукописей. М., 1968.

Сярод чытальных кніг важнае месца належыць гадавым цыклам— Пролагу і Мінеям-чэццім. Пролаг — гэта царкоўна-навучальны зборнік, прататыпам для якога паслужылі грэчаскія Міналогіі і Сінаксары. Паводле зместу пролажныя чытанні распадаюцца на тры групы: жыції святых, павучэнні і навучальныя аповесці і апавяданні. Апошнія запазычаны, галоўным чынам, з розных Патэрыкоў. Увесь матэрыял для чытання — аповесці, казанні, жыціі, навукі — быў адносна раўнамерна размеркаваны ў Пролагу па ўсіх 366 днях (уключна з 29 лютага) старакаляндарнага года, з 1 верасня да 31 жніўня. Старaславянскія назвы месяцаў, што ўжываліся пры гэтым, сталі пазней асноваю сучасных беларускіх назваў месяцаў. Характэрна, што падобныя назвы ўжываюць да сёння і на Украіне, у Літве і Фінляндыі, аднак назвы месяцаў, што адпавядаюць каляндарнаму цыклу, крыху адрозніваюцца ў розных кліматычных зонах. Для параўнання падаем табліцу назваў месяцаў, складзеную па Пролагах беларускага паходжання і паралельна прыводзім сучасныя літоўскія, украінскія, фінскія і польскія назвы.

*Назвы месяцаў у славянамоўных беларускіх Пролагах. Паралельна падаюцца сучасныя назвы месяцаў суседніх з беларусамі народаў*

| Беларускія | Славянскія | Літоўскі | Украінскія | Польскія | Фінскі |
|---|---|---|---|---|---|
| Студзень | Просинец | Sausis (сухі) | Січень | Styczeń | Tammikuu (месяц дуба) |
| Люты | Просинец | Vasaris | Лютий | Luty | Helmikuu (месяц, калі дрэвы пакрываюцца ільдзінкамі ) |
| Сакавік | Сухый | Kovas (грак, грачыны месяц) | Березень | Marzec | Maaliskuu |
| Красавік | Березозол | Balandis (голуб, месяц галубоў) | Квітень | Kwiecień | Huhtakuu (месяц падсекі) |
| Май | Травень | Gegužе (зязюля, месяц зязюлі) | Травень | Maj | Toukokuu (месяц яравых) |
| Чэрвень | Ізок | Biržеlis (месяц бярозы) | Червень | Czerwiec | Kesäkuu (месяц лета) |
| Лі | Червень | Liepa (ліпа, месяц ліп) | Липень | Lipiec | Heinäkuu (месяц сена) |
| Жнівень | Зарев (Зарень) | Rugpjutis (месяц жніва) | Серпень | Sierpień | Elokuu (месяц, калі жнуць жыта) |
| Верасень | Рюин | Rugsejius (месяц севу азімых) | Вересень | Wrzesień | Syykuu (месяц восені) |
| Кастрычнік | Листопад | Spalis (месяц кастры) | Жовтень | Październik | Lokakuu (месяц слякаці, гразкі) |
| Лістапад | Грудень | Lapkritis (месяц, калі ападаюць лісты) | Листопад | Listopad | Marraskuu (месяц, калі ўсё мёртвае) |
| Снежань | Студень | Gruodis (месяц, калі зямля цвярдзее як скарынка) | Грудень | Grudzień | Jdukuu (свята Jolu — дзень зімовага сонцастаяння) |

Папулярнасць Пролага была вельмі высокая: «Пролагі для нашых продкаў былі настольнаю кнігай, з якой, як са зборніку, у выпісках, яны знаёміліся з усімі важнымі творамі старажытнахрысціянскай літаратуры, якія перайшлі да нас з Візантыі... Нашы старажытныя пісьменнікі, збіраючыся нешта тварыць, натуральна перабывалі пад уплывам Пролагаў, бо чыталі іх штодзённа, размяркоўваючы сваё чытанне па днях і месяцах Пролага»[1]. Своеасаблівасць пролагавай формы апавядання адзначыў Л. Талстой. Высока ацэньваючы Мінеі-чэцці і Пролаг, ён пісаў: «Выключаючы цуды, гледзячы на іх як на фабулу, якая выказвае думку, чытанне гэтае адкрывала мне ісціну»[2].

Пролаг быў менавіта такой кнігай, якая напалову ў рэлігійнай, напалову ў белетрыстычнай форме гаварыла пра жыццё і ўзаемаадносіны людзей розных пластоў грамадства, пра паводзіны чалавека ў сям'і і на людзях, яго абавязкі перад правіцелямі, царквою, перад залежнымі ад яго людзьмі. У Пролагу мы бачым якраз тое, пра што кажа Ф. Энгельс: «...тут інтарэсы, патрэбы і вымогі паасобных класаў» падаюцца «пад рэлігійнаю абалонкай»[3].

У павучаннях і апавяданнях Пролага сурова асуджаецца ганарлівасць, пыха, падман, зайздрасць, варожасць і сварлівасць, жорсткасць і ўсялякі прыгнёт. Незаконна нажытае багацце разглядаецца ў Пролагу як від рабунку, прысваенне сабе агульнай маёмасці: «мздоимец и резоимец и сребролюбец и грабитель» — чатыры колы адной калясніцы, якой кіруе вознік — сатана, гаворыцца ў навуцы 13 красавіка. Асуджэнню падлягаюць не толькі свецкія феадалы з іх жорсткасцю, абжорлівасцю і эгаізмам. Асуджаюцца таксама і «князі царквы», якія забываюцца пра свае абавязкі і пра дапамогу тым, хто церпіць нястачу. Вартае ўвагі апавяданне 18 кастрычніка пра ігумена, які не прыняў убогага падарожніка, старца, у вобразе якога хаваўся сам Хрыстос. Ігумен мае за лепшае прабаўляць час у размовах са знатнымі і багатымі людзьмі, сам выходзіць насустрач князю і частуе яго шыкоўным абедам, а на сціплую просьбу старца выслухаць яго не звяртае ўвагі. Падарожнік пайшоў, сказаўшы брамніку, што ў гэты дзень Хрыстос адышоў ад іх манастыра.

Асаблівае месца займае ў Пролагу тэма пра міласціну. Міласціна разглядаецца як канкрэтная праява міласэрнасці, клопату аб чалавеку. Нават выпадкова кінуты ўбогаму кавалак хлеба залічваецца, у вачах «боскага правасуддзя», на карысць грэшнаму чалавеку (слова пра Пятра-мытніка 22 верасня). Свае павучанні Пролаг пацвярджае прыкладамі: малюе вобразы «добрых хрысціян», як правіла, простых людзей — напрыклад, ювелір Зянон, які палічыў за лепшае страціць вока, чым упасці ў грэх чужаложніцтва (7 кастрычніка). У Пролагу праводзіцца думка, што манаскі зарок — не адзіны шлях да збаўлення. Манахам і пустэльнікам часта ставяцца ў прыклад людзі, якія жывуць свецкім жыццём. Усё залежыць ад таго, як чалавек будуе сваё жыццё. «Не соблажняй, брате, своего ума, на всяком месте обретается спасение... Место убо никого не спасает, но дела...» (16 красавіка).

Большая частка павучанняў у Пролагу — навукі добрых спраў, неабходных для чалавека штодзённа. Павучанні нагадваюць пра кароткасць зямнога жыцця, заклікаюць не асуджаць бліжняга, прабачаць крыўды, клічуць да цярпення, незласлівасці, паслушэнства, сціпласці, няспыннай працы як асновы існавання. Праца земляроба прыпадабняецца ў Пролагу да подзвігу манаха-пустэльніка, бо земля-

[1] Буслаев Ф. И. Исторические очерки русской народной словесности и искусства. СПб., 1861. Т. 2. С. 126—127.

[2] Толстой Л. Н. Полн. собр. соч. М., 1957. Т. 23. С. 52.

[3] Маркс К., Энгельс Ф. Соч. Т. 7. С. 360.

роб, як і манах-пустэльнік, любіць «пустэльню» больш за дом, церпіць ад спёкі і непагадзі. Пладамі сваёй працы ён жывіцца сам і жывіць іншых. У Пролагу ўхваляецца любая праца: гадоўля жывёлы, гандаль, хатняя праца жанчыны (прадзенне і інш.), аднак разам з тым гаворыцца, што кожны мусіць частку сваёй працы аддаваць царкве і дапамагаць тым, хто церпіць нястачу.

Шэраг навук Пролага прысвячаецца «наказанию чад» (8 і 26 ліпеня), шанаванню бацькоў («Слово яко подобает чтити отца и матерь», 28 чэрвеня), і паводзінам у сям'і («Слово о женитьбе і любодеянии», 24 жніўня). Ёсць адмысловыя павучанні «о почитании книжном» і «о мирном житии». У Пролагу малююцца не толькі ідэальныя або рэзка адмоўныя вобразы. Вельмі часта мы бачым у ім звычайных людзей, з іх чалавечымі слабасцямі і сумненнямі. Такі, напрыклад, манах, які аддаў сваё адзенне ўбогаму. Спачатку ён аддаў горшае, але пасля пасаромеўся і аддаў лепшае. Убогі прадаў адзенне, і манах выпадкова ўбачыў яго ў жанчыны. Ён зноў сумняваецца — ці варта было аддаваць убогаму добрае адзенне. Тады яму ў сне з'явіўся Хрыстос, убраны ў яго адзенне, і такім чынам пераканаў яго, што даючы ўбогаму, чалавек дае самому Хрысту. Усяго даследчыкі налічваюць у Пролагу больш за 2000 літаратурных сюжэтаў; пераклад гэтага зборніка на славянскую мову быў зроблены ў X — XI стст.[1].

Са спісаў Пролага, што бытавалі на беларускіх землях, найранейшы на паперы быў створаны ў 1406 г. «желанием пана Солтана Солтановича», намесніка бельскага. Кніга гэтая, памерам *folio*, мае 516 аркушаў і змяшчае тэксты за сакавік — жнівень, г. зн. другую палову вераснёвага года, а таксама гісторыю роду Солтанаў[2].

Поўны цыкл Пролага, які дайшоў да нашых дзён, перапісаны ў раёне Навагрaдак — Лаўрышава калектывам пісцоў пад кіраўніцтвам дыякана Іаакіма пры навагрaдскім ваяводзе Яне Янавічы Забярэзінскім у 1512 г. У тым самым годзе частка кнігі (месяцы верасень — люты) была пераплецена «иереем Перфирием иж в Любчи». Тэкст Пролага ў некалькіх мясцінах мае праўку (арк.354, 392 адв., 426, 437адв., 465, 573), а ў прыпісцы ёсць заўвага, з якой вынікае, што ў нейкі момант сваёй гісторыі кніга трапіла ў Вільню і была «слествована» (праўлена) нейкім дыяканам Ігнатам. Застаецца высветліць, калі і як адбылося гэтае падарожжа і чаму яно магло быць адзначана ў прыпісцы Іаакіма.

Адказ мы мяркуем знайсці, супаставіўшы тэкст прыпіскі Навагрaдскага пролага са зместам сучаснага яму юрыдычнага дакумента. У прыватнасці, у маі 1522 г. святаром царквы св. Георгія ў Вільні быў складзены тэстамент, у якім сярод маёмасці згадваецца «книжица... што небожчик Игнат дьякон писал, будучи архимандрит в Лаврашовом монастыри»[3]. Такім чынам мы даведваемся пра існаванне кніжніка Ігната, будучага архімандрыта ў Лаўрышаве (упамінанне яго імя як кнігапісца ў тэстаменце можа быць сведчаннем асаблівай павагі да нябожчыка). Лаўрышаўскі архімандрыт у той час быў асобаю, набліжанай да мітрапаліта Іосіфа Солтана; вядомы, у прыватнасці, дакумент, які пацвярджае яго прысутнасць на мітрапалітавым судзе ў Вільні ў 1511 г. Бясспрэчна і яго вядучае становішча сярод навагрaдскага клеру. Карціну стварэння Навагрaдскага пролага можна, у выніку, уявіць наступнай: спачатку група перапісчыкаў «старанием многих дьяков» на чале з Іаакімам у Навагрaдку або Лаўрышаве «спі-

[1] Литературный сборник XVII века. Пролог. М., 1978.
[2] Цяпер кніга захоўваецца ў БАНЛіт, F19-100.
[3] Завещание иерея церкви Георгия в Вильне // Литовские епархиальные ведомости. 1867. № 13. С. 555.

сала» кнігу, пасля дыякан Ігнат узяў рукапіс у Вільню і там яе «слествовал» паводле нейкага арыгінала (арыгіналаў), а пасля, вярнуўшыся з Вільні, Пролаг быў завераны прыпіскай, якая адзначыла «слествование», і аддадзены ў пераплёт.

Універсальнаю кнігай, якая змяшчае каляндарныя чытанні на цэлы год, былі таксама Мінеі. Служэбная Мінея прымянялася для богаслужэння, Мінеі-чэцці — для хатняга і келейнага чытання. Усяго да нашых дзён захавалася больш за 50 спісаў Міней. Найбольш ранні спіс, які бытаваў на беларускіх землях (т. зв. Супрасльскі зборнік), адносіцца да найбольш ранніх кірылічных славянскіх помнікаў і датуецца X ст. Месцам яго стварэння даследчыкі лічаць паўднёваславянскія (балгарскія або сербскія) землі. Спіс захоўваўся ў Супрасльскім манастыры, адкуль быў узяты Міхаілам Баброўскім у першай чвэрці XIX ст. Беларуская рэдакцыя Мінеяў, як і беларуская рэдакцыя Пролага, абавязкова змяшчае памяці мясцовым святым: Ефрасінні Полацкай (23 мая) і віленскім пакутнікам Іаану, Антонію і Яўстафію, «литовскія ж им имена Круглец, Кумец и Нежило» (14 студзеня)[1]. Апроч гэтага, беларуская рэдакцыя Пролага ўключыла запазычанае з Кіева-Пячэрскага патэрыка «Слово о черноризце Арефе и еже благодари Бога о погибшем имении, а не скорбети». Сюжэт гэтага «Слова...» — сцэна з жыцця аднаго з манахаў Кіева-Пячэрскага манастыра Арэфы, родам палачаніна. Арэфа багаты і скупы, не адгукаецца на просьбы бедных. Але аднойчы ўначы яго келлю абрабавалі злодзеі, і Арэфа, смуткуючы аб страчаным багацці, захварэў і ледзь не трапіў ва ўладу д'ябла. «Празерыўшы» і пераацаніўшы тое, што адбылося, Арэфа пачынае дзякаваць Богу за пакрадзеную маёмасць, перастае імкнуцца да багацця, выздараўлівае і прыходзіць да справядлівага ладу жыцця.

Цікавую прыпіску, прысвечаную падзелу Царквы на Заходнюю і Усходнюю, змясціў перапісчык Мінеі-чэцці ў канцы жыція Кірыла Філосафа: «...потом минувши многим летом пришед Воитех бискуп латынский, у мурав и в чехи и в ляхи. Веру русскую, науку и писмо отверже, латынскую веру и грамоту устави, а правоверные епископы и попы изсече [у вынасцы: «не правда».— *М. Н.*], а иных разогна и иде у прускую землю хотя их у свою веру привести, и тамо вбиен быс»[2]. Сярод мінейных чытанняў захавалася нямала літаратурных помнікаў мясцовага паходжання або звязаных з беларуска-літоўскімі землямі. У прыватнасці, адзін з ранніх спісаў жыція літоўскіх пакутнікаў Антонія, Іаана і Яўстафія змешчаны ў спісе Мінеі месячнай за лістапад — снежань, які паходзіць са Слуцка (БАНЛіт, F19—147; 19 снежня), у Мінеі агульнай XVIII ст. змешчаны спіс казання «О хождении Богородицы по муках» (БАНЛіт, F19—137). Традыцыйнае жыціе нагадвае і трохчасткавая па структуры «Повесть про Меркурия Смоленского» — уступ, апавяданне пра подзвіг святога і пасмяротныя цуды. Параўнаўчы аналіз вядомых да сённяшняга дня спісаў беларускай рэдакцыі (ЦДГА, ДГМ, ДПБ) і мінейнай рэдакцыі паказаў, што час і ўмовы іх стварэння, верагодна, адны; да іх быў блізкі і спіс Мінеі Смаленскай духоўнай семінарыі № 78, які страчаны разам з бібліятэкай семінарыі ў час Другой сусветнай вайны.

[1] Кананізацыя віленскіх пакутнікаў была праведзена кіеўскім мітрапалітам Аляксеем у 1355 г. У XVIII ст. езуіт Мацей Казімір Сарбеўскі пераклаў жыції на лацінскую мову і адаслаў баландыстам у Рым, заверыўшы подпісамі і пячаткамі Георгія Тышкевіча і віленскага біскупа Яўстафія Валовіча. Яны былі апублікаваны ў: Acta Sanctorum quotquot toto orbe coluntur, vel a catholicis scriptoribus celebrantur, quae exantiquis Monumentis Latinis, aliarumque Gentium collegit, digessit, Notis illustrawit Joannes Bollandus S. I. Theologus, operam et studium contulit Godefridus Hensсheniuns. Tomus primus Ianuarii. Venetiis, MDSSXXXIV. S. 931 a.

[2] БАНЛіт, F19-80, арк. 505 адв.

У акадэмічнай «Истории белорусской дооктябрьской литературы» за адзінку літаратурнага працэсу бяруцца або адзін твор («Пахвала», «Кроніка», «Інтэрмедыя» і г. д.), або творчасць аднаго чалавека (Кірыл Тураўскі, Францыск Скарына і інш.). Зборнікі, у якіх змешчаны розныя творы, не вывучаюцца як з'ява кніжнай культуры і як адзінка літаратурнага працэсу. Між тым у XV — XVII стст. ствараліся шматлікія зборнікі, або «Ізборнікі», кожны з якіх прадстаўляў характэрную «адзінку» старабеларускай літаратуры. Яны працягвалі традыцыю, распачатую яшчэ ў Старажытнай Русі «Ізборникам» Святаслава. Кожны «кнігалюбец» спісваў толькі тыя артыкулы, у якіх меў крайнюю неабходнасць або якія ўвогуле адпавядалі яго густам ці нечым падабаліся. «З такіх выпісак «выбранага» і складаліся «Ізборнікі», якія ўяўлялі сабою свайго роду энцыклапедыі, што задавальнялі ўсе разумовыя запатрабаванні таго часу, але ў той самы час насілі на сабе сляды індывідуальных асаблівасцяў збіральніка. У гэтым апошнім дачыненні яны вельмі цікавыя, бо даюць магчымасць меркаваць аб тым, што ў пэўную эпоху цікавіла нашых продкаў, якія праблемы іх хвалявалі, якое чытанне мела поспех, так што, маючы пад рукамі больш ці менш удала і поўна складзены зборнік, можна часам з дакладнасцю вызначыць увесь светапогляд збіральніка»[1].

Флавіян Дабранскі адзначаў, што ў старажытнай царкоўнаславянскай літаратуры ёсць некалькі такіх зборнікаў, якія, будучы раз складзеныя па тых або іншых матывах, ужо нязменна захоўвалі на будучы час свой склад, ператвараліся, так бы мовіць, у асобныя рукапісы, якія пасля спісваліся без ніякіх змен або з самымі нязначнымі зменамі. Такая нязменнасць іх складу была выклікана або тым, што ў іх вельмі ўдала былі падабраны артыкулы, якія заключалі ў сабе адказы на ўсе пытанні дапытлівага розуму, або тым, што яны складаліся з найлепшых твораў любімых аўтараў і прапаведнікаў. Да такіх зборнікаў адносяцца і «Ізборник» Святаслава, складзены ў X ст. і неаднаразова пасля капіраваны, і ўсе гэтак званыя «Залатаструі», «Ізмарагды», «Маргарыты», «Залатыя чэпі» і да т. п.

Такім чынам, зборнікі дзеляцца на дзве группы: адна складаецца са зборнікаў выпадковых, складзеных кожным «кнігалюбцам» паводле яго жадання і густу, а другая са зборнікаў, якія ўжо ўсталяваліся і набылі пэўную аўтарытэтнасць. Пра «анфіладны», «ансамблевы» спосаб стварэння літаратурных твораў неаднаразова пісаў Д. С. Ліхачоў: дробныя творы далучаліся да буйнейшых і разам з буйнымі складалі працяг зборніка; зборнік прыкладаўся да зборніка, утвараючы больш ёмістую цэласць і г. д. Старажытнарускія творы амаль ніколі не пашыраліся і не станавіліся фактам культурнага жыцця грамадства па-за рэальнымі, канкрэтнымі рукапіснымі (або старадрукаванымі) зборнікамі. Нельга не пагадзіцца з маскоўскім даследчыкам А. С. Дзёміным, што зборнік, кніга — галоўная адзінка будучай фундаментальнай працы па гісторыі старажытнарускай (мы дадамо — і старабеларускай) літаратуры, што менавіта ў вывучэнні зборнікаў ляжыць ключ да гісторыка-літаратурнага працэсу, крыніцазнаўчая база будучай фундаментальнай працы па гісторыі літаратуры[2].

Як адлюстраванне працэсу мастацкай творчасці кнігапісцаў характарызуе зборнікі М. М. Розаў, падзяляючы гэтую творчасць на два віды: 1) Складанне кампіляцыйных «Ізборнікаў» і 2) Стварэнне не зборнікаў-анталогій паводле тэматычнага прынцыпу, пераважна з ма-

[1] Добрянский Ф. Н. Описание рукописей... С. 3.
[2] Демин А. С. Писатель и общество в России XVI — XVII веков: Общественные настроения. М., 1985. С. 247.

***Старонка з вершамі і малюнкам Міхаіла Пятровіча з Пінскага зборніка XVII ст.***

29



E terris missus descendit Cerberus antris
In tua terribilis pectora Dive ruit.
Horrida fulmineis distendit rictibus ora
Damna tamen vitae non facit ulla tuae.
I, canis ad Stygios iterum contende penates
Hostia vides denti durior esca tuo.

Michaël Piotrowicz S.J.

ралізатарскімі мэтамі, а гэтак званых зборнікаў мяшанага зместу, складзеных не з выпісак, а з тэкстаў, перапісаных цалкам[1]. Паслядоўнае ўвядзенне ў гісторыю беларускай літаратуры зборнікаў на роўных правах з літаратурнымі помнікамі, бясспрэчна, істотна пашырыць крыніцавую базу і шмат у чым пераменіць нашыя погляды на развіццё літаратурнага працэсу. Вялікія магчымасці для асэнсавання зборнікаў у кантэксце літаратурнага і палітычнага жыцця свайго часу адкрывае функцыянальны метад кнігазнаўства, які ставіць у аснову вывучэнне мэт, задач і ўмоў бытавання кнігі як аб'екта вывучэння[2].

Апроч «нязменнага» тэксту, перапісчык часта ўносіў важныя, на яго погляд, звесткі, дапаўненні. Так, на пачатку супрасльскага спіса «Залатаструя» XVI ст. даецца падрабязны змест 20 раздзелаў, а ў кнізе змешчана 27 раздзелаў. Відаць, кнігапісец, захапіўшыся працай, вырашыў павялічыць аб'ём, а пашырыць напісаны раней змест не хапіла месца. У канцы зместу згадваецца балгарскі цар Сімяон, які «почудился словестной мудрости» Іаана Златавуста і, выбраўшы словы Іаана, «из всех книг во единую сложил». Падобную працу (хай сабе і не піянерскую) выканаў і супрасльскі кнігапісец, які пакінуў нам сваё імя на адвароце апошняга, 283-га аркуша: «...помилуй меня грешного, окаянного, лениваго диякона Ануфрия...» (БАНЛіт, F19—238).

Са шматлікіх павучальных зборнікаў найбольш папулярным быў «Ізмарагд», асноўную масу артыкулаў якога складаюць «Словы» і павучанні на тэмы хрысціянскай маралі. Аснова гэтага зборніка, як і «Залатаструя» — словы Іаана Златавуста — аўтара незвычайна папулярнага ў сярэднявеччы. Найбольш поўны «Ізмарагд» перапісаны ў 1593 г. Іванам Праскурам — гэта 690 аркушаў, запоўненых густым і акуратным паўуставам. «Ізмарагд» Івана Праскуры яскрава сведчыць пра доўгую працу збірання «Слоў» у адну кнігу — сюжэты, якія хвалююць складальніка, знаходзяцца ў розных мясцінах — напрыклад, сюжэт, пачаты на арк. 2 («Како не ленитися чести книг») працягваецца на арк. 519 («Слово о почитаніи книжнем») і на арк. 560 («Слово о книжнем пооученіи»); на арк. 243—246 змешчаны раздзел «О книгах ихъ же подобаеть чести и внимати, ихъ же не внимати, ни чести» — даволі поўная характарыстыка рэпертуару кніжнасці канца XVI ст. Спачатку падаецца «извещение о добрых книгах ветхаго и новаго закона», пасля іх пералічэння ідзе спіс імёнаў «праведных» аўтараў і рэкамендаваных «внимати и чести» назваў паасобных кніг і зборнікаў: «Иоан Златоуст, Иоан Дамаскин, Иоан Богослов, Иоан екзархъ, Иоан Лествичник, Григорій Богослов, Григорий Декаполит, Кирил Александрийскій, Дионисей Ареопагитъ, Симеон Богопріимець, Евводій, Варлаамъ, шестодневец [раней ужо згадваўся аўтар гэтае кнігі — Іаан, экзарх балгарскі.— *М. Н.*], Василей Кесарийскій, Максимъ, Нилъ, Феодоръ Эдескій, Иоса, Павел Моновасійскій, Геннадій, зовемый златостричь, родословіа, чепь, крин, маргарит, Мефодій Патарамскій, Василій Новый, палея, Иосиф Матафиин, Козма Индикоплов, Андрей оуродивый, Анастасій Синайскый, Козма Халкидонскій, Гагентъ, Антиох, лимонис, патерик, Ісусъ Сирахович, три вопрошеніа философов, Іаковлич 12, Нифонтъ, сто словъ, странникъ, Ефрем Сирианин, Исаакъ Сирианинъ».

Ніжэй пералічваюцца кнігі, «ложныя сіа соуть: из Ветхого завета: Сидоръ Адам, Энох, Ламех, завети патріаръшстіи, молитва Іосифова, Елдад и Модад, заветъ Моисеевъ, възнесеніе Моисеево,

[1] Розов Н. Н. Книга в России в XV веке. С. 40—41.
[2] Баренбаум И. Е. Функциональный подход и его применение в книговедении // Книга и социальный прогресс. М., 1986. С. 122—131.

псалмы Соломоновы, Ильино откровеніе, Ісаіино виденіе, Софоніево откровеніе, Ездры откровеніе». Са Старога запавету: «Іаковля повесть, Петрово откровеніе, оучительство Климентово, Игнатьево оученіе, Поликарпово оученіе, евангеліе от Варнавы, евангеліе от Фомы, градете двои, ангельски воспоимъ, Захарьино откровеніе, паралипамена, что орла ликъ, Ереміи Вавилонъ, вопросы Иоана Богослова, о Китоврасе, о недузи естественнем, еже именоуют трясавици, басни соут Еремія попа Болгарьского» і інш.

У «Ізмарагдзе» Івана Праскуры ёсць павучальны артыкул, які асуджае хібы і звычаі, звязаныя з рэшткамі язычніцтва. Найбольшая каштоўнасць гэтага артыкула цяпер — назвы багоў язычніцкага пантэона, бясспрэчная сувязь са штодзённым побытам таго «позняга» ў нашым разуменні сярэднявечча, калі вялася актыўная палеміка паміж праваслаўнымі, пратэстантамі і католікамі і рыхтавалася Брэсцкая царкоўная унія: «...не подобаеть христіяномъ игръ бессовьскых играти, иже есть плясьба, гоудьба, песни мирьскыя, и жертва идольская, иже молятся огневи подъ овиномь, и Мокошии, и Симоу, и Рьглоу, и Пероуну и Роду и Рожяници и всемь ... имъ подобни» (арк. 498).

На адвароце арк. 22 Іван Праскура перапісаў слова Кірыла Тураўскага «Яко оставль дело...», якое, аднак, лічыў словам Іаана Златавуста. Сучасныя даследчыкі лічаць, што крыніцамі для складальніка «Ізмарагда» маглі быць «Ізборник» Святаслава, а таксама паасобныя «Словы» са «Залатаструя» і «Маргарыта», «Парэнэсіса» Яфрэма Сірына, Пандэктаў Нікана Чарнагорца, «Дыялогаў» Грыгорыя Дваяслова і іншых аўтараў. Увесь неабходны для такой працы рэпертуар кніг быў у 1593 г. у бібліятэцы Супрасльскага манастыра — месцы працы Івана Праскуры.

Цяпер беларускія чытальныя зборнікі захоўваюцца ў розных зборах Ленінграда, Кіева, Вільнюса і Масквы. Сярод даследчыкаў яшчэ не выпрацаваны сціслыя крытэрыі іх класіфікацыі. У апісанне гістарычных зборнікаў XV — XVII стст. БАН СССР уключана, напрыклад, рукапісная кніга, якая мае шыфр Добр. 18[1]. Аднак у гэтым зборніку апроч выпісак з агульнарускіх летапісаў змешчаны шматлікія артыкулы прыродазнаўча-навуковага зместу, рэлігійна-палемічныя і літаратурныя творы. Больш за ўсё кніга падыходзіць пад азначэнне зборніка энцыклапедычнага зместу і становіцца, такім чынам, у адзін шэраг са зборнікамі пісара Васкі (з кіеўскага Залатаверхага Міхайлаўскага манастыра), «Ізмарагдам» кнігапісца Івана Праскуры (БАНЛіт, F19—240) і іншымі падобнымі кнігамі[2].

Найранейшаю з іх з'яўляецца «Книга зовомая приточная Васка писаря пана Миколая Радивиловича в лето 6991 индикта 1»[3]. Зборнік пісара Васкі пачынаецца гісторыка-храналагічнаю выпіскай падзей біблійнай і царкоўнай гісторыі. Далей ідуць артыкулы геаграфічнага і прыродазнаўчага зместу: пералік гарадоў, якія разбурыліся або праваліліся пад зямлю, «Течении месяца», «Початок и указ как восходит месяц, в какой час дня и ночи», «Имена ветрам, рекам и озерам». Тут жа змяшчаюцца актуальныя палемічныя супрацьлацінскія творы: практычнае значэнне мелі «Возвещение про книги» і індэкс забароненых кніг «Писанія ложная составлены бысть от еретик на пакость христианом». Канчаецца кніга пісара Васкі аповесцю, якая пачынаецца словамі: «Всякий, кто глянул на женщину с похотью, уже прелюбы совершил с ней в сердци своем». «Слово про жен злых и добрых»

[1] Копанев А. И., Кукушкина М. В., Покровская В. Ф. Исторические сборники XV — XVII стст. // Описание Рукописного отдела библиотеки Академии наук СССР. М.; Л., 1965. Т. 3. Вып. 2. С. 133—137.

[2] Дмитриева Р. П. Четьи сборники XV в. как жанр. С. 150—181.

[3] Ластоўскі В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. С. 180.

*Застаўка Служэбніка з Рыбалаў з выявамі лекараў — святых Казьмы і Даміяна. XVII ст.*



уваходзіла ў склад зборніка «Пчела», але часта перапісвалася і ў зборніках энцыклапедычнага зместу. Папулярнае было «Слово...» і ў Маскоўскай Русі, вядомая, у прыватнасці, апрацоўка гэтага твора кнігапісцам Ефрасінам[1]. Вялікі інтарэс мае змешчаны ў зборніку Васкі спіс «Логікі» — на жаль, навуковая палеміка вакол гэтага тэксту, што распачалася ў дарэвалюцыйнай літаратуры, спынілася ў сувязі са знікненнем у гады Другой сусветнай вайны гэтага зборніка[2].

Шмат прыродазнаўчай інфармацыі ў «Ізмарагдзе» 1593 г., перапісаным у Супрасльскім манастыры Іванам Праскурам. Гэта «От шестодневника о солнци и луне, и о звездах и о планитах», «О весеннем равноденстве», цікавы артыкул «О слоне», дададзены пасля артыкул «О златном растворении» — парады іканапісцам, як распускаць золата і як абыходзіцца з ім пры маляванні. У XVI ст. былі перакладзены з гэбрайскай мовы «О седми звездах великих яже ся наричаются пла-

[1] Каган-Тарковская М. Д. «Слово о женах добрых и злых» в сборнике Ефросина // Культурное наследие Древней Руси. М., 1976. С. 383—385.

[2] Берджицкий Л. Заметки к литературе о жидовствующих // Рус. филолог. вестник. 1911. Т. 66. № 3—4. С. 372—377; Коковцев П. К вопросу о «логике Авиасафа» // ЖМНП. 1912. Май. 39. С. 114—133.

*Зборнік энцыклапедычнага зместу з бібліятэкі Жыровіцкага манастыра. Астранамічныя і каляндарныя табліцы. XVI ст.*



*«Вавілонскі столп». Ілюстрацыя да «Александрыі». XVI ст.*

*«Загадкавы» план невядомай пабудовы са Зборніка энцыклапедычнага зместу. XVI ст.*

*Схема будовы зямлі. Малюнак да артыкула «О земном устроеніи». Зборнік энцыклапедычнага зместу. XVI ст.*





**неты, и силе их и о домех их» і іншыя астралагічныя творы, змешчаныя ў зборніку, які мае пазнейшы (XVII ст.) загаловак: «Сія книга о таинахъ Божіих сложена философомъ великимъ Аристотелемъ ижъ на прозбу кролю Мацыдонскому великому Александрови написалъ жэбы боялся Господа Бога одного». Цікавым іканаграфічным помнікам касмалагічных уяўленняў з'яўляюцца мініяцюры рукапісу F.1.738 са збораў Аддзела рукапісаў Дзяржаўнай Публічнай бібліятэкі. На іх выявы анёлаў, якія паварочваюць сонца, месяц і зоркі, знакаў задыяка, каметы (Віфлеемскай зоркі). Рукапіс гэты мае пераплёт, аналагічны пераплёту Навагрудскага пролага 1512 г. (выканання любчанскага іерэя Парфірыя) і віленскім пераплётам першай трэці XVI ст. Пераплёт сучасны рукапісу (датаванне пацвярджаецца філігранямі паперы), і таму ўзнікае меркаванне, што рукапіс створаны ў скрыпторыі заходнерускіх мітрапалітаў (хутчэй за ўсё ў Вільні, але не выключана, што і ў Навагрудку) у першай трэці XVI ст. Абодва згаданыя гарады былі рэзідэнцыяй мітрапаліта Кіеўскага і Галіцкага.**

**Іканаграфія ў рукапіснай кнізе важная перадусім для перадачы філасофскіх уяўленняў кніганісца і мініяцюрыста. Адным з найважнейшых спосабаў пазнання свету чалавекам сярэднявечча было сузіранне, і сузіранне мініяцюр павінна было даваць магчымасць такога пазнання. Прынцыповая іканаграфічнасць характэрная для большасці мініяцюр Евангелляў[1]. Аднак спроба праілюстраваць падзеі старазапаветнай гісторыі, зробленая ілюмінатарамі зборніка F.1.738, выявіла наяўнасць і другога важнага шляху пазнання — лагічнага мыслення.**

**У XVI ст. пашыраўся зборнік, называны «Палея», які ў шматлікіх артыкулах даваў чытачу веды пра навакольны свет. Аб шырыні сюжэ-**

[1] Раушенбах Б. В. Иконография как средство передачи философских представлений // Проблемы культурного наследия. М., 1985. С. 316—325.

*Пінскі зборнік XVII ст. Старонка рукапісу. Старонка з акравершам*



Aenigma

De Venerabili Sacramento

Quem Rudimenta volunt octavum ponito primo
Huic numerus quartus nectitur a decimo,
Bis nonus sequitur, totum mihi finiet idem
Sed stabit quarto Crux sine fronte loco
Erige pyramidem, comes est cui littera Princeps
Hanc ac octavo quaeso repone loco,
Post haec a decimo quintum, nono peto lunam
Quam stipes tangens nomina sacra dabit.

Logogryphus

icitus nostri quod des cum sanguine Opus
to gratis poplite Christe fero.



61

Acrostichon

Horribilem quicunq cuPis superare draconeM
Orci, caelestis Videas ut limina portaE
Suscipe munificum CeReris sub tegmine NumeN
Tartara vitabis, ReGni iam porta patebiT
Impia deque tuA pellentur crimina mentE
Augustus faciet Talem cibus iste quieteM

Epigramma musicum

Infandum crimen posses ... ve ... nostrum
Potasti ... Christe cruore tuo.

таў «Палеі» сведчаць загалоўкі артыкулаў адной з кніг, што належалі Супрасльскаму манастыру «О лунном течении, о величии неба, земли и звезд, о знаках небесных...», «О облацех», «О тверди», «О звездах», «О птицах, рыбах, о алконости, о человеци», «О зезули», «Имена зверем», «О огни», «О маланьях и о грому» (БАНЛіТ, F19—83).

Сапраўднаю энцыклапедыяй прыродазнаўча-навуковых ведаў паўстае перад намі ўжо прыгадваны рукапісны фаліянт пад шыфрам Добр. 18 з бібліятэкі АН СССР. Кніга перапісана выразным беларускім скорапісам адной рукою, почырк кнігапісца блізкі да почыркаў пісцоў рускай канцылярыі Вялікага княства Літоўскага першай паловы XVI ст. У апісанні Рукапіснага аддзела БАН гэты зборнік датаваны другой паловаю XVI ст. Удакладніць датаванне стала магчымым пасля выхаду альбома філіграняў Э. Лаўцявічуса — вадзяны знак, які складальнікі апісання БАН вызначылі як «гербавы шчыт пад каронай з літарай «Г», аказаўся гербам «Сякера» і датуецца Лаўцявічусам 1541 г. [1]. Такім чынам, найбольш верагоднай датай стварэння зборніка ўяўляецца сярэдзіна XVI ст.: канец 40-х — 50-я гг. Некалькі аркушаў на пачатку і некалькі ў канцы згублены, ёсць бібліятэчная азнака XVIII ст. з выразнай назвай бібліятэкі. Нам удалося высветліць, што

[1] Laucevičius E. Popierius Lietuvoje XV — XVIII a. Vilnius, 1967.

поўнасцю надпіс чытаўся наступным чынам: «Сия книга есть з библиотеки монастыря Жировицкого чину Святого Василия Великого 1759 Anno подписана». На пачатку і ў канцы кнігі ёсць шыфр Жыровіцкай бібліятэкі, які ўяўляе сабой дроб, у лічніку якога літара Ж, у назоўніку лічба 22, ніжэй той самы лік запісаны кірылічнымі літарамі[1]. Перапісчык выкарыстаў для тэксту і чарцяжоў (якіх шмат у кнізе) чарніла чырвонага і карычневага колераў, выканаў некалькі вялікіх двухкаляровых ініцыялаў і застаўку. Мова помніка — жывая старабеларуская, цікавая багатаю лексікай. У тых выпадках, калі перапісчык «спісваў» старажытныя крыніцы, ён пакідаў мову арыгінала (царкоўнаславянскую), напрыклад, у гістарычнай частцы зборніка пры перапісванні «Сказания о русских князьях от кого кто родился» і «Летописца русских князей и земли русской»[2].

Паказальна, што зборнік энцыклапедычнага зместу пачынаўся гістарычнаю часткай: чалавек не ўяўляў сябе без мінулага — тэалогія, як і прыродазнаўства, была вынікам гістарычнага развіцця. Адразу пасля гістарычнай часткі аўтар знаёміць чытача са спосабам запісваць лічбы з дапамогаю літар кірылічнага алфавіта, падаючы наступныя рады: тысяча (1—1000), тма (1000—10 000), легіён (10 000—100 000), леадар (100 000—1 000 000). Для чалавека сучаснае адукацыі дзіўна гучыць заключны сказ артыкула, які называецца «Книжное число»: «...уже далей нет числа». Аднак факт застаецца фактам — да асэнсавання бясконцасці натуральнага рада лікаў аўтар яшчэ не прыйшоў. А творы Кірыка Наўгародца (ён жыў у XII ст. і пісаў пра натуральны рад лікаў) аўтару не былі вядомыя.

Прыродазнаўча-навуковыя артыкулы Жыровіцкага зборніка паказваюць, што перапісчык быў знаёмы са шматлікімі дасягненнямі сучаснай яму анатоміі і астраноміі. Так, напрыклад, у артыкуле пра галаву чалавека, запазычаным з «Шестоднева», ён паведамляе пра крываносныя сасуды, кансістэнцыю мозгу, апісвае будову костак чэрапа: «...человек же, как говорят, три шва имеет на голове и на угол составлены. Женская же голова имеет один шов, да и по этому знаменью и в гробах узнают, какая мужская голова, какая женская...» У артыкуле «Слово про создание всего мира от начала и до конца» чытач мае магчымасць пазнаёміцца са знакамі задыяка і знакамі планет, якія пасля шырока ўжываюцца ў каляндарных табліцах.

Табліцы займаюць пяць аркушаў і ўяўляюць сабою цэлую сістэму практычнай храналагічнай інфармацыі: два трохтаблічныя каляндарныя комплексы змяшчаюць табліцы «вруцелет», велікоднай поўні, дадатковых лікаў. Ёсць табліца «зрячей пасхалии» і роспіс першага радка яе для літары «А», табліца «семирочисленника» для вызначэння дня тыдня кожнага месяца ў залежнасці ад значэння «вруцелета», табліца для вызначэння індэкса дня тыдня велікоднай поўні, дзень Вялікадня і іншыя, звязаныя з велікоднымі, разлікі, у залежнасці ад круга Сонца і круга Месяца. Ніжэй даюцца схематычныя малюнкі знакаў задыяка з грэчаскімі назвамі і характарыстыкамі («злы», «сярэдні»). Апроч таго, змешчана табліца «Рука» з каляндарным разлікам круга Месяца і эпакты, табліца з назваю «Круг лицита солнца», кругавая табліца,

[1] Жыровіцкі манастыр быў у XVIII ст. адным з найбуйнейшых на тэрыторыі Беларусі і меў вялікую бібліятэку: у архіве ЛАІГ захаваўся вопіс Жыровіцкай бібліятэкі 1810 г., які налічвае больш за 3,5 тыс. кніг і рукапісаў. У XIX ст. бібліятэка распалася, цяпер кнігі з яе сустракаюцца ў зборах Вільнюса, Ленінграда, Загорска; шмат з іх захоўвае спецыяльную бібліятэчную азнаку сярэдзіны XVIII ст., калі, відаць, была праведзена інвентарызацыя. Усе вядомыя нам азнакі (больш за 100) пісаны адной рукою.

[2] Шахматаў А., які даследаваў гістарычную частку зборніка, адзначае, аднак, «паднаўленне ў ім мовы, звязанае з недастатковым разуменнем старой мовы...». Гл.: Шахматов А. А. Обозрение русских летописных сводов XIV—XVI вв. М.— Л., 1938. С. 304.

якая вызначае суадносіны паміж знакамі задыяка і некаторымі датамі кожнага месяца, вераснёвая табліца месячнага цячэння і гэтак званая «Пячатка цара Саламона» — квадрат, па перыметры якога чытаецца слова «Сатор»[1].

Тут жа запісы назіранняў за з'явамі прыроды, звязанымі з Месяцам і сонечнай актыўнасцю: «...если двумя рогами месяц ровно себя являет, либо северный рог чище будет, тогда назнаменует западные ветры», «если взойдет круг солнца выше месяца — осень длинная». Побач з астранамічнымі назіраннямі — вытлумачэнне такіх прыродных з'яў, як гром і маланка. Аўтар тлумачыць узнікненне грому і маланкі сутыкненнем хмар, даводзіць, што гром і маланка ўзнікаюць адначасова. Розная хуткасць святла і гуку паказваецца на такім прыкладзе: «Посмотри на тех, кто рубит дрова, далеко от нас будучи — увидим, что бьёт топором дерево, грохот же слышим через некоторое время. Таким же образом видим сначала молнию, а гром же после».

Якія ж крыніцы выкарыстоўвалі кнігапісцы-складальнікі зборнікаў энцыклапедычнага зместу? Прыродазнаўчая інфармацыя чэрпалася з «Ізборника» Святаслава 1073 г. (артыкул «О названии рек» і інш.), кніга гэтая была пашырана на беларускіх землях, пра што сведчаць ацалелыя пазнейшыя спісы[2]. Астранамічныя і антрапалагічныя звесткі ўзяты з універсальнага «Шестоднева», уключаючы каментарыі Галена на творы старажытнагрэчаскага лекара Гіпакрата, пачынальніка навуковай медыцыны, а таксама з астралагічных «Лунніка», «Альманаха», «Луцыдарыюса»[3]. Галоўнай жа крыніцай быў, бясспрэчна, касмалагічны трактат XV ст. «О небеси», які ўключае тэкст «Указа о земли Иоанна Дамаскина», перапісаны ў Жыровіцкім зборніку ў сваёй пашыранай рэдакцыі[4]. Апроч пералічаных крыніц, кнігапісцы выкарыстоўвалі грэчаскую кнігу — пра гэта сведчаць табліцы Жыровіцкага зборніка, на якіх выявы знакаў задыяка падпісаны па-грэчаску (кірыліцай!), а характарыстыкі знакаў перакладзены на славянскую мову. Паколькі ў Жыровіцкім зборніку перапісаны разлікі пасхаліі на 1332 г., можна выказаць меркаванне, што перапісчык карыстаўся грэчаскім арыгіналам першай паловы XIV ст.

У другой палове XVII — XVIII стст. прыродазнаўчыя тэксты выдзяляюцца са зборнікаў у асобныя рукапісныя кнігі, што пашыраюцца ў вялікай колькасці. Да гэтага прычынілася перадусім дзейнасць вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў, адчыненых на беларускіх землях рознымі каталіцкімі ордэнамі. Традыцыяй сталі міграцыі прафесараў гэтых школ. Так, Міхал Карвоўскі чытаў у Полацкай калегіі ў 1688—1689 гг. курс логікі, а ў 1689—1690 гг.— курс фізікі (рукапісы абодвух курсаў захоўваюцца ў бібліятэцы Вільнюскага універсітэта). У 1687—1688 і 1694—1696 гг.— ён прафесар Віленскай акадэміі. Мова новых кніг для навучання амаль заўсёды лацінская, пераважны змест — курсы лекцый мясцовых прафесараў, лекцыі гэтыя чыталіся ў школах розных ордэнаў. Даследаванне прыродазнаўча-навуковых рукапісных кніг у сховішчах Мінска і Вільнюса паказала,

[1] Аўтар выказвае падзяку супрацоўніку маскоўскага Інстытута гісторыі прыродазнаўства і тэхнікі А. М. Пянткоўскаму, які выканаў папярэдняе вызначэнне табліц; змест шмат якіх з іх, аднак, яшчэ не зусім зразумелы і чакае свайго даследавання.

[2] Левочкин И. В. О естественнонаучном и философском содержании Изборника Святослава 1073 г. // Памятники науки и техники. 1982—1983. М., 1984. С. 114—119.

[3] Пра бытаванне астралагічных кніг сведчаць ацалелыя іх спісы, а таксама знаёмства з імі Сімяона Полацкага, палеміка супроць іх пратапопа Авакума. Гл.: Робинсон А. Н. Симеон Полоцкий — астролог // Проблемы изучения культурного наследия. М., 1985. С. 183—197.

[4] Гаврюшин Н. К. Космологический трактат XV века как памятник древнерусского естествознания // Памятники науки и техники. 1981. М., 1981. С. 183—197.

што найбольш іх выраблялі езуіты, францыскане і базыльяне — прыблізна палову усяе колькасці, другая палова належала адэптам бернардынскага, дамініканскага, кармеліцкага, трынітарскага і піярскага ордэнаў. Павялічылася колькасць асяродкаў кніжнай вытворчасці — цяпер гэта Гародня, Полацк, Нясвіж, Пінск, Наваградак, Жыровіцы, Віцебск, Орша, Слонім, Слуцк, Брэст, Менск, Друя, Шчучын[1]. Ардынарнымі прыкладамі новай кніжнай прадукцыі з'яўляюцца, напрыклад, «Інтэрпрэтацыя Арыстоцелевай філасофіі прыроды» (ЦДГАЛ, ф. 823, воп. 3, № 412), або рукапіс, які захоўваецца ў Аддзеле рукапісаў ДПБ (Лат.Q.III. 687). Апошні складаецца з дзвюх частак, прычым спачатку была перапісана другая частка: «Pars II. seu Logica disputans et Metaphysica General. Opus descriptum A$^0$ 1797. Polociae». Першая частка з'явілася на два гады пазней: «Pars I. seu Logica Instituens. Opus descriptum A$^0$ 1798. Polociae». Пасля абедзве часткі былі пераплецены разам. Перапісаны яны розным почыркам, але тытульныя аркушы і змест і першай і другой частак напісаны адным каліграфічным почыркам. Частая змена вучняў у Полацкай калегіі спараджала няспынны попыт на кнігі, таму не выключана карпарацыйная вытворчасць. Адзін са шкаляроў і стаў гаспадаром кнігі з курсам Анджаліні — на тытулах першай і другой часткі ёсць запіс пяром: «З кніг Іос. Палонскі Соц. Езу. Exercitationes Philosophicae in usum Academicum elucubratae á R. P. Josepho Angiolini e S. Jesu Philosophicae tunc, modo S. Theologiae et Canonum in Gymnasio Polocensi ejusdem Sttis publico Professore. A$^0$ D$^{ni}$ 1792». У кнізе — шматлікія сляды актыўнага чытання: падкрэсліванні, выпіскі на палях, часам кляксы, закрэсліванні, выпраўленні. Трэба было прыкласці немалыя намаганні, каб авалодаць гэтай разумовай гульнёй, ды яшчэ на лаціне: пра паходжанне свету, пра матэрыю, пра прыроду свету, пра час свету і іншыя касмалагічныя развагі — De Metaphysica in genere, De Metaphysica generali ... etc. etc. Ад гэткае навукі можна было і прыдурнець — і тады студыёрус быў гатовы стаць пад прафілактычны халодны і смяшлівы «душ» інтэрмедыі, створанай сваімі ж калегамі, а менавіта стаць адмоўным яе героем-шкаляром, каб які-небудзь просты дзядзька з вёскі ладна з цябе насмяяўся. Гэткая сцэнка — «Колонус ет студиорус фугитивус» падаецца Карскім паводле зборніка (ДПБ, Разн., 0.XIV.30), які быў перададзены ў Варшаву і там загінуў.

Прыкладам рукапіснай кнігі геаграфічнага зместу можа служыць «Описание Кричевского графства, или былого староства», якая ўяўляе сабою рукапіс *in folio* у зялёным скураным пераплёце з 169 старонкамі тэксту і 8 маляванымі табліцамі. Паміж арк. 2—3 уклеена «карта, изображающая Кричевское Графство, принадлежащее Его Светлости Князю Григорию Александровичу Потемкину. Сочинена в Дубровенской Его Светлости межевой чертежной под смотрением Обер-Квартирмейстра Барона Карла Макловского 1786 года марта 15 дня». Рукапіс гэты змяшчае цікавае і з веданнем справы падрабязна складзенае Андрэем Меерам апісанне Крычаўскага графства ў адносінах геаграфічных, гістарычных, статыстычных і прыродазнаўчых. Змешчаны гістарычны нарыс і апісанне межаў графства, падзел на вайтоўствы, даецца апісанне жыхароў, якія падзелены паводле веравызнання на праваслаўных, уніятаў, католікаў і іудзеяў; пра мястэчкі Крычаў, Міраславічы, Хоцімск, Забычанне, Студзянка; пра клімат, воды, жалезную руду, канатны завод, вінакурні, вапнярку, ца-

[1] Бельский А. М., Протько Т. С., Черенкевич С. Н. Рукописи натурфилософского содержания в Белоруссии XVII—XVIII вв. // Книга в Белорусии. Мн., 1988. С. 36—41.

***«Гнамоніка, або Мастацтва рабіць сонечныя гадзіннікі». Рукапіс с Радзівілаўскай калегіі ў Нясвіжы. Чарцёж сонечнага гадзінніка з «Гнамонікі...». 1736 г.***



*Старонкі з «Гнамонікі...». 1736 г.*

→ *Старонка з «Лествіцы» Іаана Лествічніка. Супрасльскі спіс XVI ст.*




гельню, пра зольны завод, або каляніцу, пра мучныя млыны і тартакі, пра сукнавальні і маслабойні, пра гатункі жыта, якія сеюць у Крычаве, пра лясы, звяроў, рыб і птушак. Прыкладзеныя ў канцы малюнкі паказваюць кавярзень (від абутку з лыка накшталт лапця), планы свірнаў, віды рыб і яшчарак, лоўлю рыб «з промнем»[1].

Рукапісная кніга ў XIV ст. магла быць і практычным кіраўніцтвам для вырабу такой «навукаёмкай» на тыя часы прадукцыі, як сонечныя гадзіннікі. Так, кніга «Гнаманіка, або Харагафія (Мастацтва будаваць сонечныя гадзіннікі, або універсальнае вымярэнне часу...)», напісаная ў Радзівілаўскай езуіцкай калегіі ў Нясвіжы, змяшчала дакладныя чарцяжы, што наносіліся гравіроўкаю на металічную пласціну — аснову будучага сонечнага гадзінніка[2].

[1] Исторические рукописи библиотеки Императорского Казанского университета // ЖМНП. СПб., 1854. Ч. 83. Разд. 3. № 1554. С. 1—4. Дзе знаходзіцца гэты рукапіс цяпер — невядома.

[2] БАНЛіт, F22—16. Гадзіннік, зроблены паводле гэткіх чарцяжоў, ёсць у экспазіцыі Вільнюскага гісторыка-краязнаўчага музея.

## ЗБОРНІКІ РОЗНАГА ЗМЕСТУ

«История белорусской дооктябрьской литературы», разглядаючы перакладную літаратуру XV — XVII стст., абмінае зборнік XVI ст. са збораў Дзяржаўнага гістарычнага музея ў Маскве (Син. 367). Між тым шмат якія творы, перапісаныя ў ім, напрыклад «Аповесць аб трох каралях-валхвах» і «Жыціе Аляксея, чалавека Божага», ставяць яго побач з вядомым, апісаным у асобным артыкуле Я. Карскага зборнікам (ДПБ, Q.1.391). Значнаю з'явай для беларускай культуры з'яўляецца змешчаная ў ім аповесць «Стэфаніт і Іхнілат», перакладзеная з грэчаскай мовы. Аповесць гэтая прыйшла на беларускія землі з Візантыі праз паўднёвых славян, а радзіму яе трэба шукаць на Усходзе. У сваім першапачатковым індыйскім варыянце, вядомым з санскрыцкае «Панчатантры» IV ст. н. э., цыкл баек пра жывёлу складаўся з пяці кніг, у якіх мудрэц-брахман па просьбе цара Амаршакці апавядае яму прыпавесці-байкі пра «разумныя паводзіны» жывёлы. Пабудаваная як павучанне ўладару, «Панчатантра» брала свой матэрыял з казак пра жывёлу, шырока распаўсюджаных ва ўсіх народаў свету. На царкоўнаславянскую мову тэкст «Стэфаніта і Іхнілата» быў перакладзены ў XVIII ст. і быў даволі блізкі да грэчаскага арыгінала. У сінадальным зборніку (ДГМ, № 367), дзе змяшчаецца спіс «Стэфаніта і Іхнілата», перапісаны і іншыя творы перакладной літаратуры: «О плачи матки о сыну» — каталіцкая рэдакцыя «Плачу Багародзіцы», папулярны сярод уніятаў апокрыф «Послание Тиверею цесарю», а таксама спісы маскоўскіх і літоўскіх вялікіх князёў[1].

Яшчэ адзін твор сусветнай культуры, звязаны паходжаннем са старажытнаю Індыяй, пашыраўся на беларускіх землях ад XIV ст. Гэта «Аповесць пра Варлаама і Іаасафа». Аповесць пра пустэльніка Валаама і індыйскага царэвіча Іаасафа ўяўляе сабою дыялог настаўніка і вучня аб сэнсе жыцця. На побытавых, зразумелых кожнаму прыкладах уздымаюцца найглыбейшыя светапоглядныя праблемы: пераемнасць традыцый, неабходнасць духоўнага пачатку ў жыцці чалавека, патрэбнасць у настаўніку, высокі абавязак і адказнасць настаўніка ў дачыненні да вучня, перакананасць і ўменне бараніць свае перакананні[2]. Найбольш ранні́м спісам аповесці, звязаным з кніжнаю культурай беларускіх земляў, з'яўляецца спіс XIV ст., які паходзіць з Наваградскага базыльянскага манастыра[3]. Да гэтага часу некаторыя сюжэты аповесці былі вядомыя з Пролага. Цікава адзначыць, што на палях Лаўрышаўскага евангелля XIV ст. ёсць малюнак, які ілюструе адну з прыпавесцяў «Аповесці пра Варлаама і Іаасафа». Аналагічны малюнак ёсць на палях Кіеўскага псалтыра[4]. І. М. Лебедзева выказала меркаванне, што аснова малюнка з Кіеўскага псалтыра — пролажнае апавяданне, што ж да малюнка ў Лаўрышаўскім евангеллі, дык, супастаўляючы месца яго стварэння з месцам перапіскі найстаражытнейшага ўсходнеславянскага — наваградскага — поўнага спіса аповесці, можна выказаць меркаванне, што ў Наваградку — Лаўрышаве працавалі перапісчыкі, якія валодалі ўсім тэкстам у славянскім перакладзе. Цікава адзначыць, што пераклад на беларускую мову, надрукаваны ў 1637 г. у Куцейне, быў зроблены з лацінскай мовы. Па невядомых прычынах «Аповесць пра Варлаама і Іаасафа» не згадваецца ў «Истории белорусской дооктябрьской литературы», хоць даследчык і выдавец аповесці І. М. Лебедзева слушна піша пра тое,

[1] Стефанит и Ихнилат: Средневековая книга басен по русским рукописям XV — XVII веков / Подготовил Я. С. Лурье. Л., 1969.

[2] Лебедева И. Н. Повесть о Варлааме и Иоасафе.

[3] БАН, Добр. 14. Аўтар дзякуе І. М. Лебедзевай за ўказанне на гэты рукапіс.

[4] Киевская псалтырь. М., 1978. С. 197.

што «Аповесць шырока распаўсюджана ў літаратурах народаў Савецкага Саюза: рускіх, украінцаў, беларусаў, грузін, армян, малдаван»[1]. Даследаванне спісаў аповесці і яе фрагментаў у разнастайных паводле зместу рукапісных (і друкаваных) зборніках — задача будучых даследчыкаў.

З наваградскім скрыпторыем XVI ст. звязаны яшчэ адзін зборнік, які змяшчае перакладныя мастацкія творы. Цяпер ён захоўваецца ў Познані ў зборы Рачынскіх пад назваю Познанскі зборнік. Сярод прыпісак уладальнікаў зборніка вылучаецца падрабязны запіс з гісторыяй сям'і Уняхоўскіх, што жыла ў канцы XVI ст. у Наваградку. Аўтар прыпіскі, Грыгорый Уняхоўскі, служыў у гетмана Сапегі, быў войскім наваградскім; на адным з чыстых аркушаў зборніка ён запісаў звесткі пра сваіх бацькоў: «Пан отец мой пан Павэл Яковович Унеховский заплатил долг смерти року 1593 месяца декабря двадцать шостого дня. Року 1548 месяца генваря 15 дня ожэнилсе пан отец мой а в тот час ему было от урожэня его лет 33 а пани матухне моей было от нарожэня лет 16 была дочка пана Захари Трызны именем Катарына. Роженье детей их. Року 1549 месяца января 8 дня во второк передоднем родился я Грэгорый а ожэнилэмсе року АФОА... панею Зофеею Михаловною Улатовского которая была за паном Карпом Тишковичом рок один. З воли и прэзрэня пана бога всемогущого пан отец добродзей мой Грэгорый Павлович Унеховский заплатил долг смерти року 1606 месяца апрэля 1 дня жыл на том свете мизэрным от урожэня своего лет 57 и недель осм» — апошні сказ належыць ужо сыну Грыгорыя Уняхоўскага, які не падпісаў, аднак, сваё імя. У літаратуры выказваліся меркáванні, што Уняхоўскія былі першымі ўладальнікамі Познанскага зборніка, пазней ён перайшоў у зборы Радзівілаў. Зборнік уключае Літоўскую хроніку і першы пераклад на беларускую мову «Аповесці пра Трышчана, Баву і Атылу»[2].

Часта ўключалася ў склад зборнікаў «Александрыя» — найпапулярнейшая аповесць усяго еўрапейскага сярэднявечча. Пра пашырэнне «Александрыі» сведчыць Францыск Скарына — у прадмове да аднаго са сваіх выданняў ён пераконвае чытача ў тым, што Біблія падае гістарычныя падзеі больш праўдзіва за «Александрыю»[3]. Беларуская Акадэмія навук выдала гэты помнік паводле спісу XVII ст. (ДПБ, F.1.2.), які быў апісаны К. Калайдовічам і П. Строевым[4]. Вывучэнне паперы і почырку гэтага спісу паказалі, што ён уяўляе сабою частку большага зборніка, які ўваходзіць у той самы, апісаны К. Калайдовічам і П. Строевым, збор Ф. Талстога пад № 158. Пра гэта сведчыць і старая пагінацыя, скразная для ўсяго зборніка, якая ў частцы, што мае цяпер шыфр F.1.2, канчаецца на 296, а ў частцы пад шыфрам F.1.110 пачынаецца з 297. Паходжанне кнігі невядомае; адна з прыпісак паказвае, што зборнік у 1722 г. захоўваўся ў адным з базыльянскіх манастыроў Холмскае зямлі. Два ягоныя чытачы пакінулі запіс вельмі маляўнічае дыскусіі на палях 33 аркуша. Напачатку «ўзяў слова» чалавек, які пісаў гусіным пяром, почыркам XVIII ст., ён запісаў: «Был скверны человек Бахусъ то той первей пьянство вынайшол». Другі ўдзельнік дыскусіі добра выпрацаваным канцылярскім почыркам сярэдзіны XIX ст. запярэчыў: «Напрасно Бахуса называют скверным человеком. Он употреблением вина сделал великую пользу человеческому роду...» Сапраўды, спрэчка вакол праблемы ўжывання віна і п'янства вядзецца ўжо не адну сотню гадоў, аднак у гэтай

[1] Лебедева И. Н. Повесть о Варлааме и Иоасафе. С. 28—29.

[2] Веселовский А. Н. Из истории романа и повести // Известия ОРЯС. 1888. Вып. 2.

[3] Скарына Ф. Творы: Прадмовы, сказанні, пасляслоўі, акафісты, пасхалія. Мн., 1990. С. 47.

[4] Анічэнка У. В. Александрыя. Мн., 1962.

«дыскусіі праз стагоддзе» нас асабліва кранае тое, што ніводзін з яе удзельнікаў не сумняваецца, што «быў некалі чалавек Бахус».

Сярод перакладных твораў сусветнай літаратуры, не заўважаных дагэтуль беларускімі літаратуразнаўцамі, можна згадаць і паэму Тарквата Таса «Вызвалены Ерусалім». У аснову фабулы гэтага твора леглі паўгістарычныя, паўпаэтычныя звесткі пра крыжовыя паходы, асабліва хроніка Вільгельма Тырскага «De bello sacro». Настрой паэмы — высокі і ўрачысты, пераважны тон — лірычны. «Вызвалены Ерусалім» — найзначнейшы твор італьянскага паэта Т. Таса (1544—1595) — падзелены на чатыры часткі: 1) 1—4 песні — уводзіны; 2) 5—13 песні — ускладненне дзеяння, хрысціяне церпяць шэраг бедстваў, падпадаюць уплыву чарадзеяў, галоўны герой (Рынальда) адыходзіць, поўны гневу, егіпцяне нападаюць на хрысціян, кароль Годфрыд паранены; 3) паварот да шчаслівае развязкі (13—17 песні) — прымірэнне Рынальда і яго вяртанне; 4) заключэнне — узяцце Ерусаліма. Наследаванне старажытнаму эпасу, гісторыя, рыцарскі свет, ператварэнне Алімпа ў хрысціянскую святыню і наадварот— усё гэта Таса злучыў галоўнаю думкай — неабходнасцю прынясення ахвяр у імя высокай мэты. Узвышанасць настрою, вобразнасць мовы, багацце фарбаў, шчырая сардэчнасць зрабілі «Вызвалены Ерусалім» незвычайна папулярным творам — ён быў перакладзены на ўсе еўрапейскія і шмат якія ўсходнія мовы і шмат разоў перавыдаваўся.

Пра існаванне на Беларусі рукапіснага перакладу паэмы Таса сведчаць два дакументы з архіву Літоўскай праваслаўнай кансісторыі. Першы — гэта Указ ад 1 студзеня 1830 г. з Грэка-уніяцкай калегіі ў Літоўскую грэка-уніяцкую семінарыю (знаходзілася ў Жыровіцах). «Сия Коллегия находя нужным для некоторых соображений иметь в виду перевод на словянском языке Тассовой поэмы освобожденный Иерусалим, находящийся в рукописи в книгохранилище, принадлежащем ныне Литовской Греко-униатской Семинарии...», загадвае кнігу «на время» передаць у Грэка-уніяцкую духоўную калегію[1]. З рапарта семінарыі, пасланага ў адказ (разам з патрабаванай кнігай), вынікае, што паэма Таса была перапісана ў рукапісным зборніку пад загалоўкам «Путь ку житію благочестиву всемъ Православнымъ христіянамъ, отъ многихъ святыхъ и богоносныхъ отецъ и учителей церкви святой православной Кахолической преданный, с трудом иноков общежительной обители Кутеинской изложенный и во типографію братства, православного Могилевского Максима Вощанки поданый року 1704». У рэпертуары кніг Куцеінскай друкарні такое выданне не ўлічана— можна меркаваць, што яно не захавалася, аднак можна дапусціць, што пад тытулам друкаванай кнігі перапісчыкам было зручна «схаваць» паэму. У рапарце семінарыі паведамляецца таксама, што пераклад Тасавай паэмы ў пададзеным рукапісе не поўны; змяшчае толькі дзесяць песень, у наступным парадку пісаных: пачатак 1-й песні — канец 7-й песні, пачатак 8-й песні — канец 8-й песні — 9-я песня цэлая — пачатак 10-й песні — 3-я, 4-я, 5-я песні цэлыя — пачатак 6-й песні — канец 1-й песні — 2-я песня цэлая. Хто пераклаў гэтыя песні і калі гэтая кніга трапіла ў Жыровіцкую бібліятэку — праўленне не здолела даведацца. З надпісу, пастаўленага па аркушах гэтай кнігі, відаць, што яна ў 1758 г. была ў Жыровіцкай бібліятэцы[2]. Дзе цяпер знаходзіцца запатрабаваны ў Вільню рукапісны зборнік з паэмай Таса — невядома.

[1] БАНЛіт, Аддз. рукапісаў, ф. 41 Літоўская кансісторыя № 487. Арк. 1.

[2] Тамсама. Арк. 2.

*Маргіналії на палях Хранографа XVI ст.*

*Мітрапаліт Сільвестр Бялькевіч. Гравюра XVIII ст.*



У рэпертуары рукапісных нецаркоўных кніг з канца XV і да XVIII стст. важнае месца займалі летапісы і хронікі. Аднак з 22 вядомых цяпер спісаў летапісаў і хронік толькі чатыры выступаюць у выглядзе асобных кніг: гэта Слуцкі летапіс (ДГМ, Увар. 1381), а таксама запіскі ігумена Арэста (ДПБ, F.IV.498), Хроніка Сурты і Трубніцкіх (ДПБ, Польск.,F.IV.273) і хроніка Віцебска Панцырнага і Аверкі (ДПБ, O.IV.105). Астатнія вядомыя 18 летапісаў і хронік беларускага паходжання ўваходзяць у склад зборнікаў побач з літаратурнымі творамі («Аповесць пра Трышчана», «Гісторыя пра Атылу» — у летапісе Рачынскага, «Сказанне пра Сівілу-прарочыцу», «Прароцтва Саламона» — у летапісе Красінскага), юрыдычнымі дакументамі (Вісліцкі статут — у Супрасльскім летапісе, Статут Вялікага княства Літоўскага 1529 г.— у Альшэўскім летапісе), радаводнымі, гістарычнымі дакументамі, тэкстамі рэлігійнага зместу (Хроніка Быхаўца, Нікіфараўскі летапіс, Баркулабаўскі летапіс і інш.).

Апроч летапісаў, папулярны быў і іншы від рукапісных кніг гістарычнага зместу — хранографы. Грандыёзны хранаграфічны цыкл быў




створаны ў сярэдзіне XVI ст. (рукапіс БАНЛіт, F.19-109). Ф. Дабранскі датаваў гэтую кнігу XVII ст., аднак перапісвалася яна значна раней — у сярэдзіне XVI ст. На гэта паказваюць як вадзяныя знакі паперы: «Якар» (Брыке № 3423—1538 г.), «Мядзведзь» (Брыке, № 12286 — 1514—1527 гг.), «Карона» (Ліхачоў, № 4167—1532 г.), гэтак і арнаменты заставак і асаблівасці паўустаўнага каліграфічнага почырку, характэрныя для XVI ст. «Хранограф» уяўляе сабой своеасаблівы сусветна-гістарычны збор, які ахоплівае падзеі старажытнай гісторыі да захопу Ерусаліма Цітам у 70-м г.н.э., у тым ліку міфы пра арганаўтаў і гісторыю Рэма і Ромула, «Александрыю», гісторыю Антонія і Клеапатры. Уключаная сюды ж аповесць «О взятии Царьграда от безбожных турчан» была, як паказалі В. Ф. Ржыга і Б. М. Клос, перакладам лацінскай аповесці Энея Сільвія, зробленым Максімам Грэкам[1]. Цікавая заўвага змешчана ў канцы апавядання пра арганаўтаў: «Коли хощеши гораздо ведати о боране и о золотом его руне, коли его Азон добыл, и ты собе прочти книгы откуль стала Тройская валька, там наидешь» — аўтар адсылае чытача да папуляр-

[1] Ржига В. Ф. Кто перевел краткую повесть о взятии Константинополя Турками? // Slavia (Praha), 1934. Roc. 13. Ses. 1. S. 105—108; Клос Б. М. Максим Грек — переводчик повести Энея Сильвия «Взятие Константинополя турками» // Памятники культуры. Новые открытия. М., 1975. С. 55—61.

*Статут Вялікага княства Літоўскага. 1566 г. Віцебскі спіс*

най сярэднявечнай «Аповесці пра Трою», а гэтую фразу можна залічыць да пачаткаў рэкамендацыйнае бібліяграфіі ў беларускіх землях. Найранейшы з вядомых цяпер спісаў «Аповесці пра Трою» датуецца XVII ст. (ДПБ, F.XVII.5), гэтая згадка сведчыць пра бытаванне гэтае кнігі і ў XVI ст. У склад «Хранографа» ўвайшлі таксама біблійныя кнігі, тэксты з візантыйскіх хронік Георгія Амартола і Іаана Малалы, «Гісторыі Іудзейскае вайны» Іосіфа Флавія і шэраг іншых твораў.

Асаблівую цікавасць уяўляюць артыкулы, прысвечаныя падзеям у Вялікім княстве Літоўскім: аўтар апавядае пра нядаўняе язычніцтва «в нашой Литве», пра спаленне жонкі вялікага князя Вітаўта. Удакладніць дату стварэння «Хранографа» можа дапамагчы запіс на палях на с. 631. У тэксце, перапісаным на гэтай старонцы, апавядаецца, як у Ерусаліме зілоты выгналі галаву іудзейскай іерархіі, і на ягонае месца быў пастаўлены першасвятар з простых сялян. Кнігапісец побач з гэтым тэкстам зрабіў на палях наступны запіс: «Как то и в нас ставят митрополита по своей воли, а не по правилам святых отец. Вчера с псы по полю за заецом, а ныне святительская съвършает, а не тако как святый Василие говорит дондеж вся степени священническия не пройдет, тогда святитель бывает». Перш чым заняць вышэйшую царкоўную пасаду мітрапаліта, кандыдат мусіць, паводле традыцыі, прайсці службэбную лесвіцу: іпадыякан — дыякан — святар (іерэй) — протаіерэй — архіерэй. Аднак на практыцы часта здаралася так, што вялікі князь зацвярджаў на архіерэйскай пасадзе прадстаўніка багатага роду, які не прайшоў усіх ступеняў царкоўнай іерархіі. Усярэдзіне XVI ст. сведчаннем таму было прызначэнне архіепіскапа полацкага[1] і мітрапаліта. Даследчык «Гісторыі Іудзейскае вайны» М. А. Мяшчэрскі звярнуў увагу, што захаваліся дакументы, датаваныя 1555 г., у якіх былы падскарбій (міністр фінансаў) Вялікага княства Бялькевіч падпісваецца «Степан Петрович, нареченный в митрополиты», а праз год ён ужо падпісваецца «Митрополит Киевский и Галицкий Сильвестр»[2]. Такім чынам, час перапісання «Хранографа» можна вызначыць паміж 1555 і 156? гг. (час знаходжання Сільвестра Бялькевіча на мітрапалічым пасадзе). У той самы час ствараецца пераклад на старабеларускую мову «Гісторыі Іудзейскай вайны» Іосіфа Флавія,— характэрна, што пераклад гэтага твора на польскую мову зроблены ў той самы час (1555 г.) Ленартам з Ужэндава. З пачаткам Першай сусветнай вайны рукапісныя зборы з Вільні былі эвакуіраваны ў Маскву і вярнуліся на месца толькі ў 1945 г. За гэты час з'явілася ў навуковай літаратуры інфармацыя, што віленскія рукапісы, у тым ліку «Хранограф» № 109, зніклі[3]. Цяпер «Хранограф» расплецены, адрэстаўрыраваны і пераплецены нанова ў тры тамы. Змест і гісторыя гэтага выдатнага рукапісу яшчэ патрабуюць комплекснага вывучэння.

[1] Документы о назначении епископа Полоцкого // Вестник Западной России. 1865. Т. 3. С. 25—29.

[2] Мещерский Н. А. История Иудейской войны Иосифа Флавия в древнерусском переводе. М.— Л., 1958. С. 21—30.

[3] Карский Е. Ф. Славянская кирилловская палеография. Л., 1928. С. 16.

У рэпертуары рукапіснае кнігі ёсць раздзел найбольшы, бадай, па колькасці асобнікаў, але на сёння найменш даследаваны кнігазнаўцамі. Гэта кнігі дзелавога і практычнага прызначэння — юрыдычныя і гаспадарча-справаводныя. Да юрыдычных залічваюцца найперш спісы трох Статутаў Вялікага княства Літоўскага, якія з'явіліся ў 30-я гг. XVI ст. і ствараліся аж да XVIII ст. Да нашага часу дайшла невялікая частка рукапіснай спадчыны праўнага характару, канстатуе Г. Галенчанка, аднак ёсць падставы меркаваць, што спісаў Статутаў 1529, 1566 і 1588 гг. у XVI — XVII стст. налічваліся сотні[1]. Дагэтуль вядомы 4 старабеларускія, 2 лацінскія і 3 польскія спісы Першага Статута Вялікага княства. Падрабязна гэтыя спісы апісаны і вывучаны ў капітальнай працы літоўскіх даследчыкаў С. Лазуткі і Э. Гудавічуса[2]. Аўтары вылучаюць першасную, або арыгінальную, рэдакцыю на старабеларускай мове (спісы Замойскіх, Фірлейскі, Дзялынскі), рэдакцыю 1530 г. на лацінскай мове (спісы Лаўрэнцьеўскі і Пулаўскі), рэдакцыю 1532 г. першага перакладу на польскую мову (Свідзінскі спіс) і рэдакцыю з дадаткамі, або пашыраную, якая ўключае ў сябе другі пераклад на польскую мову.

Зыходзячы з таго, што ў запісе на вокладцы Фірлейскага спісу згадваецца вёска Гаць у былым Пінскім княстве, мястэчка Кіселіна і сяло Ракітніца на Валыні, а таксама паўтораная некалькі разоў фраза «з митрополитом», С. Лазутка і Э. Гудавічус робяць выснову, што «гэтыя факты, безумоўна, уяўляюць сабою вельмі важкія аргументы на карысць таго, што рукапіс у той час мог знаходзіцца на Украіне, хутчэй за ўсё ў Кіеве, і, магчыма, нават у Лаўры»[3]. Аўтары дапускаюць таксама сувязь «Евкима Васильевича» (магчымага аўтара надпісу «з митрополитом») з кіеўскай мітраполіяй — «прынамсі, у канцы чацвёртага дзесяцігоддзя, а можа, і ад самага пачатку рукапіс захоўваўся там». Тут варта, аднак, нагадаць, што мітрапаліт Кіеўскі і Галіцкі (у 1523—1538 гг. ім быў Іосіф III) з канца XV ст. не жыў у Кіеве.

Гісторыкі неаднаразова адзначалі тое, што пасля разбурэння Кіева татарамі ў 1496 г. рэзідэнцыяй мітрапаліта Кіеўскага і Галіцкага былі па чарзе Наваградак і Вільня. Такім чынам, калі меркаванне С. Лазуткі і Э. Гудавічуса аб прыналежнасці Яўкіма Васільевіча (а таксама Фірлейскага спісу Статута) да мітрапалічага двара слушнае, дык спіс трэба выводзіць з Наваградка або Вільні. Улічваючы, што Наваградак быў звязаны з Гаштольдамі (а Марцін Гаштольд быў адзін са стваральнікаў Статута), найбольш верагодна, што Фірлейскі спіс з'явіўся ў Наваградку.

Спісаў Другога Статута Вялікага княства Літоўскага, паводле дадзеных А. Васіляўскене, захавалася каля 40, з іх 8 на старабеларускай мове. Сярод іх асаблівую цікавасць уяўляюць спіс Адама Залускага (адзіны ацалелы непашкоджаны спіс), а таксама спіс аршанскага суддзі і віцебскага падстолія Яна Хоцімскага і спіс, што належаў уладальнікам маёнтка Магільна на Нёмане — сям'і Пацаў (Курніцкі спіс каля 1580 г.)[4]. У бібліятэцы пісара Вялікага княства Літоўскага Казіміра Паца захоўваўся таксама спіс Трэцяга Статута 1588 г., выкананы і аформлены картографам Іосіфам Наўронскім з такой дасканаласцю, што нават шмат хто са спецыялістаў-кнігагандляроў прымаў гэты рукапіс за друкаванае выданне. Нягледзячы на шматлікія друкаваныя выданні, Трэці Статут пашыраўся таксама і ў рукапісных

[1] Галенчанка Г. Я. Спісы Статутаў ВКЛ // Статут Вялікага княства Літоўскага 1588. Мн., 1989. С. 528.
[2] Лазутка С., Гудавичус Э. Первый Литовский Статут. Ч. 1.
[3] Тамсама. С. 351.
[4] Василяускене А.-В. В. Списки Второго Литовского Статута на старобелорусском языке (палеография, хронология, дипломатика). С. 1—25.

спісах. Найбольш поўны такі спіс цяпер захоўваецца ў Цэнтральным Дзяржаўным архіве СССР[1].

Сярод рукапісных кніг утылітарнага зместу найбольшую колькасць складаюць кнігі прыбыткаў і выдаткаў. Кожная такая кніга вялася шмат гадоў запар і адлюстроўвала розныя бакі жыцця землеўласнікаў-паноў або нейкага манастыра. Мноства аб'ектыўных эканамічных фактараў сабрана ў іх у табліцы з пазначэннем канкрэтных сум грошай, ёсць там і кароткія звесткі, адкуль грошы прыйшлі і на што былі патрачаны. Тры такія прыбыткова-выдатковыя кнігі XVII — XVIII стст., што належалі Імператарскаму Геаграфічнаму таварыству, вывучаў з даручэння Таварыства правадзейны член Юрый Рыхнеўскі[2]. Адна з іх належала багатаму францысканскаму кляштару, другая — параўнаўча беднаму кляштару дамініканаў, а трэцяя — сярэдняй заможнасці землеўласніку пану Сцяпану Карыцінскаму, усе тры паходзілі з заходніх земляў Вялікага княства Літоўскага[3].

Найбольш ранняя па часе стварэння — кніга кляштара дамінікан у Харошчы; пачатак яе згублены, ацалелыя старонкі змяшчаюць запісы прыбыткаў і выдаткаў за 17 гадоў, з 1655-га да 1672-га. У ёй выразна адбілася ўся бурлівая эпоха войн, калі беларускія землі сталі арэнай баявых дзеянняў шведскіх, прускіх, казацкіх, татарскіх, венгерскіх, польскіх і маскоўскіх войск — пазней гэтыя часы былі названы эпохаю «патопу». Першая прыкмета ваеннай пагрозы кляштару з'яўляецца ў кастрычніку 1655 г. Прыёр кляштара, даведаўшыся пра набліжэнне маскоўскага войска, едзе яму насустрач, відаць, з мэтаю дагадзіць маскоўскім ваяводам, якіх ён сустрэў у мястэчку Свіслач і там выдаткаваў два злотыя на гарэлку ваякам за пропуск, тры злотыя дзяншчыку ваяводы, які пусціў яго да ваяводы і «дамагаўся падарунку», і, нарэшце, дванаццаць злотых дзяку ваяводскаму, які пісаў ахоўныя граматы для кляштара. Наладзіўшы справу з маскоўскімі ваяводамі, прыёр вяртаецца ў кляштар 5 студзеня 1656 г. Відаць, у той самы час кляштар атрымаў гарнізон для аховы, бо ў выдаткі запісаны грошы на гарэлку для гарнізона.

Нядоўга, аднак, цешыліся манахі бяспекай: 29 лютага ім пагражае небяспека з другога боку, ад шведаў і іх саюзніка князя Багуслава Радзівіла. Захапіўшы найкаштоўнейшыя рэчы, манахі ідуць у лес: у выдаткі запісаны грошы, заплочаныя праваднікам, якія паказалі манахам ледзь прыкметныя лясныя сцежкі... У кляштары застаўся толькі адзін айцец Плашкоўскі, які, відаць, здолеў адбіць штурм: у выдаткі запісаны грошы на гарэлку для гарнізона і выдаткі на пахаванне забітых. Прыёр з манахамі наважыўся вярнуцца толькі 20 чэрвеня, аднак не даехаў, бо па дарозе дачуўся, што князь Багуслаў разбіў польскае войска пад Тыкоцінам і зноў пагражае кляштару,— айцы вярнуліся ў Харошчу толькі на пачатку верасня.

Нядоўга давялося пабыць дома: 29 верасня манахі ўцякаюць з маёмасцю ад татар. Айцец Плашкоўскі зноў застаецца ў кляштары і наймае для яго абароны жаўнераў. У канцы кастрычніка манахі спрабуюць вярнуцца ў Харошчу, аднак па дарозе сустракаюць жаўнераў, якія ўцякалі з-пад Філіпава, і даведаліся пра перамогу шведаў; айцы паварочваюць назад — вяртаюцца ў Брэст. Філіпаўская бітва мела важнае значэнне ў гэтай вайне; на пачатку кастрычніка гетман польны літоўскі Гансеўскі з дапамогаю татар разбіў шведскае і прускае войскі каля вёскі Прастакі і сярод іншых узяў у палон славутага

[1] ЦДАСА, ф. 181. воп. 1, № 153/225.

[2] Вестник Русского географического общества. 1859. № 1. Ч. 2. С. 1—26.

[3] Зараз кніга з Харошчы захоўваецца ў ДПБ (Ленінград), Аддз. рукапісаў, Польск. F. 1.46/1—2; месцазнаходжанне іншых — невядома. Гл.: Отчет Императорской Публичной библиотеки за 1881 г. СПб., 1883. С. 36—37.

князя Багуслава Радзівіла. Аднак праз некалькі дзён генералы Густаў Штэйнбок і Фрыдрых ландграф Гесенскі нечакана напалі на Гансеўскага пад Філіпавам, 21 кастрычніка 1656 г. ушчэнт разбілі яго і адбілі палонных, а між імі і Багуслава Радзівіла. Прыёр з манахамі вярнуліся ў Харошчу толькі ў студзені 1657 г. і заспелі ў сябе гасцей — войскі Вялікага княства Літоўскага. Тут нейкі час жыве Павел Сапега, віленскі ваявода і гетман Вялікага княства, пасля прыязджае Аляксандр Палубінскі, маршалак Вялікага княства Літоўскага і шматлікія іншыя вайсковыя кіраўнікі і паны-шляхта. Выдаткі кляштара растуць, асабліва на старую гарэлу для пачастунку шаноўных гасцей; нязмерна, аднак, павялічваюцца прыбыткі — вайскоўцы пакідаюць шчодрыя падарункі, гетман Сапега — 60 злотых, Палубінскі — 50, іншыя — па 20—30 злотых, 89 злотых ахвяравалі жаўнеры і шляхта, за пахаванне капітана (імя не называецца) кляштар атрымаў 100 злотых.

Войскі Вялікага княства Літоўскага, узяўшы Тыкоцін, адышлі з гэтага краю, манахі зноў уцякаюць ад шведаў; неўзабаве яны вяртаюцца, аднак у маі зноў уцякаюць — ад казакаў. Вярнуўшыся праз нейкі час, яны да канца 1569 г. не выходзяць з кляштара, не зважаючы на блізкія ваенныя дзеянні. У кляштар часта прывозяць параненых: у 1658 г. тут памірае пан Ажароўскі і манахі забіраюць 35 злотых грашыма і рэчы, што па ім засталіся, з якіх пазней пісталеты прадалі за 10 злотых. У тым самым годзе ў іх гасцяваў пан Сакалінскі, фундатар Аршанскага даміініканскага кляштара, і манахі, намерыўшыся як след патрактаваць гэтага дабрадзея, выдаткоўваюць 14 злотых на 3,5 гарцы петэрцымента (адмысловы напой, роблены з віна і карэнняў).

Пад 1662 г. у кнізе запісаны першы і апошні раз дзяржаўны падатак — пагалоўшчына, якую сейм прымусіў заплаціць усіх, хто не падлягаў падатку (як, напрыклад, манахі), з прычыны цяжкіх абставін у дзяржаве. У тым самым годзе манахі хаваліся ад пошасці ў вёсцы Буды, дзе 12 тыдняў «жылі вельмі бедна», але патрацілі 12 злотых на гарэлку, без якое, паводле слоў прыёра, «ніяк нельга было абысціся». Увогуле, з гаспадарчай кнігі харашчанскіх дамінікан відаць, што кляштар быў бедны. Прыбытак ён меў ад чыншу, які сплочвалі сяляне кляштарнага маёнтка Агароднікі, размешчанага побач з Супраслем[1], з ахвяраванняў заснавальніка кляштара[2], з платы за імшы, пахаванні, за арэнду кляштарнай карчмы і з прыбыткаў ад продажу жыта і грэчкі. Адпаведна прыбыткам рабіліся і выдаткі. Французскае віно куплялі толькі для імшы; мёд, гарэлка, венгерскае віно, цукар, прысмакі ўжываліся толькі на вялікія святы або калі прыязджалі важныя госці. Адукацыя манахаў абмяжоўвалася веданнем багаслоўя і лацінскай мовы. Выдаткі на кнігі не згадваюцца.

Гаспадарчая кніга кляштара францыскан у Драгічыне на Бузе падае прыклад зусім іншага ладу манастырскага жыцця. Кніга гэтая — толькі рэестр выдаткаў, якія кляштар мае ад 13 да 20 тысяч злотых штогод; яна вялася з 1769 да 1781 гг. Манахі маюць свой маёнтак, лес, млын, вінакурню і бровар. У 1773 г. кляштар купляе за свае грошы вёску Рускія Чаплі з сямю сялянамі, заплаціўшы за яе 15 ты-

[1] Традыцыйныя сувязі Харошчы з Супраслем пацвярджаюцца прыпіскай у рукапісным Трэфалогіі 1691 г.: «Сия книга глаголемая Празднея надана есть през едного законника до храму церкви Хорошской заложеня Покрова пресвятыя Богородица, которая не мает быти отдалена от тое церкви под клятвою святых отец. Писан в монастыри Супрасльском, року АХЧА (1691) месяца іануаря 16». Цяпер гэты рукапіс захоўваецца ў БАНЛіт, F19-210.

[2] Заснавальнік (фундатар) харошчанскага даміініканскага кляштара троцкі ваявода Мікалай Пац. Пазней ён быў віленскім ваяводам, нарэшце прыняў Духоўны сан, і папскі легат Палавічыні пасвяціў яго ў віленскія епіскапы.

сяч злотых. Штогод кляштар робіць значныя закупы віна, цукру, прысмакаў і іншых тавараў у Данцыгу; ён утрымоўвае замежных архітэктараў, мастакоў і скульптараў, якія ўпрыгожваюць касцёл і ладзяць алтары. Кляштар плаціць у дзяржаўную казну вялікія падаткі, а менавіта: зямельны падатак, які называўся гіберна — гэты падатак прызначаўся для выплаты войску жалавання, часцей за ўсё зімою; на ўтрыманне палка (харугвы) падчашага вялікага літоўскага (з 5,5 валок — 220 злотых на год); пагалоўшчыну, або *subsidium charitatium* на ўтрыманне коннага палка польнага гетмана (на польную булаву)[1] — 33 злотыя; чопавае, або збор за права варыць піва і рабіць віно (бралася, як правіла, з разліку $^{1}/_{18}$ часткі кошту прададзеных напояў) — 96 злотых на год. З 1775 г. уводзіцца новы падатак — падымны — 327 злотых. Выдатковая кніга прыпадае большасцю на мірны час, толькі ў першыя гады яшчэ працягвалася вайна Барскай канфедэрацыі з Расіяй, якая адбілася ў кляштарнай кнізе выдаткамі на правіянт і фураж для маскоўскага войска і пасля шматлікімі ахвяраваннямі барскім канфедэратам, якія вярталіся з палону.

Характэрная для свайго часу гаспадарчая «дамовая кніга», у якой запісаны прыбыткі і выдаткі з 1753 да 1781 гг. і толькі выдаткі з 1781 да 1792 гг., належала землеўласніку з маёнтка Уладычыцы Брэсцкага павета, смаленскаму падчашаму Сцяпану Карыцінскаму[2]. Сярод іншага ў кнізе запісваўся рэестр капіталаў С. Карыцінскага, пазычаных розным асобам (з якіх ён браў ад 7 да 10 працэнтаў гадавых), рэестр усялякае маёмасці і пазыковыя распіскі (квіты). З кнігі відаць, што падчашы смаленскі стала жыве ў вёсцы, трацячы за год ад 2 да 3 тысяч злотых, жыве няблага, хоць сям'я ў яго вялікая — усіх дзяцей было чатырнаццаць, але да 1781 г. засталося жывых толькі пяць дачок і адзін сын, адна з дачок выходзіць замуж і атрымлівае пасаг 6000 злотых.

Найбольш грошай пан падчашы траціць у Брэсце, дзе плаціць падаткі і вядзе розныя справы і працэсы ў судзе, і дзе ягоны сын выхоўваецца ў вучылішчы. Выхаванне сына абыходзіцца даволі танна: на працягу васьмі гадоў усяго 1833 злотых. Галоўныя пры гэтым выдаткі на харчаванне і кватэру за 10 навучальных месяцаў, «дырэктару» за дагляд і паўтарэнне ўрокаў[3], апроч таго, падарункі калефактару (чалавеку, які паліў печы — персоне ў школе вельмі важнай, бо, апроч ацяплення, яму даручалася караць вучняў), на адзенне, паперу і інш. На падручнікі выдаткі вельмі нязначныя: ксяндзы вучылі найчасцей без дапамогі кніг. У выдатках мы знаходзім толькі адлічэнні на нямецкую граматыку і на славуты Альвар, або Лацінскую граматыку, часткова вершаваную, складзеную езуітам Альварэсам. Да ліквідацыі ордэна езуітаў гэтая кніга ўжывалася ў большасці школ — пакуль не выдалі лацінскай граматыкі піяры. Малады падчашы, здаецца, даволі старанна працаваў са сваім Альварам, бо ў выдатках бацькі мы знаходзім графу на рамонт гэтае кнігі.

Да 1790 г. пан Карыцінскі, як шляхціч, не плаціць ніякіх непасрэдных дзяржаўных падаткаў. Вялікі, або Чатырохгадовы, сейм (1789—1792) абвясціў абкладанне падаткамі шляхецкіх маёнткаў нароўні з астатнімі, і таму ў кнізе пад 1790 г. ужо запісана: падатак 5 пра-

[1] Вайсковыя аддзелы ў тыя часы былі прыпісаны да паасобных мясцовасцяў, якія плацілі падатак непасрэдна вайсковым начальнікам.

[2] Тытул смаленскага падчашага быў толькі ганаровым найменнем, бо Смаленск яшчэ ў 1656 г. адышоў ад Вялікага княства Літоўскага да Расіі. Усе тытулы страчанага Смаленскага ваяводства засталіся і даваліся каралём як узнагарода шляхце іншых ваяводстваў, хоць і не былі звязаны ні з якімі абавязкамі.

[3] Характэрна, што ў нашыя дні адраджаецца інстытут «дырэктараў», якія маюць, праўда, іншае найменне — рэпетытары, ад лац. repeto — паўтараць.

цэнтаў з прыбытку, які пан падчашы пачынае плаціць у памеры 160 злотых на год, плюс падымнае з дзевяці сялян і двух агароднікаў, усяго з чопавым і фуражовым 114 злотых на год. Апроч таго, дзесяціна царкве па 40 злотых на год.

Штогод Сцяпан Карыцінскі робіць значныя закупы на кірмашы ў Высокім Літоўскім, дзе траціць ад 800 да 1000 злотых. Тут ён купляе, між іншым, слуцкія паясы сабе і сыну, за якія плаціць па 200 злотых. На гэтым кірмашы закупляецца таксама палатно, сукно, шкуры, жалеза, усялякія мануфактурныя тавары на цэлы год. Асабліва вялікія выдаткі на жаночыя ўборы — бо ж у пана падчашага пяць дачок на выданні. Розныя каланіяльныя і прывазныя тавары, такія, як цукар, кава, селядцы, соль і інш., выпісваюцца штогод з Данцыга на суму не больш за 300 злотых, значную частку выдаткаў складае віно, якое звычайна купляецца ў Брэсце; віно гэта венгерскае і даволі таннае: бочка на 3 гарнцы каштуе 15 злотых. Галоўны прыбытак пана Карыцінскага складаюць працэнты з пазычаных капіталаў. Прыбыткі з маёнтка нестабільныя: яны склалі, напрыклад, у 1775 г. 2683 злотых, у наступным 1776 г. толькі 250, у 1779 г.— 200, у 1783 г. зноў 2241, у 1785 г.— толькі 632 злотых і гэтак далей.

Да шэрагу рукапісных кніг утылітарнага прызначэння мы можам залічыць Статут ордэна базыльян XVII ст. (БАН, Добр. 3), «Устав како подобает благовестити епископа нового», з суперэкслібрысам мітрапаліта Антонія Сялявы 1655 г. (БАН, Добр. 21), і Кнігу вопісу маёмасці Жыровіцкага манастыра (БАН, Добр. 47). Апошняя да 1633 г. вялася па-беларуску кірыліцай, зімою 1633 г. з'яўляюцца запісы на польскай мове і далей, з 1634 г., кніга вядзецца ўжо па-польску. Гэта сведчыць пра тое, што базыльяне пачалі паланізаваць сваё справаводства задоўга да каралеўскага загаду 1697 г., які спыніў ужыванне беларускай мовы ў дзяржаўных канцылярыях. Цікава, што ў Жыровіцкім памянніку запіс памерлых лацінскім алфавітам пачалі пасля смерці Іосіфа Завадскага.

Колькасць інвентарных кніг у XVIII ст. і разнастайнасць іх тыпаў значна павялічылася. Часта, апроч звестак пра прыбыткі і выдаткі, спісаў наяўнага інвентару, раскладу падаткаў па сялянскіх і гарадскіх дварах, у іх змяшчаюцца планы земляў, маёнткаў, малюнкі, спісы з гістарычных дакументаў, часам уплецены самі гістарычныя акты, што пацвярджаюць правы валодання. Тэрмін «кнігі-архівы», упершыню ўведзены ў навуковы ўжытак Д. Н. Альшыцам [1], як найлепей падыходзіць да гэтых кодэксаў. Актавы матэрыял злучаны ў пераплёты не толькі з мэтай фізічнага захавання, але і дзеля працягу і пашырэння праўнай сілы кожнага дакумента, а таксама дзеля якасна новага дзейснага эфекту ад самога факта іх злучэння. У новыя кнігі-архівы ўплыталі і гістарычныя даследаванні, што меліся не толькі пазнаёміць чытача з гісторыяй, але і быць практычным дапаможнікам у судовых справах шляхты і канкуруючых між сабою базыльянскіх, францысканскіх, дамініканскіх кляштараў. Характэрным прыкладам могуць служыць кнігі-архівы базыльянскіх кляштараў, створаныя ў 60—90-я гг. XVIII ст. у Лаўрышаве, Наваградку, Быцені і іншых асяродках Літоўскай правінцыі ордэна[2].

[1] Альшиц Д. Н. Что считать рукописной книгой? (Из опыта описаний древнерусских рукописей) // Проблемы источниковедческого изучения рукописных и старопечатных фондов. Л., 1979. С. 79—92.

[2] ЛАІГ, архіў, ф. 52. № 339, 340, 343, 345.

На працягу доўгага перыяду ад XIV да XVIII стст. выгляд створанай на беларускіх землях рукапіснай кнігі неаднаразова мяняўся: гэтыя змены адпавядалі напрамкам інтэлектуальных пошукаў і мастацкіх густаў, эвалюцыі тэхнічных сродкаў і магчымасцяў. Яны адлюстроўвалі росквіт і заняпад скрыпторыяў, адчувалі на сабе ўплыў суседніх, так адрозных між сабою, польскай і рускай кніжнасці. Рукапісная кніга была плёнам працы людзей розных спецыяльнасцяў. У яе вытворчасці, апроч кнігапісцаў, бралі ўдзел пераплётчыкі і ілюмінатары, часам ювеліры, якія выконвалі металічныя элементы абкладаў. Ускосны ўдзел у стварэнні рукапіснай кнігі бралі таксама вытворцы матэрыялу для пісьма — пергаміну і паперы.

## ПЕРАПЛЁТ

Першае ўяўленне пра кнігу, таксама як і першае ўражанне ад кнігі, дае яе пераплёт — тыя элементы канструкцыі, якія служаць для злучэння аркушаў (сшыткаў) і аховы іх ад забруджвання і пашкоджанняў. Гэта звычайна верхняя і ніжняя крышкі, форзац, карашковы матэрыял (папера, каптал і інш.), ніцяное мацаванне. Першымі пераплёт атрымалі пергамінныя кнігі, якія мелі форму кодэксу (збрашураваных паміж сабою сшыткаў), абавязкова рабіліся зашпількі (завязкі), якія не давалі пергаміну карабаціцца. Тэхніка пераплёту старых кніг амаль да драбніц супадае з той, якая прымяняецца і цяпер пры ручным пераплёце: перапісаныя сшыткі (сэкстэрны) майстар падбірае ў блок, потым акуратна выраўнівае і, зацiснуўшы ў прэс (струбцыну), робіць уздоўж іх тарцовага боку некалькі (2—6) надрэзаў. Праз надрэзы прапускае вяроўку — яна змацоўвае сшыткі паміж сабой і з крышкамі пераплёту. Запіска аб памылцы пераплётчыка (інтралігатара) захавалася ў актавай кнізе гарадзенскага земскага суда за 1578—1579 гг.: «Помылкою интролигатора жида, тут тая секстерна вставлена, которая мела быть нижей на роки о Трех Королях»[1]. Працэс працы пераплётчыка ў дэталях неаднойчы паказаны на заходне-еўрапейскіх гравюрах XVI — XVIII стст.

[1] Бершадский С. А. Литовские евреи. СПб., 1883. С. 410.

З пункту гледжання мастацтва кнігі, пад пераплётам мы разумеем толькі пераплётныя крышкі альбо цвёрдую вокладку, якія разглядаюцца як адзін з элементаў мастацкай аздобы кнігі. У розны час канструкцыі пераплётаў адрозніваліся рознымі матэрыяламі, арнаментамі ўпрыгожанняў, відамі і рашэннем абкладаў. Эмацыянальна сказаў пра гэта стары маскоўскі бібліяфіл і кнігагандляр П. Шыбанаў: «...пераплёты эпохі — кожны для свайго стагоддзя— настолькі тыповыя, што трэба быць безнадзейным тупіцам, каб не адрозніць, да якога часу кніга ў такім пераплёце адносіцца»[1]. У тым, што пераплёты існавалі на беларускіх землях ад пачатку кнігавытворчасці (менавіта ад X ст.), няма сумненняў,— да XV ст. кнігі былі толькі пергамінныя, і тэхналагічна пераплёт быў цалкам неабходны — ён не даваў дэфармавацца старонкам.

Сведкамі бытавання пераплеценых кніг з'яўляюцца знойдзеныя пры раскопках старажытных Наваградка, Ваўкавыска і Турава кніжныя зашпількі. Дошкі пераплётаў часам абкоўваліся металічнымі абкладамі. Так, напрыклад, у Іпацьеўскім летапісе пад 1288 г. гаворыцца: «Князь Уладзімір Васількавіч заснаваў Камянец і ўклаў у царкву Дабравешчання евангелле апракас акаванае срэбрам»[2]. Некаторыя кнігі, напрыклад Евангелле і Апостал, у час службы некалькі разоў выносіліся з алтара на сярэдзіну царквы. І эстэтычнае пачуццё вернікаў, якім быў прасякнуты той час, якое ўпрыгожвала царкву цудоўнымі абразамі і фрэскавымі роспісамі, а яе служак апранала ў багатыя шаты, патрабавала, каб і кніга, якую выносяць на сярэдзіну святыні, сваім знешнім выглядам упісвалася ў агульны ансамбль, каб яна таксама была аздобаю і дэкарацыяй прастола, як і крыжы, келіхі (паціры) і іншыя культавыя металічныя рэчы, якія там знаходзяцца.

Вельмі нязначная колькасць абкладаў рабілася з цэльных металічных дошак. Пераважная большасць складалася з некалькіх асобных частак: срэдніка і чатырох навугольнікаў верхняй крышкі, срэдніка і чатырох «пукляў», ці «жукоў», ніжняй крышкі, акрамя гэтага, дзвюх зашпілек, у XVIII ст. часам дадаваліся арнаментальныя зоркі або галоўкі анёлаў (херувімаў) і г. д. Усе гэтыя часткі ювелір манціраваў на абцягнутых аксамітам дошках драўлянай аправы. Найбольш пышна аформленай кнігай было, як звычай, напрастольнае Евангелле, якое само было прадметам культу. «...аздоба напрастольных Евангелляў пачыналася з дошак пераплёту, якія часта «акоўваліся» залатымі і срэбнымі абкладамі, упрыгожваліся каштоўнымі камянямі. Такая кніга станавілася спакусаю для рабаўнікоў і была прычынай знікнення шматлікіх яе асобнікаў, якія пасля «абадрання» (паводле сведчання шматлікіх летапісаў) абкладаў рассыпаліся на аркушы і сшыткі»[3]. Так, напрыклад, у 1594 г. віленскі радца Якуб Іванавіч уклаў у саборную царкву Багародзіцы Евангелле «...аксамітам чырвона-вішнёвым крытае і срэбрам пазлацістым з абодвух бакоў, а на вянцах з каменем і з перламі апраўнае...», а цяпер гэта кніга «абадраная», г. зн. пазбаўленая пераплёту, захоўваецца ў фондзе былога Свяшчэннага Сінода і пра багацце яе пераплёту мы даведваемся толькі з прыпіскі[4].

У XV ст. на беларускіх землях пашырыўся гатычны тып пераплёту. Канструкцыяй сваёй ён уяўляў дашчаныя крышкі, абцягнутыя скурай, абрэзаныя на ўзроўні з блокам кнігі. Зашпількі выконваліся ў выглядзе металічных колцаў на скураных раменчыках,

[1] Шибанов П. Полвека со старой книгой и ее друзьями: Из воспоминаний // Книга. 24. М., 1972. С. 182.
[2] ПСРЛ. М., 1962. Т. 2. С. 925—926.
[3] Розов Н. Н. Книга в России в XV веке. С. 52.
[4] ЦДГАЛ, Син. Ф. 834, воп. 4, № 52.




*Пашкоджаны скураны абклад дае магчымасць пабачыць прынцып мацавання блока рукапіснай кнігі XVI ст.*



*Пераплётная майстэрня. Гравюра XVI ст.*



*Напрастольнае евангелле з абкладам XVI ст.*

*Служэбнік канца XVI ст. Пераплёт 1611 г.*



*Напрастольнае евангелле. XVI ст.*

*Пераплётная майстэрня. Гравюра XVIII ст.*






якія накідваліся на медзяныя цвікі, увагнаныя ў абрэз верхняй крышкі. Перапісаныя на паперы «Беседы святаго Григоріа» з Наваградка з'яўляюцца выключэннем: пераплёт гэтага рукапісу быў без зашпілек. Скура пераплёту часам мае цісненне, на рагах верхняй крышкі — навугольнікі няправільнай рамбічнай формы, у цэнтры часта змяшчаўся ромбападобны срэднік, на ніжняй крышцы пераплёту — металічныя паўсферычныя «гузы» («пуклі», «жукі»). У канцы XV ст. у канструкцыі пераплёту з'яўляюцца тыя прыкметы, якія стануць дамінантнымі ў XVI ст. Абрэз выконваўся не на ўзроўні з блокам кнігі, а выступаў на 2—3 мм за блок, край яго пачалі зрэзваць на вугал. Змяняецца канструкцыя зашпілек. Цяпер іх робяць у выглядзе пары металічных сашчэпак. Адна мацуецца на правым баку верхняй дошкі пераплёту ў выглядзе накладкі, а другая — да раменьчыка і ніжняй дошкі. Прыклад такога пераплёту — аправа рукапісу канца XV ст. з фондаў віленскага Беларускага музея імя Івана Луцкевіча: чорная ціснёная скура, навугольнікі і срэднік, найбольш верагодна — віленскай работы.

Характэрным прыкладам першых рэнесансных пераплётаў канца XV ст. з'яўляюцца два пераплёты месячных Міней, якія выкананы, верагодна, у Слуцку ў 80—90-я гг. XV ст. (БАНЛіт, F19—156, F19—161). Добра выробленая, ціснёная рознымі арнаментамі і таблеткамі, скура гэтых пераплётаў займае дзве трэці плошчы дошкі, карашок прымацаваны да тоўстай шэрай скуры, якая «ўсутык» злучана з ціснёнай. Аналагі такой наборнай канструкцыі можна знайсці сярод нямецкіх і польскіх пераплётаў таго часу. Цудоўнага мастацкага эфекту дасягнулі пераплётчыкі, робячы замест металічных навугольнікаў і срэдніка цісненне гэтых элементаў на скуры; на вонкавым баку кнігі пераважала залатое цісненне, а на адваротным — срэбнае. Для такой работы выкарыстоўвалі штампы, якія выконвалі прафесійныя ювеліры. Металічныя элементы пераплёту (зашпількі, навугольнікі з чаканкай або гравіроўкай) таксама заказвалі ювелірам. Сярод тых, хто займаўся вырабам пераплётных штампаў, быў галоўны мюнцмай-

*Мінеі-чэцці. Слуцк, XVI ст. Ціснёны медальён з гербам Вялікага княства Літоўскага. Фрагмент*

стар віленскага манетнага двара Ганс Трыльнер, а таксама іншыя вядомыя майстры[1].

Часам ювеліры наносілі на зашпількі лацінскія літары і манаграмы. Яны ёсць на зашпільках Пролага, пераплеценага ў Любчы (БАНЛіт, F19—98), на пераплёце кнігі з Пяцікніжжам Маісеевым (БАНЛіт, F19—89), Тлумачальнага псалтыра (ДПБ, F.I.738) і інш. На пераплётах кніг Маскоўскай Русі даследчыкі гэткіх зашпілек не знаходзяць, таму іх можна разглядаць як адну з лакалізуючых прыкмет[2].

Зношаныя пераплёты аддавалі на рэстаўрацыю. Так, у студзені 1687 г. слуцкі вайтовіч Іван Лапіцкі «і іншыя» для ўсіх Міней (відаць, да гадавога камплекта) сваёй прыходскай царквы заказалі новыя пераплёты (БАНЛіт, F19—151, F19—157). У адным выпадку работа зроблена вельмі акуратна, у другім — больш груба. Вопіс бібліятэкі Супрасльскага манастыра 1557 г. захаваў запіс пра перанясенне абкладу з адной кнігі на другую: «Требник в десть новый, оксамитомъ чорнымъ покрытъ, пукли из полудесного Требника старого собравши серебреные на него уложены, а посредине бляшка и зъ образом Іоанна Богослова»[3]. Прыкладам перанясення накладной пластыкі XVIII ст. з кнігі большага фармату на кнігу меншага фармату можа быць Евангелле (БАНЛіт, F19—39).

Не заўсёды дошкі пераплёту абцягвалі скурай, «бедныя» пераплёты мелі скураны або палатняны карашок і дашчаныя крышкі, зашпількай быў скураны раменьчык, які накідваўся на драўляны калочак на верхняй крышцы. Пры ўсёй сваёй адноснай беднасці такі пераплёт выглядае вельмі эстэтычна (як прыклад можна прывесці Евангелле

[1] Laucevičius E. Knygu irišimai Lietuvos bibliotekose. Vilnius, 1976.

[2] Клепиков С. А. Орнаментальные украшения переплетов конца XV — первой половины XVII вв. в рукописях библиотеки Троице-Сергиева монастыря // Запад. Отд. рукописей Гос. Б-ки им. В. И. Ленина, 1960. Вып. 22. С. 57—73; Шварц Е. М. Новгородские рукописи XV века. М.—Л., 1989.

[3] Археографический сборник документов, относящихся к истории северо-западной Руси. Т. 9.

*«Гатычны» пераплёт са скураным абкладам віленскай работы XVI ст.*



*Евангелле XVI ст. у абкладзе XVIII ст.*

XVII ст. з Глыбокага — ДПБ, Соф. 749). Асаблівасці тэхналогіі пераплёту сярэдзіны XVI—XVII стст. можна разгледзець на асобніках, якія маюць вытворчыя дэфекты ці пазнейшыя пашкоджанні. Так, верхняя крышка пераплёту Патэрыка скіцкага сярэдзіны XVI ст. у час вырабу была пашкоджана: на месцы верхняй зашпількі аказаўся сучок. Прыбіваючы зашпільку, майстар моцным ударам малатка выбіў сучок, але пашкодзіў пры гэтым блок кнігі і скуру пераплёту. Дэфект не сталі выпраўляць, кніга і цяпер мае толькі адну, ніжнюю зашпільку. Другі пераплёт (БАНЛіт, F19—56), выкананы таксама ў XVI ст., мае крышку, якую нарасцілі ўжо ў працэсе работы (да асноўных дошак крышкі драўлянымі цвікамі прыбіты па краях рэечкі). Такая канструкцыя магла служыць як для выпраўлення памеру крышкі, так і для паляпшэння яе якасці (каб не «павяло» пры высыханні скуры абклада).

Адзін з самых старажытных беларускіх абкладаў замацаваны на пераплёце Лаўрышаўскага евангелля. Аснова яго зроблена з дошак, абцягнутых малінавым аксамітам (240×335 мм). На верхняй дошцы — чатыры навугольнікі, замацаваныя кожны двума цвікамі, у цэнтры — вялікая пяцікантовая планкетка ў выглядзе каплічкі з востраканцовым дахам, з выразаным усярэдзіне абразом святога ў плашчы, які трымае шчыт і дзіду. Верагодна, што гэта св. Дзмітрый Салунскі. Можна адзначыць, што такая трактоўка воіна са шчытом і дзідаю ў часы Кіеўскай Русі прымянялася мастакамі для адлюстравання вобраза князя.

На навугольніках і планкетцы замацаваны чатырнаццаць каштоўных камянёў (біруза, смарагды, рубіны). На ніжняй дошцы пераплёту цвічкамі прыбіты чатырохканцовы срэбны крыж, на якім выгравіравана сцэна ўкрыжавання. Ісус Хрыстос паказаны з німбам, на крыжы сяміканцовай формы, побач — прылады катавання — губка і трысціна (справа) і дзіда (злева), уверсе ў выглядзе птушкі, якая спускаецца, паказаны Святы Дух. Усе малюнкі, уключаючы губку, трысціну і дзіду, надпісаны почыркам, блізкім па палеаграфіі да беларускага скорапісу XV — пачатку XVI стст. В. Ластоўскі гаворыць пра традыцыю лічыць воіна, паказанага на планкетцы верхняй дошкі пераплёту Лаўрышаўскага евангелля, Лаўрышам-Войшалкам, сынам Міндоўга, які заснаваў у XIII ст. Лаўрышаўскі манастыр, манахам скончыў жыццё і пасля смерці быў залічаны да сонму святых[1]. Сучасныя даследчыкі не адхіляюць гэтую гіпотэзу, у прыватнасці, прафесар Д. Агіцкі адзначае, спасылаючыся на Альбрэхта Каяловіча, што ў 1514 г. пры мітрапаліце Іосіфе Солтане быў кананізаваны Елісей — архімандрыт Лаўрышаўскага манастыра, які жыў у XIII ст.[2]. Калі мець на ўвазе датаванне абклада Лаўрышаўскага евангелля пачаткам XVI ст., а такая дата ўяўляецца найбольш верагоднай, то можна дапусціць, што раскошны абклад быў зроблены з нагоды кананізацыі Войшалка-Елісея.

[1] Ластоўскі В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. С. 108.

[2] Огицкий Д. П. Великий князь Войшелк // Богословские труды. М., 1983. Сб. 24. С. 171—196. Цікава адзначыць, што пакланенне св. Елісею выклікала ў другой палове XIX ст. цэлы судовы працэс, які закончыўся забаронай культу Елісея.

*«Саматужны» пераплёт XVII ст.*
*Дошкі, палатно*

*Лаўрышаўскае евангелле XIV ст.*
*Пераплёт і абклад XVI(?) ст.*



*Навугольнік з выяваю св. Лукі і зашчапка. Кобрынскае евангелле. XVI ст.*

*Навугольнік і зашчапка з Евангелля XVI ст.*





Другі багаты абклад сярэдзіны XVI ст. да Другой сусветнай вайны перахоўваўся ў Кіева-Пячэрскай лаўры. У падрабязным укладным запісе, датаваным 1541 г., ёсць яго апісанне: «...евангеліе... чорным гладким оксамитом пакрытое и оправное серебром с четырьмя евангелистами и застежками везеными серебряными всепозлотистое... на котором серебра полшесты гривны и тринадцат золотников». Евангелле было ўкладам земскага падскарбія Івана Яўстаф'евіча Гарнастая, у будучым наваградскага ваяводы; абклад гэтай кнігі рабілі лепшыя ювеліры. На выпуклых простакутных навугольніках выгравіраваны малюнкі, у якіх адчуваюцца традыцыі іканапісных пропісяў. На простакутным срэдніку — Укрыжаванне з двума Прадстаячымі. Фігуры выліты са срэбра. Срэднік знаходзіцца у рамцы з праразных ажурных гатычных крыжацветаў, навугольнікі ў гатычным арнаменце з больш простым малюнкам. Крыжацветы гэтага абклада маюць блізкую аналогію ў ажурным поясе крыжацветаў на келіху першай паловы XVI ст. з Наваградка, што дае падставы звязваць дзве гэтыя рэчы з блізкім да двара мітрапаліта майстрам-ювелірам Іванам Івонічам. Аднак, акрамя асноўных элементаў гатычнага стылю, на абкладзе Евангелля Гарнастая паміж навугольнікамі былі замацаваны чатыры срэбныя пазалочаныя палоскі з праразным рэнесансавым

*Срэднік Кобрынскага евангелля*
*XVI ст.*



кветкавым арнаментам. На кожнай паласе — два круглыя медальёны з гравіраванымі паяснымі выявамі васьмі апосталаў (выявы яшчэ чатырох — на навугольніках). Даніла Шчэрбакіўскі адзначае, што ў гэтым абкладзе механічна спалучаюцца два розныя стылі — готыка і Рэнесанс (тое самае можна назіраць і ў наваградскім паціры — гатычны подус і стаян спалучаны з цюльпанападобнай рэнесансавай формы чашай)[1].

Да пачатку XVII ст. на беларускіх землях пашырыўся своеасаблівы від абкладаў: адмысловасць яго была ў выпуклых прастакутных або квадратных навугольніках з гравіраванымі выявамі евангелістаў ці іх сімвалаў (арла, льва, анёла і быка). Яны спалучаліся з цэнтральнай планкеткай з адлюстраваннем Укрыжавання, таксама прыўзнятай над дошкай пераплёту. Часам планкетка мела накладную пластыку. Прыкладам можа быць абклад Евангелля канца XVI ст. (БАНЛіт, F19—35). Дошкі пераплёту тут абцягнуты зялёным аксамітам, а паверх яго замацаваны накладныя ўпрыгожанні: пазалочаная цэнтральная планкетка і чатыры срэбныя навугольнікі з выявамі евангелістаў і іх сімвалаў. Памер цэнтральнай планкеткі 7,7×6,5 см. На ёй адлюстравана сцэна Укрыжавання з двума Прадстаячымі: Марыяй і Іаанам. Фігуры Хрыста і Прадстаячых вылітыя, аб'ёмныя, на плоскасці планкеткі выгравіраваны сілуэт сяміканцовага крыжа і абрысы Галгофы. Сяміканцовая форма крыжа была характэрна для Беларусі — у Маскоўскай Русі яна знікла пасля Стаглавага сабора 1551 г. У прыкладным мастацтве Беларусі першай паловы XVII ст. накладной пластыкай карысталіся даволі часта: адлітае Укрыжаванне мы сустракаем на напрастольным крыжы 1624 г. з Наваградка (ДГМ БССР). Вядомаму беларускаму пісьменніку-палемісту Афанасію Філіповічу належала кніга, пераплёт якой быў «справлен коштом» брэсцкіх гараджан і меў на верхняй крышцы срэбнае пазалочанае Укрыжаванне з Прадстаячымі, а на ніжняй крышцы вылітыя са срэбра пазалочаныя выявы Увасаблення господа, шэсць херувімаў, а таксама постаці Васіля Вялікага, Грыгорыя Багаслова і Іаана Златавуста[2].

Іншы тып прадстаўлены добра захаваным пераплётам з гравіраванымі накладкамі — Евангелле (БАНЛіт, F19—43), якое было ўкладам у царкву Спаса ў Кобрыне. Першапачаткова дошкі гэтага пераплёту былі абцягнуты палатном, затым пакрыты зялёным аксамітам і замацаваны навугольнікамі і планкеткай. Сцэна, прадстаўленая на цэнтральнай васьміканцовай планкетцы, традыцыйная: Укрыжаванне з двума Прадстаячымі. Вельмі цікавы фон, на якім прадстаўлены евангельскі сюжэт: гэта гарадскі краявід. Абрысы будынкаў, крытых дахоўкай, з флюгерамі, купалы цэркваў, з вокнаў дамоў выглядваюць людзі,— усё яскрава перадае атмасферу горада XVII ст. Бліжэйшую аналогію гэтаму сюжэту мы сустрэнем на напрастольным крыжы з Давыд-Гарадка, дзе Укрыжаванне таксама гравіравана на фоне гарадскога краявіду, праўда, выканана яно менш старанна[3]. Цяжка растлумачыць прычыну, аднак пры пераплёце і замацаванні абкладу была зроблена відавочная і лёгка заўважная памылка: усе накладкі замацаваны «дагары нагамі».

Кампазіцыя абклада, якая складалася з чатырох навугольнікаў з выявамі евангелістаў і цэнтральнай планкеткі са сцэнай Укрыжавання, захавалася і ў XVIII ст. Да такіх помнікаў можна аднесці абклад Мсціжскага евангелля (БАНЛіт, F19—2), гэты пергамінны

[1] Щербаківський Д. Золотарська оправа книжки в XVI — XIX століттях на Україні // Бібліологичні вісти. 1924. № 1. С. 101—113.

[2] Голенченко Г. Я. Идейные и культурные связи восточно-славянских народов в XVI — середине XVII вв. Мн., 1989. С. 22.

[3] Алтарны крыж канца XVI — пачатку XVII стст. работы давід-гарадоцкага майстра. Дзяржаўны мастацкі музей БССР.

рукапіс XIV ст. быў нанова пераплецены ў другой палове XVIII ст., пра што сведчаць як канструкцыя пераплёту, так і вадзяныя знакі паперы форзацу). Евангелле (БАНЛіт, F19—43) і іншыя помнікі; пры гэтым не назіраецца строгага наследавання традыцыям. На абкладзе Мсціжскага евангелля паказаны, напрыклад, не чатыры евангелісты, а толькі два — Матфей і Іаан, на планкетцы Евангелля (БАНЛіт, F19—43) Укрыжаванне выканана ў каталіцкай іканаграфічнай традыцыі — ногі Хрыста прыбіты не двума цвікамі, а адным. У той самы час выявы евангелістаў на навугольніках абклада F19—43 выкананы настолькі рэалістычна, што ўзнікае меркаванне пра іх партрэтнае падабенства з гравёрам і яго сучаснікамі.

На адвароце верхняй крышкі пераплёту Лемяшэвіцкага евангелля (ДПБ, СПБ ДА А-1.116) ёсць запіс скорапісам XVIII ст.: «Року тысяча семсот семдесятого оправилем на име Базилеи Павловичь Лемешевьский на церковь Лемешевицкую Рождества Пресвятои Богородици Богу на честь на хвалу мисяца мая семнадцатого дня». Ніжэй, скорапісам XIX ст., алоўкам зроблена прыпіска: «Взята из церкви Лемешевицкой Пинского повета в 1837 году». Пераплёт — дошкі, абцягнутыя чырвоным сукном. На верхняй крышцы замацавана накладная пластыка: чатыры навугольнікі з выявамі евангелістаў і ў цэнтры планкетка з накладным пяціканцовым «лапчатым» крыжам. Крыж — без Укрыжавання, на верхняй яго перакладзіне лацінская абрэвіятура INRI (Ісус Назаранін Цар Іудзеяў), у падножжа — сімвал Адама (чэрап са скрыжаванымі касцямі). Пераплёт гэты з'яўляецца адным з лепшых узораў беларускага «уніяцкага класіцызму» ў ювелірным мастацтве XVIII ст. Аднак, на вялікі жаль, пры пераплёце Лемяшэвіцкага евангелля парушыліся прапорцыі рукапіснай кнігі XVI ст. і страцілася частка цудоўнай раслiннай арнаментыкі на берагах, не кажучы ўжо пра немагчымасць уявіць першапачатковыя памеры блока гэтай кнігі.

Выпадак не часты, аднак у зборы Санк-Пецярбургскай духоўнай акадэміі побач з Лемяшэвіцкім евангеллем апынуўся Апостал з тае самае царквы з запісам пра пераплёт: «Roku 1831 M-a dbra, 23 dnia Ta Xięga Oprawiona przez Jmść Pana Gabryiela Teodorowicza Lemiescewskiego». Для пераплёту была выкарыстана цёмная скура са сціплым арнаментальным бардзюрам, якая абцягвала дошкі, у цэнтры выціснена езуіцкая эмблема з палаючым колам (ДПБ, СПБ ДА А-1. 117).

Цяпер немагчыма высветліць, хто былі Базыль Паўловіч і Габрыэль Тэадаравіч з Лемяшэвіч — пераплётчыкі ці заказчыкі пераплётаў. Інфармацыі пра інтралігатараў у прыпісках увогуле вельмі мала. Найбольш старажытны ўспамін адносіцца да XVI ст.— на Пролагу (БАНЛіт, F19—95), перапісаным у 1512 г., ёсць прыпіска: «Переплетена бысi сіа книга рукою іерея Пръфиріа иж в Любчи 1512 август. к.». Наступны аўтограф пераплётчыка датаваны толькі 1610 г.: «Сіе Евангеліе напрестольное аз многогрешный Иван Василевич родом из Пинска зъинтролиговалъ...»[1] Прафесія пераплётчыка была досыць рэдкай і дэфіцытнай. Дакументамі зафіксавана, як аднойчы гэты «дэфіцыт» выкарыстаў аматар лёгкай нажывы. У 1645 г. у магілёўскі брацкі манастыр быў прыняты пераплётчык Аляксандр, які назваўся ўраджэнцам Кіева. Ён набраў кніг у вучняў брацкай школы, манахаў і нават мясцовага харужага, а потым нечакана знік[2].

[1] Щапов Я. Н. Собрание И. Я. Лукашевича и Н. Я. Маркиевича: Описание. М., 1959. № 63. С. 55.

[2] Г. Я. Галенчанка адшукаў гэты цікавы дакумент у ЦДГА БССР, ф. 1828. воп. 1, спр. 12, арк. 503 адв.

У XVII ст. для пераплёту рукапіснай кнігі пачынаюць ужываць кардон, зроблены з паперы самай нізкай якасці (harta bibula). Узорам такога пераплёту з'яўляецца аправа трактатаў сакратара Літоўскай правінцыі базыльян Максімільяна Нагорскага і пінскага біскупа Гедэона Гарбацкага, выкананы ў 1752 г. (БАНЛіт, F41—578). Цікавая тэхналогія пераплёту Давыдкаўскага ірмалоя: цісненая скура, усярэдзіне — некалькі слаёў палатна (ДПБ, Кап. F. 10.).

У XVIII — XIX стст. шмат якія рукапісныя кнігі набылі бібліяфільскія пераплёты, або «фірменныя», пераплёты вялікіх бібліятэк — Імператарскай Акадэміі навук, Публічнай у Пецярбурзе, маскоўскага гісторыка Пагодзіна, графаў Шарамецьева, Галіцыных і інш. Старыя пераплёты, як правіла, пры гэтым не захоўваліся, было страчана мноства каштоўных запісаў на крышках, бібліятэчных памет папярэдніх гаспадароў, нарэшце, узораў пераплётнага мастацтва.

## КНІГА НА ПЕРГАМІНЕ

У кніжным мастацтве беларускіх земляў у XIV ст. працягваліся мастацкія традыцыі старажытнарускай кнігі XI—XIII стст. Цалкам захоўваецца знешні выгляд кнігі, яе ўнутраная архітэктоніка. У XIV ст. кнігі пішуцца, як і раней, на пергаміне. Пергамін беларускіх рукапісаў добра выраблены, аднак ён не такі глянцава-белы і паўпразрысты, як гэта характэрна для добра выробленага заходнееўрапейскага пергаміну таго часу. Невядома, дзе выраблялі мясцовы пергамін, можна толькі выказаць меркаванне, што вытворчасць яго не вылучылася ў асобную спецыялізацыю, а існавала ў рамках гарбарства, пашыранага ў шмат якіх гарадах Беларусі. Гарбары выраблялі даволі вялікія аркушы, што дазваляла ствараць кнігі памерам да 26×29,5 см,— перавага такой кнігі была найперш у тым, што яна была не вельмі тоўстая — гэтак ёю лягчэй было карыстацца пры чытанні. Кнігі памерам у чацвёрку, аднак або не таўсцейшыя, або не на шмат таўсцейшыя за фаліянты. Каб гэтага дасягнуць, перапісчыкі ўжывалі драбнейшы почырк, інакш, больш кампактна размяшчалі тэкст. Калі ў ранніх кнігах (XII — XIII стст.) перапісчыкі абміналі дзіркі ў пергаміне (непазбежны дэфект пры вырабе скур), дык у XIV ст. дзіркі, як правіла, старанна зацыраваныя.

Перапіска рабілася сшыткамі, кожны з якіх меў восем аркушаў. У канцы перапісчык, як правіла, ставіў сігнатуру: літару, што азначала нумар сшытка. Пры пераплятанні сшыткі падбіраліся па гэтых літарах, размешчаных або ўсярэдзіне апошняга аркуша, або ў левым рагу, часам падлік пазначаны і на пачатку і ў канцы сшытка (БАНЛіт, F19—3). Фармат будучай кнігі выбіраў сам перапісчык. Калі ён пісаў кнігу на заказ, дык, найбольш верагодна, залежаў ад жадання заказчыка, калі на продаж — ад свайго густу, і ў тым і ў другім выпадках значную ролю адыгрывала традыцыя. Перш чым пачаць перапіску, пісар разлінoўваў увесь пергамін вострым стылом, для адлінавання кожнага радка наколваўся асобны цвічок. Захаваліся кнігі, у якіх пры пераплёце сляды гэтых наколаў не зрэзаныя (напрыклад, у рукапісах ДПБ, Q.п. 1.2, БАНЛіт, F19—2, F19—3, F19—5). Колькасць радкоў залежала ад фармату кнігі. У фаліянтах колькасць радкоў вагаецца ад 22—24 (БАНЛіт, F19—3, Менскі апракас, БАНЛіт,

*Узор папяровага пераплёту XVIII ст. (harta bibula)*



F19—2), да 31—32 (ДПБ, F.п.1.17), на кожным аркушы адна або (часцей) дзве калонкі тэксту. У кнігах памерам *in quarto* тэкст, як правіла, перапісаны ў адну калонку, у якой 23—24 радкі. Б. Сапуноў выказаў меркаванне, што пры разліноўцы, арганізацыі прасторы аркуша кнігапісец прытрымліваўся тых самых прынцыпаў, што і іканапісец. Дзве паласы, што аддзялялі палі, адпавядалі дзвюм лініям «лузгі» іконы, якая аддзяляла каўчэг ад поля. На старабеларускіх іконах, гэтаксама як і ў кнігах, ніжняе поле заўсёды большае за верхняе. Падабенства з іконай узнікае яшчэ і ад падыходу да выявы на іконе, якая ўспрымалася як святая, гэтаксама ўспрымалася выява тэксту богаслужэбнай кнігі.

Дзеля таго каб фармальна ахарактарызаваць асноўную кампазіцыйную пабудову старонкі, існуе добра адпрацаваная методыка, якая паспяхова прымянялася для вывучэння заходнееўрапейскай кнігі[1]. Ідучы за гэтай самай методыкай, мы вызначылі памеры аркуша (даўжыня і шырыня ў мм) і памеры поля для тэксту беларускіх пергамінных рукапісаў. Працэнтныя суадносіны замераных плошчаў для розных рукапісаў атрымаліся розныя: для кніг фарматам *in folio* — ад 48,6 да 57,9 %, для кніг *in quarto* — ад 37,3 да 45,8%. У тых выпадках, калі працэнт нізкі, аркуш перагружаны, успрыманне тэксту ўскладняецца. Чым вышэйшы працэнт, тым зграбнейшая кампаноўка, большыя палі, разварот кнігі бліжэйшы да прапорцый «залатога сячэння». Аднак затраты матэрыялу таксама значна павялічваюцца. Дзеля параўнання можна ўзяць два пергамінныя Евангеллі з полац-

[1] Киселева Л. И. Западноевропейская рукописная и печатная книга XIV — XV вв.: Кодикологический и книговедческий аспекты. Л., 1985.

*Апрацоўка скур. Гравюра XVI ст.*



кага Прадцечанскага на Востраве манастыра. Падлікі паказалі, што калі на выраб Евангелля Q.п.1.2 (кніга з поўным тэкстам, памерам *in quarto*) пайшло каля 12 цялячых скур, дык на выраб Евангелля ДПБ, F. п.1.17 (кніга з поўным тэкстам, памерам *in folio*) неабходна было патраціць 23 скуры (з разліку 4756 кв. см пергаміну ў адной скуры).

Асноўным відам упрыгожання ўсходнеславянскіх кніг у XIV—XV стст. была тэраталогія, або «звярыны стыль». У гэтую эпоху стыль гэты дасягае свайго росквіту, цалкам раскрывае закладзеныя ў ім дэкарацыйна-мастацкія магчымасці і паступова адыходзіць на другі план. Асабліва шырокае развіццё тэраталогія атрымала ў наўгародскай кнізе[1], другой буйной школаю можна назваць полацка-смаленскую[2]. А. І. Някрасаў адзначае абмежаванасць тэраталагічнага арнаменту плоскасцю, на якой ён дае толькі абрысы, што часам страчваюць свой жывёльны вобраз і пераходзяць ці то ў лістоту, ці то ў нейкіх дзівосных паўжывёл-паўнасякомых, ці то ў рамяні, якія можна было б назваць і змеямі. Часам гэтыя абрысы жывёлы ўзнікаюць з раслін, якія сваім малюнкам даюць неабходную дзеля гэтага форму. І жывёльныя, і раслінныя формы пераплятаюцца паміж сабою, аднолькава падпарадкоўваючыся закону ўмоўнага стылю, але і тыя

[1] Ильина Т. В. Декоративное оформление древнерусских книг. Новгород и Псков. XII — XV вв. Л., 1978.

[2] Некрасов А. И. Древнерусское искусство. М., 1937. С. 214.

*Майстэрня па вырабу пергаміну. Гравюра XVIII ст.*



і другія формы бясспрэчна бяруцца з прыроды. Сярод жывёльных форм з'яўляюцца і малюнкі чалавека[1].

Выявы звяроў-пачвар, гэтаксама як і плеценых арнаментаў, былі шырока распаўсюджаны ў дэкарацыйна-прыкладным мастацтве Беларусі яшчэ ў далітоўскі перыяд. Пра гэта сведчаць археалагічныя знаходкі: драўляная лыжка з разною пляцёнкай з Наваградка, каменны рэльеф барса з Ваўкавыска, накладка з Лукомля і іншыя рэчы XII—XVIII стст.[2]. У XIII ст. на беларускіх землях былі створаны першыя кнігі, арнаментыка якіх была тэраталагічная. Прыкладам такой кнігі можа быць Аршанскае евангелле — застаўкі і ініцыялы яго аздоблены выявамі фантастычных звяроў і птушак, аблытаных стужкамі-рамянямі[3].

Два найбольш выдатныя помнікі полацка-смаленскай школы тэраталогіі XIV ст. — гэта Мсціжскае евангелле і Анежскі псалтыр. Мсціжскае евангелле (БАНЛіт, F19—2) XIV ст. Васіля, пана Менскага (менскага кашталяна) пра ўклад у царкву св. Юрыя і пра перадачу Евангелля бурмістрам Васілём Мікітавічам Лахам з Менска ў Мсціж. У Вільню рукапіс прывезены ў 1869 г. тагачасным куратарам Віленскай навучальнай акругі Пампеем Бацюшкавым і перададзены ў

[1] Некрасов А. И. Очерки из истории славянского орнамента: Человеческая фигура в русском тератологическом рукописном орнаменте XIV века. СПб., 1913.

[2] Пластыка Беларусі XII — XVIII стагоддзяў. Альбом/Склад. Н. Высоцкая. Мн., 1983. Іл. № 10, 11, 13, 15.

[3] Геппенер М. В. Слов'янські рукописи XI—XIV стст. у фондах відділу рукописів ЦНБ АН УРСР (Огляд. опис, публікації). Київ, 1969. С. 30—36.

*«Беседы святаго Григорія». XIV ст. Застаўка тэраталагічнага стылю*

Публічную бібліятэку. Нельга не пагадзіцца з Ф. Дабранскім: «...разглядаючы ініцыялы гэтага Евангелля, міжволі дзівішся багатай і невычарпальнай фантазіі пісца-мастака, які, нягледзячы на аднастайнасць літар і частае іх паўтарэнне, сам амаль не паўтараецца, вышукваючы разнастайныя, часам вельмі дзівосныя формы для літар. Але матывы арнаменту літаральна тоесныя з малюнкамі таго самага роду ў рукапісах паўночна- і паўднёварускага паходжання, і калі прызнаць, што Евангелле гэтае напісана ў тутэйшым краі, дык гэта будзе немалаважным доказам адзінства думкі і жыцця заходняй і паўночна-ўсходняй Расіі ў эпоху напісання рукапісу»[1].

Асабліва яскравыя і самабытныя ў Мсціжскім евангеллі ініцыялы з выявамі чалавечых фігур. Гэта не заўсёды фантастычныя зверачалавекі, аблытаныя рамянямі арнаменту, хоць сустракаюцца і такія. Найбольш характэрны постаці, свабодныя ад пляцёнкі,— гэта чалавек у зялёным жупане і зялёных ботах з гускай, чалавек з чаркай у руцэ, чалавек, што абапіраецца на лапату. Матыў чалавека шырока прысутнічае і ў ініцыялах гэтак званага Анежскага псалтыра. Кніга гэта створана ў XIV ст. майстрам Лукой Смальнянінам на заказ манаха Алекса. Назву «Анежскі» Псалтыр атрымаў паводле месца захавання — у Крыжовым манастыры на востраве Кій Анежскай губы Белага мора, куды быў вывезены па загадзе патрыярха Нікана разам з маёмасцю Мсціслаўскага Пустынскага Успення Багародзіцы манастыра[2].

Афармленне гэтай кнігі сугучнае афармленню Мсціжскага евангелля і Фролаўскага псалтыра (ДПБ, F.п.1.2), якія таксама адносяцца да полацка-смаленскай школы. А. І. Някрасаў, прааналізаваўшы афармленне гэтых помнікаў, робіць выснову, што «элементы рэалізму і пластыкі прабіваюцца праз беларускую тэраталогію ў значна мацнейшай ступені, чым у наўгародскім мастацтве»[3]. Тым часам у Вялікім княстве Літоўскім ужо былі вядомы кнігі, што неслі новыя, рэнесансныя традыцыі. Сярод іх «Служэбнік каралевы Соф'і». Гэты аздоблены ў стылі Рэнесансу кодэкс належаў жонцы Ягайлы Альгердавіча, каралеве Соф'і, што выйшла з дому князёў Гальшанскіх. Цалкам верагодна, што рэнесанснымі па аздобе былі кнігі, якія прывёз доктар тэалогіі Пражскага універсітэта, асабісты спавядальнік Ягайлы Ян Геронім Пражскі пад час сваёй місійнай выправы ў Вялікае княства Літоўскае ў 1395 г.

Тры мініяцюры, што займаюць тры франтыспісы Анежскага псалтыра, уяўляюць сабою нібы разрэз старажытнарускага храма (пяцікупальнага або трохкупальнага) з невялікай мініяцюрай-іконаю пасярэдзіне (на першым аркушы выява прарока Давіда, на арк. 73 адв.— Багародзіца, Ісус Хрыстос, Іаан Прадцеча, на арк. 156-а адв.— найдастойнейшы Сава). Уся астатняя прастора запоўнена пляцёнкамі, поўнымі самых дзівосных пачвар. Сярод багатага дэкору

[1] Добрянский Ф. Н. Описание рукописей... С. XI.

[2] Бугославский Г. К. Замечательный памятник древней смоленской письменности XIV в. и имеющийся в нем рисунок символико-политического содержания // Древности. Труды московского Археологического общества. М., 1906. Т. 21. Вып. I. С. 77—88. Табл. XII — XX.

[3] Некрасов А. И. Древнерусское искусство. С. 214.

*Фрагмент старонкі Пінскага евангелля. XIV ст.*

*Застаўка з Мсціжскага евангелля. XIV ст.*






і трох мініяцюр Анежскага псалтыра вылучаецца малюнак «сімволіка-палітычнага» (паводле выказвання Г. К. Бугаслаўскага) зместу. Пасля 76-га псалма, у якім ёсць словы: «Разважаю дні старавечныя, гады адвечныя», намаляваны крылатыя леў і барс, ніжэй мядзведзь і рагатая пачвара з доўгім хвастом, які заканчваецца змяінаю галавой, паміж рагоў у яго чалавечая галава. Над звярамі зроблены ўставам надпісы чарнілам: над ільвом — «царь Римский», над барсам — «царь Макидонский», над мядзведзем — «царь Вавилонский» і над чацвёртаю пачварай — «Антихрист». Між тых страшных звяроў намаляваны заяц, які збіраецца скокнуць. Даследчык Анежскага псалтыра Г. К. Бугаслаўскі адзначае, што падставаю для выявы звяроў-пачвар сталі апісанні відзенняў прарока Данііла, дзе сказана: «І чатыры вялізныя звяры выйшлі з мора, розныя адзін ад аднаго. Першы як леў, але ў яго арліныя крылы... І во яшчэ другі звер, падобны да мядзведзя... яшчэ адзін, як леапард, у каторага на хрыбце чатыры птушыныя крылы... і во — чацвёрты звер, жахлівы і страшны а дужы надзвычайна; у яго вялікія жалезныя зубы... і дзесяць рог у яго... і вось, у гэтага рогу вочы, як вочы людзіны, і рот, што вымаўляў вялікія словы...» Далей Г. К. Бугаслаўскі выказвае думку, што смалянін, манах Лука, назіраючы з манаскай келлі за

*Ініцыялы з Мсціжскага евангелля. XIV ст.*





лёсам сваёй Радзімы, бачыў бязрадасны, блізкі да пагібелі яе стан і, як патрыёт, шкадуючы аб гэтым, вырашыў выяўна адлюстраваць у сваім Псалтыры на памяць нашчадкам усю роспач productsановішча Смаленскага княства, у якім яно знаходзілася на той час»[1]. Сумненні з прычыны такой трактоўкі выказаў яшчэ ў 1937 г. А. Някрасаў, які канспектыўна адзначыў: «Было выказана меркаванне (неверагоднае), што заяц паміж пачварамі — гэта Смаленск паміж Літвою, Тэўтонскім ордэнам, Масквою і татарамі, а сімвалы і вобразы былі ўзяты з сярэднявечных сказанняў стасоўна да палітычнага становішча Смаленскага княства»[2]. Сваёй інтэрпрэтацыі А. Някрасаў, аднак, не падаў.

Паспрабуем даць іншае, чым Г. К. Бугаслаўскі, тлумачэнне сюжэта сімвалічнага малюнка Анежскага псалтыра. Крылаты леў, мядзведзь, крылаты барс і антыхрыст сустракаюцца на сярэднявечных абразах з выявамі сцэны Страшнага суда: лёс сярэднявечнага чалавека залежыць ад іх канечнага выбару[3], але не кожны чалавек прабаўляе жыццё ў пасіўным чаканні канца,— каб пазбегнуць лап і пашчы пасланцоў сатаны, ён можа, прыкладам, прайсці праз цяжкасці працы «списателя богоугодной книги», і гэтая праца стане шляхам збавення. Хто ж той заяц на малюнку Анежскага псалтыра? Думаецца, што гэта

[1] Бугославский Г. К. Замечательный памятник... С. 85.
[2] Некрасов А. И. Древнерусское искусство.
[3] Напрыклад, абраз XV ст. з Львоўскага музея ўкраінскага мастацтва гл.: Свєнціцька В., Сидор О. Спадщина віків: Українське малярство XIV — XVIII століть у музейних колекціях Львова. 1990. С. 16—17. Іл. 41—44, 18.

*Ініцыялы з Мсціжскага еван-
гелля. XIV с.*



възыграитесѧсемьзда
вашамногаѥстьнанбс
си. в. еуа. ѿлу. за



ѠСОНОВѢОУЧАІСЪИБѦ рп
хѫсѣдѧщефарисѣиза
конооучтлиижебѧ
хѫпришлиѿвьсѧко
ѩвьсигалелѣискыѩ и
иерлмлисилагнѣицѣ
лѧшеѩ. исемѫжиносѧ
щичлвканаодрѣиже
бѣослабленъ. іискахѫ
внестиипоaccess

*«Звер, які спрабуе праглынуць зайца». Ініцыял «В» з Мсціжскага евангелля. XVI ст.*



перапісчык, смалянін Лука, які паказаў сябе ў вобразе слабой, але энергічнай істоты, якая імкнецца выскачыць з кола апакаліптычных пачвар. На карысць такога меркавання, як нам здаецца, гаворыць і крыптаграфічны надпіс над малюнкам, прачытаны С. А. Далговым: «Господи, помози рабу своему Луце»[1]. Атаясамленне чалавека-перапісчыка і зайца знойдзем і ў традыцыйнай прыпісцы старажытнарускіх кніжнікаў: «Яко же рад заяц тенета избегши, так рад писец, последнюю строку дописавши» (Трыёдзь XV ст. з Гародні і інш.); у сярэднявечнай еўрапейскай гамілетыцы мы знаходзім параўнанне вобразаў чалавека і зайца. Майсэнскі святар XV ст. Мэфеф у зборніку казанняў «Hortus Reginae» пісаў у прыватнасці: «...заяц палахлівая жывёліна, баіцца кожнага звера. І чалавек мусіць быць палахлівым, каб не загубіць пакорлівасці... »[2]

Тэраталагічныя ініцыялы і застаўкі сустракаюцца і ў іншых помніках рукапіснай кнігі, што маюць дачыненне да беларускіх зем-

[1] Долгов С. О. Архангельская Псалтирь // Древности. Труды Московского Археологического общества. М., 1906. Т. 21. Вып. 1. С. 89—94.
[2] Певницкий В. Ф. Практические пособия для проповедников в средневековой литературе // Труды Киевской духовной академии. 1895. № 7. С. 415.

*Анежскі (Мсціслаўскі) псалтыр. Дапіска тайнапісам пісца Лукі і малюнак сімвалічнага зместу. 1395 г.*



*Лаўрышаўскае евангелле XIV ст. Сімвалічны малюнак і мініяцюра з выяваю евангеліста Матфея. На століку перад ім — прылады працы кнігапісца*

*«Жоны-міраносіцы і воіны каля гроба Гасподня». Мініяцюра-ілюстрацыя з Лаўрышаўскага евангелля XIV ст.*

ляў: Менскім евангеллі[1], «Беседах святого Грігоріа» (БАНЛіт, F19—3), Евангеллі (БАНЛіт, F19—4). Мастацтвазнавец В. Шматаў прасочвае ў беларускай тэраталогіі агульныя рысы з наўгародскай: агульнасць адзначаецца як у тоеснасці матываў, так і ў манеры выканання: контурнасць, мадэліроўка чырвоным і жоўтым колерамі і г. д.[2]. Ленінградская даследчыца Т. В. Ільіна, на жаль, не робіць спроб паставіць наўгародскую і пскоўскую тэраталогію побач з беларускай: бліжэйшыя паўднёвыя аналагі пскоўскай і наўгародскай кнізе яна знаходзіць толькі на Валыні[3].

У ілюмінатараў рукапіснай кнігі ў XIV ст. выяўляюцца два варыянты каштоўнаснай эмоцыі — сакраментальны і эстэтычны, якія абумоўлены двума важнейшымі шляхамі пазнання свету — сузіраннем і лагічным мысленнем[4]. У кніжнай тэраталогіі мы знаходзім незвычайна яскравую праяву эстэтычнага стаўлення перапісчыка да сваёй працы. Паводле акрэслення А. Гулыгі, эстэтычнае стаўленне — гэта найперш свабодны погляд на прадмет, бескарыслівае любаванне ім, радасць гульні з прадметам. Тэрмін «гульня» бярэцца тут у самым шырокім сэнсе — як асаблівы тып паводзін, які, па-першае, патрабуе захопленасці і, па-другое, заключае ў сабе пэўную амбівалентнасць, дваістасць, зліццё двух планаў — рэальнага і ўмоўнага[5]. Эстэтычны падыход беларускіх кніжнікаў і абумовіў з'яўленне ў сакраментальных па сваёй сутнасці богаслужэбных кнігах пачварных істот тэраталогіі і выяў чалавечых постацяў у сцэнах штодзённага жыцця — скамароства, «гусельнае гудзенне» і сварка: у малюнках ініцыялаў выразна выяўляецца другі, умоўны з гледзішча зместу кнігі, але ў сапраўднасці рэальны план.

Упрыгожанне рукапіснай кнігі ў XIV— пачатку XV стст. не вычэрпвалася, аднак, толькі тэраталагічным стылем. У зборніку з Пагодзінскага збору, напрыклад, элементы тэраталогіі мы знойдзем толькі ў першай мініяцюры (ДПБ, АР Пог. 59). Зусім у іншым ключы вырашана афармленне Лаўрышаўскага евангелля. У дзесяці мініяцюрах і васьмі тонавых малюнках гэтага рукапісу назіраецца адыход ад візантыйскіх канонаў, матэрыялізацыя выявы, цікавасць да жывапісных сродкаў, але пры гэтым няма і намёку на тэраталогію. Мініяцюра ўзбагачаецца назіраннямі натуры, яна набліжаецца да ілюзіяністычнай карціны з яе рэальнаю асновай. Значна пашыраецца кола тэм і вобразаў (якія часта зводзіліся толькі да выяў чатырох евангелістаў). В. Шматаў справядліва адзначае, што ў некаторых мініяцюрах Лаўрышаўскага евангелля адчуваюцца водгукі грэка-эліністычнага мастацтва. Гэткія малюнкі з выявамі Хрыста, архангела Міхаіла, у трактоўцы якіх адчуваюцца рысы антычнай прыгажосці[6]. Маскоўскі мастацтвазнавец В. С. Папова пры аналізе знаходзіць у гэтых мі-

[1] Драй-Хмара М. Фрагменти менського пергаменного апракоса XIV в. С. 141—246.

[2] Гісторыя беларускага мастацтва. Мн., 1987. Т. 1. С. 231.

[3] Ильина Т. В. Декоративное оформление древнерусских книг. Новгород и Псков. XII — XV вв. С. 94—99.

[4] Раушенбах Б. В. Иконография как средство передачи философских представлений. С. 316—325.

[5] Гулыга А. В. Искусство истории. М., 1980. С. 56.

[6] Гісторыя беларускага мастацтва. С. 234.

ніяцюрах «цалкам відавочнае выкарыстанне шматлікіх элементаў гатычнага стылю»[1].

Лаўрышаўскае евангелле цікавае і з пункту гледжання канструявання кніжнага развароту. Мініяцюры не заўсёды займаюць асобны аркуш, а размяшчаюцца ў канцы раздзела, на палях, з боку ад тэксту. Мы ўпершыню сутыкаемся не толькі з ілюмінацыяй кнігі (г. зн. упрыгожаннем яе мініяцюрамі, якія прыраўноўваюцца да абразоў), але і з ілюстрацыяй тэксту, г. зн. змяшчэннем малюнкаў, якія раскрываюць змест напісанага. Цікава, што двойчы праілюставаны сюжэт пра Варлаама і Іаасафа. Вось адзін з іх. З пашчы страшнага змея расце дрэва (дрэва жыцця), на якое ўзлез чалавек і есць плады. Наводдаль стаіць адзінарог (вобраз смерці) і чакае, пакуль дзве мышы (дзень і ноч) падточаць дрэва, і чалавек зробіцца яго здабычай. Гэту прыпавесць расказвае старац Варлаам, які сядзіць злева на прастоле. Адной рукой ён абапіраецца на посах, а другой рукой і позіркам скіроўвае нашу ўвагу на чалавека, які паквапіўся на «салодкія спакусы гэтага свету» і не заўважае, што свет напоўнены ўсякай благатой і смяротэльнымі пасткамі.

Ілюстрацыі да прыпавесці аб адзінарогу досыць часта сустракаюцца ў візантыйскіх і сербскіх помніках XI—XIV стст., падобны малюнак ёсць сярод мініяцюр Кіеўскага псалтыра, дзе служыць ілюстрацыяй да 143 псалма: «Госпадзі! што ёсць чалавек... Чалавек падобны подыху; ...дні яго — як хісткі цень».

Калі ўзяць пад увагу, што з Навагрудка паходзіць адзін з найранейшых спісаў славянскага перакладу аповесці (XIV ст.), а Навагрудак і Лаўрышаўскі манастыр заўсёды мелі цесныя кантакты, дык цалкам магчымае меркаванне, што перапісчык Лаўрышаўскага евангелля меў дачыненне да перакладу гэтага твора.

## КНІГА НА ПАПЕРЫ

Ужо ў першай палове XV ст. на беларускіх землях з'яўляюцца кнігі на паперы. Новы матэрыял, менш трывалы ў параўнанні з пергамінам, аднак незраўнана больш танны, хутка выцесніў пергамін. Кнігапісцы напачатку выкарыстоўвалі толькі прывазную паперу — часцей за ўсё галандскую і нямецкую. У XVI ст. з'ўляюцца першыя паперні — папяровыя млыны ў Вялікім княстве Літоўскім.

Апроч гэтага, працавалі яшчэ 13 паперняў у Вільні і некалькі ў Коўне, у тым ліку вялікія — Мамонічаў, Хадкевіча (пазней прададзеная Я. Валовічу), дзве сапегаўскія і інш. У першай чвэрці XVII ст. адна стапа выпрацаванай на гальшанскай паперні паперы каштавала 3 літоўскіх злотых, ружанская каштавала 2 злотых, такая самая мера галандскай — 4 злотых, а адна стапа данцыгскай паперы — 6 злотых 15 грошай. Харта бібула (тэхнічная папера, якая ішла на выраб патронаў, кардону, рымарам і да т. п.) каштавала ў тыя часы 1 злоты 10 грошай літоўскай манеты[1].

Кожная паперня на выробленым аркушы паперы ставіла свой знак. Для гэтага на дне чарпальных формаў замацоўвалі філігрань— сплецены з дроту знак, герб, фігурку. Папяровая маса, якая траплялa між драцяных ліній, заставалася танчэйшай за астатнюю, і, калі глянуць на святло, можна пабачыць выразныя светлыя лініі. Знак,

[1] Попова О. С. Русская книжная миниатюра XI — XV вв. // Древнерусское искусство. М., 1983. Сб. 3. С. 36. Уключаючы ў свае даследаванні мініяцюру, створаную ў Вялікім княстве Літоўскім, О. С. Папова не магла не звярнуць увагі на яе «заходні», або «гатычны», характар у параўнанні з мініяцюрай паўночна-ўсходняй Русі.

[2] Lausevičius E. Popierius Lietuvoje XV—XVIII a.

*Паперні на беларускіх землях*
*Вялікага княства Літоўскага ў XVI—XVIII стст.*
*(Паводле Э. Лаўцявічуса)*

| Назва насел. пункта | Прыблізная дата заснавання паперні | Заснавальнік(і) | Заўвагі |
|---|---|---|---|
| Бакшты | першая пал. XVII ст. | Крыштоф Завіша, віленскі кашталян | У 1735 г. ужо не дзейнічала |
| Басін (Гавенавічы), 20 км ад Слоніма | 1790 | П. Свяжынскі, пінскі скарбны | Працавала ў 1820 г. |
| Відзы | другая пал. XVI ст. | Ваўжэцкія | У 1718 г. дзейнічала |
| Гальшаны | канец XVI ст. | Павел Сапега | Спыніла дзейнасць у XVIII ст. |
| Дзітва | 1618 | Іван Скумін-Тышкевіч, віленскі ваявода | |
| Дуброўна | пачатак XVII ст. | Глябовічы | Дзейнічала да 1645 г. |
| Заслаўе | XVIII ст. | Глябовічы | У 1760 г. дзейнічала |
| Калачы (Вілейскі пав.) | другая пал. XVIII ст. | Клакоцкія | У 1800 г. не дзейнічала |
| Камень (Лідскі пав. ) | XVIII ст. | М. Бжастоўскі | |
| Лыскава (Ваўкавыскі пав.) | 1690 | С. Быхавец | Працавала ў 1721 г. |
| Навасёлкі (Селівонкі; Гродзенская губ.) | канец XVIII ст. | Шукевічы | |
| Нясвіж | XVI ст. | Мацей Кавячынскі | У 1570 г. перавёў паперню ва Узду |
| Паставы | 1762 | А. Тызенгаўз | Працавала ў 1803 г. |
| Ражана | 1607 | Леў Сапега | Згадваецца ў 1747 г. |
| Смаргонь | 1590 | К. Дэспат-Зяновіч, брэсц. кашталян | Зліквідавана пасля 1629 г. |
| Супрасль | 1710 | базыльяне | Працавалі 2 паперні |
| Свіслач (Ваўкавыскі пав.) | 1780 | графы Тышкевічы | Працавала ў 1854 г. |
| Дзятлава | 1799 | Георг Тырбах | Працавала ў 1832 г. |
| Узда | 1570 | М. Кавячынскі | |
| Шылавічы (Ваўкавыскі пав.) | 1760 | генерал А. Бжастоўскі | Зліквідавана ў 1841 г. |
| Быцень (Слонімскі пав.) | 1779 | базыльяне, А. Тызенгаўз | Працавала ў 1842 г. |
| Волма (Ігуменскі пав.) | 1620 | Радзівілы | Згадваецца ў 1640 г. |
| Відагошча (Менскі пав.) | 1678 | Ваньковічы | Працавала ў 1805 г. |
| Любча | 1615 | Радзівілы | Працавала да 1620 г. |
| Менск | 1592 | | У прывілеі гораду згадваецца паперня на рацэ Свіслач |
| Катлавы (маёнтак у Наваградскім ваявод.) | | Ф. Вайніловіч | Дзейнічала ў 1798 г. |
| Слуцк | 1684 | Радзівілы | У 1760 г. пераведзена ў Любань |

які можна пабачыць, гледзячы на святло, называецца вадзяным знакам, або філігранню. Калі на паперні рабілі новую форму, заказвалі і новую філігрань — пры ручной вытворчасці яна ніколі не была падобная да іншых. Вадзяны знак быў і маркай паперы, і знакам фабрыкі, на адной паперні маглі выкарыстоўваць некалькі вадзяных знакаў. У канцы XVI ст. на смаргонскай паперні, напрыклад, для найлепшай паперы выкарыстоўвалі вадзяны знак з вялікім гербам «Дэспат», для паперы горшага гатунку — з маленькім варыянтам таго самага герба. Усяго ў Смаргоні карысталіся чатырма рознымі філігранямі. Паперня Паўла Сапегі ў Гальшанах таксама выкарыстоўвала розныя вадзяныя знакі для пазначэння гатунку паперы. Для гісторыка кнігі вадзяныя знакі часта — найлепшы спосаб датаваць рукапіс. Розныя віды філіграняў, сабраныя ў альбомы паводле відаў знакаў (паводле малюнка знака) і паводле храналогіі дазваляюць датаваць паперу, на якой перапісана кніга, з дакладнасцю да 10—15 гадоў.

Да XVIII ст. памер кнігі вызначаўся так званым бібліяграфічным фарматам, які залежаў ад таго, колькі разоў складзены аркуш паперы. Складваючы адзін раз, атрымлівалі фармат $^1/_2$ *(folio)*, удвая — $^1/_4$ *(quarto)*; у чатыры разы — $^1/_8$ *(octavo)*, кнігі меншага фармату рабіліся рэдка. З'яўленне паперы не прывяло да рэзкай змены знешняга выгляду кніг. Яны зрабіліся танчэйшыя ў параўнанні з пергаміннымі, аднак у асноўным захавалі свае памеры — вялікі фармат *(folio)* для рукапісаў XV — XVI стст. мае аркуш 20—21 см×30—31 см, хоць сустракаюцца і рукапісы большага памеру, напрыклад Мінея (БАНЛіт F19—240) — памер аркуша 25,5×38 см. Кнігі фарматам «у чацвёрку» маюць памер 13—15×19—20 см. На падставе вымярэнняў 31 рукапіснай кнігі XV—XVI стст., карыстаючыся методыкай Л. І. Кісялёвай[1], мы вызначылі такую кадыкалагічную характарыстыку рукапісаў, як працэнтныя суадносіны вышыні і шырыні поля тэксту з вышынёй і шырынёй аркуша. Атрыманыя вынікі дазваляюць прасачыць тэндэнцыю да змяншэння паказчыкаў працэнтных суадносін. Калі для кніг XV ст. яны складаюць 49,93%, дык для XVI ст.— 48,76 %. Зніжэнне на 1,17 % адлюстроўвае тэндэнцыю да большага запаўнення аркуша тэкстам; тым не меней ад XVI ст. захавалася даволі шмат рукапісных кніг, якія маюць гэты паказчык на ўзроўні 50 %.

Калі ў XV ст. усе вывучаныя рукапісныя кнігі складаюцца з васьміаркушавых сшыткаў, дык у XVI ст. гэтая нязменнасць парушаецца. Сустракаюцца кнігі, якія складаюцца з дзесяціаркушавых (БАНЛіт, F19—65, F19—240, F19—257) і дванаццаціаркушавых сшыткаў (БАНЛіт, F19—56). Нумарацыя сшыткаў пазначалася славянскімі лічбамі на пачатку і ў канцы сшытка або толькі на пачатку. Цікава, што перапісчык Пяцікніжжа дзяк Фёдар пазначыў нумары сшыткаў двойчы — чарнілам і кінавар'ю (БАНЛіт, F19—51).

Асноўны почырк кнігапісцаў XV—XVIII стст.— паўустаў, аднак з'яўляюцца рукапісныя кнігі, перапісаныя скарапісам,— перадусім гэта чытальныя зборнікі (ДПБ, Q.1.391; БАН, Добр. 18). Тэкст размяшчаецца на старонцы ў адзін або два слупкі. Для ажыўлення ўспрымання старонкі служаць кінаварныя або шматфарбныя ініцыялы. Часам іх шмат — 5—6 на разварот, аднак часцей — 1—3. Другім пашыраным упрыгожаннем былі кінаварныя замалёўкі, выкананыя, як правіла, вяззю. Рукапісных кніг з арнаментальнымі застаўкамі і мініяцюрамі значна меней.

[1] Киселева Л. И. Западноевропейская рукописная и печатная книга XIV — XV вв.

*Друйскае евангелле. XVI ст.*
*Разварот з выявaю евангеліста*
*Марка*



У арнаментыцы рукапісных кніг, што бытавалі і ствараліся на беларускіх землях у XV — XVI стст., дамінавалі пляцёнкі. З простым або складаным малюнкам, шматфарбныя або манахромныя, розныя формай і памерамі плеценыя застаўкі сустракаюцца ў кожнай трэцяй кнізе гэтага перыяду. Паколькі час найбольшага пашырэння пляцёнак супадае з гэтак званым другім паўднёваславянскім уплывам, плецены арнамент часам называюць балканскім (хоць найбольш раннія і дасканалыя па стылі пляцёнкі сустракаюцца ў скандынаўскіх і ірландскіх помніках). Інтэнсіўнаму развіццю плеценай арнаментыкі ў немалой ступені спрыяла тое, што ў гэты перыяд яна дасягнула высокага развіцця ў кніжным мастацтве ўкраінскага і рускага народаў, з якімі беларускія кніжнікі падтрымлівалі самыя цесныя сувязі[1].

Ужо на раннім этапе развіцця балканскага арнаменту мы сустракаемся з застаўкамі ў выглядзе выразных геаметрычных уплеценых

[1] Шульгина Э. В. Балканский орнамент // Древнерусское искусство: Рукописная книга. М., 1974. С. 240—264; Запаско А. П. Орнаментальне оформлення української книги. Київ, 1960.

*Узоры заставак балканскага тыпу. XVI ст. Віленскі хранограф*





адно ў адно колаў у адзін паверх (Друцкае евангелле, Хранограф БАНЛіт, F19—109), колаў у тры паверхі, сцягнутых квадратамі або бясконцай васьмёркай (Шарашоўскае евангелле, Добр. 10, Евангелле Нафанаіла), нарэшце, складана сплеценых жгутоў, што ўтвараюць прастакутнік, у якіх маляўнічае пляценне спалучаецца з разнастайным, паводле малюнка, запаўненнем — перліны, крыжыкі розных відаў, візантыйскі завіток, гарадкі і г. д. (Лемяшэвіцкае евангелле, Тлумачальны псалтыр ДПБ Г.1.738, Шарашоўскае евангелле). У навяршэнні гэтых арнаментаў — плеценыя вузлы, ліставыя бутоны, з бакоў — візантыйскія галінкі. Гама фарбаў — яркая, сакавітая, суседнічаюць кантрастныя колеры: сіні, чырвоны, зялёны, жоўты, карычневы.

Самым вядомым помнікам балканскага стылю сярод беларускіх рукапісных кніг з'яўляецца Шарашоўскае евангелле, якое захоўваецца ў зборах Мастацкага музея БССР. У ім, апрача заставак і ініцыялаў, захаваліся тры мініяцюры з выявамі евангелістаў; тры вельмі выразныя развароты з гэтай кнігі неаднаразова публікаваліся ў выданнях, прысвечаных беларускаму мастацтву. Аднак развароты Шарашоў-

*Евангелле Нафанаіла*

*Евангелле са скрыпторыя Пінскага Лешчынскага манастыра*





скага евангелля не з'яўляюцца адзіным выключэннем спалучэння мініяцюры з аздабленнем аркуша балканскаю застаўкай і плеценым ініцыялам. Падобнае вырашэнне «ўрачыстага пачатку» мы знаходзім у Друйскім евангеллі 1590 г. У ім добра захаваліся ўсе чатыры развароты. Пляценне заставак не такое складанае, як у Шарашоўскім, каляровая гама хоць і кантрастная, але менш стракатая, багацце кнігі падкрэсліваецца вялікаю колькасцю золата (у застаўцы і надпісе вяззю). Друйскае евангелле добра датуецца ўкладным запісам: «Року 1590: Раб божий Юрий Андреевич Голенища збудовавши церковь сию Святого Спаса в месте Друйску надал сию книгу глаголемую Евангелие и при том рызы адамашковые и стихарь атласовый диаконский... и звон один великий а два мнейших и крест серебреный и лихтары меди белое и вси образы до тои церкви належачые: так тэж и книги розные писаные». Цікава, што беларускія моўныя асаблівасці выяўляюцца не толькі ў тэксце ўкладнога запісу, але і подпісе да адной з мініяцюр: евангеліст Марк названы народнаю формай гэтага імя «Марка». Традыцыйна імя гэтага евангеліста пісалася «Марк» у спалучэнні з славянскім «евангелістъ», або «Марко» — чацей у

*«Цар Давід іграе на гуслях, а птушкі і скаты слухаюць», «Давід забівае льва» — двухчасткавая мініяцюра з Тлумачальнага псалтыра XVI.*

спалучэнні з грэчаскім «агіос» (святы), аднак не толькі ў Друйскім, але і ў Меляшоўскім евангеллі ўжываецца форма «Марка».

Застаўка, аналагічная застаўкам Друйскага евангелля, ёсць у віленскім Хранографе (БАНЛіт, F19—109) — аднапавярховы каркас пляцёнкі здаецца незвычайна складаным у сваёй будове, дзякуючы кантрастнай расфарбоўцы: жоўты і ярка-сіні колеры спалучаюцца з кінавар'ю і незафарбаванымі, белымі жгутамі. Інакш вырашаны разварот Евангелля, што належала полацкаму архіепіскапу Нафанаілу,— застаўка займае больш за адну трэць поля тэксту, а разам з кінаварным загалоўкам — больш за палову. Трохпавярховая пляцёнка з колаў, сцягнутых прастакутнікамі, расфарбавана бледна, гэтаксама як і ліставыя бутоны на вуглах. Цікава адзначыць характар запаўнення — белыя лапчатыя крыжыкі, матыў гэты распрацоўваўся ў застаўках Евангелля са збораў Ціханава (ДПБ, Тих. 546), Апостала (ДГМ, Чудаўскі, 46), Следаванага псалтыра (ДПБ, F.1.738). Зборнік (ДПБ, F. 1.738), большую частку якога складае Псалтыр з паследаваннем, цікавы тым, што ў пачатак кнігі ўплецена 21 мініяцюра. Гэты іканаграфічны збор ілюстрацый падзей біблійнай гісторыі можна ўмоўна падзяліць на дзве часткі:

1. Кампазіцыі-ілюстрацыі да Псалтыра. Паводле колернай гамы і кампазіцыйнай пабудовы паасобных частак, яны блізкія да мініяцюр Друйскага евангелля і да мініяцюры з «Дзесятаглава».

2. Мініяцюры-ілюстрацыі да «Александрыі», выкананыя ў іншай мастацкай манеры і, магчыма, для іншай кнігі.

Зборнік F.1.738 мае супрасльскі пераплёт пачатку XVI ст., пасля неаднаразова рэстаўраваны. Укладны запіс сведчыць, што ў 1884 г. кнігу прадалі ў Маскве вядомаму гісторыку літаратуры і мастацтва акадэміку Ф. І. Буслаеву. У канцы мінулага стагоддзя змест зборніка падрабязна апісаў І. А. Бычкоў, які звярнуў увагу на прыпіску, што ішла пасля біблійных песень: «Словеса убо писанаа приидоша в конец. Уму же да не будет когда прияти конец»[1]. Адзначым, што прыпіска з такім самым сэнсам ёсць у Трыёдзі XV ст. з Гародні: «...последней строце конец, а уму несть конца» (ДПБ, F.1.125).

Адной з тэхналагічных навінак вытворчасці рукапіснай кнігі ў канцы XV ст. стала пракладка з тканіны, размешчаная на развароце насупраць застаўкі або мініяцюры. Пракладка выконвала адразу дзве функцыі: ахоўную і эстэтычную. Першая заключалася ў захаванні слоя фарбы і накладнога золата ад дотыку (трэння) з супрацьлеглым аркушам паперы. Аднак вядома даволі шмат разваротаў з мастацкімі застаўкамі і мініяцюрамі, якія не мелі такой пракладкі, захаванасць іх пры гэтым даволі добрая. Таму асноўная функцыя тканіннай пракладкі была, відаць, эстэтычная. Зробленая, як правіла, з каляровага шоўку і роўная памерам застаўцы або мініяцюры, пракладка ўраўнаважвала кампазіцыю развароту, тым часам яшчэ больш падкрэслі-

[1] Цыт. па: Бычков И. А. Каталог собрания рукописей Ф. И. Буслаева, ныне принадлежащих Императорской Публичной библиотеке. СПб., 1897.

*«Сем нябесных паясоў» і «Пабіванне камянямі св. архідыякана Стэфана» — мініяцюра з Тлумачальнага псалтыра XVI ст.*

*«Востраў на Індыйскім акіяне, у ім жа — камень іакінфес» і ілюстрацыя да апавядання аб прароку Іоне. Мініяцюры XVI ст.*





ваючы старонку з застаўкай і малюнак застаўкі або дазваляючы цалкам засяродзіцца на разгляданні мініяцюры. Прыкладам можа служыць Зборнік ДПБ, F.1.738. Усе мініяцюры, а таксама пачатак тэксту з застаўкай раздзелены паміж сабою шаўковымі пракладкамі featuring рознага колеру, уманціраванымі ў папяровыя паспарту з прыгожым праразным арнаментам. Цікава вырашыў кампазіцыю развcovers майстар Евангелля ДПБ, F.1.53 — шаўковая пракладка зманціравана ў гэтай кнізе на адным аркушы з мініяцюрай. Пры гэтым мініяцюра апушчана ў ніжнюю частку аркуша, а ў верхняй частцы развароту апынаюцца два ўзаемна ўраўнаважаныя прастакутнікі: застаўка неавізантыйскага стылю і пракладка.

Евангелле, перапісанае ў 1540 г. па загадзе Казьмы Васільевіча Жабы (ДПБ, СПБ ДА А-1 177),— помнік балканскага стылю з не-

*Разварот з мініяцюрай «Пакутнікі» і шаўковай пракладкай. XVI ст.*



каторымі неавізантыйскімі рысамі. Чырвона-сінія балканскія пляцёнкі яго арнаментаў крыху губляюцца на масіўным залатым фоне заставак, ураўнаважыць іх дапамагае напісаны на такім самым масіўным залатым фоне ініцыял, які складаецца з раскрытых зялёных і барвовых лістоў.

Такія ініцыялы часцей спалучаліся з характэрнымі геаметрычнымі рамкамі, аздобленымі візантыйскімі галінкамі або трохчасткавымі падзеламі ўнутранай прасторы. Гэтае спалучэнне шматколерных ініцыялаў і багатых (часцей за ўсё на залатым фоне) заставак, што маюць у запаўненні візантыйскі крын і трылісцік, складае аснову неавізантыйскага кніжнага ўпрыгожання, якое ўзыходзіць да афармлення старажытнарускай кнігі XI — XII стст., а праз яе — да мастацтва кнігі Візантыі.

*Ініцыялы з «Дзесятаглава» Мацвея Дзесятага. XVI ст.*



Толькі два помнікі XVI ст. можна аднесці да ўзораў неавізантыйскага стылю ў нашым рэгіёне. Гэта Евангелле ДПБ, F.1.53 і зборнік перакладаў біблійных кніг Мацвея Іванавіча («Дзесятаглаў»). Чацвераевангелле F.1.53, якое мае прыпіску аб «апраўе» яго Пятром Праскурам, дайшло да нашых дзён у пераплёце пецярбургскай Публічнай бібліятэкі, аднак захавала ўсе чатыры развароты з мініяцюрамі і застаўкамі. Кожная мініяцюра з выяваю евангеліста выканана ў коле, упісаным у квадрат, і змяшчаецца ў ніжняй частцы франтыспіса. У сярэдняй частцы франтыспіса размешчаны два колы з імем выяўленага евангеліста, а ў верхняй частцы — шаўковая пракладка для застаўкі (пра яе сказана вышэй). Застаўкі маюць двухчасткавы падзел і запоўнены завіткамі лісцевага арнаменту, вядомага пад назвай візантыйскі крын; напісаны застаўкі на накладным золаце. Па вуглах рамкі — лісцевыя бутоны. Варта адзначыць, што ініцыялы, уключаныя ў кампазіцыю тытульнага аркуша, не старавізантыйскія, а балканскія, аналагічныя ініцыялам Шарашоўскага і Друйскага евангеляў. Такім чынам, у афармленні Евангелля F.1.53 адбылося спалучэнне элементаў неавізантыйскага і балканскага стыляў, гэтаксама як у Евангеллі Казьмы Жабы.

Як ні быў развіты ў беларускай кніжнасці XV—XVII стст. балканскі стыль арнаменту, ён адлюстроўваў толькі адну з дзвюх стылістычных тэндэнцый эпохі. Паралельна ўжываецца арнамент неавізантыйскі. Асновы візантыйскага арнаменту, як адзначае Т. Ухава, склаліся ў кніжнай арнаментыцы Канстанцінопаля другой паловы X ст.: з'яўляецца падкрэслена абстрагаваная, нібы спірытуалізаваная форма кветак, бутонаў і лістоў, падпарадкаваная логіцы геаметрычнага каркасу кампазіцый. На пэўных этапах гістарычнага развіцця пры дварах усіх буйных уладароў краін Усходняга праваслаўя складваліся мясцовыя варыянты гэтай сістэмы. Яе ведалі Грузія, Арменія, Балгарыя, Сербія, Кіеўская і Маскоўская Русь[1].

Бытаваў і развіваўся неавізантыйскі арнамент і на беларускіх землях Вялікага княства Літоўскага. Культура Рэнесансу наклала на яго значны адбітак: апроч характэрных для класічнага неавізантыйскага арнаменту матываў крына, раструбаў і інш., арнамент некаторых беларускіх рукапісных кніг складаецца са свабодных, пышных гірлянд, кветак, завітых сцяблін і галінак і іншых элементаў жывой прыроды. У літаратуры яшчэ не склалася адзінага меркавання пра назву гэткім чынам аформленых кніг. Л. Касцюхіна лічыць, што перад намі вельмі своеасаблівы і самастойны варыянт неавізантыйскага арнаменту[2], Г. Вагнер гаворыць пра арнамент рэнесансны, або протарэнесансны[3].

Асобнае месца ў мастацтве кнігі пачатку XVI ст. займае «Дзесятаглаў». Майстар Мацвей Іванавіч за пяць гадоў напружанай працы стварыў кнігу, якую мы з усімі падставамі можам назваць найбольш багата аформленай кнігаю беларускага сярэднявечча. Прыгажосць почырку і стараннасць выканання спалучаюцца ў «Дзесятаглаве» са строга прадуманай эстэтычнай канцэпцыяй, згодна з якою вартасці кананічнага тэксту перадаюцца мастацкімі сродкамі і сімваламі Рэнесансу. Паказальна, што тэкст Новага запавету перапісаны ў «Дзесятаглаве» чарнілам чатырох колераў: чорным, залатым, сінім і кінавар'ю. Почырк Мацвея Дзесятага не застаецца нязменным на працягу рукапісу. Часам ён драбнейшы і зграбнейшы (арк. 1—173),

[1] Ухова Т. Б. Художественное оформление древнерусских рукописных книг. Л., 1974. С. 6—7.

[2] Костюхина Л. М. Нововизантийский орнамент // Дневнерусское искусство: Рукописная книга. М., 1974. Сб. 2. С. 294—295.

[3] Вагнер Г. К. Канон и стиль в древнерусском искусстве. М., 1987. С. 220.

*Мініяцюра з «Дзесятаглава» Мацвея Дзесятага. XVI ст.*

часам грубейшы і буйнейшы (арк. 174—225). У нейкай ступені гэта звязана з якасцю чарніла і пёраў, а можа, і са зменаю месца перапіскі і ўмоў працы пасля пераезду з Вільні ў Супрасль. М. Сперанскі адзначае, што каліграфічнае мастацтва Мацвея Дзесятага выявілася і ў майстэрскім выкарыстанні дасканала напісанага радка як арнаменту — такі запіс-віньетка ў канцы яго аўтабіяграфічнай прыпіскі (арк. 477 адв.)[1].

Аздобу кнігі складаюць 250 буйных шматколерных ініцыялаў, у кампазіцыі якіх часам уключаюцца жывёлы і птушкі, схематычны малюнак чалавечага твару, а таксама некалькі дзесяткаў тонкіх кінаварных ініцыялаў. Своеасаблівым упрыгожаннем рукапісу служаць дэкарацыйныя элементы, якія маюць практычнае значэнне: літары гэбрайскага алфавіта, напісаныя на палях арк. 104—106 «квадратным» почыркам, «перст указующий» — малюнак рукі з указальным пальцам, накіраваным на нейкае месца ў тэксце (сустракаецца 9 разоў), манаграма, у якой прачытваецца імя «Григореи» — чатыры разы і, нарэшце, 18 заставак. Застаўкі ў большасці вузкія, выкананыя паводле неавізантыйскай схемы, служаць яны для размежавання частак Новага запавету: у першай, старазапаветнай частцы зборніка ёсць толькі адна застаўка.

На адвароце 173 аркуша «Дзесятаглава» ёсць мініяцюра, адзіная ва ўсёй кнізе. Д. Айналаў паказвае на генетычную сувязь яе з мастацтвам Ноўгарада, мяркуючы, аднак, што аўтарам мог быць сам Мацвей Іванавіч[2]. Кампазіцыя мініяцюры трохчасткавая: у верхняй частцы Давід, які піша Псалтыр пад дыктоўку Сафіі Прамудрасці, у сярэдняй Давід пяе першы псалом, вакол яго музыканты, пісец запісвае спевы на ноты, злева настаўнік Ідыфум навучае юнакоў танцам; у ніжняй — таксама навучанне танцам настаўнікам Асафам, а таксама група людзей, што спяваюць псалмы. Каларыстычная гама — яркія, чыстыя фарбы, суседства кантрастных колераў: кінаварначырвонага, зялёнага і блакітнага. Пышнасць каларыту павялічваецца дзякуючы шчодра ўжытаму золату: усе малюнкі пісаны на залатым фоне. Нягледзячы на шматфігурнасць кампазіцыі (усяго на аркушы намаляваны 33 постаці), яна не перагружае кніжны разварот. Дасягнута гэта дзякуючы шырокаму леваму полю: вынесеныя на яго фігуры настаўнікаў дынамікай свайго руху звязаны з танцорамі ў карагодах сярэдняй і ніжняй частак мініяцюры.

Асаблівую цікавасць уяўляе верхняя частка мініяцюры з выяваю Сафіі Прамудрасці. Яна ўвасоблена ў вобразе бяскрылага анёла, з німбам з двух сініх перакрыжаваных ромбаў, з беллю, у хітоне з чырвоным шалем, з голымі да плячэй рукамі. У мастацтве візантыйскага арэалу ў эпоху Палеалогаў (1261—1453) атрымалі шырокае распаўсюджанне выявы евангелістаў, цара Саламона, цара Давіда з увасабленнямі Прамудрасці, не сталі выключэннем і заходнерускія землі,

[1] Сперанский М. Н. Тайнопись в югославянских и русских памятниках письменности. Л., 1929. С. 105, 145.

[2] Д. В. Айналаву належыць апошняя частка ў працы: Лавров П. А. Библейские книги 1507 г. // Slavia. 1933. С. 85—112.

*Двухчасткавая мініяцюра з Талковага псалтыра XVI ст.*

*«Цар Давід іграе, пісцы запісваюць словы песень, а народ трубіць». Мініяцюра з Талковага псалтыра XVI ст.*



дзе гэтыя выявы захаваліся да XVI ст.[1]. Цікава адзначыць, што ў побытавым ужытку на беларускіх землях Сафія разумеецца як субстанцыя мужчынскага роду. «Святы Софей» — так названы полацкі Сафійскі сабор у дакументах, што апісваюць рух шлюбнага поезда з Аленай Іванаўнай з Масквы ў Вільню, у прыпісках Евангелля з полацкага манастыра Іаана Прадцечы на Востраве, на кнігах Сафійскай бібліятэкі[2]. Сюжэт Прамудрасці быў папулярны на пачатку XVI ст. і знайшоў увасабленне не толькі ў кніжнай мініяцюры, але і ў дэкаратыўным мастацтве[3]. Заказчыкам разнога абразка з сюжэтам «Прамудрасць збудавала сабе дом», выкананага майстрам Ананіям каля 1500 г., быў пінскі князь Фёдар Іванавіч Яраславіч. Разам з сваім братам Іванам ён павёў палітыку барацьбы з царкоўнаю ўладай, трактуючы «права патранату» як абавязак напасрэдна ўдзельнічаць у арганізацыі царкоўнага жыцця на сваіх дзедзічных землях,— яны будавалі ў гарадах і вёсках цэрквы і прызначалі ў іх святароў. Турава-пінскі епіскап

[1] Смирнова Э. Б. Миниатюры двух новгородских рукописей // Древнерусское искусство: Рукописная книга. М., 1983. Сб. 3. С. 180—203; Антоний митрополит. Из истории новгородской иконографии // Богословские труды. М., 1986. Сб. 27. С. 61—80.

[2] Поездка Великия княжны Московския Елены Иоанновны в Литву ради брачного сочетания с Великим князем Александром Казимировичем в 1503 году // Опыт трудов вольного российского собрания. М., 1780. Ч. 5.

[3] Плешанова И. И. Два резных образка из Русского музея // Памятники культуры. Новые открытия. 1979. Л., 1980. С. 209—217; Уваров А. С. Резная икона «Премудрость созда себе дом», принадлежащая пинскому князю Федору Ивановичу (1499—1522) // Сборник мелких трудов А. С. Уварова. М., 1910. С. 141—151.

Васіян паскардзіўся Аляксандру Ягелону. Вялікі князь літоўскі сваёю ўладай забараніў Яраславічам «чыніць сваволю», а ўсім падданым Тураўскай епархіі загадаў, каб надалей ніхто пад пагрозаю кары ў тры тысячы коп літоўскіх грошай, без згоды і дабраслаўлення ўладыкі цэркваў і манастыроў закладаць і будаваць і ўвогуле мяшацца ў царкоўныя справы не меўся[1].

Трохчасткавы падзел мініяцюры «Дзесятаглава», які адлюстроўвае пераход ад слова да музыкі і пасля да танца, можна лічыць дасканалаю ілюстрацыяй да выказвання, з якім мініяцюрыст XVI ст. наўрад ці быў знаёмы: «Калі чалавек адчувае радасць,— пішацца ў адной з кананічных канфуцыянскіх кніг «І цзін» (II ст. да н. э.),— ён выказвае яе словам. Слова яго не задавальняе — ён далучае хор музычных інструментаў. Хору мала — яго рукі пачынаюць міжвольна рухацца, ногі б'юць аб зямлю»[2]. Тым не меней гэтая канфуцыянская сентэнцыя, якая, як і біблійная ісціна, адлюстравала агульначалавечую заканамернасць, дапамагае нам прасачыць за паслядоўнасцю сюжэта і ацаніць асаблівасць кампазіцыі мініяцюры «Дзесятаглава».

Чытанне мініяцюры павінна пачынацца ў левым верхнім вугле, з выявы сцэны дабраслаўлення Давіда і пісання ім пад дыктоўку Сафіі Прамудрасці Псалтыра, далей верхні рад пераходзіць у сярэдні ў правай частцы, і сюжэт развіваецца злева направа: спяванне Давідам Псалтыра, ігра на музычных інструментах, танец. Са сцэнай танца звязана постаць Ідыфума, які выходзіць з рамкі мініяцюры на поле аркуша, але галавою павернуты да танцораў. Ніжэй, на левым полі паказаны Асаф, які ўваходзіць з-за рамкі да юнакоў, што працягваюць танец (г. зн. сцэна танца яшчэ не скончана). І нарэшце, апошняя сцэна ўяўляе групу з шасці чалавек (спевакоў?), якія сядзяць па трое, тварам да гледача. Самая блізкая аналогія гэтай часткі мініяцюры ёсць у Тлумачальным псалтыры ДПБ, F.1.738. Цікава адзначыць, што ў двухчасткавай мініяцюры з гэтай кнігі нібы разгорнуты два сюжэты мініяцюры «Дзесятаглава»: Давід, пісцы і музыканты ў верхняй частцы і спяванне групы з шасці чалавек у ніжняй. Тут іншая, чым у «Дзесятаглаве», трактоўка вобраза Давіда — цар іграе на музычным інструменце, які нагадвае гуслі або цымбалы. Група музыкантаў «Дзесятаглава» мае ў сваім складзе дзве дудкі, бубен і смычковы інструмент (скрыпку?). На мініяцюры ў Тлумачальным псалтыры музыкантаў, не лічачы Давіда, ужо чатыры: у трох дудкі і ў аднаго бубен. На іншых мініяцюрах з кодэкса ДПБ, F.1.738 таксама ёсць выявы музыкантаў. Выявы музычных інструментаў, асабліва ансамбляў, у старажытнарускай кніжнай мініяцюры захоўваюць сваё значэнне як крыніцы інфармацыі па гісторыі інструментальнай музыкі, адзначае М. Розаў[3]. Дзве мініяцюры з групамі музыкантаў будуць значным папаўненнем крыніцовай базы даследчыкаў музычнай культуры. Дастаткова прыгадаць, што І. Назіна ў 1975 г. згадвала толькі пра адзін факт іканаграфіі дудак у XV — XVII стст.[4].

Як паказаў Г. Вагнер, мастацкая творчасць у XVI ст. нямала страчвала ў паэтычнай усхваляванасці вобразаў і лірызме. Затое новая разумовасць шырока рассоўвала прасторава-часавыя параметры мастацтва. Ва ўмовах, калі ва ўсіх галінах творчасці захапляліся энцыклапедызмам, нараджаліся розныя касмаграфічныя карціны, якія ў сімвалічнай форме перадавалі ідэі універсуму[5]. Сім-

[1] АЗР. Т. 2. № 109. С. 134—135.
[2] Шнеерсон Г. Музыкальная культура Китая. М., 1961. С. 31.
[3] Розов Н. Н. Музыкальные инструменты и ансамбли в миниатюрах Хлудовской (русской) Псалтири // Древнерусское искусство. М., 1977. С. 105.
[4] Назіна І. Нататкі пра беларускія дудкі // Беларуская музыка. Мн., 1975. Вып. І. С. 57—71.
[5] Вагнер Г. К. Канон и стиль в древнерусском искусстве. С. 254.

*«Выходжанне Святога Духу на апосталаў». Мініяцюра з Апостала XVI ст.*

валізм асабліва выразна выявіўся ў ілюстрацыях Апостала (ДПБ, F.1.60). Кніга гэтая паступіла ў Публічную бібліятэку ў складзе збораў графа Ф. Талстога. У дадатку да друкаванага каталога збораў Ф. І. Талстога археографы К. Калайдовіч і П. Строеў апісваюць яе надзвычай коратка: «Апостал, пісаны паўуставам у канцы XV або на пачатку XVI стст.; на 411 аркушах, з расфарбаванымі малюнкамі»[1]. Доўгі час рукапіс гэты быў па-за полем зроку кнігазнаўцаў. Праўда, у 1870 г. яго выкарыстаў дырэктар маскоўскага Строганаўскага вучылішча Віктар Бутоўскі. У складзеным ім альбоме на пяці аркушах рэпрадукаваны некаторыя застаўкі і ініцыялы Апостала (F.1.60)[2]. Рэпрадукцыі, выкананыя спосабам перамалёўкі, абмінаюць або спрашчаюць шматлікія дэталі арыгінала і зусім не адпавядаюць у колерах.

Апостал апракас (F.1.60) — рукапіс *in folio*, перапісаны на паперы з вадзянымі знакамі 40-х гг. XVI ст. Пераплёт кнігі зроблены ў XVIII ст.[3]. Аздабленне кнігі — гэта найперш ініцыялы, застаўкі і мініяцюры. Загалоўкі выкананы кінавар'ю, у канцы кнігі кінавар ужываецца, каб напісаць адну або некалькі літар усярэдзіне слова — прыём, які нагадвае творчы метад Мацвея Дзесятага. Рэдка які разварот не мае аднаго-двух шматколерных ініцыялаў. Усяго ініцыялаў 369. Галоўным чынам гэта літары «Б» і «В», прычым у іх напісанні практычна няма адрозненняў і вызначыць, каторая з дзвюх, можна толькі паводле сэнсу. Іншыя ініцыялы — гэта літары «С», «П», «І», «Д», «М». Складзеныя з лістоў расліннага арнаменту, ініцыялы маюць розныя памеры: ад 23 мм (вышыня двух радкоў) да 50 мм (вышыня чатырох радкоў). Важны элемент аздаблення кнігі — застаўкі. Агульная колькасць іх — 47. Форма, як правіла, прастакутная, памеры вагаюцца ў межах 106—110×16—20 мм. Аднак ёсць некалькі заставак большага памеру: 105×59, 103×30, 102×45. Застаўкі выкананы ў неавізантыйскім стылі, аснова кожнай з іх — геаметрычная рамка з раслінна-кветкавым напаўненнем, у колерах, на залатым фоне. Паводле колернай гамы, малюнка лістоў і бутонаў застаўкі Апостала маюць аналогі ў наўгародска-пскоўскіх рукапісах і рукапісах Маскоўскага Чудава манастыра. Вялікія застаўкі цікавыя ўключэннем у кампазіцыю фігур птушкі (арк. 1) і чалавека, відаць, евангеліста Лукі (арк. 2).

Вялікіх шматколерных мініяцюр у Апостале сем. З іх дзве першыя паказваюць евангельскія сюжэты, звязаныя з жыццём апосталаў, астатнія пяць непасрэдна ілюструюць тэкст кнігі. Першая мініяцюра — чатырохчасткавая, агульны памер яе 21×24 см. Кожная з чатырох частак ілюструе адно са з'яўленняў Хрыста апосталам. Пад кожнай мініяцюрай і над ёю надпісы — урыўкі з тэкстам Евангелля з апісаннем сюжэта. Адзін з урыўкаў (з сюжэтам «Уверавання Фамы») канчаецца сказам: «...и прочее по ряду до конца» — ілюміна-

[1] Калайдович К., Строев П. Обстоятельное описание славянорусских рукописей... графа Ф. Толстого. № 441.

[2] Бутовский В. История русского орнамента с X по XVI столетия по древним рукописям. М., 1870. С. 77—81.

[3] Выказваем падзяку за кансультацыю А. М. Шварц і Б. А. Градавай.



тар, не маючы дастаткова месца, каб падпісаць мініяцюру, адсылае чытача да поўнага тэксту Евангелля.

Найбольш цікавая з пункту гледжання іканаграфіі трэцяя мініяцюра. Яе сюжэт — пасланне апостала Паўла да карынфянаў і сашэсце Святога Духу на апосталаў. Асноўная прастора аркуша прысвечана раскрыццю другога сюжэта. Дванаццаць апосталаў сядзяць па перыметры падмурка храма крыжападобнай формы. Ва ўсіх у руках кні-

*Ваўкавыскае евангелле. Узоры рэнесанснай аздобы рукапіснай кнігі XVI ст.*



гі, прычым дзесяць апосталаў маюць кнігі ў форме кодэкса, а ў двух — кнігі ў форме сувоя. На падмурку храма надпіс: «Основание церквей от кремит словестных». Пасярэдзіне храма стаіць высокі пюпітр, на якім разгорнутая кніга. За пюпітрам безбародая постаць у кароне, абапал галавы надпіс «Весь мир», на грудзях — круг з манаграмай IC—XC.

Іканаграфія сюжэта сашэсця Святога Духу сфарміравалася яшчэ ў візантыйскай кніжнай мініяцюры IX—XII стст. Апосталы сядзяць паўкругам у будынку, пабудаваным у форме амфітэатра. Адпаведна размяшчэнню апосталаў, унізе пад імі другі паўкруг, акрэслены аркай, поле якога пакрыта чорным колерам. На цёмным полі гэтай аркі паказана фігура барадатага старога ў кароне з грэчаскім надпісам «Космас»[1]. Ф. Буслаеў адзначаў, што дзяк Віскаваты пад час працэсу высвятлення старажытнасці і праўдзівасці іканаграфічных сю-

[1] Аналогіі можна знайсці ў ілюмінаваных рукапісах Афона: Christou P. C. Pelikanidis S. M. Tsiomis Ch. Kadas S. The treasures of Mount Athos illuminated manuscripts. Athens. 1974. Vol. 1—3.

жэтаў у Маскве не выказаў свайго неўразумення адносна абраза «Сашэсце Святога Духу», які, бясспрэчна, быў у шэрагу іншых напісаных у той час — таму што ён быў адпаведны грэчаскаму паданню і ўзорам старажытнарускага іканапісу[1].

Трактоўка сюжэта «Сашэсце Святога Духу» ў Апостале (F.1.60), як можна заўважыць, вельмі істотна адрозніваецца ад кананічнай візантыйскай. Гэта пацвярджаецца параўнаннем малюнка мініяцюры з сучаснымі абразамі, а таксама параўнаннем з тлумачэннем гэтага сюжэта ў прыпісцы XVI ст. на рукапіснай кнізе з Супрасля, якая ўключае ў сябе 16 слоў Грыгорыя Багаслова з тлумачэннямі Нікіты, архіепіскапа Іраклійскага. Падамо некалькі ўрыўкаў з тэксту прыпіскі: «О образе еже пишуть в коруне: седа у червленыхъ оденяхъ с белым убрусом и подписан козмосъ. козмос слово греческое и латынское, по руску нашому миродержител... малюют его человеком яко царя, человек убо глаголется весь свет... а убрус белъ в руках своих мает, в нем же 12 свитков або цедел, то есть апостоли учением своим от моцы его темное от справы его весь светъ навратиша Христу веровати»[2] На мініяцюры замест уладнага старца ў чырвоным мы бачым уладара свету, атаясамленага з Ісусам Хрыстом, ён стаіць каля падмурка царквы як выказнік «кремит словесных». Калі сучасны станковы жывапіс з аналагічным сюжэтам злучыў лінейную перспектыву фону і выявы апосталаў і лавы, выкананых у старой традыцыі[3], дык у мініяцюры выява цалкам падпарадкавана законам перспектывы, дапускаючы такія немагчымыя з пункту гледжання старажытнарускай іканаграфіі моманты, як размяшчэнне аднаго з апосталаў спіною да гледача. На другой мініяцюры з гэтай кнігі ёсць выява Хрыста ў выглядзе воя на шасціканцовым крыжы, сюжэтна падобная да абразоў, пісаных у Маскве пскавічамі[4]. Пскоўскія мастакі з другой паловы XVI ст. былі адною з вядучых сіл усяго старажытнарускага мастацкага арэала. У пошуках новых тэм яны паглыбляліся не толькі у прызнаныя царквою пісанні, але і ў забароненыя царквою апакрыфічныя легенды, і з іх выносілі новыя сюжэты, укладаючы ў выявы значную долю ўласных думак і пачуццяў, адзначае Ю. Спегальскі[5]. Геаграфічнае суседства Пскоўшчыны і беларускіх земляў не магло не прыводзіць і прыводзіла да цесных кантактаў, у тым ліку у кніжнай і мастацкай культуры, пра што сведчаць, у прыватнасці, мініяцюры гэтага Апостала.

Адзін з найбольш значных помнікаў ілюмінаванай кнігі ў нашым арэале — гэта спіс летапісу, вядомы як «Радзівілаўскі летапіс». Існуе багатая літаратура, прысвечаная як тэксту, гэтак і ілюстрацыям гэтай кнігі; помнік у 1904 г. выдадзены факсімільна[6]. Большасць даследчыкаў пагаджаецца на тым, што Радзівілаўскі летапіс перапісаны ў 1485—1495 гг., аднак месца і абставіны стварэння кодэкса застаюцца няяснымі. У. І. Сізоў і А. У. Арціхоўскі называлі месцам перапіскі Ноўгарад Вялікі, прычым А. Арціхоўскі ўдакладняў, што адзін з выканаўцаў быў заходнерускага паходжання. М. П. Кандакоў і М. М. Воронін лічылі, што рукапіс створаны ва Уладзіміра-Суздальскай Русі, М. І. Артамонаў, М. В. Ганцаў і А. А. Шах-

[1] Буслаев Ф. Сочинения. СПб., 1910. Т. 2. С. 286—343.
[2] БАНЛіт, F19—55. Арк. 378.
[3] Лихачева В. Д. Некоторые особенности перспективной системы византийской живописи и икона «Сошествие Святого Духа на апостолов» Эрмитажа // Палестинский сборник. Л., 1971. Вып. 23(86). С. 75—83.
[4] Подобедова О. И. Московская школа живописи при Иване IV. М., 1972. С. 40—42.
[5] Спегальский Ю. Псков. Л., 1978. С. 222.
[6] Цяпер выдавецтвам «Искусство» падрыхтавана новае факсімільнае выданне, выпуск якога па тэхнічных прычынах затрымліваецца.

*Застаўка рэнесанснага тыпу і старонка Лемяшэвіцкага евангелля. Скрыпторый Лешчынскага манастыра. XVI ст.*



→

*Разварот Евангелля. Прыклад эклектыкі ў афармленні рукапіснай кнігі XVII ст. Застаўка друкарскага арнаменту. Беразіно—Любавічы, 1626 г.*



матаў называлі Смаленскае княства, В. І. Падабедава — Цвер, на заказ маскоўскіх вялікакняскіх колаў, чаму запярэчыў М. М. Розаў[1].

Запісы на палях Радзівілаўскага летапісу паказваюць, што ў часы праўлення Жыгімонта III Вазы (1589—1632) кніга захоўвалася ў Гародне, пасля была падаравана Станіславам Зяновічам віленскаму ваяводу Янушу Радзівілу і захоўвалася ў бібліятэцы Нясвіжскага замка[2]. Але ж як кодэкс трапіў на Беларусь? Як вайсковы трафей, узяты «літоўскімі людзьмі» пад час аднаго з удалых паходаў на Маскву? Як прадмет гандлёвага абмену? Аднак ужо існуе версія пра магчымасць стварэння Радзівілаўскага летапісу ў адным з кніжных цэнтраў Беларусі. Даследчыкі адзначаюць, што шмат у якіх мініяцюрах кнігі адзенне персанажаў, архітэктура, мэбля, зброя, а таксама кампазіцыі і нават манера выканання малюнка маюць заходні характар, прычым, як пісаў А. І. Някрасаў, гэта «не выпадковае капіраванне Захаду, а асаблівая культура, іншае светаўспрыманне, поўнае ідэі пачуццёвай жывапіснай прасторы. Тут палягае прынцыповы разрыў з візантыйскай традыцыяй»[3]. Пад час праўлення Казіміра Ягелона (1440—1492) і Аляксандра Ягелона (1492—1506) у віленскіх прыватных скрыпторыях і пры двары заходнерускіх мітрапалітаў існавалі ўмовы для стварэння ілюстраванага летапісу, які адлюстроўваў агуль-

[1] Розов Н. Н. Книга в России в XV веке. С. 91.
[2] БАН, Аддз. рукапісаў, № 34.5. 30.
[3] Некрасов А. И. Древнерусское изобразительное искусство. С. 191.

*Зборнік 1681 г. з Радзівілаўскай калегіі ў Пінску. У сярэдзіне друкаванай застаўкі — малюнак пяром: сланечнік цягнецца да сонца. Надпіс «hunc sequor» можна перакласці як «рабі гэтаксама»*

*Гравюра-партрэт Іасафата Кунцэвіча з рукапіснай кнігі «Залатая карона». XVII ст.*

*«Анфалагіён, або Празднея». 1714 г. У гравіраваную рамку ўпісаны загаловак рукою Гервасія Кішчыца*







нарускую пачатковую гісторыю[1]. Маскоўскі даследчык А. Чарняцоў, прааналізаваўшы выяўленчы рад мініяцюр летапісу, прыйшоў да высновы, што кодэкс створаны ў Полацку[2]. Як бы там ні было, 618 мініяцюр Радзівілаўскага летапісу, гэтак жа як і сам кодэкс, яшчэ чакаюць акадэмічнага даследавання.

Пачынаючы з першай чвэрці XVI ст., у афармленні рукапіснай кнігі ўзнікаюць новыя тэндэнцыі. На палях з'яўляюцца галінкавыя абрамленні, якія маюць выгляд або працягнутых парасткаў у ініцыялах, або паасобных лістоў, кветак, бутонаў. Прыкладам такога афармлення служыць Ваўкавыскае евангелле (БАНЛіт, F19—28). Як адзначыў у свой час Ф. Дабранскі, «у гэтым евангеллі 30 загалоўных літар расфарбаваны і раззалочаны вельмі ўмела і прыгожа. Асабліва выдатная застаўка і пачатковая літара на адвароце 48 аркуша, дзе змешчана евангелле на 29 дзень ліпеня, у свята Пятра і Паула...»[3]. Сярод раслінных арнаментаў Ваўкавыскага евангелля сустракаюцца выявы птушкі, якія маюць аналагі ў ініцыялах «Дзесятаглава» (арк. 64). Аналагічныя арнаменты з уключэннем жывёл мы знаходзім у чэшскай рукапіснай кнізе канца XV ст. (рукапіс Онджэя з Дубы), у Кракаўскім антыфанарыі працы майстра Абраама (1515 г.) і іншых заходніх рукапісах[4]. У другой чвэрці XVI ст. з'яўляюцца кнігі, у якіх галінкавае абрамленне перарастае ў цалкам самастойныя арнаменталь-

[1] У Вільні працаваў вялікі скрыпторый Солтанаў у Шышкінях, мітрапалічы скрыпторый, існавалі ўмовы для развіцця кніжнай культуры. Гл.: Bogucka M. Kazimierz Jagiellończyk i jego czasy. Warszawa, 1981. S. 92.

[2] Чернецов А. Радзивилловская летопись // Свіцязь. Мн., 1989. С. 139—147.

[3] Добрянский Ф. Н. Описание рукописей... С. 37.

[4] Древнечешская литература: Выставка памятников чешской письменности с IX века до начала XIX столетия. Москва. Октябрь — ноябрь 1959. (Б. м., б. г.) № 37. с. 54. Табл. 7; Berson M. O iluminowanych rękopisach Polskich. Warszawa, 1900. T. 1. S. 61.

# Анθологіωн

Сирѣчь.

ПРАЗДНѢА

Гдскимъ. и Бгородичнымъ и всѣмъ нарочитымъ.

Стіхиры, Пареміи, Каноны, и прочая.

Списася въ Стѣй Лаврѣ Супрасльской.

Рукою многогрѣшнаго раба Бжія Іеромонаха Гервасія Книшича. Року ѿ воплощенія Сна Бжія. ҂аѱді.

Д Г



*Разварот рукапісу з выяваю евангеліста Марка і мініяцюра з выяваю евангеліста Іаана. Супрасльскі скрыпторый. XVIII ст.*

*Старонка з Давыдкаўскага ірмалоя XVIII ст. Застаўка з выяваю Сімяона-столпніка*





ныя раслінныя кампазіцыі на палях рукапісаў. У шырокую арнаментальную рамку заключаны тэкст і мініяцюры Евангелля, перапісанага ў 1538 г. Хведарам Кузьміным з Нясвіжа. У 1556 г. яно было падаравана Кіева-Пячэрскаму манастыру, цяпер рукапіс лічыцца згубленым[1]. Закончаныя рамкі з раслiннага арнаменту маюць і мініяцюры Жыровіцкага евангелля (другая назва гэтага рукапісу — Евангелле Сапегі). Укладны запіс паведамляе, што кніга гэтая дадзена канцлерам Вялікага княства Літоўскага Львом Сапегам у Жыровіцкі манастыр. Тут ва Успенскім саборы і захоўвалася яна да XIX ст.[2]. Такія рэнесансныя арнаментальныя кампазіцыі, як у Нясвіжскім і Жыровіцкім евангеллях, былі пашыраны ва ўкраінскай, чэшскай, польскай рукапіснай кнізе (Перасопніцкае евангелле, Літамержыцкі канцыянал, Кракаўскі антыфанарый Абраама і інш.)[3].

Вытворчасць рукапіснай кнігі ў XVII — XVIII стст., як мы ўжо адзначалі, мела шэраг асаблівасцяў. Новастворанfesthalten масівы рукапісных кніг гаспадарчага значэння і навучальных, як кірылічных, гэтак і лацінскага алфавіта, часцей за ўсё не маюць упрыгожанняў; у некаторых з іх тэкст сабраны ў слупкі або размеркаваны ў табліцы, што ажыўляе выгляд развароту. Старанна выпісаныя на тытульных аркушах такіх кніг загалоўкі (і часам канцоўкі), як правіла, належаць

[1] Запаско А. П. Орнаментальне оформлення українскої рукописної книги. С. 122.

[2] Шматаў В. Ф. Жыровіцкае евангелле // ЭЛіМБел. Мн., 1985. Т. 2. С. 463.

[3] Грузинский А. С. Палеографические и критические заметки о «Пересопницком Евангелии». СПб., 1912; Древнечешская литература, выставка памятников... Табл. 10; Запаско Я. Орнаментальне оформлення української рукописної книги. С. 3—181; Berson M. O iluminowanych rękopisach Polskich.

124

Гласъ ѕ

пре чи ста а пре ва та а дѣ

во е ди на пре чи ста а та

сла ви вса тварь

ма тер свѣ

та




*Старонкі Давыдкаўскага ірмалоя. XVIII ст.*

руцэ складальніка-перапісчыка. Асноўным упрыгожаннем навучальнай кнігі былі чарцяжы ў тэксце і тыя самыя каліграфічна выпісаныя загалоўкі. Кнігадрукаванне, якое ўжо паспела шырока распаўсюдзіцца, шматпланава ўплывала на мастацтва кнігі рукапіснай. Перадусім гэты ўплыў выявіўся ў распаўсюджанні арнаменту, які нагадваў або нават паўтараў гравіраваныя застаўкі друкаваных кніг, гэтак званы старадрукаваны, або тыпаграфскі, арнамент. У імкненні наблізіць вонкавы выгляд рукапісу да друкаванай кнігі перапісчыкі першае слова тэксту кожнай наступнай старонкі выносілі на ніжняе поле папярэдняй — тэхналагічна такі прыём неабходны для падбору і пераплёту паасобных друкаваных аркушаў, для рукапіснай кнігі ў гэтым няма патрэбы.

У буйных кніжных асяродках, дзе былі друкарні і рукапісныя майстэрні, часам замест напісання ініцыялаў і мініяцюр уклейвалі ў рукапісныя кнігі друкаваныя ініцыялы і гравюры. Прыкладам гэтага можа быць Евангелле (БАНЛіт, F19—46), для ўпрыгожання якога выкарыстана размаляваная гравюра з выяваю евангеліста Марка, «Залатая карона...» з гравюраю-партрэтам Іасафата Кунцэвіча (БАН, Добр. 40), «Анфалагіён» (БАНЛіт, F19—112) з друкаванымі ініцыяламі (цікава, што ў гэтай кнізе, створанай у Супраслі, некалькі іні-

цыялаў не ўклееныя, а ўдрукаваныя ў пакінутыя для іх прагалы). Прыкладам спалучэння друкарска-друкаванага і друкарска-рукатворнага арнаментаў у афармленні рукапіснай кнігі можа служыць «Анфалагіён», перапісаны ў Супраслі ў 1714 г. іераманахам Гервасіем Кішчыцам для царквы Казьмы і Даміяна ў Рыбалах. Тытульны аркуш гэтай кнігі ўяўляе сабою гравіраваную рамку ў выглядзе аркі з выявамі двух апосталаў і сцэнай Раства ўнізе. Усярэдзіну рамкі ўпісаны тэкст тытула. Перапісчык частку тэксту размясціў у два слупкі на старонцы, частку ў адзін слупок; для большай завершанасці тэкст узяты ў рамку. У кнізе больш за дваццаць заставак, часткова ўдрукаваныя, часткова намаляваныя рукою. Прычым маляваныя выкананы так прафесійна, што не выклікае сумневу — іх рабіў ілюмінатар-гравёр або сам Гервасій Кішчыц быў гравёрам супрасльскай друкарні. Пад час перапісвання кнігі для ініцыялаў пакідалася прастакутная рамачка з упісаным абрысам патрэбнай літары. Пасля ілюмінатар у «друкарскім» стылі завяршаў кампазіцыю, вымалёўваючы, як правіла, складаны ліставы і кветкавы арнамент. Маляваныя застаўкі, як правіла, маюць пасярэдзіне свабоднае ад арнаментацыі месца, занятае выявамі: Багародзіцы, анёла, Казьмы і Даміяна (святыя лекары, патроны царквы ў Рыбалах) і інш. Цудоўную ілюмінацыю мае памятны Зборнік пінскіх бернардынаў, упрыгожаны выкананымі рукою партрэтамі і сімвалічнымі малюнкамі,— стваральнікі яго, відавочна, імкнуліся надаць кнізе выгляд друкаванага выдання[1]. У прыпісках часам пазначаецца, што рукапісная кніга спісана з друкаванай (БАН, Добр. 27).

Разам з друкарскім арнаментам у афармленні рукапісных кніг, пачынаючы з XVII ст., развіваецца прымітывізм, які імкнецца да фалькларызацыі малюнка, колеру, кампазіцыі. Прыкладам можа быць Евангелле XVIII ст. (БАНЛіт, F19—44), якое мае тры добра захаваныя мініяцюры з выявамі евангелістаў. Своеасаблівая ўмоўна-прымітыўная манера і каларыт ілюмінацыі гэтай кнігі нагадваюць беларускія народныя маляваныя дываны. Ф. Дабранскі, які з вялікім піетэтам ставіўся да старых прыгожых рукапісаў, так апісваў гэтую кнігу: «Захаваліся выявы евангелістаў: Марка, Лукі і Іаана; але выявы гэтыя, гэтаксама, як і застаўкі на пачатку евангелляў і іншых раздзелаў, зроблены надзвычай нязграбна і груба; увогуле па усіх прыкметах відаць, што рукапіс гэты навейшай працы»[2]. Варта адзначыць, што прымітывізм панаваў не толькі ў афармленні рукапіснай кнігі, але і ў гравюры (у т. л. ілюстрацыях друкаваных кніг XVIII ст.), а таксама ў прыкладным (у прыватнасці, ювелірным) мастацтве; прымітывізм мы бачым і ў гравіроўцы навугольнікаў і цэнтральных планкетак кніжных абкладаў.

Сярод рукапісных кніг, створаных у XVII—XVIII стст., асабліва вылучаюцца сваім афармленнем Ірмалоі. Гэты від кніжнай прадукцыі амаль цалкам застаўся прэрагатываю кнігапісцаў. Ю. Ясіноўскі адзначае, што ў мастацкім афармленні беларускіх Ірмалояў склаўся свой уласны паэтычны стыль, захоўваючы асаблівасці старажытнарускай кніжнай культуры, ён развіваўся ў новых гістарычных умовах беларускіх земляў XVI—XVIII стст. Разбіўка кнігі на восем раздзелаў — галасоў, а таксама на іншыя раздзелы (падобны, святочныя стыхіры і некаторыя іншыя) суправаджалася адпаведным афармленнем: арнаментаваныя застаўкі і ініцыялы, выкананыя вяззю кінаварныя

[1] Рукапіс гэты датаваны 1681 г. (БАН, Р-К. Ак. № 98).
[2] Добрянский Ф. Н. Описание рукописей... С. 56.

загалоўкі, канцоўкі, упрыгожанні на палях. У дэкоры беларускіх Ірмалояў пераважае друкарскі арнамент, аднак сустракаюцца і пляцёнкі балканскага тыпу. Мініяцюры, у параўнанні з украінскімі Ірмалоямі, сустракаюцца рэдка, хоць побач са сціпла афармленымі спеўнымі кнігамі сустракаюцца надзвычайна пышныя, як, напрыклад, Супрасльскі ірмалой 1639 г. (БАНЛіт, F19—116), Віленскі ірмалой Тарасія, Баркулабаўскі ірмалой Іаіля Труцэвіча і іншыя[1]. Прыкладам кнігі, якая набліжаецца ў афармленні да фальклорнага прымітывізму, можа служыць Давыдкаўскі ірмалой[2].

Створаны далёка ад кніжных асяродкаў, Давыдкаўскі ірмалой афармлены прымітыўнымі па малюнку, хоць і складанымі паводле задумы ініцыяламі; асноўныя колеры — чырвоны (для загалоўкаў і малюнкаў) і карычневы (ноты, тэкст, некаторыя малюнкі). Разам з тым адчуваецца даволі высокі прафесіяналізм перапісчыка. Дакладна разлічаны месцы заставак і ініцыялаў, удала вырашаны тытульны аркуш, надпісы-даведкі на палях дазваляюць лёгка знайсці патрэбную мясціну ў тэксце.

Афармленне кнігі складаецца з кінаварных, напісаных вяззю загалоўкаў, дзесяці заставак і тытульнага аркуша, які ўяўляе сабою цэласную кампазіцыю і раскрывае мастацкі падыход да афармлення ўсёй кнігі. Аснова пабудовы кампазіцыі тытула — двухколерная архітэктурная арачная канструкцыя з калонамі справа і злева і з франтонам зверху. На капітэлях калон стаяць вазы з фантастычнымі кветкамі, франтон завяршаецца трохкутным сцяжком з крыжыкам. На сярэдзіне франтона, сярод «аблокаў», намалявана манаграма «ІНЭ», якая часта сустракаецца на выданнях віленскай акадэмічнай друкарні (не выключана, што мастак змаляваў яе з якой-небудзь віленскай кніжкі). Прысутнасць каталіцкай манаграмы ў кірылічнай кнізе на царкоўнаславянскай мове — сведчанне уніяцкай прыналежнасці Ірмалоя.

Загаловак напісаны чырвонаю фарбай, месяц і дзень у канцы прыпісаны пазней (відаць, пасля заканчэння працы) карычневым чарнілам. У ніжняй частцы тытульнага аркуша малюнак барадатага чалавека: ён ляжыць, падпёршы галаву рукою, побач з ім — мудрагелістай формы пасудзіна на ножцы. Над галавою чалавека — месяц і зоркі, у нагах — дрэвы. Напэўна, гэта Адам, што пацвярджаецца надпісам: «Сей единъ сотворенъ на земли». На працягу XVI—XVII стст. шматлікія друкаваныя кнігі змяшчалі гравюры з сімваламі Адама (сімвалы марнасці быцця) — чэрапам і скрыжаванымі косткамі. Часта выкарыстоўвалі гэтую эмблему і ювеліры, у тым ліку і беларускія. Мастак Давыдкаўскага ірмалоя на тытульным аркушы падаў выяву самога Першачалавека, ды яшчэ ў паставе філосафа-эпікурэйца. Аднак да сімвалаў марнасці аўтар упрыгожанняў вяртаецца яшчэ двойчы — на адвароце 96-га арк., калі замест чэрапа малюе знак — спалучэнне чатырох сонцаў; тут жа і фраза, якую традыцыйна пісалі побач з «Адамавай галавою»: «Сей знак зри всяк и ты будешь так»; на адвароце 106-га арк. намаляваны чэрап і скрыжаваныя косткі — намаляваны, аднак, так умоўна, што малюнак ніяк не выклікае пачуцця безвыходнасці перед лёсам.

Вельмі своеасабліва ставіцца стваральнік Ірмалоя да рэлігійнага зместу перапісаных ім спеваў. Гэта відаць, у прыватнасці, з заключнай фразы, буйным уставам запісанай кінавар'ю ў канцы кнігі:

[1] Ясіноўскі Ю. Беларускія Ірмалоі — помнікі музычнага мастацтва XVI—XVIII стст.

[2] ДПБ, Аддз. рукапісаў, Кап. F. 10.

«Конец Богу слава а намъ нехай будеть забава». Змест прыпіскі, відавочна, набліжаецца да тае мяжы, за якою, паводле слоў невядомага ўкраінскага «співака» XVIII ст., «рукі отобъют, кто будет в книжках писати дурно»[1].

Ва ўсёй кнізе на палях выпісаны назвы і нумары спеваў. Дзеля гэтага зроблены чырвоныя рамкі, якія заканчваюцца геаметрычнымі фігуркамі — або і часцей — выявамі людзей. Некаторыя з выяў фантастычныя, некаторыя нагадваюць шаржы. Разам узятыя шматлікія карыкатурныя малюнкі на палях і застаўках дазваляюць меркаваць, што аўтар не ведаў, што такое духоўная цэнзура. Не быў ён асабліва заклапочаны дакладнасцю сваіх малюнкаў: у застаўцы на арк. 97 анёл трымае аголеную шаблю проста за лязо, кветкі, з якіх складаецца ініцыял, і выявы птушак, што сядзяць на галінках,— самыя фантастычныя. На адвароце 124-га арк. у прымітыўнай манеры намаляваны чалавек з лукам, які палюе на вялікую рагатую жывёліну. Цяжка сказаць, намаляваў гэтую сцэну перапісчык Ірмалоя або нехта з чытачоў, аднак не выклікае сумнення, што невядомы мастак не толькі ведаў сімвалы знакаў задыяка, але і выкарыстоўваў сугучнасць іх назваў: «Цялец і стралец». У цэлым можна адзначыць, што Давыдкаўскі ірмалой належыць да адной плыні кніжнага афармлення з друкаванай кнігай, аднак захоўвае разам з тым усю непаўторнасць народнага мастацтва. Прымітыўны і ўмоўны стыль ілюстрацый характэрны і для ўкраінскіх Ірмалояў таго часу[2].

[1] Герасимова-Персидская Н. А. Записи на певческих рукописях XVII—XVIII вв. // Памятники культуры: Новые открытия. 1976. М., 1977. С. 132—141.

[2] Желтовский П. Н. Изобразительная графика украинских ирмолоев XVII — XVIII вв. // Памятники культуры: Новые открытия. 1984. Л., 1986. С. 262—271.

Каб вызначыць ролю кнігі як інструменту пашырэння культуры на беларускіх землях, зафіксаваць розныя яе грамадскія функцыі і акрэсліць уплыў на эвалюцыю поглядаў, перакананняў і веравання, на развіццё паняццяў і ведаў,— трэба перадусім вызначыць, якога асяроддзя і якіх грамадскіх і прафесійных груп дасягала кніга, якія былі магчымасці і спосабы кантакту спажыўца с кнігай, як яна абарачалася ў грамадстве. Інакш кажучы, трэба знайсці адказ на пытанне, звязанае са збіраннем, захаваннем, ужываннем, спосабамі пашырэння рукапіснай кнігі.

Для гісторыка кнігі, які хоча пашырыць сферу ўжывання і разнастаіць спосабы выкарыстання рукапіснай кнігі як крыніцы, можна праводзіць даследаванні ў некалькіх напрамках. Адзін з іх, уласцівы гісторыка-літаратурным даследаванням, заключаецца ў прасочванні рэцэпцыі зместу прачытаных кніг у творах пісьменнікаў, выяўленне тэкстаў і кніг, выкарыстаных аўтарамі. Такія даследаванні дазваляюць вызначыць кола чытання інтэлектуальнай эліты. Для вывучэння спажывання масавай кнігі трэба ў даследаванні ісці іншым напрамкам. Найперш трэба звярнуцца да саміх кніг, выявіць, каму яны належалі і як выкарыстоўваліся. Неабходна таксама расшукаць у архівах сярэднявечныя бібліятэчныя інвентары, тэстаменты і іншыя актавыя крыніцы, у якіх згадваецца пра кнігі[1]. Разнастайныя запісы на палях і пераплётах, прыпіскі ў канцы тэксту змяшчаюць інфармацыю пра перапісчыкаў, заказчыкаў і чытачоў, пра цэны на кнігі, памятныя падзеі свайго часу, метадычныя парады да чытання, рэкамендацыйную бібліяграфію, эмоцыі, абуджаныя чытаннем. Гісторыкі кнігі падзяляюць запісы паводле іх функцыі на тры катэгорыі:

1. Уладальніцкія, дарчыя, укладныя.
2. Прыпіскі перапісчыка.
3. Гістарычныя запісы, якія рабіліся «для сябе», «для памяці».

Палі і чыстыя аркушы кнігі адыгрывалі ролю своеасаблівай запісной кніжкі, куды трапляла тое, што не хацелі згубіць з памяці, што кранала розум, уражвала ўяўленне, хвалявала пачуцці, прыцягвала ўвагу, здавалася цікавым, знамянальным, вартым увекавечвання[2]. Пагаджаючыся з такой класіфікацыяй, мы лічым неабходным асобна ўлічваць яшчэ адну катэгорыю маргіналій: метадычныя парады чытачу,

[1] Тэорыя даследавання кніжнай рукапіснай культуры распрацавана падрабязна ў працы: Potkowski E. Książka rękopiśmienna w kulturze Polski. Warszawa, 1984.

[2] Апанович Е. М. Исторические записи // История СССР. 1979. № 2. С. 151—161.

сляды працы з кнігай, чытацкія нататкі. Для кнігазнаўца атрыманая пры аналізе такой катэгорыі прыпісак інфармацыя будзе не менш каштоўная, чым для гісторыка прыпіскі з чытацкай рэфлексіяй над гістарычнымі падзеямі.

Першая катэгорыя прыпісак — уладальніцкія, дарчыя і ўкладныя — самая шматлікая. Часта ўладальнікамі і ўкладчыкамі рукапісаў былі самі перапісчыкі, таму гэтая катэгорыя набліжаецца да прыпісак перапісчыкаў, якія мы адносім да другой катэгорыі прынятай класіфікацыі.

Найбольш шанаванымі кнігамі сярэднявечча, што адносіліся да прадметаў культу, былі Евангелле і Апостал. Шмат хто з багатых парафіян і святароў імкнуўся ўкласці ў новазбудаваную або ўжо дзейную святыню гэтыя кнігі. Склалася і стандартная формула прыпіскі: «Я [такі а такі] даю сію книгу глаголемую... на храм... вечно и непорушно по себе [и жене, и родителех, и детех своих]. Кто сію книгу от храма... отдалит разсудится со мной [а яшчэ і са святым, якому высвечаны храм] на Страшном суде». Характэрным прыкладам можа быць прыпіска архіепіскапа полацкага Нафанаіла, напісаная паўуставам на першай старонцы так званага Евангелля Нафанаіла: «Я смиренный архиепископ Нафанаил вкладываю сіе евангеліе тетр на престол пресвятой Богородицы и святой великомученицы Парасковьи. На память родителем моим и себе. А кто его отнимет да судят его святая Богородица и святая великомученица Парасковья в этом веке и в будущем». Полацкіх архіепіскапаў з імем Нафанаіл у XVI ст. было двое. Першы Нафанаіл згадваецца ў дакументах у кастрычніку 1525 г. і лютым 1526 г. Другі Нафанаіл (Беліцкі) быў полацкім архіепіскапам з 1592 г. і да сваёй смерці на пачатку 1595 г.[1]. Каторы з іх быў заказчыкам Евангелля Нафанаіла — належыць вызначыць будучаму даследчыку.

Да ўкладных залічаюцца і запісы зямельных укладаў у цэрквы і манастыры. Мноства запісаў XIV — XVII стст. з апісаннямі ахвяраваных земляў і каштоўнасцяў знаходзяцца на палях пергамінных Евангелляў з Лаўрышаўскага і Полацкага Іаана Прадцечы на Востраве манастыроў, ёсць яны і ў рукапісах на паперы. Напрыклад, укладныя (дарчыя) запісы на зямельныя надзелы Багданы Мялешкавай і канцлера Льва Сапегі ў Жыровіцкім евангеллі. Укладчык кнігі мог зрабіць праз нейкі час новы ўклад і запісаць яго ў тую самую кнігу, як зрабіў полацкі ўладыка Нафанаіл,— на тым самым аркушы, дзе і цытаваная раней прыпіска пра ўклад Евангелля, ёсць яшчэ адна, напісаная скарапісам: «Се я смиренный архиеписком Нафанаил владыка полоцкый дал есми святеи Богородици и святеи мученици Парасковгеи нарицаемои Пятници в Полоцку потир серебреный а вага тому потирю три гривны без пяти золотников на памят мне и родителем моим. А хто имет отнимати судит ему святая Богородица и святая великомученица Парасковгия в сем веце и в будущем». Ужо прыгадваны Юрый Андрэевіч Галянішча даў укладам не толькі адно напрастольнае Евангелле, але і званы, царкоўны рыштунак, а таксама «книги розные писаные». Часам укладчык запісваў той самы ўклад у дзве розныя кнігі, як гэта зрабіў Ігнат Бабыніцкі ў Полацкі манастыр Іаана Прадцечы на Востраве.

Укладныя запісы на кнігах мелі юрыдычную сілу, што пацвярджаецца капіраваннем іх у пазнейшыя часы ў інвентарна-гаспадарчых

[1] Строев П. Списки иерархов и настоятелей монастырей российской церкви. СПб., 1877. Сл. 496—498.

*«Скарапісцы». Мініяцюра з Талковага псалтыра XVI ст.*



кнігах. У прыватнасці, усе ўкладныя запісы Лаўрышаўскага евангелля скапіраваны базыльянамі і змяшчаюцца ў кнізе гэтага манастыра за 1710 г.

На старонках Тураўскага евангелля захаваліся прыпіскі служэбных асоб, якія пацвярджаюць законнасць укладаў, упісаных у тую самую кнігу на некалькі стагоддзяў раней.

Ва ўладальніцкіх запісах часта падаецца цана, за якую куплена кніга: на Кормчай XVII ст.: «Сильвестра Козминского за сумму пенязей литовских 38 коп четыре» (БАНЛіт, F19—243), у 1615 г. за Актоіх была заплачана капа пенязяў (БАНЛіт, F19—178), за натаваны Ірмалой у 1681 г. у Віцебску заплачана сыну каваля Стэфану Амосавічу «грубых талеров полшеста, то есть злотых 33»; чатыры злотыя каштавала купленая ў 1641 г. кніга «Зерцало» (БАН, Добр. 27); у 1662 г. Ірмалой куплены ў Віцебску Яўстафіем Іванавічам за 9 талераў у «пана Керштона Кристына» (БАНЛіт, F19—119).

Вядомы чатыры згадкі пра цэны ў прыпісках на кнігах XVIII ст.: Ірмалой 1717 г. каштаваў «золотых осмь доброй монеты» (БАНЛіт, F19—130), за «Анфалагіён» 1714 г. для царквы ў Рыбалах дадзена было «тынфов четыредесять и шесть» (БАНЛіт, F19—113), за Давыдкаўскі ірмалой у 1779 г. было заплачана 3 талеры (ДПБ, Кап. F. 10), Ірмалой XVIII ст. куплены Іванам Аўтуховічам з Оршы «за цену денег тынфов трынадцать» (ЦДГА, ф. 834, воп. 1, № 1176).

Уладальніцкія і ўкладныя запісы часам гавораць і пра сацыяльнае паходжанне чытачоў. Часцей за ўсё ўладальнікі рукапісных кніг — шляхта, духавенства (як белае, так і манахі), аднак пакінулі на кнігах уладальніцкія запісы і прадстаўнікі гарадскога мяшчанства: сын каваля Стэфан Амосавіч (БАНЛіт, F19—118), Іван Ігольнік, абывацель горада Віцебска (БАНЛіт, F19—119). Часам можна сустрэць запісы некалькіх уладальнікаў, пакінутыя ў розны час: напрыклад, на Мінеях-чэцціх беларускай рэдакцыі (БАНЛіт, F19—81) захаваліся нататкі «отца Григория Байковского, священника Ильинского» (арк. 1) і на арк. 64 «священник Павел Бирукович». Уладальнікам кніг у XVIII ст. часам станавілася «брацтва», якое ўкладала кнігу ў сваю брацкую царкву. 12 кастрычніка 1747 г. «люди моторовские» ўклалі ў царкву вёскі Маторова Служэбнік (ЦДГА, ф. 834, воп. 1, № 744); Служэбнік, які перапісаў Васіль Каўнацкі ў Бярэзіне ў 1777 г., у тым самым годзе быў куплены 8 сакавіка за «1 таляр биты з брацких грошай» для Астроўскай царквы (ЦДГА, ф. 834, воп. 1, № 750).

Шэраг вядомых нам перапісчыкаў адкрывае смалянін Лука прыпіскай 1395 г. Ён пакінуў у Псалтыру кароткую, але змястоўную інструкцыю будучым перапісчыкам і вучням (Псалтыр быў асноўнаю кнігай, з якой навучаліся грамаце): «Аще ли же кто вхощет сию книгу переписувати смотри, не добавь или не опусти одно какое-либо слово или палочку или крючки, которые стоят под строкамі в рядах. [А также] не применяй некоторых словов [к которым] ранее привык или не отнимай, но с великим тщанием учись читать». Дакладнасць перапісванага тэксту, падабенства яго да арыгінала заўсёды складалі галоўны клопат кнігапісцаў, у шматлікіх прыпісках яны просяць прабачэння за магчымыя памылкі, напрыклад дзякі, што перапісвалі Пролаг па загадзе мітрапаліта Іосіфа Солтана: «Вы же господа и отцы и братіе чтите сию богодухновенную книгу исправляюще своим разумом, и аще будем где описалися своим неразумением или неученіем грамоты просто ж нас простите а не клените...» Нікадзім Казіцкі, перапісчык «Кормчай» 1634 г., просіць: «Молю же ся слёзно отци и братія, прочитающе и переписующе сію Зонару легко исправляюще чтите а не злословите...», іераманах Лявонцій, які перапісваў у 1667 г. у Супраслі Мінею, дзеля апраўдання магчымых памылак піша: «...не своею волею дерзнул на сіе, но послушанія ради, отрещися отнюдь не возмогох и делах елико і како могох умаленіем си смысла».

Лука, што перапісваў у Жухавічах (недалёка ад Наваградка) Евангелле, падаў у прыпісцы свае магчымыя памылкі: «Отцы святыя и братия прочитаючии тую святую книгу Евангелие омылки рачте пильно прошу направити, где положылэм ъ з ь або ь за ъ, так тэш і за и а и за і тым подобные омылки молю поправте, бо не ангельская грешная рука писала, в ночи больше нижели в день для недостатка часу, а о мне грешнем господу Богу молитеся, грешный Лука презбитер Жуховицки 1668 априль 13 д.».

Наступная пасля Лукі Смаляніна прыпіска захавалася толькі з другой паловы XV ст., але пасля мы сустракаемся з прыпіскамі даволі часта: у 1462—1495 гг. падпісалі свае імёны 10 пісцоў. Сярод іх свецкія людзі: Іванчык, слуга Івана Сямёнавіча, пісара вялікага князя Аляксандра, Васка, пісар пана Мікалая Радзівіла, Андрэй Сцяпанаў сын Чалюсткін, Сенка сын Якуба, і слугі царквы: дыяканы Каляда, Яўстафій, Занка, Арцемій, манах Аўраамка, паповіч Бярозка. Некаторыя згадалі ў прыпісках месца свайго нараджэння — як правіла, тыя, хто быў далёка ад роднага горада: «Занко родом з Турова», паповіч Бярозка «з Новагородка Литовского», «Сенка родом смольнянин». Некалькі пісцоў назвалі мясціны, дзе яны працавалі: Каляда — у Слуцку, Яўстафій — у Гародні, Андрэй Сцяпанаў сын — у Слуцку, Арцемій — у Віцебску, Іванчык — у Вільні.

Апроч прыпісак у канцы тэксту або на палях, пісец мог схаваць прыпіску ўсярэдзіне сшытка, як гэта зрабіў дзяк Арцемій з Віцебска: перпендыкулярна тэксту кнігі, каля самага карэнчыка, можна прачытаць урывак надпісу: «...и помози рабу своему Ортемью поклон» (арк. 349 адв.), «...приятелю моему пан...» (арк. 350 адв.). Відаць, надпіс быў зроблены да брашуроўкі. У той самай кнізе некалькі разоў (арк. 157 адв., 166, 230) на палях сустракаецца запіс «попытаю пера». Такую фразу кніжнікі ўжывалі даволі часта, магчыма, дзеля распісвання новага пяра, напрыклад, у XV ст. наўгародзец Іван Пятроў: «Попытаю пера и чернила» (Трыёдзь посная, ДПБ, F.1.134). Дзяк Арцемій на свой роспіс пяра атрымаў нечакана суровы адказ — побач з ягоным «попытаю пера» на арк. 230 іншым почыркам накрэслена: «Пера попытал еси, да рузуму не пытал». Надпісы гэтыя зроблены, аднак, вельмі малымі літарамі, размешчаны перпендыкулярна тэксту і чытанню кнігі не перашкаджаюць.

У XVI ст. нам вядомы толькі чатыры свецкія кнігапісцы: князь Юрый Алелька ў Слуцку, Іван Праскура ў Супраслі, кнігапісец Грыгорый Іванавіч — спісальнік, а магчыма, і складальнік Супрасльскага спісу летапісца Вялікага княства Літоўскага[1], і Парфён, які перапісаў у 1543 г. Псалтыр па заказу пінскага старасты Івана Міхайлавіча. Астатнія 11 вядомых перапісчыкаў — дзякі і іераманахі. Месцамі, дзе працавалі кнігапісцы, былі Слуцк, Вільня, Нобель, двор Шышкіні (каля места Віленскага за ракою Вяллёй) і Супрасль. Згадкі пра месцы нараджэння пашыраюць геаграфію кнігапісцаў, сярод якіх — Аляксей з Полацка, Хведар Кузьмін з Нясвіжа, Мацвей Іванавіч з Тарапца, Усцін Яцкавіч «чачаранін» і Макарый Львовіч «з Гольшан родом». Упершыню згадваецца вялікі калектыў перапісчыкаў: «дьяконец Иоакимец» стаяў на чале працы, выкананай «роукою многыхъ дьяковъ».

З пачатку XVI ст. як буйны кніжны асяродак выдзяляецца Супрасльскі манастыр. У тыя часы тут вяліся вялікія будаўнічыя работы, у іканапіснай майстэрні працавалі мясцовыя жывапісцы і выхадцы з паўднёваславянскіх земляў[2]. Нам вядомы імёны трох супрасльскіх кнігапісцаў XVI ст.— Мацвей Іванавіч, які скончыў тут свой «Дзесятаглаў», іераманах Паісій, які перапісаў у 1514 г. Служэбнік (ДПБ, Соф. 962), і Іван Праскура, які працаваў у канцы стагоддзя. Вядомы дзве кнігі, перапісаныя Іванам Праскурам: «Жыціе Варлаама і Іаасафа» і «Ізмарагд». Абедзве кнігі чытальныя; сам Іван Праскура не называе сябе ні манахам, ні дыяканам — відаць, ён быў свецкім кнігапіс-

[1] Грыгорый Іванавіч двойчы «распісаўся» на чыстым апошнім аркушы форзаца фразамі «покоштовати пера и чернила» и «покоштовати пера ли доброе» (ЛАІГ, архіў, ф. 115, № 143).

[2] Mironowicz A. Supraśl jako ośrodek kulturalno-religijny // Wiadomości Polskiego Autokefalicznego kościola Prawoslawnego. 1983. Cz. 3—4. S. 30—52.

*Прыпіска полацкага «паланяніка» Івана да Псалтыра. XVI ст.*



цам, які працаваў у манастырскім скрыпторыі. Складзены ім «Ізмарагд» аб'ёмам 690 аркушаў *in folio* ўяўляе сабою энцыклапедычны зборнік, які змяшчае, апроч павучальных апавяданняў, прыродазнаўчыя і гістарычныя артыкулы, «Слово про жон злых и добрых», шмат іншага літаратурнага матэрыялу,— толькі кароткае апісанне зместу гэтай кнігі займае 23 старонкі друкаванага тэксту[1]. Заканчваецца «Ізмарагд» Івана Праскуры кароткім гэбрайска-славянскім слоўнікам, які склаў, відаць, сам перапісчык; сярод 91 пары словаў ёсць і пераклад са славянскай на беларускую мову. На другой кнізе, перапісанай Іванам Праскурам — «Жыцці Варлаама і Іаасафа»,— пазначаны час працы: «всего недель 52». Зыходзячы з гэтага часу і колькасці аркушаў у кнізе (256), можна падлічыць, што ў сярэднім за дзень перапісвалася менш за адзін аркуш. Тлумачыцца гэта тым, што кнігапісец працаваў адначасова над дзвюма кнігамі, што пацвярджаецца прыпіскамі з годам іх напісання — 1593-ці.

[1] Добрянский Ф. Описание рукописей... С. 341—386.

На пераплёце «Ізмарагда» ёсць запіс скорапісам XVI ст.: «Господи, помяни яко нищ и убог аз есми и по руце и по нозе и окован есми железы». Ці было гэта добраахвотнае самакатаванне манаха або горкі лёс зняволенага? — адказаць на гэтае пытанне цяпер немагчыма. Аднак тое, што зняволеных выкарыстоўвалі як кнігапісцаў, пацвердзіў усярэдзіне XVII ст. палачанін Іван у наступнай прыпісцы: «Написана бысть сія книга глаголемая Псалтирь следованіем рукою многогрешного и недостойного раба Богу Ивана полоняника полотского в заключеніи и во двоих путах связаны на Волоку Ламском».

Пятнаццаць кнігапісцаў вядомы нам у XVII ст. Яны працавалі ў Лешчанскім, Куцеінскім, Супрасльскім манастырах, у Слуцку і Турыйску, прычым пяцёра — у Супраслі. Толькі трое не адзначылі сваёй прыналежнасці да святарскага стану. Гэта Іаакім Гладкевіч, мешчанін турыйскі, Багдан, «спявак» родам з Пінска, ды называны ўжо паланянік полацкі Іван. Астатнія кнігапісцы — гэта манахі, дыяканы і святары. Прыпіскі манахаў адзначаюцца тым, што яны часам называюць сваё прозвішча — у папярэднія перыяды гэта не практыкавалася. Напрыклад: «...Написахъ же ю [«Кормчую».— *М. Н.*] азъ многогрешный и недостойный священноинок Никодим прозываемъ Козицкий чину святого отца нашего Великого Василия и дахъ труд свой за достопочивших родителей моих и в отпущение грехов своихъ...» Бадай самая яскравая прыпіска тых часоў належыць жухавіцкаму прэсвітэру Луку. Яна змешчана ў канцы Евангелля паводле Матфея: «Пачаў гэту кнігу пісаць перад 5 сакавіка на такой паперы, якую мог мець, бо мяне да гэтага вялікая патрэба цягнула, паколькі ў той царкве Жухавіцкай апроч Трыёдзі Цвятной болей кніг ніякіх не было; мусіў пісаць Апостал, Шасцідневец, Трэфалой і тыя памянёныя кнігі пісаў большай часткай пры лучыне ў начы, левай рукой свецячы, правай пішучы, значыць,у левай руцэ трымаючы лучыну, а ў правай пяро і толькі тады, калі меў з заробку які грош на паперу, каб яе меў за што купіць, не маючы ніводнага дабрадзея, каторы б мне ў тым дапамог; сам моцна старанні прыкладаў сваімі рукамі зарабляючы, напісаўшы Апостал, Шасцідневец, Трэфалой, выпісаў і гэту Святую кнігу Евангелле, няхай жа то ўсё дзеецца на чэсць і хвалу Богу у Троіцы Св. адзінаму і найсвентшай Дзеве Марыі, і ўсім святым Амінь. А калі хто тыя памянёныя кнігі адважыцца якім колвек спосабам аддаліць ад той святой царквы Жухавіцкай і на свой пажытак абярнуць альбо паводле сваёй волі да іншае царквы палажыць, хай будзе анафема, гэта значыць пракляты на векі і са мной маецца рассудзіцца ў дзень страшнага суда Божага, і з тымі, каторыя прылажылі на справу гэтага святога Евангелля, каторых імёны напісаны ў кнігу жывата і тут ніжэй. Нягодны Лукаш прэсвітэр царквы Жухавіцкай сваёй рукою 1668 месяца апріля 13 дня. Памяні Госпадзі раба Аляксея на вякі вякоў амін...» і далей спіс вясковых жухавіцкіх людзей, якія ахвяравалі грошы на напісанне і пераплёт гэтага Евангелля.

Чытаючы гэты спіс, міжволі прыгадваеш аналогію — у 1348 г. армянскі манах Нэрсес з Агмінскага манастыра ў правінцыі Тэўрык збіраў грошы на перапісанне Біблії сярод сваіх аднавяскоўцаў, і яны далі Нэрсесу «кожны ў межах сваіх магчымасцяў, пры ўмове, што я згадаю іх як саўдзельнікаў,— паведамляе Нэрсес,— Млех 40 белых, яго брат Лявон 90 драм, Тарос 30 драм, Іаван 90 драм, мой стрыечны брат Мхітар 42 драмы, цясляр Мхітар 30 драм, фарбавальшчык Лусер

30 драм, Захар 18 драм і яго маці 36 драм, Умек з сынам 40 драм...»[1]. Сітуацыя, як бачым, цалкам аднатыпная — у армянскай вёсцы XIV ст. і ў беларускай вёсцы ў канцы XVII ст. простыя людзі аднолькава выяўляюць сваё стаўленне да кнігі—агульнага па сабе помніка.

Адзінаццаць прыпісак кніжнікаў захавалася ад XVIII ст., прычым адзін з пакорлівай сціпласці (або забыўшыся) не назваў свайго імя: «Сия же книжица списася в 1777 году месяца септембрия 10 числа трудолюбием многогрешного иеромонаха чину св. Василия Великого в богоспасаемом монастыри Бытенском начата быть...» Апроч таго, вядома праца супрасльскіх іераманахаў Аляксея Плашкевіча і Геўсарыя Кішчыча, а таксама іераманахаў Аўраамія з Вільні і Іаанікія Жудры з Беразвеча, камянец-літоўскага «дыдаскала» Антонія Кяскевіча, прэсвітэра пінскай катэдры Антонія Тараневіча, Кірыла Ільінскага з Давыд-Гарадка, Цімафея Мароўскага з Жыровіц, а таксама двух кнігапісцаў з Бярэзіна — Андрэя Даўгялы і Васіля Каўнацкага.

Прыпіскі перапісчыкаў не толькі даюць інфармацыю пра месца працы і нараджэння кніжнікаў і называюць іх імёны — часта ў прыпісках мы сустракаем і імёны заказчыкаў кніг. Сярод іх людзі самых розных пластоў грамадства — ад буйных феадалаў да дробнай шляхты і мяшчанства — паны Солтан Солтанавіч і Фёдар Валовіч, маршалак Аляксандр Солтан, князь Юрый Сямёнавіч Слуцкі, пан Іван Касабуцкі, мешчанін шклоўскі, браты Еўстафіевічы, Юрый Андрэевіч Галянішча. Часта заказчыкамі выступалі прадстаўнікі духавенства — манах Аляксей, іераманах Ісаія, святар Казьма Васільевіч Жаба, прэсвітэр Андрыевіч, слуцкія ігумены Іосіф Балгарынавіч і Аўраамій, беразвецкі ігумен Васіль Паляціла, архіепіскапы — полацкі Нафанаіл, тураўскі і пінскі Паісій Сікоўскі, мітрапаліты Іосіф Солтан, Габрыэль Каляда, Іосіф Вельямін Руцкі. Характэрна, што калі ў XV — XVI стст. сярод укладчыкаў сустракаюцца буйныя магнаты, дык пазней кніга робіцца ўкладам сярэдняга і ніжэйшага станаў — яна зрабілася занадта танная для ўплывовага мажнаўладцы, які лічыў за лепшае ўвекавечыць памяць па сабе больш значнымі ўкладамі.

Наступная катэгорыя прыпісак на палях і пераплётах рукапісных кніг — гэта ўласна гістарычныя запісы. У іх адбіліся і гістарычныя падзеі, важныя для ўсяе Беларусі, гэткія, як, напрыклад, Брэсцкая унія: «...в року 1595 стало отступление от патриарии и прилучилося папежу Руси немало» (БАНЛіт, F19-21, арк. 534 адв.), і мясцовыя падзеі, такія, як служба ў Супраслі дыякана Міхайлы, што прыехаў з Кіева, вяселле гарадзенскага стольніка Цаплі, смерць укладчыкаў: Іоны ў Тураве, Серафіма Буваевіча ў Менску і інш. Рэлігійныя праблемы закраналі розныя пласты беларускага грамадства — нярэдкія былі выпадкі, калі ў адной сям'і дзед, бацька і ўнук належалі да розных, часам варожых між сабою канфесій. Канфесійная барацьба адбівалася і ў прыпісках чытачоў, напрыклад, на пераплёце кнігі з творамі Сімяона Новага Багаслова (БАНЛіт, F19-72) адзін чытач, відаць, праваслаўны, запісаў: «Сия книга есть из блаженного отца нашего Симеона греческаго, а не латинскаго». Ніжэй, відаць, уніятам, прыпісана: «Бредишь блазне, бо первей за отцов святых церковь греческая и римская за одно верили и за одно были поистине». Тут жа іншым почыркам яшчэ рэпліка: «Не такъ, яко теперешнии проклятые схизматове».

Уладальнік кнігі часам адзначаў незвычайныя прыродныя з'явы: «Месяца ноября 4 дне св. Іоаникия паметь, снег падал с метелицею до

[1] Хечумян В. Книга книг. М., 1984. С. 91.

пояса...» (БАНЛіт, F19-77, запіс на пераплёце), або «Roku tysiąc sześćset pięćdziesiąt czwartego msca Augusta dwunastego dnia według Rzymskiego kalendarzy znak na niebie pokazał się przez godzinę szara pojawiła byla rano o godzinie dziewiątej miesiąc był y gwiazda służyła onemy zapewnie za króla ero msci pana Jana Kazimierza to było, a za dzierżawy jego msci pana Jana Milasiewskiego majętności у церкви Joan Saszka protopopa Grodzieński рукою своею». (БАНЛіт, F19-30, с. 145).

Змяшэнне моў і алфавітаў характэрна для рукапіснай кнігі беларускіх земляў. У якасці яшчэ аднаго прыкладу можна прывесці прыпіску да Мінеі 1687 г. (БАНЛіт, F19—138) з барунскага манастыра, зробленую на славянскай мове літарамі трох алфавітаў — грэчаскага, лацінскага і кірылічнага.

Аўтар прыпіскі мог паказаць добрую гістарычную падрыхтоўку — насупраць спіса лістоў Стэфана Баторыя аб уніі ў рукапіснай кнізе XVI ст. (БАН, Добр. 29, арк. 13) запіс скорапісам XVIII ст.: «185 лет Стефану в 1761 г.».

Адзначэнне часу, затрачанага на перапіску кнігі, у шэрагу прыпісак суправаджаецца воклічамі палёгкі з прычыны завяршэння працы. Так, Макарый Львовіч пісаў кнігу Пролаг аб'ёмам 404 аркушы *in folio* з 15 красавіка да 20 лютага, г. зн. больш за дзесяць месяцаў (каля 1,5 аркуша за дзень) і закончыў наступнаю фразай: «Рад бысть заец изринувшися от тенета, а рыба от сети, а птица от клепца, а должник от резоимца, а холоп от господаря, так рад быс писецъ достигши в книзе остаточного слова Прелога сего и последніи строки видечи як святого воскресения». Значна больш часу патраціў на перапіску «Дзесятаглава» Мацвей Іванавіч — з 1502 да 1507 г.— пяць гадоў. Такі вялікі тэрмін тлумачыцца, відаць, перапынкам у працы пад час пераезду з Вільні ў Супрасль, а таксама вялікай працаёмкасцю мастацкага пісьма рукапісу. Паводле падлікаў Я. Карскага, кнігапісцы ў сярэднім перапісвалі два аркушы за дзень[1]. Выкарыстанне чарніла рознага колеру і распушчанага золата запавольвала працу; шматколернае пісьмо адзначыў у сваёй прыпісцы і князь Юрый Юр'евіч Алелька: «...своей рукой переписалъ, начавъ золотомъ а далей простым черниломъ»[2]. Камянецкі дыдаскал Антоній Кяскевіч перапісваў «Анфалагіён» (служэбную кнігу складанага зместу, якая ўключала каляндарныя чытанні, ноты, больш за 10 маляваных заставак) са студзеня 1760 да чэрвеня 1761 г. У канцы кожнага этапу сваёй працы ён пазначаў дату, у выніку чаго можна скласці графік працы над кнігай і вызначыць прадукцыйнасць перапісчыка:

| Колькасць старонак | Дата | Месяц | Год | Прадукцыйнасць (аркушаў у дзень) |
|---|---|---|---|---|
| 10 (без тытула) | 19 | студзень | 1760 | |
| 43 | 21 | сакавік | » | 0,5 |
| 47 | 29 | сакавік | » | 0,5 |
| 88 | 30 | май | » | 0,6 |
| 97 | 2 | чэрвень | » | 2,2 |
| 102 | 18 | чэрвень | » | 0,3 |
| 114 | 2 | ліпень | » | 0,9 |
| 124 | 20 | ліпень | » | 0,5 |
| 138 | 29 | жнівень | » | 0,4 |
| 162 | 5 | студзень | 1761 | 0,2 |
| 271 (уся кніга) | 25 | чэрвень | » | 0,6 |

[1] Карский Е. Ф. Славянская кирилловская палеография. М., 1978. С. 271.
[2] Минская старина. Мн., 1909. Вып. 1. С. 83.

Сярод шматлікіх маргіналіяў на палях рукапісных кніг можна вылучыць ў асобную групу прыпіскі, якія адлюстроўваюць працу з тэкстам кнігі, а таксама водгукі на прачытанае. Часцей за ўсё ў найбольш важных і цікавых, на думку пісца або чытача, мясцінах ставіўся значок NB (nota bene, лац.: «звярні ўвагу»), пісалася вяззю слова «зри» або малявалася рука, што паказвала пальцам на патрэбную мясціну ў тэксце. У XVI ст. мы сутракаемся з больш разгорнутымі чытацкімі паметамі. Асабліва шмат іх у «Хранографе» (БАНЛіт, F19-109). Напісаныя скорапісам XVI ст., паметы зроблены перапісчыкам або некім з сучаснікаў і ўяўляюць сабою цэлую сістэму павучэнняў чытачу. Слова «зри» ўжываецца з некалькімі значэннямі, што ўдакладняюць, як трэба «зреть» (або што пабачыш) у гэтай мясціне тэксту: «зри страшно», «зри пильне», «зри дивно». У тым месцы, дзе «Хранограф» апавядае пра тое, што Клеапатра, пабачыўшы багатыя дары Антыгона, намаўляе Антонія забіць абодвух цароў, Ірада і Молха Сурскага, на палях пазначана: «Виж злость женскую как люта»; «зрите несмысли» — гэтая прыпіска зварачае ўвагу на фразу ў тэксце: «...негодится молодым несмыслем старшими радети...» Каб адаслаць ад адной мясціны да другой, пісец ставіць крыжык паміж сказаў, а на поле выносіць: «Смотри сам, где указует рука солнцу знамені» — і сапраўды, ніжэй рука паказвае на мясціну ў тэксце, дзе гаворыцца пра азнакі сонца (арк. 6). Тое, што аўтар径 паметаў — сам перапісчык, можна меркаваць з прыпіскі на арк. 509: «...оттуле пишемъ римское царство». Часам аўтар маргіналіяў з мілай непасрэднасцю дзеліцца сваімі ўражаннямі ад зместу: «Зри Але ми то дивно». У прыродазнаўча-навуковай частцы Зборніка (БАН, Добр. 18) сустракаецца такая заўвага на полі: «Чти, узнаешъ откуда Земля стала» (арк. 89).

Часам чытач проста «адзначаецца» на пераплёце кнігі: «Аз Филофей Васильевич писал на сей книзе в року А. Х. Е. а по великому четвергу», «року божого а. х. е. месяца марта и. дня Михаило», «боже будь милостив рабу своему Андрею» (БАНЛіт, F19-56), «Помяни господи раба твоего Андрея Конархотру» (БАН, Добр. 33, арк. 105 адв.). Філімон Батвінскі паведамляе, што ён выкарыстоўваў кнігу Ірмалой для навучання на працягу шасці месяцаў: «Roku 1792 miesiąca Marca ugodziłem się uczyć Jermałoja. Było terminem uczenia do miesiąca Augus: Andrzeja Tarnawskiego. Filimon Batwinski» (БАНЛіт, F19-127). Андрэй Тарнаўскі, як відаць з іншых запісаў, быў гаспадаром Ірмалоя і, відаць, кіраваў навучаннем.

Часам чытач адзначаў на палях памылку перапісчыка: «Сего слова конца здесь нет» (БАНЛіт, F19-65, арк. 248), «омылился тут не написал» (БАНЛіт, F19-47). Цікавая зробленая ніжэй гэтага запісу прыпіска чалавека, які ведаў пра кнігадрукаванне і звярнуўся да будучых чытачоў (ды, бадай, і да кнігазнаўцаў) з гэткай рэплікай: «Обмылился тут ни написал а надруковал ну адначи хорошо это просто ужас как надруковать. Вы може скажете зачем я здесь писал — небыло чего делать, лучше молчете да что либо напишите».

У XIV — XVIII стст., нягледзячы на сацыяльна-эканамічныя і палітычныя змены, што адбываліся на ўсёй прасторы Усходняй Еўропы, працягвалі існаваць закладзеныя яшчэ ў старажытнарускі перыяд цэнтраімклівыя тэндэнцыі літаратурнага працэсу, кнігаабмен, трады-

*З 1760 г. нам падміргвае херувім... «Анфалагіён», перепісаны камянецкім дыдаскалам Антоніем Кяскевічам*



цыя перамяшчэння рукапісаў і міграцыя кнігапісцаў. Факты, што пацвярджаюць наяўнасць гэтых працэсаў, раскрываюць пачынальнік бібліягеаграфіі рукапіснай усходнеславянскай кнігі М. У. Волкаў і савецкі даследчык бібліягеаграфічных працэсаў М. М. Розаў, украінскія навукоўцы Я. Ісаевіч і П. Ахрыменка і іншыя[1]. «Сувязь між сабою народаў,— піша акадэмік Дзмітрый Ліхачоў,— іх культур адбываецца ў першую чаргу праз кнігі...»[2]

Яскравым прыкладам таго, што няма рэзкай мяжы паміж сюжэтамі рускай і беларускай літаратуры XIV — XVIII стст. і што з адной яны пераходзяць у другую, становячыся агульным здабыткам, служыць «Аповесць пра Даўмонта». Твор гэты, народжаны ў Пскове, выяўляе сувязі з апавяданнямі беларуска-літоўскіх летапісаў, у прыватнасці, з «Казаннем пра Войшалка». Абодва творы неаддзельныя адзін ад аднаго ў рукапіснай традыцыі і звязаны тэматычна. Адзначаючы гэта, даследчык «Аповесці пра Даўмонта» В. Ахотнікава прыходзіць да высновы, што складальнік Сярэдняй рэдакцыі «Аповесці пра Даўмонта» выкарыстаў ужо гатовы тэкст «Казання пра Войшалка» і звязаў абодва творы ў адзіны комплекс[3]; даследчык мовы Пскова Н. М. Карынскі адзначаў уплыў мовы беларусаў на мову Пскова XIV — XVII стст.[4]. Цікавае сведчанне кнігаабмену паміж беларускімі землямі і Псковам мы знаходзім у прыпісцы на Трыёдзі поснай са збораў Наўгародскага Сафійскага сабора: «Сію книгу выменілъ Петр Чередов у литвы Тревод посню и вложихъ ее у Николы Чюдотвора в Острове на престол а подписал своею рукою лета 1582 марта 24»[5]. Заўважым, што кніга трапіла ў Пскоў усяго толькі праз тры месяцы пасля зняцця аблогі горада. каралём Стэфанам Баторыем аблогі горада.

У 1468 г. адбылося знаёмства пасла вялікага князя літоўскага пісара Якуба, які прыехаў па даручэнні Казіміра Ягелона ў Маскву, з архітэктарам-масквічом Васіліем Ярмоліным. Вярнуўшыся ў Вільню, Якуб у лісце прасіў Васілія Ярмоліна купіць для яго ў Маскве Пролаг на ўвесь год, Васьмагласнік і «Жыція Апосталаў», кожную кнігу ў асобным пераплёце. Просьбу гэтую, аднак, выканаць не ўдалося — на рынку адсутнічалі патрэбныя кнігі ў такім выглядзе, у якім хацеў іх атрымаць віленскі пісар, і Ярмолін прасіў прыслаць паперу і грошы, каб размясціць заказ сярод перапісчыкаў[6]. Ці быў размешчаны заказ на кнігі ў Маскве — невядома, дакументы не захаваліся. Вядома пра іншае паступленне рукапісных кніг з Масквы ў Вялікае княства — у 1497 г. іх прывёз у Вільню маскоўскі пасол Мікула Ангелаў для Алены Іванаўны, вялікай княгіні, жонкі Аляксандра Ягелона,— усяго 13 кніг[7]. Шмат якія з рукапісных кніг, вырабленых у Куцеінскім манастыры, прадаваліся пасля ў Маскоўскай дзяржаве. Пасля пераводу манастыра патрыярхам Ніканам на Валдай, на маскоўскіх землях апынуліся не толькі кнігі куцеінскай бібліятэкі, але і кнігапісцы, якія надалей займаліся перапіскай і перакладамі кніг з беларускай і польскай моў на рускую. Беларуска-рускія кніжныя (і палітычныя) кан-

[1] Розов Н. Н. Книга в России в XV веке; Исаевич Я. Д. Преемники книгопечатника. М., 1981.

[2] Лихачев Д. С. Задачи изучения связи рукописной книги и печатной // Рукописная и печатная книга. М., 1975. С. 10.

[3] Охотникова В. И. Повесть о Довмонте: Исследование и тексты. Л., 1985. С. 110—116.

[4] Каринский Н. Язык Пскова и его области в XV веке. СПб., 1909.

[5] ДПБ, Аддз. рукапісаў, Соф. 100. На гэту прыпіску нам паказаў В. І. Афанасьеў.

[6] Седельников А. Д. «Послание от друга к другу» и западнорусская книжность XV века // Изв. АН СССР. VII сер. Отд-ние гуман. наук. Л., 1930. № 4. С. 223—238.

[7] Бережков М. Н. Елена Ивановна, великая княжна литовская и королева польская // Труды IX археологического съезда в Вильно 1893 г. М., 1897. Т. 2. С. 25.




такты вызначылі некаторыя тэндэнцыі ў дзелавым пісьменстве Маскоўскага вялікага княства[1]. Атрымоўваючы «голову сахара» і скрылёчак дыні за ўдала складзены (і, як выявілася, прарочы) гараскоп будучаму цару Усяе Русі Пятру Першаму, а пакуль немаўляці Пятру Аляксеевічу, былы полацкі базыльянскі манах Сымон не мог не ўсведамляць, што паспяховае складанне не было б магчымае без выкарыстання такіх рукапісных кніг, як «Луннік», «Луцыдарыус», «Альманах», якія Сымон мог прывезці з сабою «на Маскву» з Полацка[2].

Сінтэз украінска-беларуска-рускай культуры адлюстроўваюць створаныя ў Расіі паводле беларуска-ўкраінскага тыпу Ірмалоі. Так, беларус, ураджэнец Полацка Гаўрыла Аранясовіч, быў пастрыжаны ў чарнігаўскім Троіцкім Ільінскім манастыры, дзе ў 1667 г. прыняў сан дыякана ад Лазара Барановіча. У 1669 г. ён быў пастаўлены «в попы» ў Сава-Старажоўскім манастыры «на Москве», дзе ў 1673 г. стаў перапісчыкам Ірмалоя. Сам Гаўрыла Аранясовіч адзначыў, што яго рукапіс

[1] Золтан А. Западнорусско-великорусские контакты в области лексики в XV в. (К вопросу о западной традиции в деловой письменности Московской Руси). АКД. М., 1984.
[2] Робинсон А. Н. Симеон Полоцкий — астроном. С. 177—184.

*Мітрапаліт Іосіф Вельямін Руцкі — аўтар першага бібліятэчнага статута. Гравюра XVIII ст.*

стварауся на аснове «книг Ирмолоев як с киевского напеву, так же из белорусского, почасти из Москавии» (ДГМ, Син. № 172). У XVI—XVII стст., пад час напалу палемікі паміж праваслаўнымі, католікамі і пратэстантамі, значную ролю ў вытворчасці кніг на беларускіх землях Вялікага княства Літоўскага адыгрывалі эмігранты з Масквы (князь Андрэй Курбскі, былы троіцкі ігумен Арцемій і інш.). Гісторыя ўсходнеславянскай рэлігійнай палемікі паказвае, што ў канцы XVI — першай палове XVII стст. духоўнае жыццё рускіх, украінскіх і беларускіх земляў заставалася шмат у чым адзіным. Як антыцаркоўныя рухі ў Рускай дзяржаве і праваслаўных землях Рэчы Паспалітай, так і царкоўна-праваслаўныя сілы выступалі, у цэлым, з агульных ідэйных пазіцый і адным фронтам у маштабе ўсяго ўсходнеславянскага рэгіёна[1].

Кажучы пра сувязі ў галіне рукапіснай кніжнасці беларускіх і ўкраінскіх земляў, неабходна адзначыць дзейнасць на Валыні паповіча Бярозкі, родам з Навагрудка,— ён вядомы як перапісчык Мінеі-чэцці 1483 г. Цікава, што з Навагрудка выйшаў яшчэ адзін кніжнік, дзейнасць якога склала цэлую эпоху ў гісторыі ўкраінскай кнігі,— гэта выдавец, які працаваў у Львове,— Міхаіл Слёзка[2]. На Валыні працаваў яшчэ адзін выхадзец з беларускіх земляў — Макарый Львовіч «з Гольшан родом». У 1530 г. «повелением владыки Луцкого и Острожского» епіскапа Макарыя ён спісаў Пролаг у Луцку, «при старосте Луцком князи Федори Черториском». У канцы Пролага, апроч ужо цытаванай намі прыпіскі, Макарый Львовіч зрабіў запіс тайнапісам: «ъшорг аз ъшург ъмад умот ътетчорп еіс отк». Крыптаграфічныя прыпіскі вядомыя ў чатырох рукапісных кнігах, звязаных з беларускімі землямі: Анежскім псалтыры (1394), «Дзесятаглаве» Мацвея Іванавіча (1507), Пролагу Марціна Львовіча (1530) і Палеі Пятра Праскуры (1593). Макарый Львовіч выкарыстаў сістэму зваротнага запісу тэксту, прыпіска ягоная — жарт, адрасаваны «книгочтеям»: «Кто сіе прочтетъ тому дамъ грушъ за грошъ». Часта пісцы выкарыстоўвалі тайнапіс, каб зашыфраваць сваё імя.

Нельга не пагадзіцца са сцверджаннем акадэміка Д. Ліхачова пра тое, што вывучэнне рукапісаў у складзе збору аналагічна вывучэнню тэкстаў у атачэнні іншых, інакшых тэкстаў. Мы павінны займацца «канвоем» рукапісаў гэтаксама, як і канвоем тэкстаў, і гісторыя рукапісаў — гэта гісторыя тэкстаў[3]. Месцам захавання рукапісаў была бібліятэка. У навучальным дапаможніку «История библиотечного дела в БССР» гісторыя бібліятэк на беларускіх землях пачынаецца з IX ст.[4]. З такой датай нельга пагадзіцца, бо першыя кнігі з'явіліся на заходніх землях Старажытнай Русі толькі ў канцы X — пачатку XI стст. У XIV — XVIII стст. рукапісныя кнігі захоўва-

[1] Дмитриев М. В. Отражение реформации... // Прогресивна суспільно-политична думка... Львів, 1988. С. 129.
[2] Исаевич Я. Д. Преемники первопечатника. С. 97.
[3] Лихачев Д. С. Текстология. М., 1985. С. 114.
[4] Покало М. И. История библиотечного дела в БССР. Мн., 1986. С. 7.

ліся ва ўсіх тыпах тагачасных бібліятэк, а менавіта ў бібліятэках царкоўных, манастырскіх і прыватных.

Найбольш пашыраны былі царкоўныя бібліятэкі. Як правіла, яны невялікія — ацалелыя інвентары XVIII ст. фіксуюць ад 8 да 15 кніг. Пры наваградскай Барысаглебскай царкве ў 1704 г. было шэсць назваў рукапісных кніг: Актоіх, Трыёдзь, Устаў, Служэбнік, Ірмалой і Памяннік. Восем назваў рукапісных кніг налічыла рэвізія 13 студзеня 1731 г. у бібліятэцы пры кафедральнай Прачысценскай царкве ў Пінску: Актоіхі (два), Пролагі (на ўвесь год), Мінеі (дзесяць), Часаслоў, Памяннік, Ірмалой, Служэбнікі (два) і Пантыфікат. Калі дапусціць меркаванне, што Пролагаў было чатыры кодэксы (па тры месяцы ў кожным) і было яшчэ дзве пазычаныя ў Любечаве Мінеі, дык усіх рукапісных кніг было 24. У тым самым 1731 г. 15 рукапісных кніг — Ірмалоі, Мінеі, Васьмагласнік, Служэбнікі, Трэбнік, Службы — было ў Жыровіцкай царкве. Інвентар ракаўскай царквы Спаса 1762 г. паказвае дзевяць рукапісных кніг: Ірмалой, тры Мінеі, Трыёдзь посная, «Паўустаў», «Празднея», «Імпразднея» і маленькі Ірмалой. Частка царкоўных бібліятэк на беларускіх землях належала ў XVII — XVIII стст. Кіеўскай праваслаўнай епархіі. Яны адзначаліся крайнім убоствам і беднасцю: кіеўскі мітрапаліт Арсеній Магілянскі так апісваў іх стан на падставе данясення слуцкага архімандрыта Дасіфея Галяноўскага: «Шмат якія цэрквы, асабліва што былі ў лясах сярод непраходных балот, не мелі ні евангелляў на прастолах, ні друкаваных апосталаў і карысталіся старадаўнімі рукапісамі, і тое без пачатку або без пазначэння зачалаў, некаторыя цэрквы мелі толькі адзін часоўнік старадаўні, а іншых кніг ніякіх не мелі»[1].

У царкоўнай бібліятэцы, апроч звычайнага набору богаслужэбных і чытальных кніг, маглі быць і апакрыфічныя творы, прызначаныя для чытання прыхаджанам. Да такіх кніг адносіцца, напрыклад, «Сія книга о таинахъ Божіих сложена философомъ великимъ Аристотелемъ...» з уключэннем «Аристотелевыхъ вратъ», дзе была такая прыпіска: «Сия книга рекомая до науки и выразуменя людского дана ми есть от пана швакъгра моего от пана Яроша Каспоровича Лединского в року тысяча шести сот сёмомъ месяца ноября двадцать второго дня, которую я Григорей по животе своемъ при церкви Десятковской, храме светое Пятницы вечне, а непорушне зоставую, которое книги каждый верный крестьянинъ, а иле грецкое веры читати и учитесе буде»[2].

Другім тыпам бібліятэкі, які ахапляў асноўны масіў рукапіснай кнігі, была бібліятэка манастырская. На жаль, інвентары такіх буйных кніжных асяродкаў, як віцебскага Маркава манастыра, слуцкага Троіцкага, полацкага Іаана Прадцечы на Востраве, не захаваліся да нашых дзён, і таму цяжка ўявіць агульную карціну манастырскай бібліятэкі. Асноўныя крыніцы тут — апублікаваныя ў XIX ст. сярэднявечныя інвентары Супрасльскага і Лешчынскага манастыроў, якія змяшчаюць спіс кніг у бібліятэках, а таксама шыфры манастырскіх бібліятэк на ацалелых у іншых зборах кнігах.

Першы ацалелы інвентар Лешчынскага (пад Пінскам) манастыра быў складзены 26 снежня 1588 г.[3]. Манастырская бібліятэка мела на той час 34 рукапісныя кнігі, сярод якіх як богаслужэбныя, гэтак і чытальныя. У інвентары пазначаецца матэрыял, на якім перапісаны кнігі: адна на пергаміне, астатнія — «на паперы писаные», падаюцца апісанні багатых пераплётаў напрастольных Евангелляў, часам даюцца

[1] Титов Ф. И. О заграничных монастырях Киевской епархии XVII—XVIII веков // Труды Киевской духовной академии. 1905. Кн. 6. С. 309.

[2] Аддз. рэдкай кнігі Дзярж. б-кі БССР, № 091/276К.

[3] Довгялло Д. И. Инвентарь Лещинского монастыря // Минская старина. Мн., 1909. Вып. 1. С. 117—119.

*Шыфры бібліятэкі Жыровіцкага манастыра на першай старонцы Пячэрскага патэрыка. XVI ст.*

*Экслібрыс нясвіжскай бібліятэкі Радзівілаў. XVIII ст.*



*Экслібрыс Яна Фрэдэрыка Сапегі. XVIII ст.*

*Экслібрыс Аляксандра Сапегі. Канец XVIII ст.*







памеры кніг: «книга Лествица в полдест», «книга Исак Сирин в дест», «служебников два — один старый в полдест, а другой в четверку».

Значна багацейшая была бібліятэка Супрасльскага манастыра: у вопісе кнігасховішча, складзеным у 1557 г. ігуменам архімандрытам Сергіем Кімбаром, налічвалася 129 кніг і 80 кніг дадаліся як уклады і былі перапісаны па загадзе Сергія. У вопісе, апроч назваў кніг, адзначаны чатыры пергамінныя рукапісы, часам падаецца фармат, кнігі не славянскія (пяць грэчаскіх і лацінскі Апостал), згадваюцца паасобныя ўкладчыкі: «книга Федора Студита, отъ Сапеги», «Псалтири 2 одна великие паперы, а другая Жабинская». Пазней склад бібліятэкі мяняўся — колькасць друкаваных кніг павялічвалася, рукапісныя заставаліся прыблізна ў той самай колькасці. Бібліятэкай можна было карыстацца толькі будучы ў манастыры — згодна са статутам, які далі манастыру сыны кцітара, Юрый і Грыгорый Хадкевічы ў 1568 г.: «...книги церковныя въ позычки не маютъ быти даваны, а которія розпожичаны, тыя абы все были собраны и знову маютъ быти зреестрованы»[1]. Аднак пазнейшымі часамі забарона на вынас кніг з манастыра парушалася. Сведчанне гэтаму — распіска, што захавалася ў манастырскім архіве «Janusz Radziwił, xiąże. Oznaymuię tum skryptem moim, iz mi im. xiądz Koncewicz, iakom był u im., powierzył do czasu xiąg dwoch do przeczytania, to iest Kronikę y Jarmołoy, na co mu dla lepszey wiary daię tę moią kartę z podpisem ręki mey. Dat. w monastyrze Suprasiskim, 24 Aprilis a. 1654. J. Radziwił W. W. hetman W.»[2]. Кнігі, якія былі ўзяты «для прачытання», у манастыр не вярнуліся — інакш князь запатраба-

[1] Археографический сборник документов, относящихся к истории северо-западной Руси, издаваемый при управлении виленского учебного округа. Т. 9. С. 62.

[2] Тамсама. С. 215—216.

ваў бы назад распіску, і яна не засталася б у манастырскім архіве. Прычынаю незвароту была, цалкам верагодна, вайна — у маі 1654 г. 100-тысячнае войска маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча нечакана перайшло мяжу і хутка авалодала Смаленскам, Віцебскам, Полацкам і, нарэшце, сталіцаю — Вільняй. У вялікага гетмана (значыць, галоўнакамандуючага войскам Вялікага княства) Януша Радзівіла на той час не кнігі былі ў галаве. Тым часам у маі 1655 г. памёр супрасльскі архімандрыт Міліян Кунцэвіч, а 30 снежня 1655 г.— Януш Радзівіл. Лёс узятых у Супраслі Хронікі і Ірмалоя невядомы. Наўрад ці манастыр спрабаваў вярнуць аддадзеныя гетману кнігі — страта гэтая надта ж нязначная ў параўнанні з дзесяткамі кніг, забранымі маскоўскім гарнізонам Супрасля і Вільні. Можна выказаць меркаванне, што прыгаданая Хроніка — гэта Радзівілаўскі летапіс, які пасля перайшоў да Багуслава Радзівіла і праз яго ў Кёнігсберг.

Некалькі кніжных збораў гістарычна склалася ў Жыровіцкім манастыры:

1. Бібліятэка сабора. Згодна з вопісам 1731 г. у ёй налічвалася 56 кніг, у асноўным богаслужэбных, з якіх 15 былі рукапісныя. Сярод рукапісных кніг 2 Ірмалоі, 8 Мінеяў, Васьмагласнік (Актоіх), 3 Служэбнікі, Трэбнік і Евангелле. Усе кнігі памерам *in folio*.

2. Асноўная манастырская бібліятэка. На мяжы XVIII і XIX стст., у 1800 г., яна была добра ўпарадкаваная, разбітая на 17 раздзелаў і налічвала 2686 назваў у 3867 тамах. Гэта друкаваныя кнігі. Апроч таго, ацалелы інвентарны вопіс фіксуе 192 кнігі «рукописные с хоров» і 345 «рукописей разного вида», а таксама 93 «разных эстампов».

У гісторыі кніжных збораў манастыра можна вылучыць два этапы. Першы характарызуецца назапашваннем кніг і пашырэннем збораў і ахоплівае 1613—1845 гг. Другі перыяд ахоплівае 1845—1962 гг. і характарызуецца распыленнем збораў. Цяпер рукапісныя кнігі з бібіятэкі Жыровіцкага манастыра сустракаюцца ў бібліятэках АН Літвы ў Вільнюсе і АН СССР у Ленінградзе, архіве Ленінградскага аддзялення Інстытута гісторыі АН СССР, Аддзеле рукапісаў Дзяржаўнай Публічнай бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе. Усяго ўдалося выявіць 52 рукапісныя кнігі. Большасць з іх мае бібліятэчную азнаку наступнага зместу: «Сия книга есть з библиотеки монастыра Жировицкого чину Святого Василия Великого 1758 Anno подписана», а таксама шыфр Жыровіцкай бібліятэкі на ўнутраным баку дошак пераплёту.

Выяўленыя на сёння рукапісныя кнігі бібліятэкі складаюць толькі нязначную частку згаданых у вопісе 1800 г.— 52 з 537. Аднак яны даюць магчымасць уявіць шляхі, якімі траплялі рукапісныя кнігі ў Жыровіцкую бібліятэку:

1. Перапісаныя на заказ у іншых манастырах.
2. Перапісаныя ў Жыровіцах.
3. Падараваныя манастыру царкоўнымі і свецкімі іерархамі.
4. Перададзеныя з іншых манастыроў (ліквідаваных).

Пэўная колькасць рукапісных кніг захоўвалася ў невялікіх базыльянскіх манастырах, раскіданых па ўсіх раёнах Беларусі. У 1822—1824 гг. ва ўсім ордэне праводзілася апісанне маёмасці, у тым ліку інвентарызацыя наяўных кніг; інвентарныя кнігі захаваліся ў архіве Свяцейшага Сінода[1]. У бібліятэцы Селіцкага манастыра ў Рэчыцкім павеце захоўвалася 9 рукапісных фаліянтаў, 12 тамоў *in quarto* і адна

[1] ЦДГАЛ, ф. 824. воп. 2, № 136—140.

кніга «Прыпавесці» памерам *in octavo*, усяго 22 кнігі; Сухавіцкі манастыр таго самага Рэчыцкага павета меў бібліятэку ў адной шафе, друкаваных кніг 81 назву ў 93 тамах і да іх 13 рукапісных кніг — такім чынам, усяго 106 кніг, з якіх рукапісныя складалі 12,2 %. Усяго толькі тры рукапісныя кнігі «па пытаннях філасафічных і тэалагічных» былі ў Мірскім манастыры, усе памерам *in quarto*. Праўда, калі ўлічыць, што ўсяго кляштарная бібліятэка мела 34 кнігі, дык рукапісаў было 8,8 %. Дараўскі манастыр Навaградскага павета меў 172 назвы ў 207 тамах, аднак толькі адна кніга адзначана як рукапісная — Трыёдзь цвятная (№ 172); магчыма, былі і іншыя рукапісы, напрыклад, папярэдняя ў вопісе кніга названа «Трыёдзь посная, старажытная» (№ 171).

Сярод бібліятэк, што захоўвалі і збіралі рукапісную кнігу, значнае месца належала прыватным бібліятэкам шляхты і духавенства. Захаваліся звесткі пра бібліятэку кардынала Юрыя Радзівіла і епіскапа Пінскага і Тураўскага Грыгорыя, канцлера Альбрэхта Гаштольда, радавыя бібліятэкі Сапегаў, Радзівілаў, Храптовічаў. Адна з вялікіх прыватных бібліятэк — збор кніг Альбрэхта Марцінавіча Гаштольда — навaградскага ваяводы, пазней канцлера, аднаго з аўтараў Першага Статута Вялікага княства Літоўскага 1529 г. У яго бібліятэцы былі шматлікія друкаваныя і рукапісныя кнігі, у тым ліку кірылічныя славянскія, лацінскія, чэшскія і адна польская[1]. 51 славянская і 39 лацінскіх кніг былі ў асабістай бібліятэцы епіскапа Тураўскага і Пінскага Грыгорыя — рэестр гэтай бібліятэкі склаў у 1631 г. Сільвестр Каглоба. Складаючы рэестр, Каглоба адзначаў кнігі, пісаныя на пергаміне: «Апостол старый паргаминовый», «Становленник на пергамене», а таксама рукапісныя кнігі ў адрозненне ад друкаваных: «Прелог писаный на весь год, Евангелие учительное писаное, Требник старый писаный, Апостол скорописный, Триодь цветная писаная». Які лёс гэтай бібліятэкі (вопіс складаўся пасля смерці Грыгорыя) — невядома.

Самай вялікай прыватнай бібліятэкай на беларускіх землях валодалі магнаты Радзівілы. Размяшчалася яна разам з радавым архівам у Нясвіжскім замку і выклікала захапленне ў шматлікіх наведнікаў[2]. Кніжныя зборы былі і ў іншых гарадах, што належалі Радзівілам, у прыватнасці, вядома слуцкая бібліятэка князя Багуслава Радзівіла. У Слуцку захоўвалася 9 рукапісных кніг, перададзеных пасля ў Кёнігсберг[3]. Цяпер нясвіжская бібліятэка ўлілася ў фонды бібліятэкі Акадэміі навук СССР у Ленінградзе. Яна дагэтуль мала вывучана, рукапісы, сабраныя Радзівіламі, якія складалі выдатную калекцыю ілюмінаваных кніг, не выяўлены і не індыфікаваны са старымі вопісамі[4].

Другі па велічыні кнігазбор пасля радзівілаўскага належаў магнатам Сапегам. Гісторыя фарміравання і лёс сапегаўскай бібліятэкі (дакладней — сапегаўскіх бібліятэк), як і бібліятэкі Радзівілаў, яшчэ не апісаны — надалей застаецца задача: вывучыць асноўныя этапы збірання і распаду калекцый, склад кніжнага фонду і яго выкарыстанне. У Аддзеле рукапісаў бібліятэкі Вільнюскага універсітэта захоўваўся «Рэестр кніг, якія знаходзяцца ў Слонімскай бібліятэцы пана графа

[1] Владимиров Л. И. Очерки по истории книги и библиотек в Литве до 1917 года: Доклад о содержании основных опубликованных работ, представленных по совокупности на соискание ученой степени кандидата исторических наук. Вильнюс, 1965. С. 10.

[2] Иконников В. С. Опыт русской историографии. Киев, 1892. Т. 1. Кн. 2. С. 1239.

[3] Цыбуля В. Библиотека латинской книги в Слуцке // Свитязь. С. 200—206.

[4] Николаев Н. В. Несвижская библиотека князей Радзивиллов // Книга в России XVIII — середины XIX вв. Л., 1989. С. 140—147.

Сапегі, падканцлера ВКЛ». Ён зроблены за чатыры месяцы да смерці гаспадара — падляскага ваяводы і падканцлера Вялікага княства Літоўскага Міхала Антонія Сапегі — 26 мая 1760 г. Адзначаны тут і рукапісныя кнігі: «манускрыпт на розных мовах», «манускрыпт дыскусія аб скаргах праваслаўных». Асноўны кнігазбор Сапегаў захоўваўся ў маёнтках Дзярэчын і Кодань і цяпер знаходзіцца ў Варшаве і Ленінградзе[1]. Цікава адзначыць, што пераплёты некаторых кніг сапегаўскай бібліятэкі зроблены са старых пергамінных рукапісаў. Выкарыстоўваўся пергамін з кірылічнымі і лацінскімі тэкстамі, і гэта дазваляе меркаваць, што частка пераплётаў зроблена на беларускіх землях. Знявечаныя нажом пераплётчыка рукапісы — маўклівыя і ў нечым трагічныя сведчанні перамогі друкарскага варштата.

Да першай паловы XVI ст. адносяцца, відаць, і кніжныя калекцыі магнатаў Зяновічаў. Адзін з іх, Хрыстафор Зяновіч, у сваім тэстаменце абавязаў сына пабудаваць у іх маёнтках Глыбокім і Смаргоні школы і наняць для іх «толковых бакалавров свободных наук». Прыгадваючы бібліятэку, якую ён сабраў, Хрыстафор перадае яе сыну як найвялікшы скарб і просіць яе не марнаваць, а па магчымасці павялічваць і заўсёды трымаць у адным месцы: у Смаргоні пры царкве[2].

[1] Нікалаеў М. Аблічча сярэдневяковай бібліятэкі: Кнігазборы Сапегаў Мастацтва Беларусі. 1985. № 7. С. 64—67.
[2] Владимиров Л. И. Всеобщая история книги. М., 1988. С. 277.

## ЗАКЛЮЧЭННЕ

Заканамернасці эканамічнага і сацыяльнага працэсу зноў і зноў прыводзяць нас да высновы, што спосаб жыцця і эфектыўнасць гаспадаркі непасрэдна залежаць ад ведання асаблівасцяў духоўнага (таксама, як і эканамічнага) развіцця і ад умення творча прымяняць культурную традыцыю. Пра гэта згадаў яшчэ ў 1588 г., пішучы прадмову да першага выдання Статута Вялікага княства Літоўскага, Андрэй Рымша: «Перадавайце нашчадкам, што маеце з продкаў!» Прайшло больш як 400 гадоў, аднак і сёння яшчэ толькі збіраецца, вывучаецца і асэнсоўваецца культурная спадчына беларусаў, набытак, што «маем з продкаў».

Да сёння, згодна са старой звычкай, многія гуманітарыі хіба не за абавязак лічаць пачынаць з падзелу культуры на матэрыяльную і духоўную. Памылковасць такога падыходу найлепш адчуваецца пры вывучэнні кніжнасці: кніга, як адзін з кампанентаў культуры, непадзельна злучае ў сабе духоўнае і матэрыяльнае. З функцыянальнага погляду кніга — хіба адзіны кампанент культуры, які так ці іначай звязаны з астатнімі яе кампанентамі і, урэшце, набывае значэнне аб'ядноўваючага сродка іх выражэння[1]. Гэтыя ўласцівасці прыцягваюць увагу сучасных даследчыкаў, якія імкнуцца разглядаць сярэдневяковыя макра- і мікракультуры альбо праз асобу выдатнага кніжніка (Францыска Скарыну — Яўгеній Неміроўскі), альбо праз спробу ўключэння беларускай кніжнасці ў кантэкст польскай культуры (Марыя Тапольска), праз пошукі новых фактаў і адаптацыі кніжнай культуры да сацыяльна-палітычнай гісторыі (Георгій Галенчанка), праз сумярэнне з еўрапейскім (уключаючы Масковію) культурным кантэкстам (Юрый Лабынцаў), праз гісторыю мастацтва (Віктар Шматаў).

Да многіх іншых гісторыка-кніжных прац сёння дадалася кніжка пра беларускую «Палату кнігапісную». На заканчэнне аўтар выказвае спадзяванне, што кожны чытач знайшоў нешта новае і цікавае для сябе. Аднак памятаем мы і пра тое, што сказана яшчэ ў біблейскія часы: «...калі чалавек лічыць, што ў доследах дабірае канца, то значыць пачынае, а калі спыняецца — будзяцца сумненні» (Сірах. 18,7). Вывучаць сярэдневяковую кніжнасць як феномен беларускай культуры нам здаецца найбольш плённым і выніковым, беручы яе як сістэму, што складаецца з рэпертуару, спосабу вытворчасці і месца стварэння,

[1] Мыльников А. С. О культурно-исторических аспектах регионального книговедения. Новосибирск. 1990. С. 1—3.

мовы кнігі, рэлігійнай прыналежнасці стваральнікаў, аўтараў і чытачоў, а таксама стыляў і вобразаў мастацкай аздобы. І калі нельга назваць беларускім помнікам вывезены з Кракава, перапісаны па-латыні для наваградскага ці віленскага касцёла «Градуал» альбо балгарскі спіс Мінеі-чэцці, які праз Сербію трапіў у Супрасль, то сустрэча гэтых і многіх іншых кніг на беларускіх землях, збіранне іх, незалежна ад мовы і зместу, у беларускіх кнігазборах, карыстанне комплексам гэтых кніг для стварэння новых кніжных помнікаў і твораць, разам з мясцовай кнігавытворчасцю, феномен сярэдневяковай кніжнай культуры Беларусі. Нельга адназначна ацаніць значэнне гэтага феномену. Бясспрэчна, што праз кнігу адбываецца найлепшае злучэнне з дасягненнямі чалавечай цывілізацыіі. З другога боку — кнігі кідалі людзей у вір яшчэ неперажытага і неасэнсаванага, надсвядома кіруючы грамадой. Трапна сведчыць аб гэтым «Пункцір» Алеся Разанава:

Калі ўсё наўколле
я ведаў на памяць,
тады ўзяў у правадыры
незнаёмага чалавека,—
і сцежкі скрануліся і павялі
у невядомасць.

Бо ў «невядомасці» — структурнае і рытмічнае адзінства «ноасферы» (сферы чалавечай свядомасці), і, можа, менавіта праз гэта даследчыкі розных краін са здзіўленнем знаходзяць, што зусім не падобныя адны да другіх культурныя і геапалітычныя арэалы рухаюцца ў адным напрамку, падпарадкоўваючыся адзінаму рытму, адначасова перажываючы перыяды ўздыму і застою...

Немагчыма вывучаць мінулае, робячы падарожжы ў часе. Вось бліскучы лагічны гэтаму доказ — яго зрабіў матэматык Іван Лапо-Данілеўскі, паведамляючы ўражанні ад рамана Герберта Уэлса: «Думкі па поваду «Машыны часу» наступныя: а) З аднаго боку, Wells дае даволі наглядную інтэрпрэтацыю тае акалічнасці, што час ёсць адна з каардынат, значэнне якой, у сукупнасці з каардынатамі прасторы, вызначае элемент (альбо, інакш кажучы, кропку) разнастайнасці эмпірычнай рэчаіснасці, якая называецца фактам. б) Аднак «рух у часе» ёсць паняцце ўнутрана супярэчлівае, бо пад рухам у самым шырокім сэнсе разумеюць функцыянальную залежнасць нейкай эмпірычнай інтэнсіўнасці Z ад часу t. $Z=f(t)$. Гэта даволі зразумела, калі Z, напрыклад, некаторая прасторавая працягласць, аднак калі інтэнсіўнасць Z, як гэта ў Wells'a, ёсць сам час, то, выходзіць, $t=f(t)$, альбо $t=t$, г. зн. рух у часе непазбежна выяўляецца ў знаходжанні ў дадзенай сучаснасці, іншымі словамі, ніякага руху ў часе, які прыняты ў аснову, не існуе[1].

Тут нам дарэчы ўспомніць, што тэарэтычна няма адрозненняў паміж кнігай і кніжнымі сувязямі. Кніжныя сувязі паўстаюць як працэс разгортвання камунікацыі «кніга» ў прасторы (адпаведна і ў часе)[2]. І, такім чынам, калі рух у часе не існуе для даследчыка кнігі, то аб'ект яго цікавасці знаходзіцца ў стане такога руху. Наша работа мела на мэце з кропкі «сёння» разгледзець гэты рух праз час. Дабраўшыся канца, мяркуем, аднак, што гэта толькі пачатак.

[1] ДПБ, ф. 419. Лаппо-Данилевский. № 2. С. 29—30.

[2] Эльяшевич Д. А. Теория и типология книжных связей. АКД. Л., 1988. С. 7—8.

# СПІС КНІГАПІСЦАЎ

| № п/п | Дата рукапісу | Імя кнігапісца і яго чын (сан) | Месца паходжання кнігапісца | Месца перапіскі кнігі | Назва кнігі | Месца захавання, шыфр |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 1164 | Сімяон (Дабрыла) | | Полацк | Евангелле | ДБЛ, Рум. 103 |
| 2 | 1395 | Лука | Смаленск | Мсціслаў | Псалтыр | ДГМ, Муз. 4040 |
| 3 | 1462 | Каляда, дыякан | | Слуцк | | БАН, 13.3.21 |
| 4 | 1466 | Яўстафій | | Гародня | Трыёдзь посная | ДПБ, F.1.134 |
| 5 | 1476 | Іванчык, слуга Івана Сямёнавіча, пісара ВКЛ | | Вільня | «Аглашэнні» Фёдара Студыта | БАНЛіт, F21—798 |
| 6 | 1483 | Васка, пісар пана Мікалая Радзівіла | | | «Прытачная» | Невядома |
| 7 | 1487 | Андрэй Сцяпанавіч, сын Чалюсткін | | Слуцк | Патрыстычны зборнік | ДПБ, Q.1.1410 |
| 8 | 1487 | Сенка «ад айца Якава» | Смаленск | | Мінея месячная | БАНЛіт, F19—161 |
| 9 | 1488 | Занка, дыякан | Тураў | | Мінея | МАМЗС — 442 |
| 10 | 1489 | Бярозка, сын Доўбніча, паповіч | Наваградак | | Мінея-чэцця | БАНУ, ДА/415Л |
| 11 | 1492 | Арцемій, дзяк | | Віцебск | Псалтыр | БАНУ, 11/4П |
| 12 | 1495 | Аўраамка | | | Летапісец | БАНЛіт, F22—49 |
| 13 | 1502 | Антоній, іераманах | | Слуцк | Евангелле | ДБЛ, ф. 344, збор Шыбанава, № 92 |
| 14 | 1507 | Мацвей Іванавіч (Мацвей Дзесяты) | Тарапец | Вільня — Супрасль | «Дзесятаглаў» | БАН, № 24.4.28 |
| 15 | 1508 | Фёдар Агееў | | | Евангелле | ЦБАН, Сібір. аддз. АН СССР, збор Ціхамірава 40 |
| 16 | 1512 | Іаакім, «дыяканец» | | | Пролаг | БАНЛіт, F19—95 |
| 17 | 1514 | Фёдар, дзяк мітрапалічы | | Вільня | Пяцікніжжа Маісеева | БАНЛіт, F19—51 |
| 18 | 1514 | Паісій, іераманах | | Супрасль | Служэбнік | ДПБ, Соф. 962 |
| 19 | 1519 | Грыгорый Іванавіч | | | Супрасльскі летапіс | ЛАІГ, ф. 115, № 143 |
| 20 | 1520 | Севасцьян Аўраамавіч, дзяк | | Нобель | Евангелле | БАНЛіт, F19—35 |
| 21 | 1530 | Макарый Львовіч, іераманах | Гальшаны | Луцк | Пролаг | БАНЛіт, F19—101 |
| 22 | 1538 | Фёдар Кузьмін | Нясвіж | | | Невядома |
| 23 | 1539 | Васіль | | Капыль, манастыр Міколы на Морачы | Евангелле | Б-ка МОИДР |
| 24 | 1539 | Ігнат Фёдаравіч | Магілёў | Магілёў | Актоіх | ДГМ, Син. № 415 |
| 25 | 1540 | Міхаіл Аляксандравіч, дзяк | | | Евангелле | ДПБ, СПБ ДА.А1.177 |
| 26 | 1543 | Парфён | | Пінск (?) | Псалтыр | ДГМ, збор Барсава |
| 27 | 1545 | Ярмола, дзяк | | Шышкіні, двор | Трэбнік | БАНЛіт, F21—2306 |
| 28 | 1562 | Цімафей Куліковіч | | Белы Ковель | Ірмалой | |
| 29 | 1582 | Юрый Юр'евіч Алелька, князь | Слуцк | Слуцк | Евангелле | |
| 30 | 1593 | Іван Праскура | | Супрасль | «Жыціе Варлаама і Іаасафа»; «Ізмарагд» | БАНЛіт, F19—75; БАНЛіт, F19—240 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 31 | XVI ст. | Усцін Яцкавіч, дзяк | Чачэрск | | | |
| 32 | XVI ст. | Афанасій | | Супрасль | Зборнік слоў і павучэнняў Іаана Златавуста | БАНЛіт, F19—257 |
| 33 | XVI ст. | Ануфрый | | Супрасль | «Залатаструй» | БАНЛіт, F19—238 |
| 34 | Пач. XVI ст. | Аляксей, іераманах | | Полацк | | |
| 35 | 1601 | Багдан, «спявак» | Пінск | | Ірмалой | |
| 36 | 1610 | Афанасій, паповіч | | Супрасль | | БАНУ, 219/37П. |
| 37 | 1618 | Іван Іванавіч Хашкоўскі | | Чарэйск | | БАНУ, 476/1736 П |
| 38 | 1623 | Феадосій | | Жыровіцы | | БАН, Добр. 38 |
| 39 | 1631 | Стэфан Каханевіч | | Супрасль | Памяннік | БАНЛіт, F19—89 |
| 40 | 1634 | Нікадзім (Казіцкі), іераманах | | Пінск | «Занара» («Номаканон»), або «Кормчая» | БАНЛіт, F19—242 |
| 41 | 1639 | Фёдар Сямёнавіч | Беражаны | Супрасль | Ірмалой | БАНЛіт, F19—116 |
| 42 | 1662 | Феафіл, манах | | Супрасль | Ірмалой | |
| 43 | 1667 | Лявонцій, іераманах, «раб ручного дела» | | Супрасль | Мінея | БАНЛіт, F19—160 |
| 44 | 1669 | Лука, прэсвітэр | | Жухавічы | Евангелле, Апостал | БАНЛіт, F21—815 |
| 45 | 1669 | Паісій | | Куцейна | Мінеі-чэцці | БАНЛіт, F19—82 |
| 46 | 1669 | Пахомій Пацэнка, іераманах | | Слуцк | | |
| 47 | 1673 | Гаўрыла Аранясовіч | | Полацк | | ДГМ, Син. № 172 |
| 48 | 1674 | Антоній Кішчыц, вікарый | | Супрасль | | |
| 49 | 1678 | Афанасій Свідэрскі, святаіераманах | | Супрасль | Мінея месячная | БАНЛіт, F19—149 |
| 50 | 1697 | Васіль Гаўрылавіч Мянжынскі, дыякан | | Мазыр | | ДБЛ, Рум. 1562 |
| 51 | XVII ст. | Іван «паланянік» | Полацк | Валакаламск | | ДПБ, Q.1.91 |
| 52 | XVII ст. | Тарасій, іераманах | | Менск, Жыровіцы | | |
| 53 | XVII ст. | Веніямін Гаражанскі | | | Евангелле | БАНЛіт, F19—40 |
| 54 | 1696 | Аляксандр Таміловіч | | Брэст | Зборнік | БАНЛіт, F41—527 |
| 55 | 1713 | Кірыл Ільінскі | | Давыд-Гарадок | | |
| 56 | 1714 | Гервасій Кішчыц | | Супрасль | | |
| 57 | 1734 | Цімафей Мароўскі | | Жыровіцы | | ДПБ, Разн. Q.1.54 |
| 58 | 1740 | Іаанікій Жудра | | Беразвеч | | |
| 59 | 1741 | Іван Клінковіч | | Рубяжэвічы | | |
| 60 | 1761 | Антоній Кяскевіч, дыдаскал | | Камянец-Літоўскі | «Анфалагіён» («Празднея») | БАНЛіт, F19—114 |
| 61 | 1759 | Антоній Тараневіч | | Пінск | | |
| 62 | 1764 | Аўраамій, іераманах | | Вільня | | |
| 63 | 1776 | Андрэй Даўгяла | | Бярэзіна | | ЦДГА, ф. 834, воп. 1, № 751 |
| 64 | 1777 | Васіль Каўнацкі | | Бярэзіна | | ЦДГА, ф. 834, воп. 1, № 750 |
| 65 | XVIII ст. | Аляксей Плашкевіч, іераманах | | Супрасль | Служэбнік, Трэбнік | БАНЛіт, F19—197 |
| 66 | XVIII ст. | Антоній Завадскі | | Баруны, Жыровіцы | | |
| 67 | XVIII ст. | Паісій Сахоўскі | | Баруны | | |
| 68 | XVIII ст. | Філарэт Шукевіч | | Баруны | | |

# КАРОТКІ ТЭРМІНАЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК

*Агіяграфія* — 1) раздзел царкоўнай літаратуры, прысвечанай апісанню жыцця і пакут людзей, якіх царква залічвае да святых; 2) жанр старабеларускай літаратуры.

*Актоіх* — зборнік богаслужэбных тэкстаў на кожны дзень тыдня ў васьмі цыклах — «гласах», які выкарыстоўваюць разам з Мінеямі і Трыёдзямі. Адпаведнік Актоіха ў касцельнай літургіі — частка Брэвіарыя, т. зв. proprium de tempore.

*Апокрыфы* — сачыненні на біблійныя і агіяграфічныя сюжэты, якія афіцыйна царква не прызнае за праўдзівыя.

*Апостал* — частка Новага запавета, кніга з апісаннем дзеяў і пасланняў вучняў і першых паслядоўнікаў Ісуса Хрыста — апосталаў.

*Апракас* — старажытная форма размяшчэння тэкстаў Евангелля і Апостала ў паслядоўнасці чытанняў пры богаслужэнні.

*Брэвіарый* — літургічная кніга ў адным ці больш тамах, якая змяшчае розныя чытанні, падабраныя паводле касцельнага года, святаў і дзён тыдня. Звычайна складаецца з календара і пасхальных табліц, ordo divini officii, альбо пастаяннай часткі, proprium de tempore (temporale), псалтыра, proprium de sanctis (sanctorale); таксама кананічныя гадзіннікі. Адпаведнік Брэвіарыя ў царкве — Часаслоў.

*Гамілетыка* — навука аб хрысціянскім прапаведніцтве.

*«Градуал»* — сабранне ўсіх богаслужэбных спеваў, якія перапісаны паводле таго царкоўнага календара, якога трымаліся ў пэўным краі, дэцэзіі, ордэне, касцёле. Кодэксы «Градуала» (іншая назва — «Антыфанал») звычайна багата аздоблены.

*Евангелле* — апавяданне пра жыццё і вучэнне Ісуса Хрыста, з'яўляецца часткай Бібліі (Новага запавета); складаецца з тэкстаў чатырох аўтараў: Матфея, Марка, Лукі і Іаана. Мае дзве формы, у залежнасці ад размяшчэння тэксту: Чэцвераевангелле, альбо Евангелле тэтр (тэксты кожнага аўтара падаюцца асобна), і Евангелле апракас (тэксты ўсіх евангелістаў перамяжаюцца згодна з календаром чытанняў). У залежнасці ад функцыянальнага прызначэння Е. рабілі напрастольныя, талковыя, вучыцельныя.

*Індыктыён* — каляндарная табліца, у якой супастаўлены сонечны цыкл з цыклам месяца для знаходжання дат рухомых святаў (вялікі індыктыён уключае 532 гады).

*Ірмалой* — зборнік царкоўных спеваў — «ірмасаў», якімі пачынаецца кожная з песняў цыкла тэкстаў Канона — адной з 9 частак ранішняга богаслужэння і так званага «келейнага правіла» — сутачнага цыкла малітваў, абавязковых для манахаў; перапісчыкі Ірмалояў часта далучалі і іншыя спевы з Актоіха, Трыёдзі, Мінеі.

*«Кормчая»* кніга, альбо *«Номаканон»* — зборнік правіл Усяленскіх сабораў, рэгулюе ўзаемаадносіны сярод духавенства, змяшчае асновы царкоўна-адміністрацыйнай і богаслужэбнай практыкі.

*Літургія* — галоўнае богаслужэнне праваслаўнай царквы, адбываецца ў пачатку дня, да абеду (адсюль побытавая назва «абедня»). Часцей за ўсё служыцца літургія Іаана Златавуста (літургія Васіля Вялікага — толькі 10 разоў на год).

*Маскарон* — матыў аздобы ў форме чалавечай галавы, мужчынскай альбо жаночай, рэальнай альбо фантастычнай.

*Мінея* — зборнік тэкстаў богаслужэнняў на кожны дзень, па месяцах. Бывалі таксама і Мінеі-чэцці — зборнікі пазацаркоўнага чытання.

*Пагінацыя* — нумарацыя старонак.

*Палея* — выклад падзей Старога запавета (так званая Палея гістарычная) і каментарый да іх (Палея талковая).

*Памяннік* — кніга з пералікам асоб для памінання ў царкве; іншыя назвы П.— Сінодык, Суботнік.

*Парэмійнік* — зборнік тэкстаў Старога запавета, якія чытаюцца пры богаслужэнні.

*Патрыстыка* (сачыненні Айцоў царквы) — жанр сусветнай, у тым ліку старабеларускай літаратуры.

*Патэрыкі* — зборнікі жыцій адшэльнікаў, складзеныя па тэрытарыяльным прынцыпе — Егіпецкі, Ерусалімскі, Рымскі, Сінайскі, Кіева-Пячэрскі, а таксама зводныя — Алфавітны і Скіцкі.

*Пролаг* — зборнік кароткіх жыцій святых і павучэнняў Айцоў царквы на кожны дзень на працягу года.

*Псалтыр* — адна з кніг Старога запавета. Псалтыр з паследаваннем — Псалтыр з дадаткамі малітваў і спеваў, прыстасаваны да богаслужэння.

*Сінодык* — спіс імён нябожчыкаў для памінання пры богаслужэнні (гл. Памяннік).

*Трэбнік* — зборнік тэкстаў абрадаў, якія патрэбна адпраўляць па-за царквой, звязаных галоўным чынам з нараджэннем і смерцю чалавека, а таксама з яго дзейнасцю

і бытам (малітвы пры севе і зборы ўраджаю, тым, хто пайшоў у дарогу, адыходзячым на вайну, бласлаўленне трапезы, асвячэнне жылля, студняў і інш.).

*Трэфалой,* альбо *Мінея святочная* — выбарка тэкстаў богаслужэнняў на святы; замяняў у прыходскіх цэрквах гадавы камплект Міней.

*Трыёдзь* — посная і цвятная — зборнікі тэкстаў богаслужэнняў не па каляндарным, а па пасхальным цыкле. Першая пачынаецца богаслужэннямі за два тыдні да Вялікага паста, другая — за тыдзень да Вялікадня і канчаецца праз тыдзень пасля Троіцы. Імі карыстаюцца чатыры месяцы ў год.

*Часаслоў* — зборнік штодзённых «паследаванняў» — тэкстаў псалмоў і малітваў, якія чытаюцца ў розныя гадзіны дня. Ч. выкарыстоўвалі таксама для навучання грамаце. Адпаведнік Ч. у касцельнай практыцы — Брэвіарый.

*Шасцідневец* — сачыненне Айцоў царквы пра «шэсць дзён стварэння свету»; на Беларусі распаўсюджанне атрымаў Шасцідневец Іаана, экзарха Балгарскага — перапрацоўка аднайменных сачыненняў візантыйскіх аўтараў IV ст. Васіля Вялікага і Северыяна, епіскапа Гавальскага.

## СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

АЗР — Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографической комиссией.

БАН — Бібліятэка Акадэміі навук СССР (Ленінград), зараз Бібліятэка Расійскай АН (Санкт-Пецярбург). Шыфры галоўнага збору складаюцца з трох арабскіх лічбаў.
  Іншыя зборы:
  Добр.— фонд епіскапа Дабрахотава.
  Р-К. Ак.— Рымска-каталіцкай акадэміі ў Пецярбурзе.

БАНЛіт — Бібліятэка Акадэміі навук Літвы.

БАНУ — Бібліятэка Акадэміі навук Украіны (Кіеў).
  ДА — збор Кіеўскай духоўнай акадэміі.

ДБЛ — Дзяржаўная бібліятэка імя У. І. Леніна (Масква), зараз Расійская Дзяржаўная бібліятэка.
  МДА — збор Маскоўскай духоўнай акадэміі.
  Рум.— Румянцаўскі збор.

ДГМ — Дзяржаўны Гістарычны музей (Масква).
  Муз.— Музейны збор.
  Син.— Сінадальны збор.

ДПБ — Дзяржаўная Публічная бібліятэка імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (Ленінград), зараз Расійская Нацыянальная бібліятэка (Санкт-Пецярбург). Шыфры асноўнага збору складаюцца з абазначэння: фармату (лацінскімі літарамі), тэматычнага раздзелу (рымскімі лічбамі) і парадкавага нумара ў дадзеным раздзеле (арабскімі лічбамі). Пергамінныя кнігі пададзены (пасля абазначэння фармату) літарай «п».
  Іншыя зборы:
  Кап.— Прыдворнай капэлы.

ОЛДП — Таварыства аматараў старажытнага пісьменства (Общества любителей древней писменности).
  Пог.— М. П. Пагодзіна.
  Польск.— Польскамоўных рукапісных кніг.
  Разн.— Разнамоўных рукапісаў.
  Соф.— Наўгародскага Сафійскага сабора.

СПБ ДА — Санкт-Пецярбургская духоўная акадэмія.

ЖМНП — Журнал Министерства народного просвещения.

ЛАІГ — Ленінградскае аддзяленне Інстытута гісторыі АН СССР, зараз Санкт-пецярбурскі філіял Інстытута Расійскай гісторыі РАН.

МАМЗС — Маскоўскі архіў Міністэрства замежных спраў.

ТОДРЛ — Труды Отдела древнерусской литературы.

ЦДГА — Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў СССР (Ленінград).
  Син.— Архіў Сінода (з нумарам вопісу і парадкавым нумарам у ім).

ЦДГА БССР — Цэнтральны Дзяржаўны гістарычны архіў БССР (Мінск).

ЧОИДР — Чтения в Обществе истории и древностей российских.

# ІМЯННЫ ПАКАЗАЛЬНІК

# ГЕАГРАФІЧНЫ ПАКАЗАЛЬНІК

*Узоры кампазіцыі першых старонак Чацвераевангелляў XVI ст., створаных на Беларусі*

*Евангеллі ад Матфея*

*БАНЛіт, F19—27*

***ДПБ, СПБ ДА А-1. 116***

***ДПБ, F. 1.8***

***ДПБ, Тих. 546***









## REZIUMĖ

Pačios seniausios rankraštinės knygos baltarusių žemėje atsirado kartu su krikščionybe — antrojoje X amž. pusėje; baltarusių rankraštines knygas autorius pradeda pristatinėti nuo seniausių išlikusių paminklų, tarp jų Turovo (XI amž), Polocko (XII amž.) evangelijos ir kt. Pirmasis žinomas baltarusiškos rankraštinės knygos tyrinėjimo faktas yra senovinio folianto ekspertizė, kurią atliko Vilniaus burmistrai ir tarybos nariai metropolito Ipatijaus Patejaus prašymu pirmojoje XVII amž. pusėje. Nuo tada tyrinėtojai — įvairių epochų, įvairaus išsilavinimo, įvairių mokslinių, politinių ir religinių pažiūrų žmonės — studijavo rankraštines knygas dažniausiai kaip istorijos, kalbos, literatūros, meno, teisės šaltinį. Antrajame skyriuje minimi pagrindiniai rankraštinės baltarusių knygotyros darbai, pateikiama polemika dėl kai kurių paminklų datavimo ir lokalizavimo. Trečiojoje dalyje nagrinėjamos bažnytinės knygos, taip pat įvairaus pobūdžio skaitiniai ir giesmynai Istoriškai Baltarusija — kraštas, kur susiduria įvairios kultūrinės tradicijos. Todėl minimos knygos, perrašytos čia hebrajų, arabų ir lotyniškais rašmenimis. Smulkiau autorius apsistoja prie biblinių knygų savądo kūrėjo Maciejaus Dešimtojo, Pranciškaus Skorynos amžininko, veiklos. Patys seniausi pergamentai ir vėlesni, perrašyti popieriuje rankraščiai yra meno ir technologijos paminklai. Autorius apžvelgia įrišimo ir viršelių rūšis bei menines ypatybes, apibūdina pagrindinius rankraščių meninio apipavidalinimo stilius. Analizuojami kai kurių XVI amž. miniatiūrų siužetai ir simboliniai "Onegos psalmyno" (XIV amž.) piešiniai. Paskutiniame skyriuje pasakojama apie rankraštinių knygų paplitimą, perrašinėtojus, apie bibliotekas, kur buvo sukauptos rankraščių kolekcijos. Kaip priedas sudaryti knygų perrašinėtojų sąrašai ir XVI amž. ornamentikos pavyzdžių lentelės.

## SUMMURY

The most ancient manuscripts appeared on the Byelorussian territories together with christianity — in the second half of the 10-th c., the author begins with the presentation of the Byelorussian "Palata knygopisnaya" characterising the oldest preserved manuscripts, among them the Turau (11-th c.), the Polack (12-th c.) gospels and others. The first known fact of the Byelorussian scribed book research is the investigation of the ancient folio which was carried out by members of the Wilna magistrate on request of the archbishop Hippatsey Patsey in the 1-st half of the 17-th century. Since that time people of different epochs, of different erudition, of various scientific, political and religious views have studied manuscripts mostly as sources of the history of language, literature, art, law.

In the second part there are mentioned the most important works devoted to manuscripts of Byelorussia and some examples of polemics on date and localization problems are touched upon.

The third part deals with the repertoire of manuscripts which consisted of liturgic books as well as of various kinds of books for reading and singing. Historically Byelorussia was a place of interchange of different cultural traditions. Books written in Hebrew, Arabic and Latin alphabets are mentioned in this part. The author gives a detailed account of works

on the Bible of Mathew the Tenth, who was a contemporary of Francis Scorina. The most ancient — parchaments — and the younger-paper manuscripts are the works of art and technology. The author writes about different kinds of bookdindind, metal cover and their artistic pecularities, characterises the main styles in manuscripts illumination. The subjects of the "Desyataglau" and the "Apostle" miniatures and the symbolic drowing of the "Onega Psaulter" are analysed here.

The last part of the book is devoted to the problem of the distribution and existance of manuscripts, it tells about the scribes and the libraries where the collections of manuscripts were gathered (first of all Suprasl, Zhyrovichy). The list of scribes and the tables of ornamental types of the XVI-th cent. are added.

## ZUSAMMENFASSUNG

Die ältesten gebunden Handschriften erschienen in Weißrussland in der ersten Hälfte des 10 Jahrhundert gleichzeitig mit dem Auchtauchen des Christentums. Der autor führt die weißrussische "Palata Knigopisnaya" durch die Charakteristik der ältesten erholtenen Handschriften ein, unter denen sich das Turawevangelium (XI. Jh.) und das Polazkevangelium (XII Jh.) befinden.

Der erste bekannte Studienfaktor der weißrussischen Handschrift war die Expertise eines alten Folianten, den die Magistratmitglieder der Stadt Wilna in der ersteen Hälfte des Mitropoliten Hipatsey Patzey hin gemacht hatten. Seit damals studieren Forscher verschiedene verschiedenster wissenschaftlichen, politischen, religiosen Ansichten Handschriften meist als Quelle für Sprachgeschichte, Literatur, Kunst und Rechtwissenschaft Weißrusslands.

Im zweiten Abschnitt nennt der Autor die wesentliche Arbeiten, Die dem gebundenen Handschriften gewidmet sind und bringt Polemikbeispiele in Bezug auf Daten und Ortbesimmungen der Handschriftsdenkmaler.

Der dritte Abschnitt ist dem repertoire der gebunden Handschriften gewidmet, das aus Messbücher, die mit lateinischen, arabischen und hebräuischen Buchschtaben umgeschrieben worden sind. Ausführlich beschreibt er die Arbeit des Autors des Bibelkodex Matthaus des Yehntnen, des Zeitgenossen von Francisko Skorina. Die älteste Pergamenthandschriften und die Später auf Papiere geschriebene Handschriften sind Denkmäler der Kunst und Handfertigkeit. Der Autor beschreibt Arten und kunstlerische besonderkeiten der Einbänder, charakterisiert die wichtigste Verzierung der Handschriften, analisiert die Inhalte der Miniaturen aus Matthäus dem Zehnten, Apostol (XVI Jh.) und symbolische Zeichnung aus dem Onega psalter (XIV Jh.).

Im letzten Abschnitt erzählt über Bücherumschreiber und Bibliotheken, in denen Handschriftsamlungen enstanden. (Hier sind vor allem die Klosterbibliotheken Suprasl und Zirovicy zu nennen). Im Anhang gibt der Autor ein Verzeichnis der Bücherumschreiber und Tabellen mit Ornamentikbeischpilen des 16 Jahrhunderts an.

**Нікалаеў М.**

Н 63 Палата кнігапісная: Рукапісная кніга на Беларусі ў X — XVIII стагоддзях/Рэд. М. М. Розаў, А. С. Мыльнікаў.— Мн.: Маст. літ., 1993.— 239 с., іл.

ISBN 5-340-01249-2.

Кніга маладога даследчыка-кнігазнаўцы ўводзіць чытача ў багаты і амаль невядомы нам свет беларускай рукапіснай кнігі X — XVIII стст. У кнізе, напісанай на матэрыялах даследавання раскіданай па свеце спадчыны нашай кніжнай культуры, разглядаюцца абставіны ўзнікнення, рэпертуар, мастацкае афармленне рукапіснай кнігі Беларусі, асяроддзе чытачоў і заказчыкаў. Багаты ілюстрацыйны матэрыял дае ўяўленне пра высокі ўзровень мастацкага выканання беларускіх рукапісных кніг.

Н $\frac{4502030000-117}{М\ 302(03)-93}$ 76—93 ББК 76.11



Навукова-папулярнае выданне

*НІКАЛАЕЎ*
*Мікалай Віктаравіч*

ПАЛАТА КНІГАПІСНАЯ

*Рукапісная кніга на Беларусі*
*ў X — XVIII стагоддзях*

---

*Рэдактар Н. А. Давыдзенка*
*Мастацкія рэдактары А. І. Дрозд, А. І. Цароў*
*Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал*
*Карэктар К. А. Крукоўская*

ІБ № 3988

Здадзена ў набор 03.03.92. Падп. да друку 18.08.93. Фармат 70×108 1/16. Папера афс. № 1. Гарнітура тып Таймс. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 21,00. Ум. фарб. адб. 107,28. Ул.-выд. арк. 19,36. Тыраж 3400 экз. Зак. 2023.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

